Зок-3
1714

# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Ч 38/1939
аб05/18576

*КНІГА ЧАЦВЕРТАЯ*

МЕНСК—1939

*Аркадзь Куляшоў*

# ЮНАЦКІ СВЕТ

*Цыкл вершаў*

## ДРУЖБА

Сажнем, лентаю мерым
Мы палі, сенажаць.
Так магу землямерам
Неўзабаве я стаць.

Нават больш, не адбіцца
Нам ад чутак адных:
Ты—нявеста, як быццам,
Я-ж—як быццам, жаніх.

Мы ішлі—пагалоскі
Следам беглі ў ляскі...
Нам прывозілі з вёскі
З гонкіх сосен слупкі.

Мы агонь раскладалі,
Мы абпальвалі іх,
Каб навечна стаялі
У капцах межавых.

Вось адбіта мяжа ўся—
Аглядаем удвох,
Вось табе я прызнаўся—
Не прызнацца не мог.

Ты ўздыхнула глыбока,
Ты махнула рукой,
Ты сказала:
— Далёка
Міленачак мой!

Значыць, век не забыць нам
Ні пясок залаты,
Ні капцы ў спелым жыце—
Дружбы нашай сляды.

---

## НА СОТАЙ ВЯРСЦЕ

У поплаве лазню
Таплю ад паўдня;
У поплаве злазіць
Дзяўчынка з каня.

На вольхах даўгі
Калыхаецца цень.
Прысела. Шляхі
Затамілі за дзень.

Сто вёрст адскакала
Пякельных, як вар,
Сто вёрст загарала—
Нябёсы без хмар.

— Дазволіш,—смяецца,—
Папарыцца мне?..
Ты-ж банщчык, здаецца?
Адказваю:—
«Не».

Я—толькі пісьменнік,
У бацькі ў гасцях.
Бярозавы венік
Трымаю ў руках.

Пяю табе славу,
Духмяны лісток!—
Ты жаркую паву
Прывабіў здалёк.

Яна маладая
І я—малады.
Размова такая—
— Адкуль вы?
— Куды?..

Кароткая стрэча
На сотай вярсце.
З маланкай пад вечар
Хмарынка расце.

Спяшае наехаць,
Нахлынуць на нас;
Развітвацца—нехаць—
А трэба, а час.

З трывогай на хмарку
Глядзім, а маглі-б
Ісці з ёй да парку—
Да школьных да ліп.

Конь пасвіўся-б сыта
У лузе, а мы-б
Пад самае жыта
Пабегчы маглі-б.

Пасеўшы ў зацішша,
Вязалі пражмо-б,
А сонца ўсё ніжай
І ніжай ішло-б.

У хвалі прымала-б
Яго збажына...
Куды-ж паскакала
Так рана адна?

Касынкай-зарой
З жытніх бліснула хваль.
Як сэрца за ёй
Парываецца ў даль!

Эх, коні стаеннікі,
Пыл за сялом...
Духмяныя венікі,
Чэрвеньскі гром!

## ВОБЛАКА

Уткнуўшы ў берат вудзільно,
Я вуджу раніцою.
А воблака? Плыве яно
І небам, і вадою.

Нарэшце клюнула разок—
І рыбка не малая!—
З пяром гусіным паплавок
Пад воблака нырае.

Стаіў дыханне. Цішыня...
У бок,
рукой умелай,
Я падсякаю галаўня,
Цягну з хмарынкі белай.

Вада ў кругах,
Вада ў кругах
І неба ў ёй не тое...
А воблака? Яно ў руках
Трапечыцца жывое.

## КАРУСЕЛЬ

Бальшаком, на край зямлі і неба,
Я ўсю ночку цёмную ішоў,
Даганяў і абганяў, дзе трэба,
З лубкамі і сітамі дзядзькоў.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Ёсць на свеце роднае мястэчка,
Там штогод бываюць кірмашы;
Міма школы меленькая рэчка
Без мяне адна плыве ў цішы.

Мне дакор яе далёкі, звонкі
У забытым чуецца трысці.
Заўтра кірмашовы дзень.
У жонкі
Надзень адпрасіўся:
— Адпусці.

У сяброў па школе—даўні звычай
На кірмаш сысціся.
Пагуляць...
І на каруселі маляўнічай
Разам адкружыць хвілінак пяць.

Кожны мае дружбака такога,
Захавана ў сэрцы да якога
Прыязні даўнейшай цяплыня.
Кірмашовы дзень.
Гарачыня.

Вось у кірмашовы-б дзень выходны
З ім, ці з ёй зайці ў куток выгодны—
(Ёсць такія на зямлі куткі)—
Раз у сем гадоў павіць вянкі.

Пачуццё былое да дзяўчынкі
Нёс і я.
І тут яе сустрэў.
Між густых аглобляў, як між дрэў,
Я іду на аганёк касынкі.

А дзяўчына? Лузганцы кусае
І таксама некага шукае,
І ў вачах блукае неспакой,
І крычу я радасна:—
«Пастой!»

Мы адны з ёй. З нашых—больш нікога—
Той-жа рып гармоняў, бубнаў гром,
Тая-ж з кірмаша пад гай дарога;
— Што-ж, пайшлі?
— Пайшлі...
І мы ідзём.

Сем гадоў не бачыліся—раз,
Замуж вышла,
Добра ладзіш з мужам;
Дзе-ж ты, карусель? За ўсё адкружым,
Як усё кружылася за нас.

Добры дзень, знаёмыя мясціны,
Карусель,
Крылатая душа!..
Гай шумлівы, гоман кірмаша,
Печанага хлеба водыр кмінны.

# МУЗЫКА

Выходзяць з хат усе,
Чаго?—каб іх спыталі.
Максім гармонь нясе—
Яго прэміравалі.

Ідзе,
Знаёмы шлях—
І шмат знаёмых згадак:
Шмат у яго руках
Перабыло трохрадак.

Юнацкія часы!—
Гармоні выпісныя,
Як срэбра—галасы...
Адна бяда—
Чужыя.

Ён марыў юнаком:—
«Сваю гармонь набуду,
І першым жаніхом
На ўсю на воласць буду.

Жыць буду ў згодзе я
З вясёлаю трохрадкай—
І жонка ў нас свая
І сіні дым над хаткай».

У шахту, у забой
Спусціўся ён глыбока;
Яна над галавой
Звініць,
Звініць далёка.

Над рэчкай да цямна
Ён забівае сваі;
Пяе,
Звініць яна,
Як салавейка ў маі.

Не мала страціў зім,
Не мала з'ездзіў свету.
Не вытрымаў Максім
Рашыў:
— Дадому еду.
Спяшаецца Максім:

І поле залатое,
І воблака над ім...
Адна бяда—
Чужое.

Спяшаецца сялом:
Дзяўчына сустракае
І не з пустым вядром...
Адна бяда—
Чужая.

Так, з марай юнака,
Без музыкі,
Без жонкі
Дажыў да сарака
І сеў на трактар гонкі.

І даўніх меж няма—
Працуйце, калі ласка!..
І музыка?—сама
Прышла—
Не сон, не казка.

Ідзе ён. Гарманіст
Заняў яму дарогу:
— Дай глянуць, трактарыст,
Дай страдануць,
Хоць троху!

І гарманіст-мастак
Іграць спрабуе ўсяк:
Гармонік—
Як належа,
Гармонік—
Сэрца рэжа.
— Свой у замен даю,
Прадай!..
— Не прадаю.

---

Зірне зары прамень—
Ён замыкае хату.
Працуе цэлы дзень—
Дымок плыве з-за саду.

Пад вокны падбяжыць
Дзяўчынка маладая:
Вісіць гармонь?
Вісіць.
Калі-ж яна зайграе?

І засумуе:
«Нам
Не чуць яе ні разу,»
Максім?—не грае сам,
Няма, гаворыць, часу.

Купіць?—
Не прадае;
Маўчыць гармонь Максіма
І жалю задае,
І ўсе праходзяць міма.

І гарманіст ідзе,
І, нібы ненарокам,
Па вокнах павядзе
Зайздросным,
Злосным вокам.

Ён не глядзець гатоў,
Сябе самога лае:
«Няхай хоць сто гадоў
Вісіць,
Бяда малая!»

А што Максім?
Як след
І сам яшчэ не знае—
Прыносіла абед
Дзяўчынка маладая.

Прышла сюды з сяла,
Адзета, як на свята,
Жартуючы, звяла—
Сама смяецца,
Рада.

Здалёк мігціць яму
Знаёмая касынка—
Як сумна аднаму...
Прапаў,
Прапаў Максімка!

Надыйдзе вечар.
Сон
Хіліць яго не будзе;
Гармонік возьме ён
І выйдзе з ім у людзі.

Ён пойдзе ўздоўж прысад,
Ад шчасця нецвярозы.
Як дваццаць год назад
Зашэлясцяць бярозы:
«Максіму—
Дваццаць пяць,
Ён—
Гарманіст любімы».

. . . . . . . . . . . . . . .

Не станем дакараць—
Мы ўсе крыху Максімы.

Ён ходзіць па расе,
Між топкіх крочыць купін,
І хлопцы па чарзе
Б'юць горда ў гулкі бубен.

І я з ім сябраваў,
І я спяваў «Дасаду»,
І ў бубен падбіваў,
І танцаваў да ўпаду.

## ЗА ДВАІХ

Вучыліся з ім, выбягалі з ім
Вясну гукаць на бальшак;
Праз колькі чэрвеняў,
Колькі зім
Не верыцца ў смерць ніяк.

Я ў госці іду. З палявых работ
Вяртаюцца браты.
Дзве зоркі над пожняй нясе самалёт—
Чаму гэта не ты?

Хаджу па гулкіх гумнах тваіх,
Прыехаўшы здалёк;
Снапы падаюць мне з вазоў залатых,
Снапы аднашу я на ток;

За што-б ні ўзяўся я,
За дваіх
Мне трэба рабіць, браток.

## ХАТКА

У дружбакоў маіх згарэла хата,
Ім новую будуе талака.
У лесе, дзе імшарышчаў багата,
Я моху наскубу для іх кутка.

Цесляр ці з пілкай ходзіць, ці з сякеркай,
Ці высякае вугал, ці акно.
Я не цесляр, хаджу з цеслярскай меркай,
На вушакі пілую бервяно.

Старанна печкуры кладуць цагліны,
Загнетак вывядуць, правесяць шнур.
Я паднясу ім і вады, і гліны,
І печку пахвалю, хоць не печкур.

Пад новым дахам за сталы паселі
Будаўнікі, калгасныя майстры.
За ўсіх прысутных п'ю на наваселлі,
За нашу дружбу даўнюю, сябры!

Мы абняліся ўтрох, сыходзім з ганку,
Мінаем з песняй вокны—вочы хат,
Нам разам будзе—
Менш чым шэсцьдзесят,
Нас кліча адвячорак на гулянку.

На ціхай сенажаці за сялом
У свежым сене нам ляжаць не колка;
Пра хатні клопат наша перапёлка
Пяе таму, хто едзе бальшаком.

Спявае мне.
Ёсць і ў мяне хацінка,
Дагэтуль неабжытая нікім.
Калі мая нясмелая дзяўчынка
У хатку зойдзе з клуначкам сваім?

Далёка недзе,
Вёрст за дзвесце, можа,
Ёй так-жа перапёлачка пяе
І той-жа клопат сэрца ёй трывожа,
Як вам і мне, таварышы мае!

У вашай хаце не сціхае гоман,
Там людзі ўсе, нібы адна сям'я.
Дыміць у небе першым дымам комін...
У вас такая-ж хатка,
Як мая.

Паўз хату вашу ў поплаў ходзяць цені,
Ім трэба, мусіць, слухаць салаўя.
Ад вокнаў электрычнасць на бярвенні...
У вас такая-ж хатка,
Як мая.

Заходзь-жа ў хату, родная дзяўчынка,
Мой клопат тут, мой журавінны мох!
На нас,
Як пераступіш ты парог,
Вясёлым вокам гляне журавінка.

---

## ПЕСНЯ ЛІСТАНОСЦА

Даспявае маліна
У зялёным садку;
Ходзіць красна-дзяўчына
Адна па цяньку.

Весялейшых гулянак
Чакае даўно...
Заўтра ў саменькі ранак
Пастучуся ў акно.

Павітацца з смуглянкай
Смелых слоў не знайду;
Ліст аддам, бразну клямкай,
За вароты пайду.

Вось прыходжу другі раз,
Ліст нясмела нясу;
Усміхаешся шчыра,
Заплятаеш касу.

Трэцім разам—чакала
Ціхіх крокаў маіх;
За каліткай дагнала,
Цалавала пры ўсіх.

Ёсць за садам дарога—
Не адна ходзіш ты,
А з хлапцом,
Ад якога
Я прыносіў лісты.

---

## ЕЛЬНІК

У кожнага з нас
Ножык—
Адменнага ляза,
У кожнага з нас
Кошык—
Крынічная лаза.

Па ельніку мы кружым,
Ці ёсць баравікі?
Мы іх у печцы сушым
І ніжам на шнуркі.

Нясем удвух у свята
Да крамніка здаваць;
Насушана багата—
Рублёў на дваццаць пяць.

Рублі—дарослым.
Дробязь
Кладзем сабе ў кішэнь;
Сялом—
Усе так робяць!—
Красуем цэлы дзень.

Чаго захочам—
Купім,
Здаволены сабой.
Імчым між пнёў, між купін,
Куды?—у ельнік свой.

На мох пасеўшы ў засень,
У ельнічку густым
Цыгаркай
«Сценька Разін»,
Як сталыя, дымім.

Над намі звісла вецце,
Пад намі—
Мураўі,
У неба дым віецца,—
Два тонкіх ручаі.

За дымам думкі следам
Плывуць—
Мая, твая...
Ты марыш быць паэтам,
Быць трактарыстам—я.

Над ельнікам іглістым
Плыве за годам год.
Стаў друг мой трактарыстам,
А я?—
Наадварот.

Праз вёсны, леты, зімы,
На роднай цаліне,
Я чую гул любімы...
— Працуй там за мяне.

Паўз ельнік ён праедзе,
Па дружбаку ўздыхне...
Верш трапіцца ў газеце:
— Пішы там за мяне.

Мы вершы з ім напішам,
Зямлю дагледзім з ім,
Адным дымком падышам
І ельнікам адным.

## МАЛАДОСЦЬ

Я за трактарам калісьці бег,
Кінуўшы ў агонь вярцёл і сала;
Ты да ціхіх саламяных стрэх
З гулам пад'язджала.

Я ўпрыгожваў з дзеўчынай сваёй
Перад святам арку дзеразою;
Ззяла ты вясёлкавай дугой
Над калгаснай аркай, над страхою.

На таку ўмалот свой залаты
Вымяралі мы паўнюткім мехам;
Адгукалася па хатах ты
Пераможным рэхам.

Я цябе, жаданую, чакаў,
Сустракаў, без крыўды, без трывогі,
Жоўценькім пясочкам пасыпаў
У прысадах летнія дарогі.

Па дарогах тых, па сцежках тых,
Па якіх ішла сяброў сям'я ўся,
Нёс цябе між даляў дарагіх
І натхнёна плакаў і смяяўся.

Шлю падзяку вёснам і сябрам,
Жытнім копам на шырокім полі...
Маладосць!—я ўсё табе аддам,
Не сыйду з дарог тваіх ніколі.

*Хв. Шынклер*

# ПАЧЭСНЫ РЭЙС

*П'еса ў 3-х актах, 8 карцінах.*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

СЫМОН ВІКЕНЦЬЕВІЧ БІРУЛЯ—стары машыніст, пенсіянер. Сівая акуратная барódка. Ходзіць з кіёчкам.
ГАННА ПАЎЛАЎНА—яго жонка.
ПЕТРЫК—піонер, 13 год, іх унук.
ВАЛЯ—дваюрадная сястра Петрыка, 12 год.
ЦІМАФЕЙ ПЯТРОВІЧ ЖАДАН—машыніст, год 25.
СЕМЯЧКА—малады машыніст, напарнік Жадана.
ГРАМОВІЧ—парторг дэпо, год 30.
МІХЕЙ МАКАРАВІЧ МІШУР—стары машыніст, пенсіянер. Сівыя вусы, барада брытая.
БОЛГАС—начальнік дэпо, пажылы.
КВІЕНДА—інспектар паравознай службы.
ЗАМЫЛКА—токар. У акулярах, твар даўно нябрыты.
РАБОЧЫЯ.

---

## АКТ ПЕРШЫ

### КАРЦІНА I

Сцэна падзелена пераборкай на дзве палавіны. Левая (большая)—рамонтны цэх дэпо. У ім пракладзены рэйкі, паміж рэяк раскрытая рамонтная канава. У глыбіні сцэны—расчыненыя вароты з цэха, праз іх відаць паравоз. Направа—акно і дзверы на панадворак ля дэпо. Абедзены перапынак, у цэху нікога няма. Правая палавіна сцэны—панадворак ля дэпо. На ім ідуць Біруля і Петрык.

Б і р у л я *(сядае на лаўцы ля дэпо)*. Ну, от, тут і адпачнем. Стаміўся я... Зусім, можна сказаць, на пад'ёме забуксаваў...

П е т р ы к. А я—нічагуткі. Яшчэ хоць столькі ісці!

Б і р у л я. Ведама—маладое, здаровае. Не ўгнацца мне за табой. Рэсоры, бач *(паказвае на ногі)*, паўгіналіся.. Не тая і хуткасць...

П е т р ы к *(замяшана)*. Адпачніце, дзядуля. Бадай, што і я стаміўся...

Б і р у л я. Гэта ты ўжо так, мяне шкадуеш...

П е т р ы к. Што вы, дзядуля?! Праўда, стаміўся. Ухх... *(Сядае побач)*. Дзед...

Біруля. Што, унучак?

Петрык. Хораша ў вас тут! Цікавага колькі... Шмат!

Біруля. Дзіва што! Гэта табе не які-небудзь раз'езд. Вузлавая станцыя! Адно дэпо чаго варта... *(Гучныя гудкі паравоза перашкаджаюць Бірулю гаварыць, ён махнуў рукой).*

Петрык. Ха-ха-ха...

Біруля. Ну, і чаго смяешся? На склад, па вугаль просіцца...

Петрык. А адкуль вы ведаеце, што на склад?

Біруля. А ён чатырнаццаць разоў прагудзеў, дык гэта—на чатырнаццатую калею, а праз чатырнаццатую калею едуць на склад. Чаго-ж тут не ведаць?

Петрык. Ага! А ў нас усяго пяць калей...

Біруля. Ну, у вас... У вас-жа маленькая станцыя.

Петрык. Дзядуля! Глянь! Паравозік які смешны бегае вунь там...

Біруля *(прыкладае руку да вачэй).* Дзе? Не бачу нешта...

Петрык. А вунь-вунь... На трох колах. І тэндара няма, як-жа ён без апалу?

Біруля *(углядаецца).* А-а-а... Дык гэта-ж «кукушка».

Петрык. Якая кукушка?

Біруля. А так яго дражняць... *(загудзеў, падобна на зязюлю паравоз).*

Петрык. Ха-ха-ха! І сапраўды «кукушка»! Ха-ха-ха...

Біруля. Тэндара ў «кукушкі» няма, бо апалу ёй на манеўры мала патрэбна, а ваду яна ў «кішэнях», можна сказаць, возіць, бачыш—з бакоў катла. Гэта паравоз-танк, сістэма такая...

Петрык. Ну і сістэма! Як-жа яна вагоны цягае, «кукушка» гэтая нядужая?..

Біруля. Нядужая, кажаш? *(Усміхаецца).* Не глядзі, што малая... Ты лепш у дзеда Мішура спытайся, якога яна клопату яму нарабіла.

Петрык. Гэта той, што бабка за гарэлку сварылася?

Біруля. Ага. Ён самы. Мішур... Міхей Макаравіч...

Петрык. Дык што яму «кукушка» нарабіла?

Біруля. От, табе ўжо і дакладвай...

Петрык *(просіць).* Дзедусь...

Біруля *(нюхнуў табакі, перакрыўляе).* Дзе-едусь... Ну, от. Слухай. Пакаралі Мішура за гэта самае, ну, за інерцыю да гарэлкі... Ага... Не пусцілі цягнікі вадзіць. На манеўры прызначылі. На «кукушцы» на гэтай самай. Ну, узлез ён на паравоз, хацеў да вагонаў ехаць, ды са злосці рэверс як крутануў...

Петрык. І паехаў?

Біруля *(іранічна).* Ага... Паехаў... І сам, можна сказаць, не рады быў. Не паехаў, а проста паімчала яго блазнота гэтая. Ага... Паімчала... Але не да вагонаў, а пад дэпо.

Петрык. Ну?..

Біруля. Вось табе і ну. Рэзнула...

Петрык. Зарэзала каго?

Біруля. Не зарэзала, кажу, а рэзнула. У вароты дэпаўскія.

У вялікія, жалезам кутыя. Не глядзі, што драбнота, а пакрышыла вароты.

Петрык. А-я-яй!..

Біруля. Яна і сама, каб магла, дык айкнула-б. Спужалася, можна сказаць... Метраў на пяць ад варот тых адскочыла.

Петрык. Ха-ха-ха... Ну, і клопат! Ха-ха-ха. Як-жа гэта дзед Мішур так паехаў?

Біруля. А ён ад злосці, мусіць, забыўся, што на «кукушцы» гэтай рэверс у другі бок круціць трэба. Хацеў паехаць уперад, а паехаў назад.

Петрык Ха-ха-ха...

Падыходзіць Жадан, спыняецца.

Біруля. А ты кажаш—нядужая...

Петрык. Ха-ха-ха! Ну, і «кукушка»!

Біруля. Вось табе і «кукушка»...

Жадан. Сымону Вікенцьевічу вітанне!

Біруля. А-а... Здароў, Жадан, здароў! *(Паціскаюць рукі).*

Жадан. Каму вы тут пра паравозы тлумачыце? З якога гэта дэпо машыніст такі?

Біруля. А гэта з нашай, Бірулінскай брыгады,—унучак мой Петрык.

Жадан. А! Гэта каторага-ж сынок?

Біруля. Старэйшага. Віктара. Начальніка станцыі. Там у іх дзесяцігодкі няма, дык сюды прыехаў вучыцца, да дзеда, значыцца. Вось прывёў дэпо паказаць,—карціць яму ўсё ведаць. Паравозы паважае. Адразу відаць, што чыгуначнік, машыністаў унук.

Жадан. Ну, дык здароў, Петрык. Пазнаёмімся *(паціскаюць рукі)*. Вучыся, вучыся! Будзеш інжынерам-паравознікам.

Біруля *(жвава, нібы абразіўся)*. А ты што думаеш? Цяпер дзецям нашым на які хочаш шлях семафоры паадчыняны, можна сказаць...

Жадан. Я-ж так і сказаў, Сымон Вікенцьевіч.

Біруля. То-ж бо і яно. Ну, як ездзіш, Цімоша?

Жадан. Так яно-б і нічога, Сымон Вікенцьевіч... І машына ў мяне дагледжаная, прыбраная. Як лялька ходзіць. Шаную яе, часу не шкадую. І працаваць потым люба. А вось, не шанцуе часам, чорт яго ведае...

Біруля *(занепакоіўся, шукае і дастае табакерку)*. Што-ж так?

Жадан. А вось, хоць бы і ўчора сабе. Набіраў я ваду. Пакуль паставіў паравоз пад вадакачку—вялікі дужа састаў быў—папакутваў. А пасля рушыў ехаць—на табе! Састаў парваны. І трапіла неяк-жа...

Біруля *(задумена)*. Парваў, кажаш? *(Нюхае)*. На, Ціма, нюхні па старой памяці! Ё-о-омкі табачок! Дачка з Кіева прыслала.

Жадан *(каб усцешыць старога, бярэ панюшку табакі, нюхае, Біруля з цікаўнасцю глядзіць на яго)*. Ап-апчхі! *(Жадан крэкча і са смакамківае галавой)*. Ну, і праўда, ёмкі!

Біруля. А не казаў? *(Ціха смяецца, потым разважна)*. Парваў... *(падумаўшы, хітравата)*. А скажы па праўдзе, Цімох, з фор-

сам пад'язджаў да станцыі? Праехаў вадакачку, а потым асаджваў састаў?

Ж а д а н *(трохі замяшана)*. Ага! Правільна! Праехаў і асаджваў...

Б і р у л я. Ну, дык яно і зразумела... Ты лепш не даязджай вадакачкі, а пасля падцягвай састаў. Ніколі ў цябе адцяжкі вагонаў не будзе і трох цягнікоў з аднаго не зробіш. Кінь ты форс гэты! Несур'ёзная для механіка справа, можна сказаць. Ты роўна ездзі, спакойна. Каб язда ў цябе была бархатная. От тады ты механік будзеш! Пойдзеш на пасажырскія, гузакоў пасажырам не наставіш. Паганым словам не спамянуць.

Ж а д а н *(сарамліва)*. Яно правільна, Сымон Вікенцьевіч... Дзякуй, за навуку...

Б і р у л я. А то яшчэ бывае... *(Выцягвае табакерку, пакуль збіраецца нюхнуць—падыходзяць некалькі рабочых)*.

1-шы р а б о ч ы. А-а... Наваліся, хлопцы! Таварыш Біруля з табакаю...

2-гі р а б о ч ы. З прыемнасцю! Добрага дня, Сымон Вікенцьевіч! Здароў, таварыш Жадан! *(Усе вітаюцца)*.

Б і р у л я. Здаровы, хлопцы! Калі ласка, ё-о-ом-кі табачок! Дачка з Кіева прыслала... *(Рабочыя нюхаюць, чхаюць, Біруля здаволены. Падыходзіць Замылка)*. А то яшчэ бывае, Цімоша. Пад'язджаеш ты да станцыі, і ўсё ў цябе, можна сказаць, спраўна...

З а м ы л к а *(прыслухоўваецца)*. Чарговая лекцыя па перападрыхтоўцы кадраў! Ххі... Прафесар у адстаўцы!

1-шы р а б о ч ы *(нездаволена)*. Чаго ты? Не перашкаджай...

Звгудзеў дэпаўскі гудок.

2-гі р а б о ч ы. Ну, бывайце, Сымон Вікенцьевіч!
1-шы р а б о ч ы. Да пабачэння! Абед скончыўся...
Б і р у л я. Бывайце, хлопцы! А мо' нюхнулі-б яшчэ, га?
1-шы р а б о ч ы. Дзякуй!
Б і р у л я. Ну, як сабе хочаце.
2-гі р а б о ч ы. І ад той панюшкі не ацверазіліся яшчэ!

Рабочыя смяюцца, ідуць у цэх да станкоў.

З а м ы л к а *(зняважліва махае рукой, пасміхаецца, ідзе следам у цэх)*. Прафесар... Аматар паравозны...

Ж а д а н *(глядзіць услед Замылку)*. Сымон Вікенцьевіч! Вы ўжо даруйце, што назаляю... Ці не паглядзелі-б вы штукі аднае?

Б і р у л я. А што, Ціма?

Ж а д а н. Машына мая вось толькі з паездкі прышла. Цэнтравы падшыпнік на рамонце ў Замылкі. Але нешта не так ён робіць, думаю я.

Б і р у л я. А ну, а ну! Давай паглядзім...

Ідуць у цэх да станка Замылкі.

П е т р ы к *(торгае дзеда за рукаў, ціха)*. Дзед... каторыя?..
Б і р у л я. Га? Што? Што каторыя?
П е т р ы к. Вароты...
Б і р у л я. Якія табе вароты?!

Петрык. А што «кукушка»...

Біруля. А-а... Аднаму падшыпнік, другому вароты... Тыя вунь...

Петрык ідзе да варот, аглядае іх. Біруля і Жадан падыходзяць да Замылкі,—ён спадылба, моўчкі глядзіць на іх.

Біруля (*прыглядаецца*). Так і паставіш?

Замылка (*спакойна, але крыху выклікаюча*). Так і паставім!

Біруля. Ты што, хочаш, каб падшыпнік выплавіўся, каб заўтра паравоз на рамонт?

Замылка. А гэта ўжо не мая справа! Мне загадана прыгнаць падшыпнік, я і прыганяю.

Біруля (*ускіпеў*). Мазгі ў цябе ці да месца прыгнаны?! Не бачыш, што на шкоду робіш?

Петрык пачуў узняты голас Бірулі, ідзе ад варот.

Замылка (*груба*). А твая якая справа? Шмат вас тут, абібокаў з мазгамі, шлындае,—замінаюць толькі. То шчэ прафесар мне знайшоўся! Ідзі, старой сваёй лекцыі чытай, калі на паравоз дарогі табе няма. Ідзі, ідзі, а то як узлую...

Жадан. Замылка! Сціхні.

Замылка. Чаго сціхні! Ты што тут адвакатаў водзіш? Цьфу! Сам няўмека, дык старога вар'ята прыцёг...

Жадан. Як ты адважыўся...

Замылка. І малога шыбеніка яшчэ...

Петрык (*абурана*). Я... я не шыбенік, я піонер...

Біруля. Майстар!

Ад станкоў ідуць рабочыя.

1-шы рабочы. У чым справа, Сымон Вікенцьевіч? Майстар у кантору пайшоў.

2-гі рабочы. Што тут такое?

Замылка (*не дае нікому гаварыць*). Бач, указчыкі мне знайшліся! Падшыпнік выплавіцца! У самога розум выплавіўся, дык ён адваката прывёў...

З варот уваходзіць Болгас, прыслухоўваецца да гаворкі, яго не заўважаюць.

Жадан. Таварыш Замылка! Я не дазволю ставіць гэты падшыпнік!

Біруля. Не лечыш паравоз, а калечыш!

Замылка (*да Бірулі*). Прэч адсюль! Староння асоба! Табе і хадзіць сюды няма чаго. Інвалід няшчасны. Прэч! (*Кідаецца да Бірулі, хоча схапіць за грудзі, рабочыя не даюць*).

Болгас падыходзіць да станка Замылкі, разглядае падшыпнік.

1-шы рабочы. Ну, ну! Асцярожна!

2-гі рабочы. Звар'яцеў ты, ці што?

Замылка. Самі вар'яты! Пусціце! Я яму пакажу падшыпнік!

Петрык. Дзядуля!..

Біруля (*хістаецца*). Пойдзем, Петрык...

Петрык беражна бярэ пад руку Бірулю, яны ідуць да дзвярэй.

Жадан. Пашкадуеце, таварыш Замылка!

Замылка. Згрозіў... Сам каб не шкадаваў!

1-шы рабочы. Годзе, Замылка, сорам...

Бразнуў аб станок злосна кінуты Болгасам падшыпнік. Жадан і частка рабочых заўважылі Болгаса.

3-ці рабочы. Зноў у цябе, Замылка, вышла памылка... Колькі разоў табе казалі—будзь ты чалавекам!

Замылка. Дурні! Цьфу...

Петрык (*за дзвярыма цэха*). У партыйны камітэт! Дзядуля! У партком. Ён не мае права!

Болгас. Замылка...

Замылка (*павяртаецца, запал яго адразу згас*). Слухаю, таварыш начальнік...

Болгас. Ваша работа?

Замылка. Мая...

Болгас. Зноў брак? (*Замылка маўчыць*). І ў вас хапае яшчэ нахабства спрачацца з машыністам, абражаць яго? Што-ж вы маўчыце?

Жадан (*кідаецца за дзверы, каб дагнаць Бірулю і Петрыка*). Сымон Вікенцьевіч! Сымон Вікенцьевіч!

*ЗАСЛОНА.*

## КАРЦІНА 2

Сталовая ў кватэры Бірулі. На сцяне партрэты тав. Сталіна і Л. М. Кагановіча, сямейныя здымкі—між імі вылучаецца выразаны з плаката вялікі рысунак магутнага паравоза. За сталом—Петрык і Валя. Перад імі—кніжкі, сшыткі.

Петрык. А ты ведала і не сказала?

Валя. Не сказала...

Петрык. Валька... А яшчэ піонерка! І табе не сорамна? (*Узнімае вочы ўгору, гаворыць захоплена, відаць капіруе Валю*). Я буду хетагураўкай, паеду на Далёкі Усход... (*запальчыва*). Каму ты там такая патрэбна? Раз-маз-ня!

Валя. Пецька! Ты што? Думаеш—старэйшы за мяне і хлопец, дык можаш здзекавацца, лаяцца? (*З суседняга пакоя ў дзверы прасоўвае галаву Ганна Паўлаўна. Прыслухоўваецца, потым ціха, незаўважна для дзяцей, уваходзіць*). Хетагураўка... Ну, і што? Сказала—і буду хетагураўкай. Захачу—і паеду. Годзе мне тут ля дзеда з бабкай сядзець. А ты што? (*Таксама капіруе*). Буду машыністам. Лётчыкам буду. Як Кокінакі. Буду лятаць вышэй за ўсіх і далей за ўсіх. За поўдня залячу на Далёкі Ўсход... (*Загараецца*). Хвалько! Вось хто ты—хвалько!

Петрык. А ты хуліганка!

Ганна Паўлаўна. Петрык! (*Дзеці разам азіраюцца*). Ты што гэта? Якая яна табе хуліганка? Спакойная, разумная дзяўчынка. Вось-жа, хлопец які, ускрутны. (*Замілавана, убок*). Увесь у дзеда пайшоў... А-а-яй...

Петрык. Спакойная... Разумная... А вунь якія штукі выраб-ляе. З хуліганамі звязалася...

Ганна Паўлаўна. Што ты лапочаш? З кім яна звязалася?..

Петрык. З ху-лі-га-на-мі. Разумееце? З хуліганамі! З рознымі зрыўшчыкамі, падманшчыкамі.

Валя. Во-во, чуеш, бабуля? *(Ледзь не плачучы)*. З хуліганамі, падманшчыкамі. Хвалько!

Ганна Паўлаўна. Кіньце, дзеткі мае, сварыцца. Вы-ж у мяне абодвы разумныя, слаўныя... *(Абдымае дзяцей)*.

Валя. Гэта не я. Гэта ён...

Петрык. Я? Я? Э-эх... Адным словам, баба...

Ганна Паўлаўна. Петрык!

Валя. А гэта па-піонерску?

Петрык. Ат! Нічога вы не разумееце. *(Вырываецца з абдымкаў)*. Сабраліся дзве... жанчыны і... *(Заклаў рукі ў кішэні, ходзіць па пакоі)* кіснуць. Вочы на мокрым месцы. Піонерка. Хетагураўка.

Валя. Во-во... Зноў...

Ганна Паўлаўна. Ціха, дзеткі. І чаго вы сварыцеся? Ну, раскажы, Петрычак...

Петрык. Хай вам Валя раскажа. Яна ў вас разумная. Слаўная.

Валя. Ну, і раскажу!

Ганна Паўлаўна. Раскажы, раскажы, унучачка мая.

Валя. Ну... Гэта ў школе ў нас, у класе... Захварэла немка... Дырэктарша хацела прысці займацца з намі па арыфметыцы... Яна арыфметыку ў нас выкладае.. А рэбята не хацелі арыфметыкі. Ванька Барэйка і Манька Лавецкая ўзялі ды партфелі ва ўсіх вучняў пазамыкалі, а ключы схавалі... каб сшыткаў не дастаць...

Ганна Паўлаўна *(занепакоена)*. І твой партфель?

Валя. Не, у мяне ключык быў...

Ганна Паўлаўна. Ну, дык што-ж тут такога? Чаго-ж ты яе лаеш, Петрык?

Петрык. Ат...

Валя. Ён лаецца, што я не сказала... Прышла класная. Ну, і дырэктарша. Пыталіся, хто гэта зрабіў, а мы маўчалі...

Петрык. І Валічка ваша слаўная маўчала. Піонерка. Такая разумніца...

Ганна Паўлаўна. Петрычак...

Валя. Ага... Ён хоча, каб я сказала... А дружба нашто? Выдаваць таварышоў?

Петрык. Зрыўшчыкі і хуліганы—гэта таварышы? Скажы,—таварышы?

Ганна Паўлаўна. Петрык... Унучак.

Петрык. Не, не!.. Вось вы скажыце,—правільна яна зрабіла?

Ганна Паўлаўна *(у замяшанні)*. Дзеткі мае...

Петрык. Ага! Ага! Не хочаце разумніцу сваю пакрыўдзіць!

Ганна Паўлаўна. Яна-ж табе гаворыць:—дружба ў яе Як-жа яна можа сказаць?



38

Петрык. Гэта не дружба! Зрыўшчыкаў трэба выкрываць. Яны шкодную справу зрабілі.

Ганна Паўлаўна. А... А яны-ж яе набіць маглі...

Валя. Яны і сказалі, што паб'юць...

Петрык. А ты і спужалася... Вось якая ў вас дружба. Размаз-ня!

Ганна Паўлаўна. Петрычак... Я-ж цябе прасіла не лаяцца. Яна-ж невінаватая.

Петрык. Ат. Хіба вам давядзеш? Вось мы ў дзеда, альбо ў Жадана спытаемся, ці правільна яна зрабіла?

Валя *(нерашуча)*. Ну, і спытаемся...

Ганна Паўлаўна. А цяпер лепш урокі рабіце. І не сварыцеся. Добра, дзеткі?

Петрык. Добра. Не буду.

Валя. А я і не сварылася.

Петрык *(зняважліва глядзіць на яе, потым пагардна махае рукой і моўчкі сядае за стол)*. Калі Салон стаў ля ўлады, ён... Што ён? Кабала... даўгі... *(Задумваецца, бярэ кніжку)*.

Валя старанна піша ў сшытку. Ганна Паўлаўна любоўна глядзіць на ўнукаў і паціху выходзіць. Пауза.

Петрык *(непакойна ёрзае, пазірае на Валю, потым адважваецца)*. Валя.

Валя. Ты зноў?

Петрык. Не, я так...

Валя. Ага. Так. А потым—хуліганка?

Петрык. Чэснае піонерскае, не буду. Даруй мне, што я пагарачыўся. Я не буду лаяцца, а ты прызнайся, што ты няправільна...

Валя. А вось і правільна.

Петрык *(загараецца)*. А я кажу, што няправільна!

У дзверы прасоўваецца галава Ганны Паўлаўны. Дзеці сціхаюць.

Петрык. Рэформы Салона былі палавінчастымі... *(Глядзіць у кнігу, галава Ганны Паўлаўны знікае, Петрык гэтага толькі і чакаў)*. Я вось чаго, Валя... Чаму гэта бабка наша дзеда ўскрутным абзывае?

Валя. Ускрутным? *(Жвава)*. А гэта, што дзядуля ніяк ад паравоза адвыкнуць не можа. Хоць на пенсію яго перавялі, а ён усё ў дэпо ходзіць. *(Прыцішана)*. Возьме куфэрак свой машыністаўскі, пакладзе ў яго крупы, бульбін пару і—пойдзе... Ціханька, каб бабка не бачыла. А там, у дзяжурнай, суп сабе згатуе—як раней, калі машыністам ездзіў. Чэснае піонерскае! А бабка-а... Як убачыць, што куфэрка няма, от злуе! *(Ускаквае, падпірае шчаку рукою, капіруе бабку)*. Па-думаць толькі... Яму на паравозе толькі жыццё... *(Размахвае рукамі)*. Механік гэтакі заўзяты! Другі-б самавары лудзіў, прымусы ладзіў. А на гэтага ўскрутная ўссядае. Кавалак хлеба яму дома ў горла не лезе, смачная ежа не да спадобы. Яму поліўка мілейшая, у дзяжурцы згатаваная. Цьфу! Дурань стары! *(Звычайным тонам)*. Не любіць яна, як на дзеда ўскрутная ўссядзе.

Петрык. Бедны дзедусь...

Валя. Яна і на цябе бурчэла, што звёў ты дзеда ў дэпо.

Петрык. Ну?

Валя. Чэснае піонерскае! Толькі казаць не хацела, бо нядаўна ты прыехаў, не абжыўся. Саромелася.

Петрык. І цяпер бурчыць?

Валя. Ага. Але не так. Яна... ну... у тупік, як дзед кажа, заехала. Ні то злосная, ні то не. Цяпер яна да дзеда Мішура ўсё чапляецца.

Петрык. За гарэлку?

Валя. Ды ён... *(Заўважыла, што ў пакой зайшла Ганна Паўлаўна, бярэцца за сшытак).*

Ганна Паўлаўна. Зноў заверашчалі? *(Да Петрыка).* А пра салёнага свайго так нічога і не ведаеш? Не вывучыў?

Петрык. Бабусінька... я ўжо канчаю!

Валя. І мне яшчэ толькі два сказы напісаць!

Ганна Паўлаўна. Нешта хутка ў вас усё робіцца. Ой, не будзе з вас выдатнікаў... *(Выходзіць у другія дзверы, а ў гэты час з першых дзвярэй нясмела выглядвае Біруля).*

Петрык. Салёны... Х-х... Пасля рэформы Салона барацьба паміж дэмасам і арыстакратыяй разгарэлася з новай сілай...

Уваходзіць Біруля і спехам хавае пад стол машыністаўскі куфэрак. Дзеці спагадна сочаць за яго рухамі.

Біруля. Цсс... *(з хітраватым выглядам уздымае палец, паказвае жэстамі, каб дзеці не гаварылі Ганне Паўлаўне).*

Петрык. Ні-ні...

Валя *(адмоўна ківае галавой).*

Біруля накіроўваецца назад да дзвярэй, але ў пакой ужо вярнулася Ганна Паўлаўна.

Ганна Паўлаўна. А-а-а... Кур'ерскі механік прыехаў ужо... Ну, куды цягнік вадзіў?

Біруля. Адчапіся ты. Які цягнік? Ну, і баба! Чыста галоўны кандуктар. *(Прыкладвае пальцы да роту—нібы кандуктарскі свісток).* Свісцёлкі гэтай табе не хапае толькі. Дзяцей пасаромелася-б...

Ганна Паўлаўна. От іменна. Дзяцей пасаромеўся-б! Ускрутны... Прыліп, як смоўж, да паравоза. Дзе-ж прысягу сваю машыністаўскую падзеў, схаваў ужо куфэрак? І як я не спаліла ламачыну гэтую. *(Шукаючы куфэрка, аглядвае пакой).* Дзе-ж ён?..

Гарачая перапалка старых заглушыла стук у дзверы—ніхто не адказвае.

Біруля *(да Ганны Паўлаўны. Не заўважае Грамовіча, які адчыніў дзверы і слухае).* Стрэлачнік! Дыспетчар на маю галаву! Чырвонагаловік!..

Грамовіч. Можна?

Біруля і Ганна Паўлаўна стаяць разгубленыя, дзеці з цікавасцю пазіраюць на госця.

Ганна Паўлаўна. Заходзьце...

Біруля. Калі ласка... *(убок).* От табе і маеш,—чырвоныя канцікі...

Ир 8Б 1857б
БССР Дзяржаўная бібліятэка імя Леніна

Грамовіч. Здаецца, я не памыліўся? Тут жыве Сымон Вікенцьевіч Біруля?

Ганна Паўлаўна *(яна яшчэ ў злосці, паказвае на Бірулю).* Ён!

Біруля. Тут. Я, можна сказаць...

Грамовіч. Ну, вось і добра. Патрапіў, значыць. Так. Давайце знаёміцца. Я—Грамовіч, парторг дэпо. *(Біруля нясмела пацїскае руку Грамовіча).* А гэта ваша жонка?

Ганна Паўлаўна *(нерашуча працягвае руку).* Так. Ганна Паўлаўна.

Грамовіч. Вельмі прыемна. А гэта?.. Петрык?

Петрык *(здзіўлена).* Петрык...

Грамовіч. Малайчына. Мне пра цябе расказвалі. *(У бок Валі).* А гэта?

Ганна Паўлаўна. Таксама ўнучка мая... Валя...

Біруля з неўразуменнем глядзіць на Грамовіча, нюхае табаку.

Грамовіч. Так. Ну, вось і пазнаёміліся.

Ганна Паўлаўна. Сядайце, калі ласка...

Грамовіч. Дзякую. *(Сядае).* А я да вас, Сымон Вікенцьевіч! *(Штучна строга).* Сварыцца! *(Біруля зусім занепакоіўся, Ганна Паўлаўна, прадчуваючы непрыемнасць для Бірулі, пагардна пазірае на яго).* Так, так! Сварыцца. Гэта вы паспрачаліся ў дэпо з Замылкам?

Ганна Паўлаўна. А хто-ж яшчэ адважыўся-б?

Біруля. Я... Даруйце, таварыш парторг. Не сцярпеў, можна сказаць... Пагарачыўся...

Ганна Паўлаўна. Пагарачыўся! А якая цябе гарачка туды ганяе?

Біруля *(да Грамовіча).* Папрасіў унук, Петрык, дэпо паказаць, ну—я і павёў, а там... натрапілася-ж такое!

Ганна Паўлаўна. Табе заўсёды рознае ліха натрапіцца.

Біруля *(да Грамовіча).* Я і сам пасля шкадаваў. Хіба мне цяпер, пенсіянеру, у дэпаўскія справы ўваходзіць?

Ганна Паўлаўна. Колькі разоў я табе гэта самае казала!

Біруля *(да Грамовіча).* Так што—даруйце старому...

Грамовіч *(усміхаецца).* Ну, не! Ні ў якім разе! Не дарую... *(Біруля зусім збянтэжыўся).* Толькі не за тое, вядома, што Замылку палаялі. Гэта вы вельмі добра зрабілі. Так яму, бракаробу, і трэба. А не дарую за тое, што да мяне не завіталі. Вось таго і сварыцца прышоў.

Біруля павесялеў, Ганна Паўлаўна ў замяшанні.

Грамовіч *(да Петрыка).* Ты што-ж гэта, Петрык? Дарогі да мяне не знайшоў?

Петрык. Я знайшоў-бы! Але... начальнік дэпо якраз прышоў, дык я ўжо і не шукаў вас.

Грамовіч. Вось яно як? Ну, добра.

Ганна Паўлаўна замітусілася, вышла з пакоя.

Грамовіч *(убачыў над сталом прышпіленыя да сцяны кар-*

*доначкі, зацікавіўся, чытае).* Экскурсант»... «трапяткі»... «выязджае»... «ралля»... *(Валя засаромелася).* Што гэта такое?
Біруля. А гэта Валіна сігналізацыя...
Грамовіч. Сігналізацыя? Як гэта—сігналізацыя?
Біруля. А тут, бачыце, у мяне плакат з сігналізацыяй раней вісеў. Старая мая вось зняла толькі... Вочы ён мазоліў ёй. Ага. Машыну я добра ведаю, рукамі яе адчуваю, вухам чую... А з правіламі сігналізацыі, ну—тут горш было. Гэта ўжо напамяць трэба ведаць. Ну, павесіў я плакат той. Не-не—ды і глянеш. Неўпрыкмет і вывучыш...
Петрык. І Валя, як дзед, зрабіла. Яна гэтыя словы няправільна піша, дык вось і ёй яны вочы мазоляць.
Грамовіч. А-а... Разумею!
Валя. Я таксама хачу ўжо зняць гэту сігналізацыю. Я ўжо правільна пішу ўсе словы...
Петрык. А ўчора?..
Валя. Петрык...

Уваходзіць Ганна Паўлаўна з самаварам.

Ганна Паўлаўна. Калі ласка, таварыш Грамовіч, чайку з намі. Якраз самавар паспеў.
Грамовіч. Не адмоўлюся! Не адмоўлюся!

Ганна Паўлаўна выходзіць.

Грамовіч. За чайком і пра справу пагаворым. Я-ж не толькі сварыцца прышоў, Сымон Вікенцьевіч.

Уваходзіць Ганна Паўлаўна з падносам. На ім шклянкі, цукар, пернікі.

Ганна Паўлаўна *(налівае чай).* Калі ласка!

Усе сядаюць за стол.

Грамовіч *(бярэ ад Ганны Паўлаўны шклянку).* Дзякую! *(Устае, ідзе да канапы, бярэ свой партфель, вымае пакунак з цукеркамі, ставіць іх на стол).* Бярыце, дзеці!
Петрык і Валя *(разам).* Дзякуем.
Ганна Паўлаўна. Ну, што вы, таварыш Грамовіч...
Грамовіч. Як што? Гэта-ж дзеці! Для іх-жа і фабрыкі цукерачныя існуюць. Частуйцеся, дзеці. Даўно вы, Сымон Вікенцьевіч, на пенсіі?
Біруля. А ўжо гадоў з пяць бадай.
Ганна Паўлаўна. Шосты год ужо.
Грамовіч. І доўга машыністам ездзілі?
Біруля. Гадоў з трыццаць за правым крылом стаяў.
Ганна Паўлаўна. Дваццаць дзевяць.
Грамовіч. Дваццаць дзевяць! І надакучыла, пэўна, Сымон Вікенцьевіч, га?
Біруля. Што вы, надакучыла?! Я і цяпер... *(Глянуў на Ганну Паўлаўну).*
Ганна Паўлаўна. Ён і цяпер паехаў-бы. Хварэе проста на паравозы гэтыя. І я праз яго хварэю. Чыстае гора...

Біруля *(таямніча)*. Яна ўедная, чыгунка гэтая. Ну, проста, жыцця без яе няма!

Ганна Паўлаўна *(нервова варухнулася, зачапіла пад сталом куфэрак, нагінаецца, выцягвае яго)*. Во! Прысяга яго машыністаўская. Беражэ і шануе. Пад дэпо з ёю шпацыруе!

Біруля. Ганна Паўлаўна! Я цябе прашу... Не ўводзь мяне ў гнеў. Што ты мяне з каляі збіць хочаш...

Петрык. Пакажыце, пакажыце, бабуля... *(Бярэ куфэрак, разглядае і адносіць ад стала)*.

Грамовіч *(змяняе гаворку)*. Жадан у вас памочнікам ездзіў?

Біруля *(ажывіўся)*. О, каб памочнікам! А то качагарам. Малады яшчэ зусім тады быў. Вельмі я шкадую. Такі старанны хлопец. Не ўсю навуку яму пераказаў, шкада.

Грамовіч. А ён мне казаў, як вы яго надоечы навучалі. Як гэта, бархатная, ці што...

Біруля. Бархатная язда... Гэта мы, старыя машыністы, так гаворым. Каб плаўна і роўна так, не рвучы. Разумееце? І хутка паедзеш, і спішыш, а пасажыр і не заўважыць.

Грамовіч. Умельства патрэбна на гэта, так?

Біруля. Ну, тут не вялікае. Ёсць шмат чаго больш сур'ёзнага. Але Жадан—ён здолее. Любіць машыну Цімоша, любіць. На Далёкім Усходзе, як у камандыроўцы быў, вельмі яго, кажуць, хвалілі за работу.

Валя. На Далёкім Усходзе?!

Біруля. Ага. А ты ўжо і падхапілася?

Грамовіч, не разумеючы, пазірае на Валю.

Ганна Паўлаўна *(да Грамовіча)*. Яна ў нас на Далёкі Усход ехаць збіраецца. Бацька яе там і маці...

Петрык. Яна ў нас хетагураўкай будзе.

Валя *(ціха, сарамліва)*. І буду...

Петрык. Факт, што будзеш!

Грамовіч. Будзеш, дзяўчынка, будзеш. Усе харошыя мары ў нашай краіне здзейсняюцца. *(Да Бірулі)*. Сымон Вікенцьевіч! А як вы на пенсію пайшлі? За выслугу год, ці як гэта называецца, га?

Біруля. Падзякавалі мяне за выслугу гэтую самую, можна сказаць... *(Нервова нюхае табаку)*. Так падзякавалі... Я-ж здаровы чалавек зусім. Я-ж... *(з крыўдай махае рукой)*. На Далёкі Усход хацеў ехаць... *(Валя ад здзіўлення выпусціла з рук лыжачку, яна бразнулася аб шклянку)*. Што, Валя, дзіўна табе?

Валя. Не... Я толькі думала, што туды адны маладыя едуць...

Біруля. От так і мне сказалі. І пярэстаркам хутчэй зрабілі... *(пауза)*. Гэта калі Жадана і памочніка майго пасылалі на Далёкі Усход. Хацеў і я паехаць, каб усёй брыгадай значыць. Бо і машыніста з імі пасылалі такога, што... Праўда, яго вярнулі потым хутка. Ну, паспрачаўся я тады з начальствам, пасварыўся—нічога не вышла. Паехалі ўсе, а мяне начальства р-раз—і на камісію. Не паспеў ачухацца, як і пуцёўка машыністу Бірулю гатова: на печ залазіць, тараканавыя маршруты правяраць, цвыркуновую сігналізацыю вывучаць...

Г а н н а  П а ў л а ў н а *(ціха, пакрыўджана)*. Ніколі ў мяне тараканаў тых і цвыркуноў не вадзілася...

Б і р у л я. Гэта да слова так прышлося. Не крыўдуй, старая... *(іранічна)*. Ганаровы пенсіён вызначылі мне... Дзе-ж ён? *(Шукае па кішэнях)*. Не... Там мабыць... Я зараз... *(Выходзіць)*.

Г а н н а  П а ў л а ў н а. А як з паравозам развітваўся... *(у горным успаміне ківае галавой, выцірае слёзы)*. І пенсія не малая, жыць спакойна і сыта можна... А яму свет не мілы. Ачмурэў быў першыя дні, а потым—стане ды глядзіць *(паказвае на рысунак паравоза)* і такі-ж ён... *(змахвае слязу)* як дзіця малое, недалужнае... І здароўем заняпаў...

Петрык падыходзіць да дзедавага куфэрка і задумліва ўглядаецца ў яго.

Г р а м о в і ч *(сам сабе)*. Так... Цяпер зразумела...

Г а н н а  П а ў л а ў н а. І злосць у мяне на яго і шкада мне яго, ох, шкада...

Таропка ўваходзіць Б і р у л я, Петрык вяртаецца да стала.

Б і р у л я *(падае Грамовічу жмук папер)*. Вось. Ганаровы пенсіён. А ў мяне і зрок, і слых,—ды што казаць—здаровы зусім чалавек!

Г р а м о в і ч *(разглядае паперы)*. Так. *(Пауза)*. Так. Гэта што—да Болгаса яшчэ было?

Б і р у л я. Да Болгаса. Быў тут такі... Нядобрае нешта казалі пра яго нядаўна ў дэпо.

Г р а м о в і ч. Так. Правільна казалі. Ну, а Болгас? Звярталіся вы да яго?

Б і р у л я. А як-жа? Паспачуваў. Не магу крыўдаваць—паспачуваў. Абураўся нават.

Г р а м о в і ч. І што?

Б і р у л я. А тое самае. Шмат часу, кажа, прамінула. А цяпер трэба як нанава паступаць на работу, ну, а шансаў, кажа ніякіх: не тыя годы мае. Маладых прымаюць толькі.

Г р а м о в і ч. Маладых толькі? Так, так. Вы дазволіце мне, Сымон Вікенцьевіч, на колькі дзён узяць у вас гэтыя паперы?

Б і р у л я. Бярыце. Калі ласка. Яны мне абрыдалі ўжо.

Г р а м о в і ч *(хавае ў партфель паперы)*. А Жадан не дрэнны, кажаце, работнік?

Б і р у л я. Вельмі я яго паважаў. Паслухмяны такі быў качагар і разумны. Ну, а цяпер-жа—машыніст!

Г р а м о в і ч. А што, Сымон Вікенцьевіч, каб вы сваю навуку Жадану пераказалі? Усю? Не толькі пра бархатную язду. І другім маладым машыністам? Га? Вялікая і карысная справа была-б. Як вы думаеце?

Б і р у л я. Што вы, таварыш Грамовіч! Які з мяне навучальнік? Я стары, інвалідам лічуся, а яны—маладыя, спрытныя. Не ўганюся я за імі! Гэта—што манеўроваму паравозу за кур'ерскім. Куды там...

Г р а м о в і ч. Э-э, не! Не так. Няправільна. Проста кажу вам,—памыляецеся. Маладыя—яны, праўда, смелыя, спрытныя. Харошае совецкае пакаленне вырасла. Яны горы зрушаць з месца. Тэхніку любяць і авалодваюць ёю напорна. Але-ж і старымі кадравікамі мы

не кідаемся. Адкідалі старых кадравікоў, зневажалі іх—ворагі народа. Для чаго—вам канешне зразумела.

Біруля. Вось яно як...

Грамовіч. Каб нашкодзіць нашаму транспарту. Партыя-ж наша паважае старых кадравікоў. Гэта—каштоўная сіла. Вялікую яна, шматгадовую практыку мае. І калі гэтую практыку злучыць з напорнасцю нашай моладзі... вы разумееце? Правільна я кажу, Ганна Паўлаўна?

Ганна Паўлаўна. Яно канешне... Ён і нашага, што на Далёкім Усходзе машыністам-інструктарам, сам навучаў. Валінага бацьку. Такі машыніст вышаў... Сур'ёзны, паважны...

Грамовіч. Ну, вось бачыце. А правільна гэта будзе,—свайго сына толькі навучаць? Яны-ж, усе маладыя, як сыны Сымону Вікенцьевічу.

Петрык. Правільна!

Усе павяртаюцца да Петрыка.

Ганна Паўлаўна і Валя *(разам)*. Петрык...

Петрык. Што—Петрык? Калі правільна, дык і я скажу, што правільна.

Грамовіч *(смяецца)*. Вось бачыце! Малайчына, Петрык. Ну, дык як, Сымон Вікенцьевіч, згода? *(Працягвае руку Бірулю)*.

Біруля *(паглядзеў на Ганну Паўлаўну)*. Згода... *(Працягвае сваю руку)*.

*ЗАСЛОНА.*

## КАРЦІНА 3

Кабінет начальніка дэпо. На сценах—графік руху цягнікоў, графік рамонта паравозаў. У пакоі двое дзвярэй, адны з іх—абабітыя бляхай, з маленькім круглым акенцам пасярэдзіне, прыкрытым засавачкай з другога боку. У пакоі—Болгас і Грамовіч.

Болгас *(пахаджвае па пакоі)*. Ах, маладосць, маладосць!.. Хацеў-бы я мець столькі год, колькі маеш ты... Запал, гарачкавасць, нават заўзятасць... Мне аж зайздросна!.. І... усё-такі ты не ўправах. Так, не ўправах. І... праз тую-ж сваю маладую гарачкавасць. Дапраўды! Сам памяркуй, ну—пастарэй на хвіліну якую, зрабіся больш разважным...

Грамовіч *(сядзіць на канапе)*. Я досыць разважыў гэту справу і наогул усе акалічнасці.

Болгас. Зноў ты загараешся! Не, не... Ты паслухай мяне! Замылка—стары рабочы. Такіх людзей мы называем кадравікамі. А кадры, сам-жа ты ведаеш, нам трэба шанаваць, берагчы. Ну, здарылася ў яго памылка,—так, правільна, але-ж трэба ўзважыць усе акалічнасці, як ты гаворыш. Ды яшчэ ў такі момант! Пачынаюцца манеўры Чырвонай арміі, работы будзе—во! *(Паказвае на горла)*.

Грамовіч. Я якраз і ўлічваю гэты момант.

Болгас. Зноў гарачка... Дрэнна улічыў, пэўна! А мы ўжо ўступаем у гэты перыяд найадказнейшай работы. Вунь з паравознай службы інспектар прыехаў, правярае нашу гатоўнасць... Тут на

кожнага чалавека такая нагрузачка, а ты... *(Звоніць тэлефон, Болгас бярэ трубку)*. Так... Я начальнік дэпо... Так... *(Глядзіць на графік рамонта, адчыняюцца дзверы, ціха ўваходзіць Квіенда, узіраецца ў Грамовіча і спыняецца ля дзвярэй)*. На абточку—машыну Жадана і Семячкі. Так, так. Па плану. Прабег яна выканала. Жорстка па графіку, каб ні адной хвіліны затрымак.

Квіенда *(ідзе ад дзвярэй)*. Так-с... Ну, вось і я *(глядзіць запытальна на Грамовіча)*.

Болгас. Знаёмцеся! Інспектар паравознай службы. Наш парторг.

Грамовіч. Грамовіч.

Квіенда. Квіенда. Вельмі прыемна. Вы, спадзяюся, паінфармаваны ўжо адносна таго пачэснага задання, якое прыпадае на ваша дэпо?

Грамовіч. Так, канешне... А вы... Вы пазнаёміліся ўжо з работай дэпо?

Квіенда. З большага. Споверху, так сказаць. Нішто, нішто! Працуеце, можна сказаць, не блага. Але, бяручы на ўвагу пачэснае заданне... Яго-ж трэба выканаць з гонарам, бліскуча! Вось, хаця-б сабе графік рамонта паравознага парка... *(Падыходзіць да графіка)*. Тэрміны рамонта набываюць цяпер асаблівае значэнне. А паравозныя брыгады!.. Тут па лініі палітыка-выхаваўчай работы...

Грамовіч. Ну, вядома. Партком ужо абмяркоўваў гэта пытанне. Праз... *(вымае гадзіннік)*. Праз поўгадзіны ў нас нарада майстроў і брыгадзіраў,—таварыш Болгас склікае. Вы, спадзяюся, выступіце?

Квіенда. Гм... Я-ж, ведаеце, бегла, споверху...

Грамовіч *(з усмешкай)*. Нічога. Я думаю—заўвагі знойдуцца!

Квіенда. М-м, хай так... Я падрыхтуюся.

Грамовіч. Вось і добра. Ну, выбачайце. Я пайшоў. *(Да Болгаса)*. Ты—камандзір-адзінаначальнік. Дыктаваць я табе не буду. Але памятай мае словы, я цябе папярэдзіў.

Болгас. Х-ха... Ты пераканаешся, што ты... што я не памыляюся.

Грамовіч. Ну, ну. Жадаю, каб тваё перакананне не падвяло цябе.

Болгас. Ну, не...

Грамовіч выходзіць. Квіенда ідзе за ім, зашчоўквае французскі замок. Болгас занепакоена глядзіць на Квіенду.

Квіенда. Там *(на дзверы з акенцам)* нікога няма?

Болгас *(бярэцца за бакавую кішэню)*. Ключ у мяне... Нікога...

Квіенда *(сядае на канапу)*. Цяпер у мяне да вас размова па іншай лініі, па канфідэнцыяльнай, сугуба давяральнай, так сказаць. Я, шаноўны мой, не заўважаю ніякіх адзнакаў вашай работы. Вы такі доўгі час працуеце тут, а вынікаў—не то што кот наплакаў, а ён нават і не плача! *(Насмешліва)*. Вы мяне не разумееце? *(Дастае з бумажніка паперку, падае Болгасу. Той чытае, рэзка павяртаецца да Квіенды, Квіенда бярэ назад паперку, рве яе на кавалкі)*. Цяпер зразумелі? Задачы ў нас, вядома, мала чым адрозніваюцца, а спосабы іх дасягнення—вы, пэўна, мелі магчымасць пераканацца—ад-

нолькавыя. Будзем працаваць разам. Дык вось, я вамі нездаволен. І не толькі я, а і—там.

Болгас (*хмурна*). Сувязі парваны, на ўсім паравозным аддзяленні, бадай, я адзін застаўся. Што ні дзень—чакаеш...

Квіенда (*з прыціскам*). Выкрыцця?..

Болгас. Так! Выкрыцця!

Квіенда. І склалі ручкі?

Болгас. Вы хочаце мяне абразіць?..

Квіенда. Не, я проста канстатую.

Болгас. Я зрабіў перапынак, каб не выклікаць падазрэння... (*Звоніць тэлефон*). Так... Я слухаю! (*Крычыць*). Ды я-ж сказаў—машыну Жадана і Семячкі! Няўжо нельга зразумець? (*Спакайней*). Ну? Так... Так... (*зноў злосна*). Ведаю я гэтыя наватарствы! Я сам зараз буду ў цэху. (*Бразгае трубкай*).

Квіенда. Перапынак, бачу я, мала спрыяе ўмацаванню вашай нервовай сістэмы. Вам-бы—на курорт (*зняважліва*). Пх...

Болгас (*узбуджана*). Вы што, пасміхацца прыехалі?

Квіенда (*яхідна*). Не! Справу рабіць. І вас, як кажуць, да парадку заклікаць. (*Павольна, з прыціскам*). Ваш перапынак скончан. Я вас таксама (*капіруе Грамовіча*) па-пярэ-дзіў! Аднак, пяройдзем бліжэй да справы. Задача, якая стаіць перад намі,—надзвычайнай важнасці. Вы напэўна чыталі ў газетах пра мабілізацыю ў Германіі?

Болгас. Чытаў...

Квіенда. Вось. Пра заторы, паралізаванасць чыгуначнай сістэмы і ўсё такое?

Болгас (*сцвярджальна ківае галавой*).

Квіенда. Ну-с. А нам трэба паказаць, як «удала» адбываюцца вайсковыя манеўры ў бальшэвікоў. Зразумела? Чыгуначных пробак нам, вядома, мала! Хэ! Гэта глупства. Нам патрэбна штосьці больш сур'ёзнае.

Болгас. Дыверсія?..

Квіенда. Так! Практычнае ажыццяўленне ўскладзена на вас. Якая ў вас апора?

Болгас. Ніякай!

Квіенда (*яхідна*). Нішто, нішто... Перапынак, што называецца!

Болгас (*хмурна маўчыць*).

Квіенда. Дарэчы! Што за чалавек гэты парторг?

Болгас (*жвава*). Сцяна! Форменная сцяна!

Квіенда (*іранічна*). Кітайская?

Болгас. Бальшэвіцкая (*Усхвалёвана*). Разумееце, стаіць на дарозе і—куды ні кінься—сцяна!

Квіенда. Аднак вы і панікёр вялікі, бачу я...

Болгас. Селі-б вы на маё месца...

Квіенда. Я пасяджу на сваім. Але вам вось—годзе сядзець ды на сцяну гэту глядзець. Аднак, што-ж то за сцяна такая... мураваная.

Болгас. Вось, перад вашым прыходам, ён налягаў на мяне,

каб ужыць суровыя меры да аднаго токара за дрэнны рамонт, ну— там п'янства і яшчэ сёе-тое.

Квіенда. І вы спасавалі?

Болгас. Канец размовы вы чулі самі *(сціхае, сканцэнтравана глядзіць уперад)*.

Квіенда *(насмешліва ківае галавой)*. Ну-с, кажыце далей.

Болгас *(нібы прачнуўшыся)*. Ды што казаць! Увесь час ён выхоўвае і згуртоўвае вакол сябе актыў. Нарэшце—трэба дадумацца!—выкапаў нейкага пенсіянера-машыніста і няньчыцца з ім. Перадачу вопыта наладжвае.

Квіенда. Так... Так...

Болгас. Ёсць тут малады машыніст Жадан. Дык, як толькі ён вернецца з паездкі, стары адразу-ж прыходзіць у дэпо.

Квіенда *(яхідна)*. Вы што, папярэджваеце яго аб прыездзе Жадана?

Болгас. Годзе вам! Проста ўнук гэтага старога дадумаўся: папрасіў Жадана планку ў паравозным свістку падпілаваць. Ён і гудзе не так, як іншыя паравозы. Стары і чуе гэты сігнал...

Квіенда. Хэ! Спрытна! Дзяды... Унукі... Такі ваш парторг—сапраўдны партыйны арганізатар. Але-ж вы! Вы-ж... таксама арганізатар! Мне пра вас трошкі расказвалі. Калі гэта было, га? Ну—як вы ўслед за шэфам вашым, Троцкім, «гайкі завінчваць круцей» патрабавалі, га? Перад нэп'ам, здаецца?

Болгас *(з усмешкай, ён нібы захоплены успамінам)*. Так... Было, было... Гэта перад нэп'ам, у дваццатым годзе...

Квіенда *(насмешліва)*. Такі стаж! З дваццатага года! Хэ!

Болгас. Бухарынцы нас тады падтрымлівалі. «Буферная» група ў іх была...

Квіенда. Гайкі... Буферы... Га?! *(Пачынае злаваць)*. Платформы... Тупікі... Ну, годзе! Вечар успамінаў мы з вамі як-небудзь пасля наладзім. *(Загадна)*. Вы! Арганізатар са стажам з дваццатага года! Як вы будзеце цяпер, сёння, арганізоўваць сваю справу?

Болгас. Я вам сказаў...

Квіенда. Перапынак?

Болгас. Я не бачу на каго можна было-б абаперціся...

Квіенда. Не бачыце? Дрэнна прыглядаецеся. Хочаце, я вам пакажу?

Болгас *(з крыўдаю)*. Калі ласка!

Квіенда. Хэ! Пакліцце сюды гэтага вашага токара, як яго прозвішча?

Болгас. Замылка.

Квіенда. Замылка? Нішто сабе прозвішча! За-мыл-ка... Пх! Ну вось, пакліцце гэтага Замылку.

Болгас *(з грэблівай усмешкай бярэ трубку тэлефона)*. Майстра пад'ёмкі. Майстар? Гаворыць Болгас. Вось што: пашліце да мяне токара Замылку. Так. У сувязі з заявай на яго... *(Кладзе трубку, запытальна глядзіць на Квіенду)*.

Квіенда *(шматзначна)*. Вось іменна,—у сувязі з заявай на яго... Ну-с, мы зробім так: я застануся тут, а вы пойдзеце туды

*(паказвае на пакой з ababiтымі бляхай дзвярыма)*. Праз гэтае акенца вы ўсё пачуеце.

Болгас выходзіць. Квіенда пахаджвае па кабінету.

Квіенда. Павінен, здаецца, як воўк лютым быць, а ён размякнуў якануча. Успамінамі захапіўся, сліны пусціў. Працуй вось з такімі...

Уваходзіць Замылка.

Замылка. Дзень добры. Тут мяне выклікаў начальнік дэпо.

Квіенда. Дзень добры. Выклікаў вас я. Вы Замылка?

Замылка. Так, Замылка.

Квіенда. Тут на вас скарга была. У чым там справа? Раскажыце, калі ласка! Ды сядайце. Вунь стул!

Замылка *(не сядае)*. Ды што заява... Глупства! *(Пачынае хвалявацца)*. Старому вар'яту чорт ведае што здалося, ён і прычапіўся, як смала. Ну, а я чалавек нервовы, вылаяў яго, каб не замінаў работаць. Вось і ўся справа. Глупства адно!

Квіенда. Толькі і ўсяго? Хэ! Сапраўды, глупства. А даўно гэта з вамі, ну, нервовасць гэтая?

Замылка. Я заўсёды такі!

Квіенда. Прынцыповы? Пх... Вы што, на грамадзянскай вайне былі? Паранены? Ці кантужаны? Наогул, шмат перажылі? Га? Кажыце!

Замылка *(насцярожана)*. Я на вайне не быў. Чыгуначнікаў не бралі.

Квіенда. Ну, а можа добраахвотна, га? Прыпомніце!

Замылка *(груба)*. Кажу, што не быў.

Квіенда. Пх... Толькі, калі ласка, не нервуйцеся. Я не інвалід, і наогул—я чалавек зусім здаровы і... дужы.

Замылка *(хмурна маўчыць)*.

У дзверным акенцы адходзіць убок засаўчка,—відаць напята ўважлівы твар Болгаса.

Квіенда. Вы што, увесь час у гэтым дэпо працуеце?

Замылка. Не. З дваццаць першага года.

Квіенда. А да дваццаць першага?

Замылка. Пачаў работаць у Баранавіцкім дэпо...

Квіенда. Так, так... Добрае дэпо. Ведаю.

Замылка *(падазрона глядзіць на Квіенду)*.

Квіенда. Я адзін час там таксама працаваў. Вы што, і ў дваццатым годзе там былі?

Замылка. У дваццатым я не працаваў. Там палякі былі...

Квіенда. Ну, вядома, вядома. Яны і цяпер там. А вы?

Замылка. Што я?

Квіенда. Таксама там былі?

Замылка. Быў, але не працаваў.

Квіенда. Цікава. Як-жа так? Што-ж вы рабілі?

Замылка. Па вёсках туляўся...

Квіенда. Ту-ля-ліся. Дзіўна... *(Раптам знаходзіць ход)*. У вас і ў працоўным спісе тут нешта наблытана. *(Замылка насцярожыўся)*. Недакладнасці нейкія... Ваша спецыяльнасць тады якая была?

Замылка. Я ездзіў памочнікам машыніста.

Квіенда. Ха-ха!.. А вы гаворыце—па вёсках туляліся!

Замылка *(спалохана ўтаропіўся на Квіенду, азіраецца).* Я...

Квіенда. Вы! *(Украдліва).* Не тойцеся. Гэта лепш для вашай справы.

Замылка. Я-ж па мабілізацыі...

Квіенда. Аг-га! Прыпомнілі? А то—«па вёсках туляўся». Ха-ха. Цікава!

Замылка *(плюхнуў на стул).* Я...

Квіенда. Вось і добра. Я-ж адразу запрашаў вас сесці. Толькі... Пх... без нерваў. Дык вы не былі на грамадзянскай вайне? Цікава...

Замылка *(умольваюча).* Я-ж па мабілізацыі...

Квіенда. Хэ! Па мабілізацыі, ці добраахвотна—нам няма часу дэтальна разбірацца.

Уваходзіць Грамовіч. Ён здзіўлены, убачыўшы Замылку і Квіенду. Замылка канчаткова разгубіўся. Болгас адразу-ж зачыняе засавачкай акенца.

Квіенда *(робіць выгляд, што не заўважыў Грамовіча).* Так, так... І часта ў вас здараецца брак у рабоце?

Замылка. Не... Я спяшаўся, таварыш начальнік. Дапраўды, спяшаўся... Каб паравоз паспеў пад цягнік...

Грамовіч. Выбачайце...

Квіенда. А-а... Калі ласка!

Грамовіч. Болгас... Ён хіба пайшоў куды?

Квіенда. Нядаўна. Пару хвілін якіх. А што, час на нараду?

Грамовіч. Там ужо збіраюцца.

Квіенда. Ага. Ага. Я таксама зараз іду. Вось толькі закончу з таварышам Замылкам. Мяне вельмі зацікавіў гэты выпадак...

Грамовіч Так. З рамонтам у нас яшчэ не ўсё добра. Вельмі прыкра, але-ж брак—ёсць.

Квіенда. Ну, не так ужо і багата. Таму да кожнага выпадку асаблівая ўвага патрэбна *(са шматзначнасцю, якая зразумела Замылку і гняце яго).* Люблю глядзець у корань справы. Хэ-хэ... Дайсці да прычын кожнай з'явы.

Замылка. Я спяшаўся...

Квіенда. Не спяшайцеся хоць цяпер. Пачакайце хвіліну *(да Грамовіча).* Мы зараз канчаем.

Грамовіч. Мы пачынаем хвілін праз дзесяць.

Квіенда. Ну, вось і добра. Я не спазнюся.

Грамовіч выходзіць.

Замылка. Таварыш начальнік... Я вас вельмі прашу. Я заўсёды стараюся, каб усё добра, каб паравозаў не затрымліваць. І тады я спяшаўся...

Зноў у акенцы паказваецца фізіяномія Болгаса.

Квіенда. І нарабілі шкоды. Вось *(бярэ са стала першую, што трапілася, паперку),* так і начальнік ваш кваліфікуе *(нібы чытае).* «За неаднаразовы брак у рабоце, што прынесла вялікую шкоду паравознай гаспадарцы і сведчыць аб класава-варожых настроях, то-

кара Замылку з работы звольніць без права паступлення на чыгуначны транспарт»...

Замылка. Таварыш начальнік...

Квіенда. Загад. Такі загад! І, бадай, ён правільны.

Замылка. Таварыш начальнік... Я столькі год працую, у мяне сям'я...

Квіенда. Сумна, вельмі сумна.

Замылка. Я ніколі... Яшчэ больш буду старацца!

Квіенда. Ну, мне час ісці. А загад начальніка дэпо адмяніць я не маю права. Магу толькі паспачуваць вам. Як чалавек чалавеку. Толькі. Толькі паспачуваць! Так, так... Сям'я, кажаце?

Замылка. Дзеці...

Квіенда. Так, так... І асабліва яшчэ гэты факт, работа ў Баранавічах. Вы-ж павінны разумець. Так, так... Шкада мне вас.

Замылка. Таварыш начальнік...

Квіенда. Нічога не магу зрабіць. Адно хіба,—я раскажу таварышу Болгасу пра нашу размову і перадам яму вашу просьбу. Ну-с... Бывайце, таварыш Замылка!

Замылка *(памыкаецца нешта сказаць і моўчкі, схіліўшы галаву выходзіць)*.

Квіенда *(павяртаецца да дзвярэй, за якімі Болгас)*. Ну, шаноўны калега, выходзьце з вашага зняволення. Хэ!

Болгас *(уваходзіць)*. М-так... Грамовіч казаў, што ў Замылкі ёсць нешта цёмнае ў мінулым...

Квіенда *(грэблівa)*. А вы захапіліся перапынкам? Дзе цёмнае—там мы павінны дзейнічаць. Эх, вы, арганізатар!

Болгас. Але-ж я не ведаў, якое гэта цёмнае...

Квіенда. А вы абавязаны ведаць. Ну, цяпер ён у нашых руках. Думайце як скарыстаць гэтага ідыёта з такім прыгожым прозвішчам. За-мыл-ка! Хэ! І цяпер-жа, у часе манеўраў. Ніякіх перапынкаў!

Болгас. Думайце... Калі...

Квіенда. Сцяна? Хаця, праўда. Сцяну трэба адсунуць. Мы што-небудзь надумаем...

Болгас. Але-ж... Няўдала вы гэты загад пра Замылку выдумалі. Ён-жа цяпер на мяне ў злосці...

Квіенда. У злосці? А хто на вас насядаў звольніць Замылку?

Болгас. Грамовіч...

Квіенда *(падганяючы ход думак Болгаса)*. Ну.

Болгас *(пачынае здагадвацца)*. А-а!..

Квіенда. Зразумелі? Пераадрасуйце Замылкаву злосць на парторга. Ха-ха... *(раптам задумаўся, паўза)*. Гм... Вось што: вы спаборнічаеце, здаецца, з суседнім дэпо?

Болгас. Спаборнічаем...

Квіенда. Аг-га. Трэба наладзіць праверку дагавароў. Выязную брыгаду. З удзелам парторга. Ха-ха... У вас што, Жадана машына на рамонт стала?

Болгас. Каб-жа стала!

Квіенда. А што?

Болгас. Ды ён заявіў, што пракату на колах няма і абточку

можна адкласці. Абавязваецца з Семячкам, сваім напарнікам, зноў павялічыць норму прабега паравоза без рамонта. *(Злосна)*. Стахавец. Крываносавец.

Квіенда. Аг-га! Вельмі добра. Нават—яшчэ лепш. Мы гэту машыну перад самымі манеўрамі на абточку паставім. Цікава. Хэ! Нават цудоўна!..

Болгас. А графік?

Квіенда. Плюньце! Тут мы «гайкі» і падкруцім. Хэ! Зразумела?

*ЗАСЛОНА.*

## АКТ ДРУГІ

### КАРЦІНА 4.

Сталовая ў кватэры Бірулі. Паціху адчыняюцца дзверы, у іх нясмела спыняецца Мішур.

Ганна Паўлаўна *(за сцэнай)*. Ну, чаго стаіш? *(Мішур уваходзіць, за ім Ганна Паўлаўна, з-за яе спіны выглядваюць Петрык і Валя)*. У хату зайсці баішся?

Мішур. Ды не... Дзень добры ў хату!

Ганна Паўлаўна. Ды ўжо вечар у хаце.

Петрык і Валя *(разам, гучна)*. Добры вечар, дзед Мішур!

Мішур. Ну, вы, вераб'і...

Ганна Паўлаўна. Ага. Чыстыя вераб'і. Усё толькі скакалі-б ды верашчалі. А ну—за ўрокі. *(Петрык і Валя ідуць да стала)*.

Мішур. А... Сымон Вікенцьевіч дома?

Ганна Паўлаўна *(яхідна)*. Зноў пляшачку расціснуць?

Мішур. Што вы, што вы, Ганна Паўлаўна?! Тут, тое, пільная справа адна падвярнулася...

Ганна Паўлаўна. Ведаю я твае справы! Калі за гэтым, то выходзь! Мой можа сур'ёзны клопат мае, чалавек заняты. А ты шлындаеш тут. Няма работы табе. Звадыяш стары! Думаеш—пенсіянер, дык табе і дзела аднаго, што брыду гэтую смактаць? Майго зводзіць?

Далёка загудзеў паравоз Жадана, Петрык падхапіўся, за ім Валя; яны пашапталіся і паціху, каб не заўважыла Ганна Паўлаўна, выходзяць.

Мішур. Ганна Паўлаўна...

Ганна Паўлаўна *(не дае гаварыць)*. Пля-ша-чку... Да Сымона Вікенцьевіча сам парторг можа прыходзіць, разам чай п'юць і пра справы розныя гамоняць. Сёння вунь Сымон Вікенцьевіч на паездцы. А ён—з пляшачкай сваёй. Выходзь, выходзь! Няма чаго тут!

Мішур *(тупае да дзвярэй)*. Якая-ж работа ў Сымона, Ганна Паўлаўна?

Ганна Паўлаўна. А схадзі вось у дэпо, паглядзі. Усё адно бадзяешся. Мо' і для сябе справу якую людскую знойдзеш. А то соўгаешся, баламуціш. Каб і не бачыла больш я з пляшачкамі тымі!

Мішур. Ды я тое... Я, Ганна Паўлаўна, як зазвычай, па добрай знаямосці...

Ганна Паўлаўна *(азіраецца)*. Пе-трык, Ва-ля?.. Ды дзе-ж яны? Уця-аклі... *(Бегае па пакоі)*.

Мішур. От, порхаўка старая...

Ганна Паўлаўна. Ты што там мармычаш?

Мішур. Я-ж кажу—па добрай знаямосці... *(Адчыняе дзверы, каб ісці)*.

Ганна Паўлаўна *(удагонку)*. Гэтыя знаямосці пераелі мне косці... *(Мішур хуценька зачыняе за сабою дзверы)*. Ды што-ж гэта за насланне?.. І ўрокаў не вывучылі і паўцякалі. Ну, і ўскрутная-ж парода...

За сцэнай чутны галасы. Ганна Паўлаўна хуценька выходзіць. Адразу-ж уваходзяць Грамовіч, Біруля, Семячка, Мішур. Мішур неспакойна азіраецца на Ганну Паўлаўну, якая ідзе за ім.

Біруля *(адбіраючы ў Семячкі куфэрак)*. Аддай, Семячка! Што гэта за работа... Я і сам магу!

Семячка *(смяецца)*. Ну, цяпер бярыце, Сымон Вікенцьевіч. Прышлі ўжо.

За сцэнай мяўканне ката.

Петрык *(за сцэнай)*. Не хадзі босая!

Грамовіч. А хто там абуты ходзіць?

Уваходзяць Петрык і Валя.

Грамовіч. А-а-а... Гэта ты з катом сварышся?..

Біруля. На, старая. *(Перадае Ганне Паўлаўне куфэрак)*. Я гэтага гонару заўсёды цураўся. Колькі год машыністам ездзіў, а ніколі мне куфэрка не падносілі. От, спытайцеся ў Жадана хоць,—качагарам у мяне быў, а куфэрка не насіў...

Семячка. Ну, а я з вамі не ездзіў, Сымон Вікенцьевіч, не давялося. Шкада.

Біруля. Ага. Шкада. А то я табе паказаў-бы навуку!

Усе смяюцца, Ганна Паўлаўна выносіць куфэрак, потым вяртаецца.

Петрык. Дзядуля. А калі вы памочнікам ездзілі... куфэрак машыністам насілі?

Біруля. А як-жа? Паспрабаваў-бы ты не паднесці куфэрак «пану механіку». Ох, быў у мяне механік, ліха на яго! Такі гадзіна... Звяглівы. З правага боку на машыну ўзлазіць не дазваляў. Ты мне, кажа, парэнчы папэцкаеш! Памочніку і качагару, кажа, з левага боку лазіць яшчэ ад самога Стэфенсона паложана. Брахаў, ліха на яго! У Стэфенсона таго і будкі на паравозе не было, не то што парэнчаў.

Петрык. А вы-б, дзядуля, не насілі яму куфэрак. На зло проста!

Мішур. Наўрад ці давялося-б тады і свой насіць...

Біруля. Во, правільна, Макаравіч!

Петрык. Ну, паскардзіліся-б...

Мішур. Ну, каму-ж бы ты, голубе, паскардзіўся? Пану начальніку дарогі? Ці, тое... яго імператарскай вялікасці?

Біруля. І да чаго ты сёння, Міхей Макаравіч, складна гаворыш! Усё адно, што на экзамене пра сігналізацыю.

Усе смяюцца.

Ганна Паўлаўна. Ці табе пра пляшачкі. *(Яе не чуюць)*.

Біруля. Ну, сядайце, госці...

Ганна Паўлаўна. А дзе-ж то Цімафей Пятровіч?

Грамовіч. А ён зараз падыйдзе...

Біруля. Машыну ў дэпо павёў. Ён прыпыніўся ля вакзала і мяне спусціў. А таварыш Грамовіч з Семячкам сустрэлі. От мы і прышлі раней за яго.

Ганна Паўлаўна. А-а... *(Замітусілася, хоча выйсці з пакоя)*. Я зараз...

Грамовіч. Ганна Паўлаўна! Не турбуйцеся толькі ні аб чым...

Біруля. А па шклянцы чаю?..

Ганна Паўлаўна. А як-жа! Абавязкова, таварыш Грамовіч!

Грамовіч. Мы толькі на адну хвіліну. Сымон Вікенцьевіч стаміўся...

Біруля. Хто? Я? Ну, не! Давайце машыну—хоць зараз з кур'ерскім паеду!

Ганна Паўлаўна знікае.

Семячка. Э-э... Не, Сымон Вікенцьевіч! Вы ўжо не цяпер, а са мной, зноў на нашай машыне як-небудзь з'ездзіце, добра? А то я Жадану зайздросціць пачну. Чэснае... піонерскае. А я яе вельмі баюся. Зайздрасці.

Мішур. Калі тое... у напарнікаў зайздрасць, дык, тое... машына дрэнна пару робіць...

Біруля. О! Залатыя словы, Міхей Макаравіч.

Грамовіч. Не зайздросціць, Семячка, а пасабляць адзін другому трэба.

Семячка. А мы так і працуем.

Уваходзяць Жадан і Болгас, за імі Ганна Паўлаўна.

Болгас. Вечар добры!

Біруля. А-а... Таварыш начальнік... Добры вечар...

Болгас *(вітаецца з усімі)*. А гэта... гаспадыня, здаецца?

Жадан. Ганна Паўлаўна...

Болгас. Вельмі прыемна...

Жадан. А гэта—Петрык, Валя... унукі Ганны Паўлаўны і Сымона Вікенцьевіча...

Болгас. А-а... З маладым машыністам я ўжо знаёмы. А Валі вось—яшчэ не ведаў. Пэўна парашутысткай будзе Валя, га? Цяпер усе дзяўчаты парашутысткі. Ха-ха...

Ганна Паўлаўна зноў замітусілася.

Грамовіч. Ганна Паўлаўна... Я-ж вас прасіў—мы на адну хвілінку толькі.

Болгас. Так. Так. Просім не турбавацца. Калі ласка, сядайце тут, разам з намі. *(Усаджвае Ганну Паўлаўну)*. Ну, Сымон Вікен-

цьевіч! Віншую! Я проста не сцярпеў, каб не зайсці асабіста вас падзякаваць. Мне Жадан расказваў. Ха-арошую справу вы надумалі! Выдатную.

Біруля. Ну, што там... Проста з'ездзіў з Цімошам. Ён мне сёе-тое паказаў... Маладыя цяпер да-асужыя... Смялейшыя за нас, старых...

Грамовіч. Але-ж і старыя, бывае, паказаць сёе-тое могуць?!

Біруля. Вядома! Недарма-ж і мы, можна сказаць, па трыццаць год ездзілі...

Мішур. Кхе-кхе... Ты што, Сымон Вікенцьевіч, зноў, тое, на работу пайшоў? За машыніста-настаўніка?

Біруля. Дзе там за настаўніка! Вышэй падымай! Як гэта, Петрык, Замылка тады мяне аблаяў?

Пры ўпамінанні імя Замылкі Мішуру ніякавата, Болгас насцярожваецца.

Петрык. Прафесарам?..

Біруля. О! Чуў? Прафесар. Гэта, Макаравіч, вышэй за настаўніка будзе.

Болгас. Таварыш Біруля—сапраўдны прафесар сваёй справы. Сёнешняя паездка яго з Жаданам гэта яскрава давяла. Ёсць яшчэ час папрактыкавацца і тады, на манеўрах Чырвонай Арміі, мы давядзем як могуць працаваць чыгуначнікі! Высокая хуткасць, вялікая вага цягнікоў... Мы ўсяму капіталістычнаму Захаду пакажам, з кім ён будзе мець справу, калі памкнецца на нас...

Семячка. А хто-ж паказваць будзе? Жадан? А я? Хіба я не здолею? Як-жа гэта так выходзіць?

Грамовіч. Здаецца, зайздросціць пачынаеш?..

Агульны смех.

Семячка. Добра вам смяяцца. Што я—горшы за Жадана?

Грамовіч. Пасобім і табе...

Болгас. Над Жаданам узяў шэфства таварыш Біруля, а над табою бяру шэфства я. Згодзен?

Семячка. Ну, гэта іншая справа. Дзякую, таварыш начальнік. А то і праўда, зайздрасць за сэрца брала.

Жадан. Кінь, Семячка. Справа аб тым, каб не ты і не я, а каб абедзве нашы брыгады—ды што брыгады—каб усё наша дэпо паказала ўзор працы!

Грамовіч. З канца ў канец неабсяжнай нашай краіны ідуць, Семячка, цягнікі. Сотні, тысячы цягнікоў. Ад Негарэлага да Владзівастока, ад Баку да Ленінграда,—па ўсіх лініях...

Семячка. А мы-ж так далёка не водзім цягнікоў...

Грамовіч. Не водзім? Не, Семячка, водзім і мы гэтыя цягнікі. Вось, з Баку ў Ленінград ідуць маршруты з нафтай—для рухавікоў гігантаў-заводаў, для машын нашага Чырвонага флота. Праходзяць маршруты гэтыя і па нашаму ўчастку. І вядзеш іх ты, Семячка, вядзе Жадан, вядуць усе машыністы нашага дэпо. І кожны з вас выконвае адказнае заданне радзімы, кожны ваш рэйс—пачэсны. І калі Жадан гаворыць пра ўзорную работу ўсяго дэпо...

Семячка. Канешне! Я так і думаў, толькі мне здалося...

Ж а д а н. А хай табе не здаецца...

С е м я ч к а. Добра. Ужо не здаецца. Але вось, Цімка... Сымон Вікенцьевіч! А як з апальваннем паравоза, эканомія наша не лясне?

Б і р у л я. Думаеш—перапал вугалю будзе? Гэта ад таго, як тапіць... Я от табе байку адну раскажу *(хітравата пазірае на Мішура)*. Пра эканомію вугалю.

М і ш у р. Што ты гэта, Сымон Вікенцьевіч! Людзям параіць трэба, сур'ёзнае што сказаць, а ты—байкі...

Б і р у л я. Ну, Міхей Макаравіч, розныя байкі бываюць.

Г р а м о в і ч. Расказвайце, Сымон Вікенцьевіч!

С е м я ч к а. Ага. Паслухаем. Па-праўдзе, вельмі я люблю байкі, ды каб вясёлыя...

П е т р ы к. Раскажы, дзядуля!

Б і р у л я. Ды ўжо-ж, раскажу. Вясёлая, Семячка, байка. Гэта, калі ездзіў я памочнікам яшчэ. Быў у мяне машыніст, паважны такі і сур'ёзны страшэнна. *(Нюхае табаку, Мішур непакойна ёрзнуў на стуле)*. Ага... Можа нюхнеш, Міхей Макаравіч?

М і ш у р. Не хачу. Мне і дахаты час ужо ісці. *(Устае)*.

С е м я ч к а. Вось табе і маеш. Не спяшайцеся, Міхей Макаравіч. Можа і вы нам што раскажаце. Ого! Столькі год ездзілі...

Г р а м о в і ч. Праўда, таварыш Мішур, пасядзіце з намі.

М і ш у р. Ды што тут расказваць...

Ж а д а н. Ну, дык паслухаеце хаця.

Мішур, хоць нездаволены, сядае.

Б і р у л я. Ага... Ну, от. Развялі мы з прыяцелем маім—качагарам агеньчык, рыхтуемся пад цягнік выязджаць. Лезе ў будку і машыніст наш, сапе, у мяшку нешта валачэ. А мех ваўтузіцца, таргаецца—жывое нешта ў ім трапечыцца. Тыцкае мне ў рукі: «на,—кажа,—кінь у топку». Я гляджу гэта, збянтэжыўся. «Кот,—кажа машыніст,—ліха на яго. Мяса ўсё паеў, на паездку няма чаго ўзяць праз падлу гэтую. Дык хай,—кажа,—замест пекла, у топцы сканае». Я—і ні блізка. Што вы, механік,—кажу,—жывое можна сказаць, стварэнне, ды ў топку?! Нізавошта. «Дурань,—кажа,—і качагару—прыяцелю майму—тыцкае.—Не бяры, чуеш!—уз'еўся я. Узлаваў наш машыніст, плюнуў, адчыніў топку, ды сам і кінуў ката таго.

П е т р ы к. У топку?

Б і р у л я. Ага...

М і ш у р. Ведама, у топку... *(Схамянуўся, закашляўся)*.

Б і р у л я. Ага... Ну, едзем мы пад цягнік, а ў мяне аж у роце гідка. Не магу і падумаць пра ката таго. *(Нюхнуў табакі)*. Ага... Прычапіліся да састава. «Падкінь вугальку!»—кажа машыніст. Што ты зробіш,—адчыняю топку, ажно там—цьфу!.. Абгарэлы кот, зусім бадай без поўсці, ходзіць па канту ля полымя ды мяўкае.

М і ш у р. Жывучы быў, паскуда... *(Схамянуўся, сціхнуў)*.

Б і р у л я. Ага... Ходзіць і мяўкае, каб ты згарэў...

С е м я ч к а *(смяецца)*. Дык-жа не згарэў!

Б і р у л я. От то-ж і яно, што не згарэў!

М і ш у р *(нясмела)*. Ну, і да чаго, тое, байка твая?

Б і р у л я *(хітра)*. А ты і не зразумеў?

Мішур *(абражана)*. Я то зразумеў...

Біруля. Ну, дык чаго пытаешся?

Мішур *(махае рукой)*.

Грамовіч. А вы і нам скажыце.

Жадан. Тут справа ясная. Сымон Вікенцьевіч ля дэпо лёгенькі агеньчык разводзіў. А ўжо на адпраўленні падкідаў вугалю столькі, колькі трэба.

Мішур незаўважна ўстае і выходзіць.

Біруля *(узнімае палец)*. О! Правільна, Цімоша! А то другі, стоячы ля дэпо, набахае вугалю ў топку столькі, што аж балансы равуць. Так, брат, усю эканомію апалу ў паветра пусціш.

Семячка. Тапіць трэба ўмеючы.

Біруля. Да таго і байка гаварылася.

Петрык *(ён даўно парываўся нешта сказаць)*. Дзядуля, а кот?

Семячка. Ага, а з катом што?

Валя. Здох кот?

Біруля. Кот?!. *(Азірасцца)*. А дзе-ж Міхей падзеўся?

Семячка. Пайшоў, выходзіць... Прапала байка...

Жадан. Скажы ты, а мы і не бачылі.

Біруля. Уцёк! А я толькі хацеў спытацца: колькі год яшчэ кот гэты ў яго мяса цягаў?..

Петрык *(пляскае ў далоні)*. Дзеда Мішура кот?!

Валя. Гэта ён машыністам быў?

Усе смяюцца.

Біруля. Што вы? Хіба-ж так можна? Такую абразу на Міхея Макаравіча. Каб ён, ды ката пакрыўдзіў! У яго сэрца мяккае, спагаднае. Гэта ён з выгляду толькі шурпаты такі. Не, не... Ён тады за качагара ездзіў,—прыяцель мой быў. Ну, і цяпер, праўда, прыяцель...

Ганна Паўлаўна. І нішто-б прыяцель, каб не інерцыя гэтая вас зводзіла.

Біруля. Ну, ты, старая, не ўз'ядайся! Нічога ты ў машыніставых справах не разумееш.

Ганна Паўлаўна *(пакрыўджана)*. А як-жа...

Петрык. Дык чаго-ж ён уцёк, дзед Міхей?

Біруля. А гэта справа далікатная. Ён тады ката таго з топкі выцягнуў, лячыў, даглядаў... Дык яго доўгі час кацячым доктарам дражнілі. Думаў, пэўна, што і я да смешкаў звяду...

Семячка. Цікавая байка! І як гэта толькі Мішур збег. Можа вы яшчэ адну раскажаце, Сымон Вікенцьевіч?

Жадан. Пра скіпідарную ваду хіба, для Семячкі?

Семячка. Ну, ну... А што то за вада такая?

Біруля. Вада паганая, і байка паганая. Не хачу і расказваць.

Семячка. От табе і маеш...

Жадан. Пра Замылку гэта...

Болгас. Пра Замылку? Паслухаем, ха-ха...

Біруля *(нюхнуў табакі, нехаця)*. Гэта вы яшчэ ў нашым дэпо не працавалі. Адзін час дрэнна ў нас паравозы даглядалі, па-

цяклі ў іх дымагарныя трубы, дык хадзіла такая тэорыя, Замылка яе выдумаў, кажа—вада ў вадакачцы з ракі, а на рацэ плыты гоняць, дык шмат у вадзе скіпідару збіраецца, вось і цякуць ад скіпідару трубы.

Семячка. Во, боўдзіла дурное, ха-ха...

Валя. А ён тут быў нядаўна, Замылка.

Біруля. Як гэта—тут?

Валя. На вуліцы, ля нашай хаты. І што ў яго было... *(Выбягае з пакоя).*

Біруля. Калі ён быў?

Петрык. Пэўна з дзедам Мішурам прыходзіў.

Ганна Паўлаўна. Я-ж яго не бачыла!

Петрык. А ён за хатай стаяў.

Убягае Валя, у руках у яе літр гарэлкі.

Валя. Во!

Ганна Паўлаўна. Валя! Гэта што яшчэ такое?

Валя. Гэта, бабуля, Замылкава... Як убачыў ён, што таварыш Грамовіч з дзедам ідуць—кінуўся наўцёкі, яна ў яго і вывалілася з кішэні.

Усе смяюцца.

Петрык *(да Валі).* І заўсёды так: кажы ўсю праўду.

Ганна Паўлаўна. Ну, а не казала я, што з пляшачкай Міхей прыходзіў? Звадыяш стары... Давай мне сюды брыду гэтую.

Грамовіч. На міравую, відаць, Замылка збіраўся.

Болгас. Ха-ха... Не інакш.

Біруля. Ну, і Міхей! І як яго, можна сказаць, падводзіць інерцыя гэтая да гарэлкі.

Ганна Паўлаўна. А ты-ж яго бароніш усё...

Жадан *(бярэ бутэльку ў Ганны Паўлаўны, чытае этыкетку).* Пяцьдзесят шэсць градусаў...

Семячка *(спрытна выхоплівае ў Жадана бутэльку, пляскае па дну, нюхае).* Н-да... А па мойму тут і ўсе сто будуць... *(Павольна нахіляе бутэльку над фікусам).*

Ганна Паўлаўна *(бароніць фікус).* Семячка! Што ты робіш?! Вазон засохне...

Семячка. Ні ў якім разе!.. Як да мяне надумаецца хто з гарэлкай прысці, я заўсёды так раблю. Ну, і буяна-ж растуць мае вазоны...

Петрык. Праўда? Гэта таму, што яны п'яныя...

Біруля. І выдумае-ж гэты Семячка... Ты толькі, Петрык, не ўздумай гэтак вазоны гадаваць.

Жадан *(задумліва).* Дадумаўся Замылка... Яго ўсё грызь нейкая грызе. Ходзіць, робіць, раптам пачынае згрызацца, шалее проста. І грызь гэтую ў гарэлцы топіць.

Біруля. Згрызотны чалавек, што і казаць...

Болгас *(заварушыўся, яму не да спадобы, што гавораць пра Замылку, ён вымае гадзіннік).* Аднак... засядзеліся мы... Трэба Сымону Вікенцьевічу адпачываць. Жадаю поспеху, таварыш Біруля. Мы вас падтрымаем.

Семячка. Дзякую, Сымон Вікенцьевіч, за байкі. Страх, як я іх люблю!

Усе ўстаюць, развітваюцца.

*ЗАСЛОНА.*

КАРЦІНА 5.

Рамонтны цэх дэпо з панадворкам (як у 1 карціне). У цэху перад закрытай рамонтнай канавай стаяць паравозныя колы. Некалькі рабочых заканчваюць апрацоўку дэталей. Праз адчыненыя вароты відаць падняты на дамкратах паравоз, ля яго рабочыя. Чутны лязгат металічных частак, стук малаткоў. Ад паравоза ў цэх заходзяць рабочыя (сярод іх Замылка), яны забіраюць апрацаваныя дэталі. Праз тыя-ж вароты ў цэх увайшлі Жадан і Болгас.

Болгас *(падыходзіць да колаў)*. Я вельмі здаволены. Усё ідзе, як намечана. Вось і колы абточаны ўжо *(аглядаюць колы)*.

Жадан. Работа чыстая. Ніякай заганы не бачу.

Болгас. Лепшы токар абтачваў!

Жадан. Можна і падкатваць.

Болгас. Вядома *(Вымае гадзіннік)*. Так. Але народ стаміўся. Трэба зрабіць перапынак. Хай адпачнуць, павячэраюць. Тады і паставім паравоз на ногі. *(Заўважае Замылку)*. Замылка!

Замылка *(падбягае)*. Слухаю, таварыш начальніч!

Болгас. Абвясціце перапынак. Там у сталовай вячэра падрыхтавана. А потым падкацім колы.

Замылка. Слухаю... *(Хутка ідзе да паравоза)*.

Жадан. Павячэраць хіба і мне...

Болгас. Канешне. А ведаеш... Ідзі ты лепш за ўсё дахаты! Цэлыя суткі не вылазіў з дэпо, які з цябе работнік будзе на паравозе?

Лязгат ля паравоза сціхнуў, рабочыя пайшлі вячэраць.

Жадан. Калі няёмка так вышла... Семячка паехаў на праверку соцдагавароў. Нельга-ж, каб паравоз рамантавалі без нагляду машыністаў...

Болгас. Твая брыгада смела можа ісці адпачываць. А тут пабудуць памочнік і качагар Семячкі. Гэтага зусім дастаткова. Засталося-ж толькі падкаціць колы. Ну, пайшлі *(Ступае пару крокаў, азіраецца на колы)*. Ды па дарозе да Сымона Вікенцьевіча завітай. Зусім стары знясілеў. Заўзяты такі! Хацеў увесь рамонт у дэпо прасядзець... Сімпатычны старыкан! А Грамовіч праличыўся. Казаў—не ўправімся, а мы акурат і ўклаліся ў тэрміны.

Жадан. Ён усё казаў, што мы да заўтра зацягнем. Шкада, што паехаў.

Болгас. Я яго адгаварваў. Без цябе, казаў, правераць, ты тут больш патрэбны. Нібыта і згодзен быў. А сёння прыходжу ў дэпо— паехаў, кажуць. Ну, хай сабе так... Але ён заўтра будзе. Пайшлі!

Выходзяць праз дзверы. А праз вароты ўваходзіць Замылка, зачыняе іх. Ідзе да дзвярэй, бярэ і іх на зашчапку. Дастае з вугла пераносны станок для абточкі шыек асей колаў, прымайстроўвае да аднаго з колаў і робіць некалькі абаротаў. Скрыгоча разец па ме-

талу. У гэты час да дэпо падыходзяць Біруля і Петрык. Петрык накіроўваецца адразу да дзвярэй.

Біруля. Стоп машына! Петрык, задні ход. Пары ў мяне, можна сказаць, не хапае. Зноў пад'ём ледзь адолеў. Прыпынімся на гэтым раз'ездзе. *(Сядае на лаўку, Петрык вяртаецца ад дзвярэй, сядае побач).*

Замылка *(аглядае колы).* Вось вам тут і вялікая хуткасць і доўгі састаў будзе! Пад адкос, ды з грукатам. *(Нясе станок да варот, ставіць на зямлю, вяртаецца да дзвярэй і адкідае зашчапку. Азіраючыся, ідзе да каліткі ў варотах, адкідае і там зашчапку, выносіць станок).*

Біруля. Адпачніце, кажа, Сымон Вікенцьевіч! Стаміліся! Гэта— начальнік... Вось Сымон Вікенцьевіч і адпачыў. Старому машыністу як зайцу таму, можна сказаць,—прымгнуў вока, вось і выспаўся. Адпачніце... Які тут адпачынак, калі машына наша на рамонце, калі яна ў такі рэйс пойдзе, на манеўры чырвонаармейскія. Выбачайце, начальнік... *(Нюхае табаку).* Ага... Каб ты не затрымаўся ў школе, мы-б даўно прышлі, Цімошку спаць выправілі. Не вылазіць з дэпо хлопец! Вось яму акурат адпачыць трэба перад паездачкай... Праўда, шэф?

Петрык. Дзіва што праўда!

Біруля. Ну, стаянка скончылася. Давай жазло. Петрык! *(Петрык падае дзеду кіёк).* Паехалі...

Петрык. Паехалі.

Ідуць у цэх.

Біруля. Вось табе і маеш... Прыехалі! А тут нікога і няма. Няўжо скончылі рамонт?

Петрык. Пэўна, што скончылі. Спазніліся мы.

Біруля. Выходзіць, што дарэмна валакліся. Лепш газетку дома пачыталі-б, га? *(Ідзе да колаў).* Ну, тым часам колы паглядзім. Вось гэта работка! Хоць і без нас рабілі, але не схібілі. Стараюцца! *(Ходзіць ля колаў, прыглядаецца да шыйкі асі).* Што, што, што? Што гэта? Хадзі сюды. Петрычак! Бачыш?

Петрык. Бачу. Гладзенькія. Добра абточаны! Прыгожа!

Біруля. Прыгожа?! Зусім, унучак, не гожа! Пазаразаны. Нічога ты не разумееш. *(Пераходзіць да другога кола, зноў вяртаецца да першага).* Ну! Чула маё сэрца! *(Хапаецца за табакерку, нюхае).* Гэта-ж... *(Голас цвярдзее).* Гэта-ж проста на аварыю робіцца!

Петрык *(занепакоена).* Замылка тачыў?

Біруля. Хто іх ведае! Але, калі такая работа—пэўна, што ён.

Петрык. Значыць, шкодніцтва. Я тады казаў...

Біруля. Ты казаў... Я таксама казаў. Але дзе-ж Цімох быў? Я, кажа, усё дагледжу... Што-ж цяпер рабіць?

Петрык. Трэба да таварыша Грамовіча. Зараз-жа да таварыша Грамовіча!

Біруля *(нюхае табаку).* Я і сам ведаю, што да таварыша Грамовіча... Хадзем, унучак.

Петрык. Не, дзядуля! Пакуль мы дойдзем... Пабягу я адзін, а вы тут пачакайце, ля колаў.

Біруля. Добра. Правільна.

Петрык. Вы-ж толькі нікуды не адыходзьце, а то мала што!

Біруля. Ну, бяжы, бяжы. Што ты мяне навучаеш?

Петрык выбягае. Біруля падыходзіць да колаў, сядае на вось.

Біруля *(буркліва)*. І казаў-жа я, папярэджваў. Не работнік для нашага транспарта гэты Замылка. Адна непрыемнасць ад яго і калецтва паравозаў. Вось мы і спытаемся: схібілі, таварыш Грамовіч, пашкадавалі зладзюгу? А цяпер вам і сорам! Ну, а каб мы не прышлі з Петрыкам, што-б тады было? *(Азіраецца)*. Аварыя, чалавечыя ахвяры...

Уваходзіць праз калітку ў варотах Болгас. Біруля чуе яго хаду. Устае.

Біруля *(нездаволена)*. Вечар добры, таварыш начальнік!..

Болгас *(хаваючы злосць)*. Добры вечар, таварыш Біруля! Што-ж гэта вы, га? Вы-ж абяцаліся адпачыць як след...

Біруля. Дзе тут адпачываць будзеш...

Болгас *(лагодна)*. Нудна без дэпо? Га?

Біруля *(ледзь не злосна)*. Нудна! А калі такія справы робяцца—і зусім ажно моташна...

Болгас. Якія справы, таварыш Біруля?

Біруля. А вось палюбуйцеся, самі, начальнік. *(Паказвае на колы)*.

Болгас. Колы абточаныя? Акуратна. Гладка.

Біруля. Акуратна? Гладка? Каб то Петрык мой так сказаў, дык ён не разумее, а вы-ж начальнік... Вы-ж разумееце, чаго варта такая акуратнасць!

Болгас *(прыглядаецца)*. Што т-такое?

Біруля. А вось то-ж і яно!

Болгас. Як-жа так? Ч-чорт...

Праз калітку ў варотах дэпо уваходзіць Замылка, Біруля яго не бачыць.

Біруля. Замылка, нябось, тачыў?..

Болгас. Не, Замылку мы гэтай работы не давалі. Вы-ж самі бачылі, ён на падсобных работах цяпер. Зняты з такарнай... Што за ч-чорт?..

Біруля. А Цімох, Жадан той! Якога ліха ён глядзеў?

Болгас. Ды ён увесь час тут быў. Пры ім і абтачваліся.

Біруля. Дык дзе-ж ён? Куды яго пагнала?

Болгас. Ну, выбачайце, таварыш Біруля. Я яго без адпачынку ў паездку не пушчу. Самі павінны ведаць. Ён адпачывае... *(Бачыць Замылку, той узнімае гаечны ключ і глядзіць запытальна на Болгаса. Біруля вымае табакерку. У гэты час Болгас ківае галавой Замылку)*. Э-э... Вось што, таварыш Біруля. Вы тут пачакайце колькі хвілін, а я зараз высветлю, у чым тут справа. Што за ч-чорт?!

Ідзе да дзвярэй, Біруля бярэ нюшок табакі; калі ён нюхае, Замылка падкрадваецца да яго ззаду і б'е па галаве ключом. Біруля падае. Убягае Болгас, шпарка выключае святло.

Болгас. Куды-ж цяпер яго...

Замылка. А ў канаву. *(Валакуць Бірулю да канавы).*

Болгас. Не дыша?

Замылка. Х-хі! Такога ўдара на двух асілкаў хопіць, а то— грыб спарахнелы. Вось табе, заслужыў прафесар!

Падымаюць дошкі над канавай, скідаюць Бірулю, закрываюць дошкамі. Болгас уключае святло.

Болгас. Ніхто не заўважыў як ты гэта, з коламі?

Замылка. Што я, маленькі?!

Болгас. Ну, глядзі! Зараз-жа забірайце адсюль усе колы!

Замылка. Добра!

Болгас выходзіць праз дзверы, Замылка—праз калітку ў варотах. Чуцен крык яго: „Як, хлопцы, падсілкаваліся? Па колы! Спрытна!" Вароты шырока адчыняюцца, уваходзяць рабочыя.

1-ы рабочы. Усе забіраць? Адразу?

Замылка. Усе! Адразу і падкоцім.

2-гі рабочы. А ну, хлопцы, наваліся!

3-ці рабочы. Разам! Узялі! Пуць паднялі! Ха-ха! Яшчэ раз! Дружна! *(Колы выкатваюць).*

*ЗАСЛОНА.*

## АКТ ТРЭЦІ

### КАРЦІНА 6.

Кабінет начальніка дэпо. У пакоі—Квіенда, адзін.

Квіенда *(лежачы на канапе)*. І дзе яго носіць? То сядзеў як пень, а то раптам такая празмерная рухавасць. Зварухнуў я яго, аднак, як мае быць! *(Пазяхае)*. Не, так і заснуць можна! *(Сядае, акідвае позіркам кабінет, бачыць на стале газету, бярэ яе)*. Так, так... Гэта нам нецікава. А вось гэта—іншая справа: «Падарожжа пана Бека». *(Чытае)*. Так. Так. Вось гэта мне падабаецца! Цікавае падарожжа, нераўнуючы як маё. Хэ! *(Паўза)*. Але дзе яго чэрці ганяюць, мне ўжо і на цягнік час ісці... *(Узіраецца ў карыкатуру, камечыць газету і са злосцю кідае)*. Перавешаць усіх гэтых карыкатурыстаў! *(Шпарка ходзіць па пакоі. Дзверы порстка расчыняюцца, запыханы ўваходзіць Балгас)*. А... шаноўны! А я тут яго як паненку, як каханую чакаю, ледзь не звар'яцеў ад нуды. Далібог! Але, што з вамі? Вы, здаецца, навыперадкі з кімсьці беглі? Перадыхніце, зрабіце перапыначак, шаноўны.

Болгас *(кідаецца на стул, хапаецца рукамі за галаву)*. Чорт ведае што такое!

Квіенда. Што з вамі? Ды кажыце-ж, вы...

Болгас. Забілі...

Квіенда. Забілі? Каго забілі? Хто забіў?

Болгас. Мы... Замылка...

Квіенда *(глядзіць запытальна)*.

Болгас. Старога Бірулю...

Квіенда. Старога Бірулю? Нічога не разумею! Як вы да яго трапілі?

Болгас. Не мы, а ён. Прыцёгся зноў у дэпо і выкрыў усю нашу работу!

Квіенда. Выкрыў?

Болгас. Ну, здаецца, ён нікому не паспеў сказаць.

Квіенда *(паспакайнеў)*. Аг-га... Гэта іншая справа. Але як-жа гэта? Вы-ж так завіхаліся ля яго. Як нянька. Адпачыць выправілі... Вы што, стралялі?

Болгас. Замылка. Гаечным ключом па галаве.

Квіенда. І гэта нервовы чалавек. Хэ! Дзе-ж вы яго падзелі?

Болгас. Кінулі ў рамонтную канаву. Дошкамі завалілі.

Квіенда. Дошкамі... А вы падумалі—ці да часу гэта забойства, лішняе ўскладненне? Хіба нельга было як інакш? Абдурыць старога, ці што...

Болгас. Добра вам цяпер гаварыць! Вы тут на канапцы адпачывалі сабе, а там—там хвіліна вырашала справу.

Квіенда. Хві-ліна... А вы ўпэўнены, што забілі? А калі ён жывы, што тады?

Болгас. Гэта і найгорш. І чорт яго ведае, што рабіць, што рабіць... *(Хапаецца за галаву. Звоніць тэлефон. Болгас уздрыгвае, выпучвае вочы)*.

Квіенда. Спакойна, вы, стараяануча...

Болгас *(бярэ трубку)*. Так. Я. Болгас *(прыкрывае трубку рукой, з палёгкай)*. Семячка...

Квіенда. Слухайце.

Болгас *(паўтарае запытанне Семячкі)*. Як рамонт машыны?

Квіенда *(шэпча)*. Усё ў парадку. Рамонт заканчваецца.

Болгас. Усё ў парадку. Рамонт заканчваецца. У паездку? *(Глядзіць запытальна на Квіенду)*.

Квіенда. У першую паездку паедзе Жадан.

Болгас. У першую паездку паедзе Жадан... *(Пауза)*. Нічога, брат, не зробіш—яго ініцыятыва, яму і гонар. А ты паспрабуй перакрыць. Ха-ха... *(Супакоіўся)*. Ну, як у вас там, хутка скончыце праверку? Так, так... У нашым дэпо, кажаш, лепш? Ну, вядома... Канешне. А Грамовіч што робіць?

Квіенда *(ухвальна ківае галавой)*. Так, так...

Болгас. Што?! Ён-жа сёння раніцой паехаў! Ды ты проста не бачыў яго... А вось пашукай... І скажы, што я прасіў яго да тэлефона. Абавязкова. Ну, тым часам, бывай. *(Вешае трубку, да Квіенды)*. Не прыехаў... І што гэта робіцца?!

Квіенда. Я ў вас хацеў-бы спытацца! Як вы ўсё гэта рабілі, як вы арганізоўвалі, трацкісцкі атопак... Недарэчную міравую з гарэлкай надумалі—прамазалі! А цяпер—завяршылі... Нарабілі, ідыёты...

Болгас. Ён бачыў, як я пайшоў з цэха... А Замылка пасля ўдарыў ззаду. Яго ён не бачыў...

Квіенда *(перакрыўляе)*. Бачыў, не бачыў... А колы ён бачыў?! Зараз-жа ідзіце... Не! Вы зноў з вялікага розуму глупстваў наробіце. Пайду я. Пагляджу. Калі трэба—дакончу вашу работу. *(Сам сабе)*. Эх, пане Квіенда, які нечаканы сюрпрыз у такім цікавым падарожжы... *(Да Болгаса, злосна)*. А вы, выдатны арганіза-

тар, думайце як труп прыбраць. Не будзе-ж ён там ляжаць! Ды ідзіце да паравоза, народ трымайце, каб ніхто ў цэх не ішоў. Чакайце, чакайце! Не разам. Ды і за мной следам не ідзіце. Вазьміце сябе ў рукі! Выйдзеце адсюль праз пару хвілін.

Квіенда выходзіць. Болгас шнуруе па пакоі. Праз пару хвілін убягае Петрык.

Петрык. Тут не было таварыша Грамовіча?

Болгас. А-а.. Гэта ты, Петрык? Здароў, здароў, малады машыніст.

Петрык (*шпарка*). Добры вечар...

Болгас. А на што гэта табе таварыш Грамовіч? Якія такія ў цябе партыйныя справы?

Петрык. Піянерскія. Яго тут не было?

Болгас. Не, не было. Яго наогул тут няма. Ён у суседняе дэпо паехаў, соцдагавары правяраць. Хіба ты не ведаў?

Петрык. Не...

Болгас. Праўда?.. А што там у цябе за справы такія?

Петрык (*вагаецца ці сказаць, потым рашуча*). Так... На збор атрада хацеў запрасіць да нас. От, шкада! А калі-ж ён прыедзе? Можа сёння?

Болгас. Не, заўтра здаецца... Ну, бывай, дружа, мне ісці трэба! (*Накіроўваецца да дзвярэй*).

Петрык. Пайду і я...

Болгас. Ага. Ты піонер, Петрык?

Петрык (*здзівіўся*). Піонер, а як-жа...

Болгас. Ну, то ў мяне да цябе просьба маленькая будзе. Пасядзі тут, Петрык, хвілін пяць-дзесяць. Тут да мяне пазваніць павінны. Э-э... Таварыш Грамовіч пазвоніць, дык ты яму скажаш, што я вельмі заняты, хай пазвоніць праз гадзіну якую. Табе акурат і добра—дамовішся пра свой збор атрада. Згода, Петрык?

Петрык (*ажыўлена*). Згода!

Болгас выходзіць.

Петрык (*перадражнівае*). Якія-такія ў мяне справы! Так я табе і сказаў. Ён будзе Замылку бараніць, а я яму пра Замылку гаварыць? Няма дурняў! (*Ходзіць па пакоі*). Але што-ж мне цяпер рабіць? Таварыша Грамовіча няма, а калі пазвоніць—дык не тут-жа ён, не блізка. А там дзед чакае. І чаго я тут сядзець згадзіўся... (*Ходзіць ля сцен, чытае*) «Графік руху цягнікоў», «Графік рамонта паравозаў»... (*Задумваецца*). Не! Так будзе лепш! (*Кідаецца да тэлефона, здымае трубку*). Цэнтральная? Дайце НКВД. Ало! Гэта НКВД? Гаворыць Петрык Біруля. Ну, так, Пётр Біруля. Вучань шостага класа чыгуначнай дзесяцігодкі. Прыміце заяву. Ад мяне заяву. У дэпо выяўлена шкодніцтва. Так, так, шкодніцтва. У чым шкодніцтва? А так абтачылі колы для паравоза, што будзе аварыя. А паравоз гэты павядзе эшалон. Адкуль я ведаю? Дзед мой ведае. Чэснае піонерскае. Ён стары машыніст. Над машынай Жадана шэф. А я прышоў разам з ім. Адкуль гавару? З кабінета начальніка дэпо. Хацеў сказаць таварышу Грамовічу, а яго няма. І Жадана якраз няма, і Семячкі няма... А больш я тут нікога не ве-

даю. Ці сказаў начальніку? Не! А ён Замылку бароніць... Што? Замылку бароніць, а Замылка можа і колы тыя... Як? Добра! Я потым усё раскажу, прыходзьце сюды. *(Кладзе трубку)*. Ну, цяпер да дзеда! *(Бяжыць да дзвярэй)*.

*ЗАСЛОНА.*

## КАРЦІНА 7.

Рамонтны цэх з панадворкам. Ля акна цэха стаіць Квіенда. Чуе ззаду крокі, паварачваецца, бачыць Петрыка. Ідзе яму насустрач.

Квіенда. А вы што тут робіце, малады чалавек? Хто вам дазволіў хадзіць ля дэпо?

Петрык. Я да дзеда іду... Ён тут у рамонтным цэху.

Квіенда. Да дзеда? Які дзед?

Петрык. Біруля. Стары машыніст.

Квіенда. Ах, Біруля! Чуў, чуў. А ты яго ўнучак, Петрык здаецца? Малады машыніст, ха-ха... Вельмі прыемна! *(Працягвае руку, Петрык нерашуча падае сваю)*. А толькі дзеда твайго тут няма. Пуста ў цэху...

Петрык. Ды не! Я яго там пакінуў, ён мяне чакае.

Квіенда. А.. не дачакаўся пэўна... *(Зазірае ў акно)*. Во, бачыш, нікога няма. *(Петрык зазірае ў акно, хоча зайсці ў цэх)*. Не, не, ты ў цэх не хадзі. Не можна. У дэпо хадзіць без пропуска сурова забаронена.

Петрык. У дзеда ёсць пропуск...

Квіенда. Дык то ў дзеда. Гм... А ці не твой гэта дзед толькі што пайшоў вунь туды з начальнікам дэпо.

Праз калітку ў варотах у цэх заходзіць Валя, яна нерашуча спыняецца.

Петрык. З бародкай такі?

Квіенда. З бародкай.

Валя паволі ідзе па цэху, азірае яго.

Петрык. З кіёчкам?

Квіенда. Гм... Здаецца. Здаецца з кіёчкам... Я добра не прыглядзеўся.

Валя знаходзіць на падлозе табакерку Бірулі. Табака рассыпана. Валя непакоіцца.

Петрык. Туды пайшлі?

Квіенда. Ага, туды! Вунь там...

Петрык пабег у той бок, куды паказаў Квіенда.

Валя. І куды яны пайшлі... Дзе яны ходзяць... А там тэлеграма ад таткі... Табакерка... Табака рассыпана. *(Бязмэтна блукае па цэху, нешта чуе, прыслухоўваецца, кідаецца да канавы, нагінаецца, хаваецца за дошкі, ёй цяжка падняць іх.)*

Прасачыўшы за Петрыкам, Квіенда падыходзіць да акна, уздрыгвае.

Квіенда. Да д'ябла! Пся крэў! Аднаго шчанюка спрвадзіў, другі падскочыў. *(Кідаецца да дзвярэй, у цэх ідзе павольна на дыбачках. На панадворку паказваюцца Петрык, Грамовіч і Жадан)*.

Жадан. Дома—няма... Валя пайшла шукаць... А тут...

Петрык *(да Грамовіча).* Абодвы яны хлусяць! Чэснае піонерскае! Тут нешта не так! Тут нешта ёсць...

Грамовіч. Так, так. Малайчына, Петрык.

Петрык. А вы хіба не ездзілі?

Грамовіч *(загадкава).* Можа ездзіў, а можа і не... Потым, Петрычак, даведаешся.

Калі Петрык, Жадан і Грамовіч заходзяць у цэх, іхную хаду чуе Квіенда, ён хутчэй ідзе да Валі.

Квіенда. А што ты тут робіш, дзяўчынка? Адна, у дэпо...

Валя. Ой, пасабіце мне! Там нехта стогне! Гэта дзед! Дзядуля!..

Петрык. Валя! *(Кідаецца да Валі).*

Валя. Петрык! Таварыш Грамовіч! Таварыш Жадан! Пасабіце!..

Усе падымаюць дошкі выцягваюць Бірулю. Ён стогне.

Валя. Дзядуля... Бедненькі...

Петрык. Ах, дурны я! Аднаго дзеда пакінуў...

Квіенда. Ай-яй, як паранены...

Петрык. А вы што мне казалі?

Грамовіч. Спакойна, Петрык...

*ЗАСЛОНА.*

КАРЦІНА 8.

Сталовая ў кватэры Бірулі. Замест канапы стаіць ложак, на ім ляжыць Сымон Вікенцьевіч з абвязанай галавой. Ля стала сядзіць Мішур. Ля ложка—Валя.

Валя *(чытае газету).* «Раніцой пяць германскіх бамбардыроўшчыкаў «Юнкерс» скінулі 60 бомб на Барселону. Ёсць разбурэнні, а таксама афяры сярод грамадзянскага насельніцтва»...

Уваходзіць Ганна Паўлаўна, ставіць на стол накрыты сурвэткай паднос.

Біруля. Ох-хо... Багата крыві народнай пральецца. Яшчэ каб толькі свае гады, а то вунь, бачыш, італьянскія фашысты... нямецкія фашысты... Уся сусветная погань драпежная накінулася... А як народ змагаецца...

Мішур. Вось пра чыгуначнікаў мала нешта пішуць.

Валя. Учора як раз было ў газеце!

Біруля. Не чытаеш ты газет, Міхей Макаравіч. Чыгуначнікі там малайцы.

Ганна Паўлаўна. Усе? А няма такіх, як у нас некаторыя былі: за палякамі заставаліся, паноў вазілі. *(Выходзіць з пакоя).*

Біруля. У пана Пілсудскага выслугоўваліся...

Мішур *(ёрзае на стуле).* Ты-ж ведаеш, Сымон Вікенцьевіч! Я хоць не ад'язджаў, але Пілсудскаму не служыў. Што ты мяне, тое, заўсёды папікаеш?

Біруля. А хіба я пра цябе сказаў? От, гарачка якая. Сталасці ў чалавека ніякай няма...

Мішур. Я-ж кажу...

Біруля. Я не кажу, і ты не кажы... (*Прыслухоўваецца да паравозных гудкоў за сцэнай*). Чуеш, Макаравіч? Ідуць эшалоны!

Мішур. Ідуць, Сымон Вікенцьевіч, ідуць. І багата-а. Адзін за адным. Па абодвух калеях. Густа ідуць... Такая сіла вялікая!

Біруля. Наша сіла, Міхей. Сталінская. Сіла гэтая ўсіх гадаў на парашок сатрэ коламі сваімі. (*Крануў галаву рукой*). Баліць вось, здаецца, а нібы паразумнеў я праз Замылку, гада таго... Стаялі мы з табой, да прыкладу, за правым крылом, уперад глядзелі—на профіль дарогі, узад паглядалі—на састаў... А яно, выходзіць, пільна і ўбакі, ва ўсе бакі глядзець трэба. Хто побач цябе, хто вакол цябе. Стаяць трэба, як чырвонаармеец з вінтоўкай на пасту. Усюды і заўсёды. Тады ворагу пралазу не будзе... (*Пауза*).

Мішур. Ты вось што... Даруй мне, Сымон Вікенцьевіч... Вінават я перад табой, і муляе мне гэта вельмі.

Біруля. Як так—вінават?

Мішур. А тады вось, як з Замылкам прыходзіў я... І як я, стары дурань, даўся ў падман... Сорамна мне...

Біруля. А ты мей гэта таксама за навуку сабе, Макаравіч. Я-ж цябе вінаватым не лічу.

Зноў загулі паравозы.

Біруля. Гудуць... Толькі мне ляжы-вылежвайся тут... Аварыйная машына... Чыстае гора! І паглядзець нават нельга...

Мішур. А ты, тое, слухай! (*Гудуць паравозы*). Бач, аркестра якая...

Біруля. От Жадана не чутно нешта... Як ён там? Такі рэйс... Абяцаўся не спаскудзіць. Трымайся, Цімоша, з чэсцю...

Уваходзіць Петрык, жэстамі падзывае Валю. Валя ідзе да яго.

Петрык. Ну?

Валя. Нічога... Газету чытаем... Бабка дзеда Міхея зноў падкалвала... А наш дзед жартуе...

Петрык. Няма гарачкі?

Уваходзіць Ганна Паўлаўна, пачынае хуценька прыбіраць у пакоі.

Біруля. Ну, чаго ўсхадзілася? Ты што там, Петрык, мармычаш?

Петрык. Нічога, дзядуля! Тут да цябе госць прышоў.

Біруля. Хто там такі?

Ганна Паўлаўна. Таварыш Грамовіч!

Біруля. А яны маўчаць... Чалавека ў хату прасіць трэба, а яны...

Петрык выбягае.

Ганна Паўлаўна. Ага! А можа тут непарадак у хаце...

Біруля. Сама хіба і нарабіла...

Ганна Паўлаўна (*пакрыўдзілася*). Усё я... Усё сама...

Біруля. Я сказаў не «сама», а «хіба сама»...

Уваходзяць Грамовіч з Петрыкам.

Грамовіч. Добры дзень! (*Паціскае руку Мішуру, Бірулю*). Як маемся, Сымон Вікенцьевіч?

Біруля. Добра! Зусім добра. Не ведаю, як і дзякаваць... Вы ўсіх дактароў, можна сказаць, на ногі паставілі.

Грамовіч. Ну, Сымон Вікенцьевіч, як-жа інакш... За ваша здароўе сам Нарком, Лазар Майсеевіч, трывожыцца.

Біруля. Лазар Майсеевіч?

Мішур *(устае)*. Таварыш Кагановіч?!

Грамовіч. Так. Таварыш Кагановіч. Вялікую пашану мае ён да ўсіх чэсных, адданых нашай радзіме людзей. Вы заслужылі пашану Наркома, Сымон Вікенцьевіч!

Біруля. Гэта такое, таварыш Грамовіч... Гэта такая ўвага... мне старому, нядэшламу, можна сказаць...

Ганна Паўлаўна *(памыкаецца нешта сказаць, слёзы радасці ёй перашкаджаюць)*.

Мішур. Я-ж кажу...

Ганна Паўлаўна. Ты кажаш... Дзе ты раней быў?

Мішур *(збянтэжана сядае)*. Кхе...

Петрык нешта хуценька шэпча Валі.

Валя. Да ну? Маніш!

Петрык. Ат... Табе і сказаць нічога нельга.

Грамовіч. Вось, Сымон Вікенцьевіч! *(Дастае з кішэні тэлеграму)*. Тэлеграма Наркома...

Біруля прыўзнімае галаву, усе слухаюць, Валя нецярпліва махае на Петрыка рукой.

Петрык. Не верыла, дык сама паслухай!

Валя зноў махае на Петрыка рукой.

Грамовіч *(чытае)*. «За дапамогу ў падрыхтоўцы маладых паравознікаў, за адданасць соцыялістычнаму транспарту абвяшчаю падзяку стараму кадравіку-машыністу Сымону Вікенцьевічу Бірулю і ўзнагароджваю яго значком «Пачэснаму чыгуначніку». Кіраўніцтву дэпо загадваю забяспечыць належны медыцынскі догляд параненаму ворагамі народа таварышу Бірулю. Стан здароўя яго паведамляць мне». Вось, Сымон Вікенцьевіч... Віншую з высокай узнагародай *(паціскае руку)*.

Мішур. Ну, Сымон... *(азіраецца на Ганну Паўлаўну і таксама паціскае руку Бірулю)*.

Петрык і Валя прытуліліся да дзеда, дзед шукае табакерку.

Ганна Паўлаўна. Кінь ты хаця цяпер табаку гэтую сваю...

Грамовіч. Гэта яшчэ не ўсё. Слухайце далей *(чытае)*. «Выдатніку вучобы піонеру Пятру Бірулю, які праявіў высокую свядомасць і дапамагаў свайму дзеду ў яго рабоце, абвяшчаю падзяку і ўзнагароджваю значком «Пачэснаму чыгуначніку».

Ганна Паўлаўна. Петрычак, унучак мой...

Грамовіч. Віншую цябе, Петрык! Да барацьбы за справу Леніна—Сталіна будзь гатоў!

Петрык *(аддае салют)*. Заўжды гатоў!

Грамовіч *(да Бірулі)*. Ну, вось... Тут у мяне яшчэ невялічкі загад новага начальніка дэпо ёсць *(шукае па кішэнях)*. Дзе-ж ён?

*(Засмяяўся)*. Забыў! Спяшаўся і пакінуў на стале. Ну, я так перакажу, напамяць. У загадзе сказана так: «Машыніст 1 класа, пачэсны чыгуначнік Сымон Вікенцьевіч Біруля прызначаецца інструктарам маладзёжных паравозных брыгад». Вось і ўсё.

Біруля. Таварыш Грамовіч... А... а пенсіён той ганаровы як-жа?

Грамовіч *(разводзіць рукамі)*. Прабачце! Не мог прынесці вашых паперак. Яны да аднае справы падшыты *(смяецца)*.

Біруля. Ды яны мне і не патрэбны... *(Усхвалёвана)*. Таварыш Грамовіч...

Грамовіч *(адчувае, што Біруля хоча дзякаваць, і нібы не чуе)*. А пачэснаму чыгуначніку *(паказвае на Петрыка)* новае кіраўніцтва дэпо заказала форменнае адзенне. Зімовае. Каб цёпла было ў школу хадзіць і дэпо наведваць!

Ганна Паўлаўна. А, бацюхны! Я-ж яму рукавічкі цёплыя звязала *(бярэ са стала)*.

Грамовіч. Рукавічкі? Вельмі добра. Мы пра рукавічкі якраз і не падумалі...

Усе смяюцца.

Петрык. Павіншуйце, таварыш Грамовіч, і Валю!

Біруля. Ага, ага, праўда...

Грамовіч *(запытальна)*. Ну, ну?

Ганна Паўлаўна. Яна на Далёкі Усход едзе, пісьмо ад бацькоў атрымала...

Петрык. Цяпер яна ў нас сапраўдная хетагураўка!

Валя. Ты зноў кепікі строіць?

Петрык. Што ты, Валя! Я сур'ёзна. Чэснае піонерскае.

Грамовіч. Віншую, віншую...

Свісток паравоза Жадана за сцэнай.

Петрык. Прыехаў! *(Кідаецца да дзвярэй)*.

Біруля. Гэта Цімошын паравоз!

Мішур. Жадан прыехаў!

Біруля прыўзнімаецца на ложку.

Грамовіч. А вы ляжыце, Сымон Вікенцьевіч! Гэта здароўю шкодзіць. Нічога. Ён сюды заскочыць, мы яго папярэдзілі...

Мішур. Яно праўда, тое... Я-ж кажу, ляжы, Сымон... Туды ты не дапнеш, а тут табе хваляваецца няма чаго. Лежучы не падгоніш...

Ганна Паўлаўна *(кпліва—да Мішура, каб не чулі астатнія)*. Ага! Не падгоніш?! Ты ўжо шмат пападганяў...

Мішур. Кхе-кхе... Я-ж, Ганна Паўлаўна... Я-ж, каб на карысць Сымону Вікенцьевічу.

Ганна Паўлаўна. У цябе заўсёды на карысць...

Мішур *(упрошваюча глядзіць на Грамовіча)*.

Грамовіч *(выручае)*. Ганна Паўлаўна! Што я ў вас хацеў спытацца...

Ганна Паўлаўна. Калі ласка, таварыш Грамовіч!

Грамовіч. У вас кубак чаю гарачага будзе? Жадан, ведаеце, з дарогі...

Ганна Паўлаўна. А як-жа! Хіба я не разумею? Мне-ж Петрык сказаў, што ён проста з паравоза да нас завітае... Самавар пэўна заходзіцца ўжо там. Пайду пагляджу. *(Выходзіць).*

Мішур *(смялей).* Кхе...

Біруля. Патупала старая? Ну то ты, Міхей Макаравіч, не пужайся. Хоць яна ў мяне і ўскрутная, але баба ніштаватая... механікава жонка, то розум мець павінна...

Мішур. Я-ж кажу...

Біруля. Зноў «я кажу»... Калі ты казаў?

Мішуру зноў ніякавата. Выручае Петрык, які ўскаквае ў пакой.

Петрык. Ідзе сюды. Ухх... *(Запыхаўся, плюхнуў на стул, ледзьве можа вымавіць слова).* Семячка прыняў паравоз і зараз павядзе другі эшалон... Ухх...

Ганна Паўлаўна *(за сцэнай).* Ну? Як?

Жадан *(за сцэнай, узбуджана).* Як Сымон Вікенцьевіч?

Усе павяртаюцца да дзвярэй. Імкліва ўваходзіць Жадан, стаўляе ля дзвярэй куфэрак, ідзе на дыбках да пасцелі, бачыць вясёлыя твары, знікае яго заклапочанасць, ён беражна паціскае руку Бірулю, потым усім астатнім.
За ім уваходзіць Ганна Паўлаўна, спыняецца ля парога

Біруля. Ну, Ціма, як ехаў?

Жадан. Усё ў парадку, Сымон Вікенцьевіч!

Грамовіч. Заданне...

Жадан. Выканана.

Петрык і Валя падскакваюць і пляскаюць у далоні.

Петрык. Ну, і Цімафей Пятровіч!

Мішур. Я-ж кажу...

Ганна Паўлаўна *(гледзячы на Мішура, напоўзлосна ўсплясквае далонямі).*

Грамовіч. Раскажаш?

Жадан *(усміхаецца).* Мне і самому пахваліцца карціць, таварыш Грамовіч. *(Падыходзіць бліжэй да ложка Бірулі).*

Мішур *(нясмела пазіраючы на Ганну Паўлаўну).* Яно і то праўда...

Біруля. Расказвай, Цімоша!

Жадан. Ну, вось! Прыехалі мы да месца. Вёў я цягнік як мае быць, усё па заданню выканаў і прыбыў—цот у цот...

Біруля. Малайчына, Цімоша!

Жадан *(не чуе, ён захоплены нядаўна перажытым.)* Ага... Злез я з машыны. А сэрца ў мяне нібы спявае. Хаджу з ключом ля дышлаў, аглядаю. Чую—ззаду: «Хто тут механік?»—Я,—кажу. Ды павольна павяртаюся. Гляджу—ваенныя, камандзіры вышэйшыя, а спераду—складны такі, мужны, і зоркі ў яго залатыя на пятліцах... *(Жадан заззяў усмешкаю, усе напружана падаюцца да яго. Біруля прыўзняўся з ложка).* Усміхнуўся ён так, як бацька родны, мне.—«Дзякую, таварыш механік»,—гаворыць,—«за ўдарную, крываносаўскую работу, за выдатнае выкананне баявога задання!» А я... А я... любыя мае...—«Служым Совецкаму Саюзу!»—кажу. І тут успомніў яго-ж, Клімент Ефрэмавіча, словы...

Петрык і Валя (*разам*). Варашылаў...

Жадан. І дадаю—«А чыгунка—родны брат Чырвонай Арміі, таварыш народны камісар абароны!» І тут таварыш Варашылаў руку мне пацiснуў...

Біруля. Цімоша...

Петрык і Валя пляскаюць у далоні. Ганна Паўлаўна разняўшы рукі ідзе да Жадана.

*ЗАСЛОНА.*

*Алесь Стаховіч*

# ДЗЕД ЮЛЬЯН І АРКАША

*(Апавяданне)*

Яшчэ ўлетку дзед Юльян абяцаў падарыць унуку сваю старую, але яшчэ досыць спраўную берданку. Хлапчук даўно ўяўляў сябе ўладаром гэтае стрэльбы і часта сніў, як ён шагае побач з дзедам, а за яго плячыма вісіць Юльянава стрэльба... Нават нядаўна прыснілася Аркашу, быццам разам з дзедам ішоў ён на паляванне. Потым раптам дзед знік, а перад Аркашам неспадзявана вырас вялікі кудлаты мядзведзь. Шырока раззявіўшы пасць, ён ішоў проста на Аркашу, горача дыхаючы яму ў твар... Аркаша зірнуў па баках і, не ўбачыўшы ні дзеда, ні сваёй стрэльбы, гучна крыкнуў:

— Стрэльбу мне! Стрэльбу хутчэй! Мядзведзь!..

— Які табе там мядзведзь?!—накрываючы коўдрай Аркашу, угаварвала перапалоханая маці.—Спі ўжо. Надурыў табе дзед галаву са сваёй стрэльбай...

Дзед Юльян у аднэй бялізне з вінаватым выглядам хадзіў па пакоі і толькі аганёк ад яго піпкі, як кашачае вока, успыхваў у цемнаце асенняе начы...

* * *

Аднойчы ў доўгі асенні вечар, калі Аркаша ўжо клаўся спаць, дзед Юльян падышоў да шафы і, хітравата паглядаючы на ўнука, пачаў ціханька расчыняць скрыпучыя дзверцы...

Аркаша, адчуваючы прыемную неспадзяванасць, дапытліва сачыў за кожным рухам дзеда і ў яго галаве мільганула радасная думка: «Мусіць, з горада нешта прывёз?»..

Дзед усміхнуўся і ля яго шэрых прышчураных вачэй веерам сабраліся дабрадушныя маршчынкі. Нарэшце дзверцы павольна расчыніліся і дзед урачыста выняў з шафы новую бліскучую, з жоўтым раменьчыкам, берданку.

— Ну, Аркаша! Сёння я купіў сабе новую стрэльбу. Палюбуйся, якая...

— О-о-о!—сарвалася з вуснаў зачараванага Аркашы.—Вось гэта стрэльба!..

Хлапчук любоўна пагладжваў сталёвы ствол берданкі, які пры святле лямпы адліваў сінім колерам. Дзед падышоў да сваёй пасцелі і зняўшы са сцяны старую берданку,—падаў яе Аркашы.

— На табе, хлопча! Толькі вучыся добра,—сказаў дзед.—За-

радаў не псуй, страляй метка ды ў чыстаце трымай, каб іржа не ела...

Аркаша, не верачы свайму шчасцю, асцярожна ўзяў стрэльбу і, зыркаючы блiскучымі ад радасці вачыма,—адказаў Юльяну:

— У мяне, дзядуля, будзе ў парадку!

Хлапчук старанна вычысціў стрэльбу, на ствол надзеў новы чахол, у сцяну ўвагнаў цвічок і павесіў яе над сваім ложкам, як гэта вісела яна над дзедавай пасцеллю.

— От, як у мяне!..—цешыўся задаволены хлапчук.

* * *

З дня на дзень Аркаша чакаў, калі ён з дзедам Юльянам ды са сваім віславухім ганчаком пойдзе на паляванне. Але ўсё неяк не выпадала: то дзеду некалі было, то хлапчуку ў школу ісці трэба, то надвор'е нядобрае...

— Хутка, мусіць, снег выпадзе,—сказаў аднойчы дзед,—так што рыхтуйся, хлопча. Ды пра запас пару патронаў дранкулькамі набі,—дабавіў ён,—бо часам і на ваўка натрапіш. А яму трэба добра смэльнуць...

— У мяне і на мядзведзя знойдзецца,—з сур'ёзным выглядам, корпаючыся ў сваім патранташы, адказаў Аркаша,—не то што...

* * *

Аднойчы, ідучы са школы, Аркаша ўбачыў, як каля маладой яблынкі, што расла ля самай дарогі, пушыстым клубком сядзеў доўгавухі заяц. Шавелячы тонкімі наздрамі і спалохана пазіраючы па баках, зайка намерыўся пакаштаваць смачнае яблынавае кары, якая дражніла яго сваім прыемным пахам, вабіла да сябе... Але далікатны ружовы нос зайкі сустракаў толькі калючую ёлку. Незадаволена фыркаючы, ён сеў на заднія лапкі, паглядзеў, застрыг вушамі і ўбачыўшы Аркашу—у некалькі вялікіх прыжкоў апынуўся ля лесу і знік паміж маленькіх кудлаценькіх ёлачак...

Аркаша падышоў да яблынкі, памацаў яловыя галінкі і, расчараваны паглядзеўшы ўслед зніктиаму зайцу, прагаварыў:

— Шкада, што стрэльба не пры мне... Паказаў бы я табе, дзе ракі зімуюць!..

Аркаша доўга не мог забыць пра выпадак з зайцам.

— Вось тут, у дзесяці шагах ад мяне сядзеў... Такі вялікі, пушысты... А вушы доўгія, доўгія...—размахваючы рукамі, з бліскучымі ад хвалявання вачыма апавядаў дзеду Аркаша.

* * *

У гэты дзень Юльян прачнуўся рана. Ён глянуў у акно і адразу падышоў да Аркашы. Хлапчук моцна спаў, разметаўшыся на ложку... Губы Аркашы былі поўрасчынены, доўгія расніцы прыгожа загіналіся, кідаючы цені на ружовы твар хлапчука.

Юльян мімаволі залюбаваўся ўнукам, шкадуючы прарываць салодкі сон Аркашы, адышоў ад ложка. Прысеўшы ля свайго століка ён пачаў пераглядаць туга набіты патранташ.

На двары пачало світаць.

— Уставай, Аркаша! Пойдзем на паляванне!—кранаючы за плечы хлапчука, ціханька сказаў дзед.

Аркаша падхапіўся з пасцелі і, праціраючы вочы, пачаў адразу хватацца то за боты, то за кашулю...

— Дзядуля, пачакай, я ўмомант...—прагаварыў Аркаша, пазіраючы на дзеда, які моўчкі прымайстроўваў свісток да гузіка свайго кароткага кажушка.

— І чаго яна злямцілася так?..—злаваўся Аркаша, нацягваючы на галаву замест кашулі свае шэрыя штаны...

— Што-ж ты гэта? Хе-хе-хе!—рассмяяўся дзед.—Штаны замест кашулі?..

Аркаша схамянуўся і моўчкі справіў сваю непрыемную памылку. Апрануўшыся, ён засцягнуў патранташ, зняў з сцяны сваю стрэльбу і разам з дзедам вышаў за дзверы.

— Пачакай, Аркаша, а пра сала мы з табою забыліся,—застанавіўся дзед і, хітравата падмігнуўшы унуку, накіраваўся да кладоўкі.

— Ф-фух-ты! Вось змерзлася... Ледзь выцягнуў...—пахваліўся Юльян, трымаючы ў руках кавалак тоўстага сала. Аркаша прынёс з хаты лусту хлеба. Паклаўшы ўсё ў паляўнічую сумку, яны вышлі на запарошаны снегам ганак.

— Ганчак,—прабасіў Юльян.

З-пад сенцаў выскачыў жвавы, тонканогі сабака з доўгімі абвіслымі вушамі. Ён завіляў хвастом і, абнюхаўшы боты, з вясёлым брэхам кінуўся на грудзі гаспадару. Юльян палашчыў ганчака і яны вышлі за вароты. Уся вёска была спавіта моцным ранішнім сном. На галінках дрэў ляжаў пушысты, як вата, снег, і здавалася, што ўсё замерла, застыла ў нейкім цудоўным казачным сне...

Ганчак насіўся па вуліцы, як звар'яцелы. Далёка адбегшы ад Юльяна і Аркашы, ён застанаўліваўся, задзіраў галаву і, весела памахваючы хвастом, клаўся грудзьмі на зямлю. А калі дзед і Аркаша падыходзілі зусім блізка,—ганчак з радасным брэхам кідаўся ўперад. Ён было панёсся па вуліцы, але Юльян з унукам звярнулі на загуменне, і сабака, пераскочыўшы плот, падаўся за імі.

* *
*

Неўзабаве, перад Юльянам і Аркашам цёмна-сіняй заслонай паўстаў маўклівы, спавіты таямнічай цішынёю, хваёвы лес, які нездарма называўся «цёмным лесам».

— Вось бачыш,—прагаварыў Юльян,—увесь гэты лес і ўсе навакольныя ўгоддзі раней належалі пану Свіршчэўскаму... Хе! Ці-ж можна было раней тут ступіць нашаму брату? Куды там... Хадзіў сюды на паляванне толькі сам Свіршчэўскі і часам браў з сабою за кумпанію валаснога старшыню, ды папа...

Бывала ідуць на паляванне: поп высокі, тонкі, як тая жэрдка, а старшына лысы, з вялікаю, як памяло, барадою, аддуваючыся, ледзь паспявае за вялікімі шагамі папа...

Непрыкметна, за гаворкай, Аркаша з дзедам вышлі на маленькую палянку, пасярод якой, нібы сапраўдны стол, узвышаўся вялізны гладкі, як адпаліраваны пень.

— Вось гэта было дрэва,—пакачаўшы галавою, прагаварыў Аркаша.

— О-о! Гэта, хлопча, не просты пень! Колькі тут віна было выпіта панам Свіршчэўскім,—апавядаў Юльян.—Расказваюць, кожны раз пасля палявання яны выпівалі тут на гэтай палянцы...

Аднаго разу не паладзілі яны з-за недабітага зайца. Стралялі яны па таму зайцу ўтрох, а хто папаў—было невядома. А толькі поп напіраў, што ён, а ніхто іншы падстрэліў зайца і заяц належыць толькі яму.

Спачатку яны спрачаліся, а калі распілі віно, завязалася ў іх тут страшэ-э-энная тузаніна... Валасны старшына хлыбаснуў папа па карку, а той схапіў за нагу растрыбушанага зайца ды ўляпіў яму ў морду... Поп рынуўся аб корч, а старшына падскочыў да яго, учапіўся ў грыву і пацягнуў на раллю.

Аркаша рассмяяўся і звонкі рогат рэхам пракаціўся па лесе.

— А пан?—запытаўся ў дзеда Аркаша.

— Пан?—кінуўся уцякаць, але спатыкнуўся і пакаціўся ў раўчак.

Юльян падышоў да асіны, пастукаў піпкай аб ствол і накладаючы махорку, сказаў Аркашы:

— Цяпер нам трэба ісці паасобку. Я пайду напрамкі, а ты ідзі праз ельнік: там вузенькая сцежка і па ёй Лягаш можа гнаць зайца.

— Добра!—падражаючы дзеду, прабасіў Аркаша, і трымаючы перад сабою берданку, павярнуў да ельніка.

— Ты-ж, хлопча, цэлься, промаху не давай!—напомніў дзед Аркашу і сам падаўся ў хмызняк.

Хлапчук шагаў праз ялінкі і нібы спрактыкаваны паляўнічы рабіў прыпынкі ля кожнай прагалінкі, прыслухоўваўся, ці не яхкае ганчак.

«А што калі на ваўка натраплю?—пазіраючы па баках, думаў Аркаша,—пекану так, што і поўсць пасыплецца... І тады дзед Юльян скажа:—От, малайчына хлопча! І новую стрэльбу мне купіць»...

Хлапчук нахаду перазарадзіў берданку новым патронам, набітым дранкулькамі. Але навокал было ціха. Вяршыны дрэў сталі ружовымі ад узыходзячага сонца, а снег на галінках пераліваўся незлічонымі рознакаляровымі аганькамі...

* * *

У гушчары яхнуў сабака. Юльян суняўся і, узвёўшы курок, прысеў за кустом, пільна ўглядаючыся ў невялічкую запарошаную снегам прагалінку.

— Гоніць! Яшчэ добры сабака!—задаволена прамармытаў Юльян у свае пасівеўшыя ад інея вусы.

Ганчак куляю праімчаўся збоку і, відаць страціўшы след, закружыўся, зарыскаў ля ламачча, што шэраю грудаю віднелася шагах у трыццаці ад Юльяна. Стары ўзняўся з-за куста і асцярожна, імкнучыся не ступаць на сухія галінкі—падаўся ўперад.

— Што за ліха!—выразна ўбачыўшы на снезе свежыя чалаве-

чыя сляды, ідучыя да ламачча, здзіўлена прагаварыў Юльян.—Вось табе і заяц...

Юльян падышоў да груды ламачча і ўбачыў вытаптаную мясцінку, а адсюль сляды зноў губляліся ў глыбіні леса.

У гушчарах што-сьці хруснула. Ганчак задраў галаву, зачмыхаў носам, яўкнуў і зноў зарыскаў у кустах. Юльян насцеражыўся. Каго-ж ліха загнала сюды?—падумаў ён.—Каб сказаць ляснік, дык не яго сляды... Хто-б гэта мог быць?.. Трымаючы вінтоўку напагатове, ён ціханька пачаў ісці па слядах, а ганчаку строга загадаў:

— К назе!

Ганчак, цяжка дыхаючы, з высунутым ружовым языком, вінавата памахваў пушыстым хвастом і ціханька ішоў ззаду.

* *
*

Дзьмуў лёгкі вецярок. Хмары, якія раніцай шэрай коўдраю засцілалі ўсё неба, зараз разышліся і блакітнае неба яркаю бірузою свяцілася праз верхавіны высокіх стромкіх соснаў.

Аркаша бадзёра шагаў у сваіх новых паляўнічых ботах і не адчуваў марозу, які ўпарта шчыпаў хлапчука за яго поўныя ружовыя шчокі.

— Што гэта ганчак змоўк?—не чуючы больш задорнага яхкання сабакі, прамармытаў сам сабе Аркаша і ўскінуўшы вінтоўку на плечы, пайшоў у той бок, адкуль у апошні раз данеслася яўканне ганчака.

Хлапчук вышаў на невялічкую палянку, пасярод якой стаяў карчакаваты стары дуб з вялікім чорным дуплом. Развесіўшы свае махнатыя галіны, на якіх месцамі трымаліся жоўтыя лісці, дуб нагадваў сабою марскога спрута, які растапырыў свае шматлікія шчупальцы ў неба, і Аркаша, як зачараваны, застанавіўся ля дрэва.

Уверсе нешта хруснула і на твары Аркашы пасыпаўся серабрысты мяккі сняжок. Глянуўшы ўгору, хлапчук убачыў маленькую рыжую ваверку. Ваверка сядзела на сасновай галінцы, якая ціха гойдалася і глядзела на Аркашу хітрымі чорнымі, як шкляныя бусінкі,—вочкамі... Раптам яна ўся сабралася ў камочак і спружынаю кінулася на суседнюю сасну. Аркаша пайшоў следам, але страляць было шкода, і ён толькі любаваўся прыгожым шустрым звярком... Вавёрачка пералятала з аднаго дрэва на другое, як лоўкі цыркач, і Аркаша не паспяваў сачыць за ёю.

Адышоўшы ад дуба, хлапчук прысеў на пянёк побач з маленькай пушыстай ёлачкай і цешыўся вавёрачкай. Стаміўшыся, яна прыліпла да галінкі і, паглядаючы ўніз на Аркашу, нервова перабірала маленькімі, вострымі на канцах вушкамі.

Недзе ў баку хруснула сухавіна.

— Пэўна, дзед з ганчаком прабіраецца,—падумаў Аркаша.

Захаваны пушыстай ялінкай хлапчук прытаіўся, каб нечакана выскачыць і напалохаць дзеда. Але на паляну, азіраючыся па баках, выйшаў незнаёмы чалавек, апрануты ў кароткую ватовую куртку і высокія, аж за калена, паляўнічыя боты...

Аркаша прытаіў дыханне і нібы замёр за ялінкаю.

Незнаёмы падышоў да дуба і, хутка выняўшы з-пад пахі нешта белае,—сунуў у дупло, і пужліва азіраючыся—знік ў ельніку...

Аркаша рыўком кінуўся да дуба і засунуўшы руку ў дупло—выцягнуў адтуль вялікі белы маскіравальны халат...

— Што за чалавек! Навошта гэта яму?—распасціраючы ў руках халат, дзівіўся Аркаша.—Трэба прасачыць за ім...

Ціха крадучыся, прытрымліваючы бярданку рукою, каб не зачапіць за галінкі дрэў, Аркаша пайшоў па слядах незнаёмага.

Хутка ён убачыў незнаёмую постаць, якая хаваючыся за дрэвы, ішла прама да паляны, славутай п'янкамі пана Свіршчэўскага.

— От, чорт!—туляецца. Ці не з таго боку?—мільганула ў галаве Аркашы.

Ад шпаркае хады і хвалявання яму зрабілася горача: сэрца білася хутка, а ў віскі як малаточкамі стукала разгарачаная кроў:— тук... тук... тук... тук...

Аркаша не зводзячы вачэй ішоў услед за незнаёмым, які ўсё больш прыбаўляў шагу, аддаляючыся ад хлапчука.

* *
*

З гушчараў высунулася постаць чалавека і зноў падалася назад. Гэта зацікавіла Юльяна і ён, не зводзячы вачэй з таго месца, падаўся ўперад.

Незнаёмы чалавек цёрся ля ялінак, непрыкметна адыходзячы ўбок.

— Дзед Юльян!—пачуўся ўсхваляваны шэпт Аркашы і раптам з-за ялінкі вынырнуў стомлены расчырванелы хлапчук. Увесь твар яго палаў. Нават над ротам серабрыўся пушок ад інея; віславухая шапка была збіта на бок, кажушок, расхінуты на грудзях, відавочна сведчыў аб тым, як зараз горача яго гаспадару...—Нехта ў гушчар падаўся. Ён халат нейкі ў дупло хаваў...—залпам выпаліў Аркаша дзеду.

— За мной, Аркаша!—не адказваючы хлапчуку, кіўком пальца паклікаў Юльян унука. Падазваўшы ганчака, яны пусціліся наўздагон незнаёмаму.

Уцякач упэўнена ішоў уперад, часам аглядаўся назад і, убачыўшы Аркашу, які неасцярожна высунуўся з-за дрэва—паскорыў хаду.

Змешаны лес змяніўся чыстым сасняком, і раптам незнаёмы знік, як растаяў перад вачыма дзеда і Аркашы...

— Не падыходзь! Застрэлю!—прыглушаным голасам прыгразіў уцякач, хаваючыся за вялікае дрэва.

Цяпер ужо было зусім зразумела, на каго натрапілі яны ў гэтым карчэўі...

— Прэч адсюль!—зноў пачуўся жахлівы голас.

— Я табе прэчну!—смела заявіў дзед, трымаючы стрэльбу напагатове, сурова загадаў:

— Рукі ўгору!

Над галавою старога дзынкнула куля і зноў заляскаў рэвальвер. Юльян прыхінуўся за вывернуты корч, нацэліўся і выпаліў зарад. Уцякач пісклiва войкнуў і клубком пакаціўся па снезе.

— Сюды, хлопча!—крыкнуў Юльян і, падхапіўшыся з-за карча, падаўся да дрэва. Абшчапіўшы правую руку, з якой сачылася кроў, невядомы курчыўся на снезе, а побач з ім ляжаў новы бліскучы рэвальвер.

— Адпусці! Адпусці, дзед!—маліў незнаёмы, падпаўзаючы да ног старыка.

— Адпусці! Я азалачу цябе... У мяне вось тут...—Тым часам ён непрыкметна для дзеда, працягваў сваю левую руку, нацэльваючыся схапіць старога за штаніну і падабраць пад сябе...

— Ты, падла, не цэлься! З намі жарты кепскія! Прыкончым— і баста!—злосна прагаварыў Аркаша, заўважыўшы намеры падбітага парушальніка.

Уцякач падагнуў калені і на момант замоўк. Дзед Юльян нахіліўся, каб падняць ляжаўшы ў баку рэвальвер. Невядомы раптам кінуўся на Юльяна. Адным прыжком Аркаша рвануўся да парушальніка і прыкладам сваёй бярданкі грымнуў яму па карку.

Павольна асядаючы, парушальнік апусціўся на снег.

Ганчак ускочыў на ляжаўшага і пачаў тармашыць яго за адзежу.

— А ну! Падымайся, гадзюка!—суровым голасам загадаў Юльян.

Парушальнік, прыкідваючыся, моўчкі ляжаў на вытаптаным снезе.

— Падымайся, гавару,—закладаючы патрон у двустволку, зноў паўтарыў старык.

Нязграбная постаць пачала павольна падымацца на ногі.

— Рукі ўгору! Прама! На прагаліну! Аслеп ці што?—камандаваў Юльян, моцна трымаючы стрэльбу.

Парушальнік увесь час імкнуўся загінаць да гушчароў.

Нарэшце яны вышлі з лесу.

— Куды цягнеш?! На дарогу! Ну!

Увабраўшы галаву ў плечы, уцякач павольна крочыў па дарозе, пазіраючы ў бок абросшай кустамі граніцы і, мінаючы ельнік, неспадзявана рыўком кінуўся ў лес...

— Страляй, Аркаша!—крыкнуў дзед, цэлячыся з калена ў парушальніка, зігзагамі ўцякаўшага ў лес.

У руках Аркашы, моцна аддаючы ў плячо, грохнула бярданка і ўцякач адразу ўпаў на калені, падвярнуўшы пад сябе параненую нагу.

— От малайчына!—пахваліў Юльян унука,—відаць, пеканув ты добра яму...

— Паспрабуй толькі яшчэ раз кінуцца... дык я ў раз цябе!— з гордым выглядам вядучы кульгаючага ўцекача на дарогу прыгразіў Аркаша.

Сонца высока ўзнялося над лесам і сняжынкі тысячамі блёстак пераліваліся на сонцы, рэзалі вочы сваёй асляпляючай бялізною.

На ўзгорку паказалася калгасная сядзіба.

— Ты, паніч, прыбаўляй шагу, бо людзі мы не гуляшчыя,— падыходзячы да маладога калгаснага саду, прапанаваў Юльян.

З прасторнага двара насустрач імчала рыжая парка. Коні спу-

жана шарахнуліся ўбок дарогі, але моцная рука старога фурмана на ўсім ходу асадзіла дужых коней і яны, як укапаныя, сталі ля дарогі, стрыгучы вушамі.

— Гэ-э-э... Паніч... адведаць надумаў?—пазнаўшы сына пана Свіршчэўскага, сказаў фурман, злазячы з санак.

— Ну, вось і пачасталі цябе Юльян з Аркашам,—з усмешкай на твары прадаўжаў ён.

— А цяпер мы пагаворым з табою...

Яны ўзвалілі дыверсанта на санкі і панесліся на заставу.

*Леанід Гаўрылаў*

* * *

Запахнуць ноччу духавітай травы,
Лагоднасцю павее ад ракі,—
І блізкае становіцца яскравым,
Хвалюючым, кранаючым такім.
Бляск месяца і вішань белых цені,
І пустацвет гарбузны на плятнях
Снуюць запеў, і лёгкім лятуценнем
Спавіта песня аб цвітучых днях.
У водыры палёў плыве здалёку
Узрушаны і жвавы вобраз твой,
Плыве спакоем зорак яснавокіх
Над вішнямі, над хатай, над травой.
Чаму-ж усё сама ты не прыходзіш
На бераг мой, дзе лодкі чарадой
Калышуцца, дзе нізка над вадой
Каліны сняць каханне на выгодзе?
Я жду цябе; паніклыя туманы
Па цёплай разасляліся вадзе.
Дзесь плюхнуў сом і качкі крык стрыманы
Успалашыў сон дзеркача ў лазе.
Бяскрайнія шумлівыя прасторы
Шмат выткалі квяцістых пуцявін.
І як мне разгадаць тут, на каторай
Ты пройдзеш між узгоркаў і нізін?
Мы ў човен сядзем, плёскатам вясла
Маладзіка разломім палавіну,
Каб лётам смелым, лётам сакалінам
Дужэла песня, спела і расла.

*Альфрэд Радзюк*

* * *

Я цябе палюбіў усім сэрцам адразу
За тваю прыгажосць і за ўсмешку вачэй...
Памятаеш, заўжды размаўлялі мы разам
Пра ўсё тое, што сэрцу было даражэй.

Быў шчаслівы заўсёды тады я з табою,
Чуў удары, здавалася, сэрца твайго.
Размаўлялі ўвесь час пра свой лёс мы абое—
Палымнеў у грудзях нашых цёплы агонь.

Палымнеў... Не было на душы маёй суму...
Нашы словы тады не пайшлі ў небыццё.
Не прапалі нідзе тыя светлыя думы—
У нашай хаце цяпер гаспадарыць жыццё.

Знаю я: прынясеш ты дзіцё хутка ў хату,
Ці дзяўчынку, ці хлопчыка—мне ўсёадно,
Бо упэўнены я, што жыць будзе багата
І заўжды ў нас дагледжаным будзе яно.

Буду рады бязмежна свайму я дзіцяці,
І не прыдзецца мне так яго папракаць,
Як калісьці мой дзед папракаў маю маці,
Бо ён волі не меў, каб яе ўзгадаваць.

Увесь час яго мучыла гора ліхое,
Ён не мог пракарміць ні сябе, ні дзяцей...
Мы іначай жывем... І шчаслівай парою
Хай вялікім і дужым дзіцё ў нас расце!

*Альфрэд Радзюк*

## ЦЫРУЛЬНІК

Быў красавік. Гарачы час
Работы веснавой.
Прыехаў ён у наш калгас
На працу, раніцой.

Звычайны хлопец, малады
Па вуліцы ішоў,
Мінаў высокія платы,
Атрады малышоў.

І позірк ласкавых вачэй
На іх ён прыпыніў.
І ён спытаўся у дзяцей—
Дзе хата старшыні...

... Як шэры вечар у калгас
На крылах прыляцеў,
Цырульнік ветла ў гэты час
Прымаў к сабе гасцей.

Прышло людзей даволі шмат
З цікавасцю туды,
Найболей хлопцаў і дзяўчат;
А з імі і дзяды.

Размову цёплую вялі
Яны паміж сабой,
Ўсе брыцца, стрыгчыся прышлі
К цырульніку ў пакой.

І вельмі радавала ўсіх,
Што к ім прыехаў госць.
Цырульня маецца ў іх,
І ў ёй цырульнік ёсць!

*В. Рагуцкі*

## ПАДАРУНАК

Хутка сна пазбудуцца палянкі,
Пад зарою Прыпяць заіскрыцца.
Уставала Каця спазаранку:
У Маскву збіралася вучыцца.

Да спаткання, дружба маладая
І дарог вясёлых скрыжаванні...
Кацю справы новыя чакаюць...
— Дарагая маці! Да спаткання.

— Кацярынка! Славаю краіны
Наша песня звонкая сагрэта.
Наша песня—вольныя пуціны.
Наша песня—права на асвету.

Добра жыць нам з песняю цудоўнай:
Над Крэмлём зарніцы палыхаюць...
Як садамі пышнымі садоўнік,
Правадыр праходзіць нашым краем.

Сенажаці сцелюцца абрусам
Ў ногі нізка бацьку дарагому...
Чуе Сталін спевы беларусак
І Палесся казачнага гоман.

Бачыць Сталін: сінія азёры,
У гушчары спелыя суніцы...
І стаяць магутныя дазоры
Ля высокіх сосен на граніцы.

Шаблі скрозь адточаны да бою,
Рысакі данскія у парадку.
Ён спакойны: з сілаю такою
Не спаткае клопату дзіцятка.

Наша шчасце Сталіным саткана...
Ён любога ласкаю атуліць.
Я за гэта Сталіну старанна
Васількамі вышыла кашулю.

Завязеш ты Сталіну кашулю,
Аддасі ў падзяку галубочку.
Скажаш: сэрцам родная матуля
Вышывала кожны васілёк.

Заспявалі ранішнія птушкі—
Ажыло зялёнае Палессе.
На світанні ехала дачушка
З падарункам, радасцю і песняй.

*Мікола Сямашка*

# САД

Ты выйдзі ў сад. У гэты цёплы вечар
Так добра ў ім—расцвіўшым, маладым.
І неба сіняе з любоўю чалавечай
Прасцерла рукі зорныя над ім.

Багат ён цветам сёлета,
Наш сад калгасны:
Ва ўбранні вішні гонкія стаяць,
Пад поглядам маладзіковым ясным
Пажарам белым яблыні гараць.

Тут родна ўсё. Тут усяму мы рады.
Тут дрэва кожнае знаёма нам з табой,—
Старэнькаму садоўніку брыгадай
Дапамагалі ранняй мы вясной.

Каб цёплым маем, пад шпачыны гоман,
Наш сад квітнеў, як нашае жыццё,
Каб красаваў ён, родны і знаёмы,—
Шырокіх яблынь кветкавы шацёр.

І ён стаіць пад зорамі, спакойны,
Плён працы нашае, убраўшыся у бель,
І кветка кожная, і ліст жывы зялёны
З табой гаворыць, кліча да сябе.

Прыдзі-ж у сад, вясны маёй сяброўка,
У наш агульны і прыгожы дом,—
Шчырэйшай будзе нашая гаворка
Пад яблыняю белай маладой.

*А. Бялевіч*

# ПОЙДЗЕМ ЗНОЎ МЫ ЗА НАРКОМАМ

Па дарозе, па шырокай,
Па глушы лясной,—
Ехаў полк байцоў здалёку,
Быў закончан бой.
Полк спыніўся каля гаю,
Ля Дняпра-ракі.
Заспявалі ў вольным краі
Песню казакі.
Што за мілая за песня,
Баявы задор.
Разлілася як прадвесне
Між нізін і гор.
Закружыла вольным птахам
Аж ля ясных зор,
Як ад гулкае гарматы
Скалыхнуўся бор.
Зашумеў і луг, і нівы,
Над ракой чарот.
Весяліўся край шчаслівы,
Лікаваў народ.
А напеў такі суровы
Ліўся, не змаўкаў.
Адклікаліся дубровы,
Стэп ім падпяваў.

* * *

А цяпер на той паляне
Ля Дняпра ракі,—
Адвячоркамі гулянне
Водзяць казакі.
Ўспамінаюць дні былыя,
Векапомны год.
І казачкі маладыя
Водзяць карагод.
Бандурысты, цымбалісты
Лёгка у струны б'юць,
Баяністы галасіста
Граюць і пяюць.

І прывольна, і шчаслiва
Ў росквіце зямля.
І лікуе Украіна
Вольная мая.
А калі памкнуцца банды
Ў родны край у мой.
Дасць нарком тады каманду:
— Воіны, на бой!
І памчацца эскадроны,
Грозныя палкі.
Нашых коннікаў чырвоных
Зазвіняць клінкі.
Праз шумлівыя дубровы,
Па глушы лясной,—
Пойдзем зноў мы за наркомам,
Ды ў апошні бой.

———

*Ю. Віцьбіч*

# ПЛЯМЕННІК АПОШНЯГА КАРАЛЯ

*Памфлет*

Вада ў тым канале смярдзючая і чорная, як сумленне польскага караля і таму называецца ён Каралеўскім. Прыблізна сто год назад па ім марудна паўзла нязграбная віціна, на якой стаяў вялізны конь, а на кані сядзеў, працягваючы ўперад шаблю, такі-ж вялізны коннік. Гэты коннік нагадваў на першы погляд звычайнага загонавага шляхціча, апухлага ад яжэнбяка і старкі, але туніка рымскага легіянера сведчыла аб яго больш высокім паходжанні. Ззаду за стырном віціны застаўся доўгі, цяжкі шлях—шырокая Вісла, звілісты Буг, нехалатлівы Мухавец. І ўсюды худыя, абадраныя сяляне з пабярэжных вёсак, убачыўшы конніка, падалі з размаху на калені:

— Святы Юры, ратуй нас, мазурскіх хлопаў, ад нашых паскудных паноў!

— Та цэ-ж, дурні, не святы Юры! Цэ-ж брудны біс Панятоўскі!—заўважыў з віціны рослы, сівавусы лоцман Даніла Пазывайла.

Тады мазурскія гарапашнікі як адзін падымаліся з кален і, працягваючы моцна сціснутыя кулакі, крычалі:

— А калі гэта Панятоўскі, дык у вір яго галавой!

— Та вы не такія ўжо дурні, як я бачу,—адказваў упоўголаса лоцман, распальваючы сваю бацькаўскую яшчэ гайдамацкую люльку.

Часам на бераг выходзілі з недалёкіх маёнткаў, апранутыя ў кунтушы, ганарыстыя паны. Зняўшы з галоў падбітыя заячым мехам канфедэраткі, і, спадылба зірнуўшы на заўсёды п'янага шызаносага фельдфебеля, што суправаджаў помнік, яны звярталіся да конніка:

— Да спаткання ў Маскве, яснавяльможны некаранаваны круль!

Дзед Даніла нічога не адказваў панам, а толькі, хутка выняўшы з роту люльку, зычна запяваў старую казацкую песню:

> Покынь, Ляшку, покынь о Русі гадаты
> Не з твоей-то головонькой всю Русь звоюваты.

Жнівень, спякота, на небе ні аднаго воблака. Парус віціны павіснуў нібы крыло падбітага бусла. Яе моўчкі цягнуць, сагнуўшыся дугой, дзве пары асначоў. На іх ускудлачаных галавах маргелкі, прыліплі да замардаванага цела мокрыя ад поту зрэбныя кашулі, пад стаптанымі лапцямі рыпіць жвір. Цяжка бедалагам-асначам, але ўсё-ж самы маладзейшы з іх, дваццацігадовы чарнавусы юнак распачынае гутарку, звяртаючыся да свайго сівога суседа:

— Чаму гэта, дзядзька Паўлюк, кароль беспартошны, нібы забулдыга з Давідгарадка?

— Але-ж я і сам, Юрка, не ведаў чаму, пакуль дзед Даніла ўчора не растлумачыў,—адказвае стары.—Кажа—прамантачылі паны сваю Польшчу і свайго караля, і нават ягоныя порткі. Мабыць гэта святая праўда.

— А вось Міхей пазычыць яму свае,—сказаў шырокаплечы аснач з перадавой пары, зірнуўшы на свайго барадатага напарніка, у якога ніжэй кален порткі віселі лахманамі.

— Добра, Якуб, што гэты кароль бронзавы,—заўважыў барадаты, выціраючы плячом з твару буйныя кроплі поту,—а калі-б ён жывы быў, дык даўно-б сцягнуў з аснача апошнія порткі.

— Наваліся сіромахы!—закрычаў з віціны лоцман.—Увечары выйдзем з канала. Там нас вада панясе да самага Дняпра.

— Э-эх, пакуль толькі данясе—шмат часу пройдзе,—уздыхнуў Юрка. Потым прыдзецца цягнуць угару па Дняпры ды па Сожу да самага Гомеля. Налета толькі прыдзем. Не раней. А там-жа мяне на Сожы пад Крычавам чакае Аўдуля. Э-эх!

Увечары віціна не вышла з канала. Ледзь жывыя ад стомленасці аснычы спыніліся каля поўразбуранай карчмы. І праз невялікі час дзядзька Паўлюк гаварыў на віціне лоцману:

— Цягаў я, дзед Даніла, гарматы-едзінарогі ад Гданску да Варшавы, цягаў украінскае збожжа ад Кіева да Вільні. Чаго толькі не цягаў? Спутвалі нас паны лінай, як тых коняй, і толькі смерць пэўна распутвае аснача. Шмат чаго я цягаў, бо трэба панам Сапегам аброк плаціць, але такога цяжару, як гэты пракляты кароль, яшчэ ніколі не цягаў.—Падышоўшы да помніка і ляснуўшы далонню па конскіх клубах, ён дадаў:—Грыміць дармаед, трасца яму ў бок!

— Не чапай!—крыкнуў фельдфебель.—Ты мужык, а гэта царскі падарунак фельдмаршалу Паскевічу.

— Нам мужыкам такі падарунак кішкі рве!—адказаў самы старэйшы з асначоў і, расціраючы рукой свае зацёклыя ад лямкі плечы, зноў падаўся да карчмы.

А самы маладзейшы з асначоў папраўляў у гэты час сваю раз'едзеную потам кашулю і пяяў:

Як пайшоў Юрка асначыць
Дзень і ноч Аўдуля плача:
Ой, свецік мой!
Цягне недзе ён віціну
Праклінае рэчку Піну
Ой, свецік мой!

...Ніхто з чатырох асначоў да Гомеля не дабраўся. Каля Турава пахавалі дзядзьку Паўлюка. Пад Камарынам лопнула ліна і побач загінулі, ударыўшыся грудзьмі аб жвір, Міхей і Якуб. Крыху не дайшоўшы да Любяча, памер ад трасавіцы Юрка. Яшчэ ў Мазыры прыведзены фельдфебелем жандар узяў з віціны дзеда Данілу Пазывайлу. Новы лоцман стаў да стырна, новыя аснычы ўпрагліся ў лямкі і хістаючыся дабрылі да Гомеля. А там прыгоннікі ўсцягнулі помнік на высокую гару і паставілі ў парку, дзе ён прастаяў 80 год.

* * *

Імператар-жандар Нікалай І, убачыўшы ў 1840 годзе ў крэпасці Модлін помнік пляменніку апошняга польскага караля, падарыў яго намесніку ў Польшчы фельдмаршалу Паскевічу. Раней ён гэтаму «свайму найлепшаму сябру» надаў за каланізацыю Каўказа тытул графа Эрыванскага. Праўда, калі пасля пісьмовых дакладаў Паскевіча аб непрыступнасці крэпасці Эрыван, цар сам пазнаёміўся з ёю, дык убачыўшы нечакана глінабітныя крохкія сцены, заўважыў:

— Гэта не крэпасць, а звычайны гаршчок, які зможа разбіць кожны унтэр-афіцэр з павятовай інваліднай каманды.

Усё-ж крумкач ніколі не пакрыўдзіць крумкача і цар акрамя тытула ўзнагародзіў яшчэ свайго любімца мільёнам рублёў з персідскай кантрыбуцыі і падарыў яму Гомель. Сам Паскевіч цягнуў з Каўказа ў Гомель усё, пачынаючы ад высокамастацкіх нахічэванскіх дываноў і канчаючы васьмісотпудовай яшмавай нішай ахалцыхскага магаметанскага фантана. Пазней граф Эрыванскі, якога Карл Маркс назваў «слупам рэакцыйнага Свяшчэннага Саюза», атрымаў годнасць ганаровага грамадзяніна Будапешта за крывавае падаўленне венгерскай рэвалюцыі.

У Гомельскім гістарычным музеі захавалася цікавая карціна. На ёй паказана дэпутацыя венгерскіх магнатаў, якая прыехала падзякаваць ката венгерскага народа. Надзвычай паказальная карціна, бо з той самай сабачай адданасцю, з якой калісьці венгерскія магнаты цалавалі боты тагочаснага еўрапейскага Дзяржыморды Нікалая Палкіна і яго апрычніка Паскевіча, цяпер польскія пілсудчыкі, прадаючы інтарэсы сваёй нацыі, цалуюць боты сучаснага еўрапейскага Дзяржыморды грамілы Гітлера.

Такую-ж дрэнную славу, як Нікалай І і Паскевіч, спакінулі ў нашым народзе кароль Станіслаў Панятоўскі і яго пляменнік. Ёсць вельмі яркая беларуская пагаворка «як стаў Панятоўскі—стаў хлеб не такоўскі». Гэта значыць, што калі пры былых каралях хлеб быў на палову з ячменем, аўсом і грэчкай, дык з прыходам Панятоўскага хлеб стаў з лебядой, з мохам, з мязгой. Перш чым апынуцца на прадаваемым з малатка каралеўскім прэстоле Рэчы Паспалітай, польскія магнаты Панятоўскія дастаткова зарэкамендавалі сябе сваёй подласцю. З 20 тысяч сваіх прыгоннікаў яны арганізавалі войска і гандлявалі яго крывёю. Па загаду Панятоўскіх гэта войска сёння рухалася ў Германію, каб дапамагчы імператару Фердынанду разбіць пад Белай Гарой абараняючых незалежнасць сваёй радзімы чэхаў, заўтра—рухалася ў Англію на дапамогу каралям Стюартам супроць рэвалюцыйных атрадаў Кромвеля. Адзін з Панятоўскіх паслаў сваіх сялян нават у Амерыку, каб ваяваць разам з амерыканскімі рабаўласнікамі супроць прыхільнікаў вызвалення неграў. Зразумела чаму мазурскія кметы, прыгоннікі-бедпякі, хацелі нават помнік Панятоўскага скінуць у вір галавой. Апошні польскі кароль Станіслаў-Аўгуст III Панятоўскі з дапамогай рэакцыйнай рускай царыцы Екацерыны II па-зверску падавіў паўстанне украінскага народа на чале з славутымі Жалезняком і Гонтай. Максіма Жалезняка саслалі ў Сібір. У Івана Гонты польскія каты, перш чым чацвертаваць, знялі са спіны 12 палос скуры. Адчуваючы невыказны боль

Гонта, сапраўдны сын вялікага украінскага народа, каб падбадзёрыць таварышоў гаварыў:

— От казалы: будэ боліты, а воно ні крышкы нэ болыть, так начэ блохы кусають.

Гайдамакаў судзіў каралеўскі суд, які засядаў у мястэчку Кодні. Адных з іх—чацвертавалі, другіх—вешалі, у трэціх—абрубалі рукі або ногі, абразалі вушы або насы, раздзіралі рты. На Украіне доўгі час існавала пагаворка «каб на паноў ды тая Кодня». А на Беларусі пад Гомелем, каля вёскі Прыбыткі, яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя стаяла вялізная старая хвоя, вядомая пад назвай Шыбеніцы. Пры апошнім польскім каралі ляшскія варвары прыводзілі сюды на кару смерцю.

Самыя шчаслівыя на свеце людзі, мы ўсё помнім, мы нічога з свайго мінулага не забываем. І, калі толькі польскія каты адважацца парушыць недатыкальнасць граніц нашай радзімы, мы іх будзем біць так моцна, як іх, не аднойчы бітых, яшчэ ніхто ніколі раней не біў.

Пляменнік апошняга караля маршал Іосіф Панятоўскі, альбо «некаранаваны польскі кароль», як называў яго Напалеон Банапарт, таксама вядомы нашаму народу. Разам з Напалеонам, які абяцаў панам адраджэнне незалежнай Польшчы, ён прывёў 36 тысяч польскіх уланаў, каб прыгнясці нашу радзіму і аднавіць жахі Кодні. На прыход палякаў, ні ад каго не захоўваючых абяцанак імператара, беларускі народ адказаў такім шырокім партызанскім рухам, які самі французы параўноўвалі з партызанскай вайной гераічнага свабодалюбівага іспанскага народа. Гэты рух дапамог братняму рускаму народу разбіць армію чужаземных захопнікаў. Сам «некаранаваны кароль» патануў у рацэ Эльстэр і яго смерць вельмі паказальна.

Гісторыя Польшчы мае безліч прыкладаў, якія сведчаць аб палітычнай недальнавіднасці польскіх паноў. Напалеон Банапарт, бязлітасна расціснуўшы нацыянальную незалежнасць рада еўрапейскіх народаў, зразумела менш за ўсё клапаціўся аб адраджэнні панскай Рэчы Паспалітай, ад якой яму былі патрэбны толькі салдаты і грошы. Свайму намесніку ў Польшчы ён загадаў:

— Давядзіце палякаў да захаплення, але не да вар'яцкіх надзей.

Разарыўшы ўшчэнт у часе вайны Польшчу, Напалеон пад Лейпцыгам, як толькі французскія часткі пераправіліся праз раку, а польскія не паспелі гэтага зрабіць, загадаў узарваць мост. Амаль усе уланы на чале з сваім маршалам загінулі. І мы яшчэ ўбачым, як чарговыя польскія маршалы загінуць у чарговым Эльстэры, калі панская Польшча не будзе больш патрэбнай яе сапраўднаму сучаснаму гаспадару ефрэйтару Гітлеру.

Восемдзесят год прастаяў помнік «некаранаванаму каралю» ў Гомелі. За гэты час беларускі народ вёў упартую гераічную барацьбу з сваімі прыгнятальнікамі, ад якіх канчаткова вызваліў яго вялікі Кастрычнік. Адвечныя ворагі нашага народа, польскія паны, імкнуліся знішчыць заваёвы Кастрычніцкай рэвалюцыі, аднавіць буржуазна-памешчыцкі лад, вярнуць часы Шыбеніцы.

У сакавіку 1920 г. пачынаецца падтрыманае Антантай польскае наступленне. Белапалякі былі ў 26 кілометрах ад Гомеля, але да самага горада не дайшлі. Вялікі геразм быў праяўлен гомельчанамі,

і з братняй дапамогай рускага народа ачысціў беларускі народ сваю зямлю ад інтэрвентаў.

Яшчэ ў 1919 г., наведаўшы рад беларускіх гарадоў таварыш Міхаіл Іванавіч Калінін сказаў, што ў барацьбе супроць белапалякаў беларускі народ будзе падтрыман усёй сілай астатніх совецкіх рэспублік. І цяпер самыя назвы сфармаваных палкоў, якія праходзілі праз Гомель на фронт—«Курскі», «Бранскі», «Тульскі»—сведчылі аб тым, што з усіх бакоў Совецкай Расіі ішлі рабочыя і сяляне на дапамогу беларускаму народу. Непасрэдны ўдзел у распрацоўцы стратэгічнага плана наступлення на Заходнім фронце прыняў вялікі Сталін.

Сярод красамоўных пагаворак беларускага народа ёсць пагаворка «Мудры лях па шкодзе». У ёй народ меў на ўвазе не польскіх беднякоў, а выключна польскіх паноў-магнатаў і шляхту. «Трыумфальны» паход белапалякаў, які праходзіў пад лозунгам:

— Гэйжэ на Москва!

скончыўся панічным уцякацтвам польскага так-званага свентага непераможнага войска да самай Варшавы. Аддаючы гонар нашым слаўным совецкім спартсменам братам Знаменскім, мы ўсё-ж павінны адзначыць, што рэкорд на хуткасць у працяглым бегу па перасечанай мясцовасці належыць бясспрэчна белапольскай арміі. З якой пагардай адзначыў наш вялікі народ крушэнне польскіх заваёўчых планаў у сваёй песні:

Як ішлі на нас паны—панадзявалі жупаны,
А ўцякалі як паны—паскідалі аж штаны.

І па сёнешні дзень пілсудчыкі называюць сваю затрымку пад Варшавай, зробленую імі толькі з дапамогай Антанты, не інакш, як цудам на Вісле. Адразу пасля цуда, дагэтуль вельмі фанабэрыстыя паны, паспяшылі мірыцца з намі. І ходзяць упартыя чуткі, што цяпер перад паходам кожны пілсудчык атрымоўвае акрамя патронаў—за адсутнасцю сала—яшчэ добры кавалак нямецкага маргарына для своечасовага змазвання пятак, бо—пан Гітлер, дапамажы, а ты, гітлераўскі гайдук, у шапку не спі.

Па мірнаму дагавору з Польшчай мы, у парадку абмена культурнымі каштоўнасцямі, аддалі панам помнік роднага пляменніка іхнага апошняга караля.

Спачатку пагрузка помніка для следвання простым маршрутам у дзяржаву, існаванне якой залежыць ад цудаў, працякала па звычайнаму парадку.

— Міхей, адгані, калі ласка, вагон з макухай! Падгані платформу пад караля!—крыкнуў машыністу дыспетчар.

Калі платформу падагналі, на яе вяроўкамі пачалі ўсцягваць караля.

— А ну раз! Я-ашчэ раз!—пачуліся галасы, але помнік не рухаўся з месца. Тады самы маладзейшы з грузчыкаў, які цяпер працуе галоўным інжынерам на адным буйным заводзе, заспяваў:

А ў іхняга камандзіра
Няма портак і мундзіра.

Таварышы разам падхапілі:

> Эй, дубі-інушка вухнем!
> Гэ-эй, зялёная сама пайдзе!

Нарэшце караля ўсцягнулі, але тут адбыўся інцыдэнт, які гразіў дыпламатычным канфліктам.

Совецкія грузчыкі, не адчуваючы ніякай пашаны да падобных «культурных каштоўнасцей», паставілі на платформу пляменніка апошняга караля задам да яго краіны. Прадстаўнікі зацікаўленай замежнай дзяржавы, якія прысутнічалі пры пагрузцы, выразілі свой энергічны пратэст.

— Мы патрабуем пашаны да культурных помнікаў!—заўважыў кульгавы пан, выпадкова недарублены за падпал мірнага Барысава.— У нас помнік маюць сустракаць патрыятычныя дэпутацыі, а яснавельможны пан Іосіф Панятоўскі будзе да іх пад'язджаць тылавой часткай свайго цела.

Самыя свабодныя на свеце грузчыкі паплявалі на рукі і зноў узяліся за караля.

— Юрка, штурхай яго ў зад! Паўлюк, круці яму галаву налева!—крычалі яны.

А калі скончылі, тады самы старэйшы з грузчыкаў—рослы, сівавусы, ва ўсім падобны да лоцмана Данілы Пазывайлы, сказаў:

— На які нам чорт, браткі, гэта барахло!

Віцебск, 1939 г.

*Шолам-Алейхем*

# ЗАПІСКІ КОМІВАЯЖОРА *)

*Апавяданні ў вагоне чыгункі*

## ГІСТОРЫЯ НУМАР ДЗЕСЯЦЬ

### Гімназія

Зіма. Насупроць мяне сядзіць чалавек сярэдніх год, з рыжай бародкай, ужо ледзь пасівелай, у янотавай футры, ужо ледзь палінялай. Мы разгаварыліся.

— Найгоршы вораг, чуеце,—звяртаецца ён да мяне,—не наробіць нікому гэтулькі ліха, як чалавек самому сабе. Асабліва тады, калі ў яго справы ўблытаецца баба, жонка значыцца. Каго, думаеце, маю на ўвазе? На гэты раз самога сябе. Вазьміце, напрыклад, мяне вось так, як вы мяне бачыце—ну і што асаблівага? Чалавек—як чалавек, самы звычайны. На носе ў мяне не напісана: маю такія-сякія здабыткі, не маю здабыткаў, ці мо зусім збанкруціў? Можа калісьці ў мяне якраз былі грошы, але не ў грашах справа. Грошы—глупства. Прыбыткі былі ў мяне. Жыў я прыстойна, без фанабэрыі, без грукату-стукату. Я—не з тых што любяць перх-пырх, як матылькі. Не! Я маю сваю сцежачку. Хадзіў я сабе па ёй ціха і павольна. Гэта куды лепш!

Ціха і павольна я гандляваў. Ціха і павольна пару разоў рабіў перапынак у выплаце даўгоў. Ціха і павольна я банкрутаваў і зводзіў канцы з купцамі. І зноў ціха і павольна я браўся за работу.

Але ёсць-жа бог на свеце... Вось ён ашчасліві́ў мяне навекі «супружніцай»... Яе-ж тут няма. Можам гаварыць шчыра... Жонка, уласна кажучы, як усе жонкі. Гэта значыць, з твару яна нават даволі ніштаватая. Асоба, не ўрокам кажучы, салідная. У два разы большая за мяне. І не брыдкая! Нават можна сказаць зусім не брыдкая—прыгажуня. І не дурная! Нават, можна сказаць, разумная—вельмі разумная. Талковая! Акурат—мужчына. Але якраз у гэтым усё маё ліхалецце. Ой, кепска, чуеце, калі жонка твая—мужчына! Хай сабе тысячу разоў мудрая, але ўсевышні стварыў усё-ж ткі раней Адама і пасля ўжо Еву. А пайдзіце і паталкуйце з ёй пра гэта!

Ого-го! Яна вам на адно гэта і торбу і мех нагаворыць: «Тое, што ўсевышні стварыў раней вас, а потым нас—гэта, кажа яна, яго справа. Але тое, кажа яна, што ён мне даў больш клёку ў пятку,

---

*) Канец. Пачатак гл. у № 12 за 1938 г.

чым табе ў галаву, дык я ў гэтым, кажа яна, ані не вінавата». «Наконт чаго, пытаюся, гэта прышло табе да гутаркі?» «Наконт таго, кажа яна, гэта прыйшло мне да гутаркі, што за ўсё ў мяне адной павінны сохнуць мазгі. Нават хлопчыка, кажа яна, каб аддаць у гімназію, дык таксама я сама павінна дбаць». «Дзе-ж гэта, кажу, у законах напісана: «гімназія»? Ці я не здолею, каб ён у мяне навукі праходзіў дома?» «Я табе ўжо тысячу разоў, кажа яна, сказала, што ты ў мяне не даб'ешся, каб я, кажа яна, пайшла наперакор усяму свету. У людзей, кажа яна, цяпер такі звычай, што дзеці ходзяць у гімназію». «На мой розум, кажу, выходзіць, што людзі павар'яцелі».

— Толькі ты адзін, кажа яна, застаўся пры ясным розуме! Каб людзі, кажа яна, жылі тваім розумам, я тады ім зусім-бы не зайздросціла!» «Кожны, кажу, чалавек жыве сваім розумам». «Каб ворагі мае, кажа яна, і ворагі маіх прыяцеляў мелі ў кішэні, у куфры і ў шафе гэтулькі, колькі ты ў галаве, я тады іх вельмі шкадавала-б». «А мне, кажу, вельмі шкада таго мужчыну, якога баба бярэ на свой капыл». «А мне, кажа яна, яшчэ больш шкода той бабы, якая мае такога мужчыну, якога прыходзіцца браць на свой капыл!»

Вось і паказвай жонцы дзе левая і дзе правая старана! Вы ёй—«лён», а яна вам—«капуста». Вы ёй—адно лагоднае слова, а яна вам тыцне дванаццаць вострых слоў, рэшты. А паспрабуйце замкнуць свой рот. Яна тады кінецца ў плач. Альбо возьме, перапрашаю ваш гонар, і страціць прытомнасць. Вось тады я вам сапраўды зайздрошчу. Словам, туды-сюды, дабілася свайго, канешне, яна, а не я. Бо не будзем сябе абманваць: ці-ж ты ўстаіш, калі яна захоча?..

Чаго тут доўга валаводзіць? Яна мне проста дзень у дзень званіла: гімназія і гімназія! Трэба, значыцца, падрыхтаваць хлапца, каб ён, на першы пачатак, паступіў у млпдшы прыгатавіцельны. Жартачкі, якая галаваломная навука: падумаць толькі—«младшы прыгатавіцельны!» Уяўляю сабе, што любы наш блазнюк з хедэра, любы азбучнік, іх усіх—з «младшага прыгатавіцельнага»—за пояс заткне! А тым больш такі. як мой. Усю імперыю аб'ездзіце, другога такога не знойдзеце! Я-ж, вядома, бацька, што і казаць; але ў майго-ж галава, дык, дальбог, на ўвесь свет адна! Чаго тут доўга валаводзіць. Ён пайшоў і станавіўся да экзаменаў, трымаў і... не вытрымаў. У чым рэч?—Яму папалася двойка за арыфметыку. Ён, кажуць яны, слабаваты ў лічбах, у законах матэматыкі значыцца. Як вам падабаецца такая камедыя? У таго галава—на ўвесь свет адна, імперыю аб'ездзіць, дык яны мне байкі баяць—матэматыка! Словам, не вытрымаў! Ясна, што мне гэта вельмі крыўдна было: калі ўжо наважыўся трымаць экзамен, няхай-бы ўжо лепш вытрымаў! Але я ўсё-ж ткі мужчына, а не баба якая-небудзь, дык я сабе падумаў: згінь ты, прападзі! Наш брат—яўрэй—прывык... Аднак спрабуйце паталкаваць з ёю! Яна ўбіла сабе раз назаўсёды дурман у галаву:—гімназія!

Я супакойваю яе: «Скажы мне, кажу, каб ты здарова была, на якую хваробу далася табе гэта гімназія? Для прызыва?—дык ён, хвала богу, ад прызыва забяспечаны, кажу. Ён-жа бен-ёхід—адзін-

адным у нас. Для хлеба надзённага? Ды яна, гімназія, патрэбна як кашаль у хваробе. Чым кепска мне будзе, кажу, калі ён стане крамнікам, як я, ці наогул купцом, як усе нашы? А калі яму, кажу, суджана, крый божа, быць багачом, ці банкірам, каб нам большага ліха не было!

Так я супакойваю яе. Гавару і гавару як да сцяны!

— Яшчэ лепш, што ён,—кажа яна,—не ўвайшоў у младшы прыгатавіцельны.

— Чаму?

— Так,—кажа яна.—Ужо лепш, кажа, няхай паступіць адразу ў старшы прыгатавіцельны.

Што-ж! Няхай старшы прыгатавіцельны! Падумаеш, страхота з панскіх ботаў... У таго галава, імперыю аб'ехаць!.. А чым кончылася? Як падыйшло да самай музыкі—зноў двойка! Ужо не за матэматыку. Новая бяда: дыктоўка ў яго кульгае. Уласна кажучы, дыктоўку пісаць—піша ён добра. Дык у чым-жа справа? Адна літара ў яго ўпоперак горла стала—літара «яць». Гэта значыць, пісаць ён піша літару «яць». Ці-ж яму цяжка яе напісаць? Бяда ў тым, кажуць яны, што ён ставіць літару «яць» не там, дзе яна павінна стаяць. Каб большага ліха не было! Не ведаю, бачыце, як гэта я паеду ў Палтаву ці ў Лодзь на кірмаш, калі мой сын, крый божа, паставіць «яць» не там, дзе ім гэтага хочацца! Словам, калі да нас дайшла гэта радасная вестка, мая адразу пачала біць у барабан. Пабегла да дырэктара. Божкаецца, клянецца, што ён, хлопчык, усё ведае, усё знае, усё ўмее. Вось няхай яго зноў паклічуць, няхай яго зноў экзамінуюць.

Мая ад гэтага выйграла як Заблоцкі на мыле. Паставілі двойку, ды яшчэ з коптарамі! Гэта значыць, з мінусам. І на—выкусі!

Жонка падняла гвалт і крык: ён-жа зноў не вытрымаў!

— Ну, калі нават так, кажу, дык што-ж рабіць? Можа ў студню кінешся. Наш брат, кажу, прывык...

Мая адразу ўспыхнула, загарэлася і давай абсыпаць мяне пажарышчамі страшных слоў, выкапваць магілы дзікіх праклянццяў. Крычала, клялася на чым свет стаіць. Як усе яны ўмеюць. Гэта якраз не вялікая бяда. Мне шкада яго—малога. Ну, проста сэрца баліць. Жаласць бярэ. Няшчасце дый годзе! Усе апрануцца ў яркія бліскучыя гузікі, а толькі ён, бедны, адзін астанецца без гузікаў!

Я пачынаю па-бацькоўску яго супакойваць:

— Кінь-жа плакаць... Ёлап ты. Ці-ж дапушчальна, ці-ж гэта магчыма, каб увесь свет быў прыняты? Цялушачка ты... Хтонебудзь павінен дома застацца, ці не? Тое самае з прызывам...

Пачуўшы гэта, мая жонка налілася злосцю і накінулася на мяне бурай-віхурай:

— Гіш які літасцівы знайшоўся! Хто, кажа яна, просіць цябе, каб ты яго пацяшаў такой «мудрай» білібердай? Ты лепш пастарайся, кажа яна, дастаць для яго добрага настаўніка, кажа яна, рэпетытара, рускага. Для граматыкі!

Чулі? Яшчэ рэпетытара! Аднаго настаўніка і маламеда ёй мала! Словам, туды-сюды—на сваім паставіла не я, а яна. Бо дзе-ж ты ўстаіш, калі яна захоча?..

Між тым, чаго тут доўга валаводзіць? Узялі мы новага настаўніка—чыстакроўнага неяўрэя! Бо граматыка, разумеецe, для першага класа—гэта вам не хаханькі. Гарчэй за хрэн. Жартачкі—граматыка! «Буква яць!» Што-ж... Каб расказаць вам пра новага настаўніка, якім пакараў нас бог, дык адзін сорам! Дазналіся мы ўсе ад яго па чым фунт ліха. Ён нас усіх змяшаў з гразёю, у вочы кепікі строіў з нас. Напрыклад, ён, каб ён згарэў, лепшага слова не мог выкапаць для урокаў граматыкі, як часнок: «Чеснок, чеснока, чесноку, чеснакою»—каб на яго галаву безгалоўе! Каб не мая жонка, я схапіў-б яго за гарляк і выкінуў-б вон да прабабкі разам з яго чартоўскай граматыкай! Але жонка гатова была на ўсялякія ахвяры. Затое сын будзе ведаць, дзе ставіць «яць» і дзе не ставіць. Уявіце сабе, колькі намучылі малога за ўсю зіму. А гэта-ж яшчэ толькі пасля сёмухі яму трэба было ісці да разнікоў з гімназіі. Пасля сёмухі ён пайшоў і станавіўся да экзаменаў і прынёс адтуль дамоў ужо не двойку, а чацвёрку і пяцёрку. Якая радасць! Якое шчасце! Нас абсыпалі градам віншаванняў і вітанняў: «Мазлтоў! Мазлтоў!» Яшчэ паспееце з козамі на торг!—кажу. Не спяшайцеся з павіншаваннем! Мы яшчэ не ўпэўнены, ці ён прынят. Пра гэта даведаемся толькі ў жніўні. Чаму не цяпер?

Схадзіце, запытайцеся ў іх! Але што-ж ты зробіш? Наш брат прывык...

Надышоў жнівень. Гляджу: жонка мая—як той віхор. Ад дырэктара да інспектара—ад інспектара да дырэктара. «Чаго ты сёння, кажу, бягом бяжыш, як апантаная, ад Габрыеля да Міхаэля?..» «Што значыць, кажа яна, чаго я бягом бягу? Ты толькі што з яснага неба зваліўся? Не ведаеш, мабыць, што ў апошні час робіцца ў гімназіях? Не чуў, мабыць, што там нейкія процанты прыдумалі?

Так яно і было! У рэшце рэшт сынка ўсё-ж такі не прынялі! Хочаце ведаць, чаму? Таму, што не дзве пяцёркі. «Каб ён, кажуць яны, меў дзве пяцёркі, дык можа быць, кажуць яны, яго прынялі-б». Чулі?—можа быць! Як вам падабаецца гэтае «можа быць»? Што-ж ты зробіш... А тое, што мне ад «яе» дасталося на піва і на квас—дык гэта я вам, між іншым, перадаю шануючы вас. Але больш за ўсё шкада мне было яго, беднага, нашага малога. Уткнуўся хлопчык тварам у падушку і плача, у тры ручаі залівaецца. Ці доўга так ці коратка, аж пакуль узялі для яго новага настаўніка—нейкага студэнта з гімназіі—і давай яго падрыхтоўваць ужо ў другі клас. Затое зусім на новы лад, на новы склад. Другі клас ужо ўлегцы не возьмеш! Там апрача матэматыкі і граматыкі, патрабуецца яшчэ і геаграфія, і чыстапісанне, і ліха яго ведае што яшчэ! Хаця, за ўсё гэта я аддам з прыемнасцю—ведаеце што? Адно выедзенае яйцо. Адна старонка талмуда куды цяжэй за ўсе іхнія навукі, а сэнсу ў ёй можа ўдубальт. Але што-ж ты, чалавеча, зробіш? Наш брат прывык...

Словам, пачалася галаваломка з урокамі: паднімецца раніцой—урокі. Памоліцца і паснедае—урокі. Цэлы дзень—урокі. Ужо куды запоўнач, а мы яшчэ чуем, як ён малоціць: «Іменіцельны-дацельны, слажыцельны-вычытацельны»—аж звініць у вушах! Дзе там есці? Калі тут спаць? «Узялі жывое стварэнне, кажу, і здзекуюцца з яго

ні за што, ні пра што! Тут ужо, кажу, ні то смех, ні то грэх, бо дзіцё, крый божа, выб'еццa з сіл і занядужае!» «Лепш,—кажа яна,—адкусі сабе язык!»

Урэшце дачакаліся доўгачаканага дня. Ён зноў пайшоў да развнікоў з гімназіі і прынёс адтуль чыстыя пяцёркі! А як-жа інача? Калі ў таго галава, імперыю аб'ехаць!.. Здаецца калёсы намазаны? Га? Ужо ўрэшце пайшло на лад? Але вось, калі ўжо дабраліся да самай вяршыні і вывесілі ў гімназіі на сцяне імёны усіх прынятых дзяцей, я кінуў вокам на спісак—няма майго! Мая адразу ўзняла крык, гвалт: «Гэта несправядліва! Гэта разбой! У яго круглыя пяцёркі!» Вось яна кінецца, вось яна рынецца, вось яна іх і так, вось яна іх сяк.. Яна і кідалася, яна і рынулася, яна крычала, хадзіла, прасіла, пакуль яе самую папрасілі, каб перастала галаву дурыць. Гэта значыць, яе, між намі кажучы, перапрашаю вас, выкінулі за дзверы. А як выкінулі за дзверы, яна кінулася дамоў з непрытомным лямантам і галошаннем:

— Які, кажа яна, з цябе бацька? Калі-б ты быў, кажа яна, шчырым бацькам, адданым, як іншыя бацькі, ты-б, кажа яна, таксама знайшоў, як іншыя бацькі, сцяжынкі-пуцінкі да дырэктара, пратэкцыі і знаёмства да інспектара...

Як вам падабаецца такі бабскі выбрык?

— Мала, кажу, табе таго, што я трымаю на сваім карку і хедар, і кірмашы, і кантракты, і квітанцыі, і вексалі, і пратэсты, ды іншае безгалоўе? Ці не хочаш, кажу, каб я яшчэ ўзваліў на свой карак і гімназію? Ці не хочаш, каб я дзеля тваёй гімназіі з тваімі класамі абанкруціўся? Твае праклятые класы стаяць у мяне ўпоперак, кажу, вось тут во!..

Бо, казаў той, я-ж не больш, як чалавек. У кожнага чалавека ёсць мяжа цярплівасці, дык вось лопнула мая цярплівасць і я выпаліў...

Аднак, на сваім паставіла «яна», а не я. Бо дзе-ж ты ўстаіш, калі яна захоча?..

Я ўзваліў на свае плечы і гімназію. І пачаў я шукаць сцежак і пуцінак, пратэкцыі і знаёмстваў. Твар у мяне часта гарэў ад сораму. Кожны сустрэчны і папярэчны задаваў мне запытанні і зусім да рэчы: «Вы, рэб Арон, чалавек заможны, а ў вас ўсяго-наўсяго адзін бен-ёхід—адзін сынок, дык які-ж гэта чортаў бацька цягне вас за чупрыну, каб лезці з ім куды не просяць?.. Вось і спрабуй растлумачыць добрым людзям, што бог благаславіў мяне да апошніх дзён маіх дарагім здабыткам—жонкай, якая ўбіла сабе дурман у галаву: гімназія, гімназія і гім-на-зі-я! Што-ж тут доўга калатырыць? Я, як вы бачыце мяне вось тут во, таксама з вусамі. Я, з божай дапамогай, працярабіў сабе дарожку проста туды, куды трэба. Я дабіўся да пана-марціпана, да дырэктара значыцца, у кабінет, і давай з ім талкаваць на розныя лады: і так і сяк. Я, дзякаваць богу, прывык гаварыць з «благароддзямі». Калі толькі ёсць ахвота, дык за язык цягнуць не трэба.

— Что вам угодно?—пытаецца ён у мяне і просіць сесці. А я яму ціханька, ледзь не ў самае вуха, кажу: «Господин директор! Мы, кажу, люди не богатые, но у нас, кажу, есть, кажу,— маленькое состояние и один хороший, замечательный мальчик,

который, кажу, хочет учиться. И я, кажу, хочу. Но моя жена, кажу, очень хочет!» Тады ён звяртаецца да мяне ў другі раз:

— «Что вам угодно?»—Я падсоўваюся да яго яшчэ бліжэй і паўтараю: «Паночку,—кажу,—мы люди не богатые, но у нас, кажу, есть, кажу, маленькое состояние и один хороший, замечательный мальчик, который, кажу, хочет учиться, и я, кажу, хочу; но моя жена, кажу, очень хочет!» і націскаю на гэтае «очень», каб ён зразумеў... Але галава яго ўсё-ж ткі не здольная на такія тонкасці—і ён не можа ўцяміць, на што я намякаю, і пытаецца ў мяне даволі злосна:

— «Так что же вам угодно?!» Тады я павольненька ўсоўваю руку ў кішэнь, павольненька вынімаю яе і павольненька гавару яму: «Извините, господин директор, мы, кажу, люди небогатые, но у нас, кажу, есть маленькое, кажу, состояние и один хороший, замечательный мальчик, который, кажу, хочет учиться; и я, кажу, хочу; но моя жена, кажу, очень хочет!» І яшчэ мацней націскаю на гэтае самае «очень», і я бяру і ўсоўваю яму ў руку... Ясней і быць не можа! Ён зразумеў адразу. Дастаў запісную кніжачку і запытаўся, як мяне завуць і як завуць майго сына і ў які клас я хачу, каб ён паступіў. А я сабе думаю: «Вось так і гавары!» І я даводжу да яго ведама, што зваць завуць мяне Кац, Арон Кац, а майго сына завуць Моўша, Мошка, значыцца, і хачу, каб ён паступіў у трэці клас. Тады ён мне кажа: Калі мяне завуць Кац, а майго сына завуць Мойша, і ён хоча паступіць у трэці клас, дык трэба яго прывесці, кажа ён, у студзені. Тады ён напэўна паступіць. Разумееце? Зусім іншыя гутаркі! Мабыць, хто мажа, той і едзе. Адна задорынка: чаму не цяпер? Але дзе ты дзенешся? Калі чакаць, дык чакаць! Наш брат прывык...

Надышоў студзень. Зноў тыя самыя цымбалы. Зноў беганіна туды і сюды. Сёння-заўтра павінна адбыцца абмеркаванне—савет называецца. Збяруцца і дырэктар і інспектары, і ўсе настаўнікі гімназіі. Ужо толькі пасля гэтага абмеркавання, пасля савета значыцца, будзе вядома, прынят ён ці не. Надышоў той самы гарачы дзянёк, а «маёй», зразумела, дома ўжо няма. Няма абеда, няма самавара. Нічога няма. А дзе-ж гэта яна? Вядома дзе яна—у гімназіі яна! Гэта значыць не ў самой гімназіі, а каля гімназіі. Тупаецца на марозе ад самага рання на вуліцы ды чакае пакуль скончыцца абмеркаванне, гэта значыць, савет...

Мароз трашчыць, на вуліцы—завіруха, мяцеліца, а яна тупаецца ля дзвярэй гімназіі ды чакае. Нічога сабе інтэрас! Здаецца, ты добра ведаеш, што раз чалавек абяцаў, значыць—аман! Будзе зроблена, тым больш, калі... Вы-ж, канешне, разумееце? Але ідзі паталкуй з доўгавалосай бабай! Словам, яна чакае гадзіну, чакае дзве, чакае тры, чатыры. Усе школьнікі ўжо даўно павыходзілі з гімназіі ды разышліся па хатах, а яна чакае, ды чакае. І што вы думаеце? Хоць яна доўга чакала, а ўсё-ж ткі дачакалася: расчыніліся дзверы і адтуль вышаў адзін з настаўнікаў. Мая—да яго: Ці не ведае ён, чым кончылася сабранне, савет, значыцца? Ён кажа:

— Чаму не ведаць? Прынята,—кажа ён,—усяго восемдзесят пяць дзяцей: восемдзесят тры хрысціянскіх і двое яўрэйскіх.

— Каго?—пытаецца яна.

— Нейкага Шэпсельзона і нейкага Каца,—адказвае ён.

Пачуўшы прозвішча «Кац», мая—стралой паімчалася дамоў. Кінулася ў дзверы засопшыся, стомленая, але з вялікай пыхай: «Мазлтоў! Віншую! Дзякую табе, усявышні! Дзякуй! Прыняты! Прыняты!..»

У яе вачах блішчаць слёзы. Мяне, канешне, гэта таксама радуе, але не абавязкова скакаць, як цялё. Я-ж, не забывайце, мужчына, а не баба...

— Бачу,—кажа яна,—што цябе гэта мала абыходзіць?

— Чаму,—кажу,—ты так мяркуеш?

— Таму,—кажа яна,—што ты стаіш як каменны ангел. Калі-б ты,—кажа яна,—зразумеў, як нашаму беднаму хлопчыку не церпіцца, ты-б так не стаяў. Ты-б ужо даўно, кажа яна, пабег і купіў-бы мундзірчык, кажа яна, і шапачку, і ранец, кажа яна, і наладзіў-бы для нашых прыяцеляў баль...

— Што раптам за баль? Мы святкуем яго трынаццацігоддзе, ці мы яго жэнім?

Так я пытаюся ў яе даволі спакойна, бо я-ж мужчына, а не баба...

Яна на мяне пакрыўдзілася ды зусім гаварыць са мной перастала. А калі жонка перастае гаварыць, дык гэта ў тысячу разоў горш за лаянку. Бо калі яна лаецца, дык хоць чалавечы голас чуваць, а калі яна маўчыць—табе астаецца размаўляць толькі са сценамі... Словам, чаго вам сумнявацца? Ясна, што паставіла на сваім яна, а не я. Бо дзе-ж ты ўстаіш, калі яна захоча?..

Тым часам увечары ў нас адбыўся баль. Склікалі сваякоў, прыяцеляў, знаёмых. Малога ўбралі ва ўсё навюткае з галавы да ног: вельмі прыгожы мундзір з бліскучымі гузікамі, шапачка з цацкай наперадзе—губернатар ды й толькі! Хлапчука проста ашчаслівілі. Сапраўды новую душу ў яго ўсадзілі. Бедны акрыяў. Ён ззяў, паверце мне, як сонца ў летні дзень! Госці пілі, закусвалі. Пасыпаліся разныя віншаванні: каб, ён вучыўся жывым і здаровым, каб кончыў гімназію жывым і здаровым і каб ён жывым і здаровым ішоў па шляху навукі вышэй і вышэй, далей і далей...

— Эх!—кажу я,—гэта якраз не вельмі патрэбна. Абыйдзецца, кажу, і без гэтага! Няхай ён толькі пройдзе першыя некалькі класаў гімназіі, кажу, тады мы яго ажэнім, пры божай дапамозе...

Мая на гэта ўсміхнулася, многазначна міргнула на мяне і сказала: «Скажыце яму, што ён, перапрашаю вас, вельмі памыляецца. Ён яшчэ, кажа яна, старасвецкага пакрою.»—«Скажыце ёй, каб я, кажу, меў гэтулькі божых благаслаўенняў, наколькі стары пакрой, кажу, быў куды лепшы, за цяперашні новы...» «Скажыце яму, кажа яна, што ён, прабачайце мяне, стары...» Госці смяюцца: «Ой, кажуць яны; рэб Арон, жонка ў вас! Казак, а не жонка!»

Тым часам госці як належыцца выпілі і як належыцца закусілі. Стала ім, як той кажа, мора па калена. Вясёлы народ пусціўся ў карагод. Аж падлога ходырам захадзіла. Нас абодвух, мяне з жонкай—значыцца, таксама прынялі ў кон, а малога нашага ў самую сярэдзінку. Акружылі яго і мы ўсе гоцкаліся на славу аж да самай зары. Раніцой мы з ім пайшлі туды. Прышлі туды, мабыць, рана-

вата. Дзверы і вароты былі яшчэ заперты. Яшчэ няма, як той кажа, шалёнага сабакі на дварэ. Доўга патупаўшыся на марозе, мы проста аджылі, калі ўрэшце адчынілі дзверы і нас, дзякаваць богу, упусцілі ў калідор. Хутка пачалі збірацца грамадкамі малыя з ранцамі на плячах. Пачаўся шум, галас, гоман, рогат, «гу-га»—кірмаш! Тым часам падыходзіць да нас нехта нейкі з залатымі гузікамі, мабыць адзін з настаўнікаў, з аркушам паперы ў руках, і пытаецца: «Што вам тут трэба?». Паказваю на свайго малога: «Гэта я прывёў яго першы раз у «хедар»—у гімназію, значыцца». «У які клас?»—пытаецца ён. «У трэці,—кажу. Зусім нядаўна, кажу, прынялі». Тады ён у мяне пытаецца: «А як-жа яго завуць?» Я кажу: Кац, Мойша, Кац, гэта значыць—Мошка Кац». «Мошка Кац?—кажа ён.—Мошкі Каца няма ў трэцім класе. Ёсць,—кажа ён,—нейкі Кац, але не Мошка, а Мордух Кац...» «Какой Мордух?»—кажу.—Мошка, а не Мордух!» А ён упіраецца: «Мордух!»—і тыцкае мне паперу ў самы нос. Я яму: «Мошка!» А ён мне: «Мордух!» І мы пачалі перакідвацца слоўцамі «Мошка-Мордух», «Мордух-Мошка». Мы да таго часу мошкаліся і мордухаліся, аж пакуль дазналіся пра вельмі цікавую рэч: мае козыры папаліся ў чужыя рукі. Вы разумееце, якая выйшла штуковіна? Выйшла, як з крывога дышла—памылачка... Прынялі ткі аднаго Каца—ясна!—Але, памылкова прынялі другога, а не майго. Ёсць, бачыце, у нас яшчэ адзін Кац. Два Кацы ў адным горадзе!..

Ну, як-бы вам гэта сказаць? Проста сэрца ў мяне крывёю аблівалася, паглядаючы на свайго хлапчука ў той момант, калі яму сказалі зняць цацачку з шапачкі. Нявеста перад шлюбам гэтулькі слёз не пралівае, колькі мой сынок у той дзень праліў. Як я ні ўпрашваў яго—ні дабром, ні злом!—не памагае! «Бачыш,—кажу жонцы,—якую кашку ты, сарока-варона, наварыла? Ці-ж я табе, кажу, не казаў, што твая гімназія для яго зарэз? Дай божанька, кажу, каб гэта хаця лёгка сплыло і гладка зышло, каб, крый божа, кажу, ён гэта не выхварэў...» «Няхай мае ворагі, кажа яна, хварэюць, калі хочуць. Маё дзіцё, кажа яна павінна паступіць у гімназію! Калі не быў прыняты, кажа яна, цяпер, дык будзе прыняты, пры божай ласцы, у будучым годзе. Калі не быў прыняты, кажа яна, тут, дык будзе прыняты ў іншым горадзе—ён павінен быць прынятым! Хіба, кажа яна, навекі вочы заплюшчу і зямля нада мною прычынецца».

Чулі ў якія званы яна зазваніла? А хто, думаеце, на сваім паставіў—я, ці яна? Дзе-ж ты, чалавеча, дзенешся, ці-ж ты ўстаіш, калі яна захоча?..

Словам, я ўжо не стану вам доўга гэта расцягваць. Шмат мы з ім нагоцкаліся. Дзе толькі я з ім не пабываў? Дзе толькі горад у Расеі, дзе толькі гімназія—мы з ім гойдаліся туды: ездзілі, падавалі, экзаменаваліся, ды якраз вытрымлівалі, і якраз добра вытрымлівалі, а ўсё-ж такі не прынялі. Чаму? Каб яны запрапасціліся гэтыя праклятыя проценты! Паверце мне, я сам на сябе глядзеў тады, як на ачмурэлага: «Дурыла ты! Чаго? Які гон гоніць цябе апантанага з горада ў горад? На які ляд усё гэта табе прыдалася? Ну, а калі ён ужо, дапусцім, паступіць? Што тады будзе?

Не! Гаварыце што сабе хочаце,—перамога, вялікая справа! У мяне гэта, разумееце, ужо ўвайшло ў газарт.

Урэшце злітаваўся гасподзь і падрыхтаваў мне ў Польшчы на мой капыл гімназію: «камерчаскую», дзе на кожнага хрысціяніна бяруць аднаго яўрэя. Гэта выходзіць цюцелька ў цюцельку пяцьдзесят процантаў. Але ў чым-жа справа? Новая рагатка! Кожны яўрэй, які хоча, каб яго дзіцё было там прынята, павінен туды з'явіцца са сваім уласным хрысціянінам. А калі ён, яўрэйскі хрысціянін, значыцца, вытрымае і за яго будзе ўнесена звонкая манета—плата за прававучэнне, значыцца, тады толькі ёсць такая-сякая надзея, што і яўрэй, можа быць, будзе прыняты... Замест бяды адной маеш тут і бяду і гора. Разумееце? Мала, што мае мазгі сохнуць за свайго, дык яшчэ павінна балець галава за чужога. Бо калі, крый божа, не вытрымае Якуб, тады пропадам прапаў і Янкель!

Пакуль я натрапіў на хрысціяніна, на сына нейкага шаўца, пад прозвішчам Халява,—я пацеў на сёмы пот. Урэшце, калі ўжо дайшло да галоўнай музыкі—да экзаменаў, значыцца, думаеце, мой шавец не праваліўся? Яшчэ з якім грукатам! І якраз па «закону божаму». Што вы на гэта скажаце? Мой сын павінен быў патурбавацца, набрацца храбрасці і засесці з ім за ўбіванне ў лоб «закона божага»... Вы, канешне, запытаецеся: якім гэта чынам мой раптам стаў ведуном па «закону божаму?» Гэта ясней яснага! Бо ў таго хлапчука галава—імперыю аб'ехаць. Такія клёцкі яму раз глынуць—і гатова!..

Урэшце надышла доўгачаканая шчаслівая хвіліна і з божай дапамогай яны абодва былі прыняты ў гімназію. Вы напэўна, думаеце, што ўжо спяклі святочны каравай? Як прышлося запісаць іх у кнігі, і атрымаць квітанцыі—гляджу няма Халявы! Што з ім здарылася? Ён брыкаецца. Халява не хоча, каб яго сын знаходзіўся ў такой вялікай кампаніі яўрэяў. Не хоча—хоць ты яго калом па галаве! «На якое гэта яму безгалоўе?—кажа ён.—Усе брамы для яго і так расчынены. Ён можа памясціць сына, куды ўздумае». А можа скажаце яму, што ён не праў?—Ён сто разоў правы! «Чаго-ж ты, кажу, усё-ж ткі хочаш, пан Халява?» Нічога!—кажа ён. Словам, кінуўся я туды-сюды. Знайшліся добрыя людзі, прыяцелі—дапамаглі. Запрасілі яго ў трактыр. Выпіўка на стале, а рукі свае. Выпілі па чарцы, па другой, па трэцяй. Справа пайшла на лад. Пакуль дачакаўся блаславеннай квітанцыі аб тым, што ён у гімназію ўлез, вылезлі ў мяне вочы на лоб. Хвала табе, господзі, гара з плеч звалілася!..

Прыехаў дамоў—новае ліха! У чым справа? Жонка страціла сон, перакідвалася з боку на бок, думала-думала—і дадумалася. Як-жа гэта сын, зяніца вока нашага, будзе адзін адным жыць там, а мы тут? Навошта ёй тады наогул жыць на свеце? «Чаго-ж ты,—пытаюся,—напрыклад, хацела-б?» «Чаго мне хацець?—адказвае яна.—Ці не ведаеш чаго хачу? Я хачу,—кажа,—з ім жыць». «Ну, а дом наш» — пытаюся. «Дом, — кажа яна, — домам і астанецца»... Тут ужо злуйся не злуйся, нічога не паможа! Словам, яна села і паехала да яго аж туды—у Польшчу. А я астаўся адзін ва ўсім доме. Уявіце сабе парадак у доме—ворагам маім такі

парадак! Жыццё маё пеклам зрабілася. Справы мае рассыпаліся, як пясок. Усё кульгіцнулася дагары нагамі. Я ведаў толькі адно— чарніла і папера. Гэта мы з жонкай пачалі перапісвацца. Я—ёй. Яна—мне. Лісты туды—лісты сюды: «Шлю сардэчнае прывітанне найдаражэйшай жонцы»... «Шлю сардэчнае прывітанне найдаражэйшаму мужу...» «На міласць божую, пішу ёй, які з гэтага толк? Я-ж не больш, як чалавек! Без гаспадыні, сама разумееш...» Аднак не памагло, ды яшчэ, як той кажа, больш прылягло. Паставіла на сваім яна, а не я. Бо дзе-ж ты ўстаіш, калі яна захоча?..

Тым часам, я ўжо заканчваю апавядаць. Я ўсё расцярушыў, раскідаў, ветрам пусціў усе свае наладжаныя справы, параспрадаў за нішто ўсё да апошняй ніткі, стаў гол—як сакол, іператарабаніўся, з вашага дазволу, аж туды, да іх у Польшчу. Прыехаў, і давай азірацца, на які свет мяне вецер занёс? Давай нюхаць і азірацца— проста душа бокам вылезла, пакуль я натрапіў сцяжыну. Наладзіў я хаўрус з нейкім купцом. Ён даволі прыстойны і заможны чалавек, сам з Варшавы, на Налеўках жыў, стараста ў сінагозе... Аднак, у гандлёвых справах ён аказаўся круцялём, машэнікам, кішэннікам— мяне ледзь з торбай не пакінуў! Думаю, што вы разумееце, як паскудна ў мяне было на сэрцы. Я мог-бы прадаваць ліха не на фунты, а на пуды.

А між тым, прыходжу аднаго разу дамоў, бачу—сын выходзіць мне насустрач нейкі збянтэжаны, расчырванелы і без цешкі на шапцы. «Скажы мне, Мойшка,—пытаюся ў яго,—дзе-ж гэта твая цацка?» «Якая цацка?—кажа ён. «Бліскучка»,—кажу я. «Якая бліскучка?»—кажа ён. «Бліскучка, што на шапцы,—кажу я.— Гэта-ж я толькі што, на свята, купіў табе новую шапку з новай штучкай!..» Ён яшчэ больш чырванее ды і кажа: «Зняў...» «Што значыць: зняў?»—пытаюся. «Я ўжо вольны»,—кажа ён. «Што значыць: вольны?»—пытаюся. «Мы ўсе вольныя»...—кажа ён. «Што значыць—вы ўсе вольныя?»—пытаюся. «Мы, кажа ён, ужо не ходзім туды...» «Што значыць, кажу, вы ўжо не ходзіце туды?» «Мы, кажа ён, усе змовіліся, каб туды не хадзіць»... «Што значыць, кажу, вы ўсе змовіліся? Што вы за змоўшчыкі? Што за згаворшчыкі? Ці-ж на гэта, кажу, я разгубіў сваё дабро, сам на ўзвейвецер кінуўся-рынуўся, з апошніх сіл сваіх выбіўся, каб ты тут мог згаворы згаварваць?.. Наклічаш, кажу, ліха на сябе, на мяне і нас усіх. Каб хаця зміласьваўся гасподзь, кажу, ды не дазволіў сыпнуць усё гэта ліха на яўрэйскія галовы! Гэта-ж мы заўсёды, як тыя сіроты: па нас—тарарах, каб іншым на страх!..» і пачынаю яго сароміць, браць на цыгундар, як зазвычай родны бацька гаворыць з родным сынам. Але-ж гасподзь мяне блаславіў жонкай на доўгія дні і гадзіны. Яна, як накінецца на мяне бурай-віхурай, яна як раззявіцца на мяне, яна як усыпле мне перцу і солі! Так і так,—кажа яна,—я ўжо ўрэшце зусім здзяцініўся. Я не магу,—кажа яна,— раскумекаць сваёй балдавешкай, што на белым свеце дзеецца. Гэта-ж,—кажа яна,—настаў цяпер зусім іншы свет: разумны, сонечны, вольны свет. Надышоў,—кажа яна,—свет, роўны для ўсіх. Ці то палац, ці то хата—няма бедны ні багаты. Няма ні паноў ні парабкоў. Няма авечачкі-стрыжачкі. Няма сабачкі-кусачкі. Няма каткадрапунка. Няма мышкі-пустышкі... «Э-тэ-тэ!—кажу.—Дзе-ж ты на-

бралася, шчыра адданая мне, такіх спрытных слаўцоў? Нейкая навюткая мова!—кажу.—Пальчыкі аблізваць! Можа адным махам і курэй выпусціш,—кажу, з куратніка, кыш-кыш, куры на свабоду?..» Як уз'есца яна, як закіпяціцца, акурат варам я аплюхаў яе—і давай мяне церабіць, так, як яны ўмеюць. Дзе ты дзенешся? Трэба слухаць казань да канца. Але гэта—казка без канца.

— Ведаеш што?—кажу.—Супакойся. Няхай будзе досыць! Замаўчы, прашу цябе! Каюся. Б'ю калом у свае ўласныя грудзі: «Зграшыў... Правініўся! Вінават, ваша бабароддзе!» Іменем бога прашу: перастань ужо! Хопіць!

Дзе там! Упартая! Ні за якія качарэжкі на свеце... Ні за якое пакаянне на свеце...

— Не!—лемантуе яна.—Я хачу ведаць: чаму, ды адчаго, і дзеля чаго, і ясна кажучы, і што гэта азначае, і на якое ліха.

І яшчэ раз, і зноў тое самае...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Скажыце, прашу вас: хто-ж гэта выдумаў... жонку?

1902.

*Канец гісторыі нумар дзесяць.*

ГІСТОРЫЯ НУМАР АДЗІНАЦЦАЦЬ

## З прызыва

— Адкуль еду?—адказвае на маё запытанне чалавек высокі, худы, барадаты, у плісавай ярмолцы, які толькі што справіўся з ранічнай малітвай і складвае свае багамольныя прылады.—Адкуль еду? Бяда на бядзе едзе!.. З прызыва еду—з прызыва. З сынам. Вось ён мой сын, вось гэты малады, што ляжыць во, расцягнуўшыся на лаве. З Егупеца еду з ім—з Егупеца. Былі ў адвакатаў на парадзе, а заадно і да прафесараў схадзілі. Хацелася паслухаць, што скажуць яны—што скажуць? Прызывам бог-гасподзь мяне блаславіў—прызывам. Ужо чатыры разы гаротнік мой прызываўся, а яшчэ канца краю не відаць. Хаця ён у мяне бен-ёхід, адзін-адным—што называецца, чысты, сапраўдны, непадробны пafterwards перваразраднік... Што вы на мяне так падазрона зіркаеце—што? У вас вушы вянуць? Будзе і вам цікава паслухаць і патыліцу пачухаць.

Гісторыя гэтай прыгоды такога гатунку: сам я з Міжырычаў—міжырыцкі я. А родам я—нарадзіўся, уласна кажучы, у Мазепаўцы. А ў паперах знаходжуся, гэта значыць, прыпісаны я—у Вараділаўцы. Словам, калісьці я, на гора маё, кавенчыўся ў Вараділаўцы—кавенчыўся. А цяпер адседжваюся ў Міжырычах.

Хто я і як мяне завуць? Здаецца мне, што гэта вам усёроўна—здаецца мне. Затое імя сына я вам мушу сказаць, бо на гэтым верціцца ўся малатарня з прызывам. Яшчэ, як верціцца! Зваць дык завуць яго Іцік, гэта значыць Аўрам-Іцхак. Але мы яго іменуем Алтар. Гэта яна яго так пяшчотна назвала—старая мая, знакам тым. Бо ён у нас вельмі пяшчотны. Бен-ёхід: адзін адным ён у нас. Як зяніца вока, значыцца, хаця быў у нас, апрача яго, яшчэ сынок—быў у нас. Маладзейшы за гэтага на год, ці на паўтары—дай, божа, гэтаму даўгі век! Айзік зваўся той—Айзік. Але ня-

шчасце адбылося з ім у маленстве—з Айзікам, значыцца. (Я тады яшчэ, на гора мае, варацілаўскім быў, знакам тым. Яшчэ ў Варацілаўцы мы жылі). Аднойчы пакінулі мы яго ў хаце аднаго. Уздумаў хлопчык, Айзік значыцца, узяў, падлез пад самавар, пакруціў крант і аплюхаўся гарачым варам. І, не пра вас кажучы, на смерць абварыўся—на смерць! Дай бог гэтаму сыну доўгі век... З таго дня Іцік, Аўрам-Іцхак, значыцца, застаўся ў нас бен-ёхід: адзін-адзінюткім. Вось тады яна, мая старая, дай ёй бог здароўя, і назвала яго пяшчотна—Алтар.

Вы, мабыць, запытаецеся: дык у чым-жа справа? Бен-ёхід, адзін-адным, якое ён мае дачыненне да прызыва? Вось гэта якраз і баліць. А каму баліць—той і крычыць! Можа мяркуеце, не дай бог, што ён, бен-ёхід мой, здаравяка, як часта бывае з дзецьмі, калі яны гадуюцца ў раскошы? Не туды заехалі! Вы за яго меднай дыткі не дасцё—нягеглы, хваравіты! Хваравіты? Не, не! Не такі ўжо ён хваравіты, як вам здаецца! Але да здароўя яму далекавата. Шкада, што ён цяпер спіць—грэх будзіць. А як устане—угледзіце тады самі, што за снасць у чалавека: скура ды косці! Доўгі і вузкі. Твар—зморшчкам, сушанай фігай. А рост, знакам тым—акурат пугаўё! Цалкам удаўся ў яе, у маю старую, дай ёй бог здароўя. Яна таксама высокая і шчуплая: далікатная, знакам тым... Дык скажыце-ж мне на ласку: навошта мне думаць і гадаць аб прызыве, калі ён доўгі і тонкі, цалкам, можна сказаць, не годны, ды яшчэ мае вільготу?

А вось, знакам тым, надышоў прызыў—якая там вільгота? Дзе там вільгота? Аніякай вільготы! У чым справа? Вельмі простая справа! Таго хлапчука майго, Айзіка, значыцца, што ў маленстве, не пра вас кажучы, апарыўся варам з самавара, мабыць забылі выкрэсліць з метрыкі. Я адразу бягом бягу да казённага рабіна, да пудзіла таго. Узнімаю лямант. Як-жа гэта вы? Разбойнік, галаварэз! Вы-ж мяне без нажа зарэзалі! Чаму-ж вы не выкрэслілі з метрыкі майго Айзіка? Чаму?» А ён, гэты дурны бот, яшчэ пытаецца: «Што за Айзік?» «Як гэта, кажу, Айзіка не ведаеце,—майго сына Айзіка, які перакуліў на сябе самавар?» «Які самавар?»—пытаецца ён. «Дзень добры!—кажу.—Вы не тутэйшы? Ну, і балдава ў вас! На такой балдаве, кажу толькі арэхі зручна лузгаць... Хто-ж гэта не памятае, кажу, гісторыі з маім Айзікам, які аплюхаўся варам з самавара? Не разумею, кажу, які вы пасля гэтага казённы рабін? На якія качарэжкі патрэбны вы нашаму мястэчку? На «кошэр» і трэф, кажу глядзіцё, як баран на новыя вароты. На гэткія тонкія справы, кажу, ёсць у нас духоўны рабін, каб яму век векаваць... Вам, кажу, хаця-б сачыць за парадкам у нябожчыкаў—хаця-б. А калі нябожчыкі ў вас жывуць, дык ці не лепш вам пайсці з вашай таксай туды, адкуль сюды прышлі?..» Урэшце, што аказалася? Ён богу душой вінават. Ні за што, ні пра што я вылаяў яго—гэтага бабінага рабіна. Аказваецца, што прыгода з самаварам адбылася не тут, у Межырычах, але там... калі мы яшчэ жылі, на гора мае, у Варацілаўцы. Вы разумееце, якое вышла непаразуменне? Зусім з галавы выскачыла—з памяці выслізнулася ды рассеялася.

Коратка кажучы, навошта забіваць вам мазгі доўгімі гісторыямі, доўгімі падрабязгамі аб тым ды аб сім? Я ледзь паспеў крануцца з

месца, паперы—туды, паперы—сюды, а ўжо мой Аўрам-Іцхак, Іцік, значыцца, якога завуць Алтар, страціў усю сваю вільготу. Кончана з вільготай! Што-ж рабіць без вільготы?—Гора! Пачаліся ляманты, крыкі. Як-жа гэта? Бен-ёхід: адзін-адзінюткі, чысты, сапраўдны, непадробны першаразраднік, ды без аніякай вільготы! Хоць ты крычы на пусты лес—прапала!

Але-ж у нас ёсць вялікі бог у нябёсах! Пайшоў мой Алтар, Іцік, знакам тым, і выцягнуў самы большы жрэбій, нумар 699. Усё прысутцтва тады ходырам захадзіла. Сам прынцыдацель ляснуў яго па плячу: «Брава, Іцка, малайчына!» Усіх у горадзе зайздрасць прабірала: нумар шэсцьсот дзевяноста дзевяць! Вось што значыць пашанцавала! Віншуем! Мазлтоў! І вам таго жадаю! Акурат, нібы найбольшы выйгрыш папаўся мне,—дзвесці тысяч!

Але нашых браточкаў улегцы не возьмеш... Пачаўся прыём—і пачалося бракаванне. Бракуюць без канца-меры! У адно вокамгненне ўсе новабранцы перакінуліся ў нешчаслівых, абяздоленых калек: у аднаго—тое, у другога—сёе...

Коратка кажучы, навошта забіваць вам мазгі доўгімі гісторыямі аб тым ды аб сім? Дайшла чарга да майго сына, да нумара 699. Мой бедны Іцік, Алтар, знакам тым, павінен быў сваёй уласнай персонай з'явіцца к прыёму разам з усімі краўцамі і шаўцамі. У маёй хаце ўзняўся плач не на жарт. Ды яшчэ які плач! Галошанне, лямант... Мая старая, дай ёй бог здароўя, валасы на сабе рве, а нявестка траціць прытомнасць: гэта-ж нечуваная рэч, бен-ёхід: адзін-адзінюткі, чысты, сапраўдны, непадробны першаразраднік—і без малейшай вільготы?! А ён сам, сын мой, знакам тым, ані не бядуе ды ў вус не дуе! Нібы не пра яго ідзе справа: «У вялікай кумпаніі,—жартуе ён,—і чмель пойдзе на шыбеніцу, як на кадрэль». Жарты—жартамі, а сэрца ў яго, мабыць: дрыж-дрыж—як авечы хвост. Што за дзіва?

Але-ж у нас ёсць вялікі бог на нябёсах! Уводзяць яго, Іціка майго, перапрашаю, голага ў прысутцтва. Бярэцца доктар аглядаць яго, майго Іціка, Алтара—знакам тым,—вымервае яго ўдоўжку і ўшырку. Мацае, пацае, мучае. Круць туды—верць сюды: не выходзіць! Не гадзіцца, з дазволу кажучы, псякосць гэта (гэта значыць, наогул дык ён гадзіцца, толькі ў салдаты не гадзіцца): не хапае яму ўсяго на ўсяго два з паловай вяршкі ўшырку,—два з паловай! «Нягодзен! Белы білет...» Зноў пашанцавала. Радасць, вяселле... Віншуем»! Мазлтоў!.. І вам таго жадаю!.. Сабралася ўся радня, паставілі розных трункаў. Мілуемся, частуемся. Дзякаваць богу, адбылі воінскую павіннасць!

Толькі дзе-ж ты дзенешся ад нашых... Думаеце, што не знайшоўся нягоднік, які не паляніўся адразу падаць данос у губерню, што мой сын «падмазаны»? Знакам тым, не мінула і двух месяцаў, як я атрымаў паперу, у якой запрашаюць майго Іціка, Алтара значыцца, каб ён патурбаваўся з'явіцца туды, у губернскае прысутцтва на паўторны агляд, «на васпітанне», значыцца. Як вам падабаецца гэта радасная вестачка? Га? Безгалоўе ды й годзе! Мая старая, дай ёй бог здароўя, валасы на сабе рве, а нявестка траціць прытомнасць.—Гэта-ж нечуваная рэч, два разы прызы-

ваецца, ён-жа бен-ёхід: адзін-адзінюткі, чысты, сапраўдны, непадробны першаразраднік!

Коратка кажучы, навошта забіваць вам мазгі доўгімі гісторыямі аб тым ды аб сім? Калі запрашаюць у губерню, значыць, не будзь свіннёй і паязджай у губерню!

Прыехаўшы ў губерню, я пачынаю, канешне, сваю беганіну туды і сюды, шукаю знаёмства, пратэкцыі, абяцанак-цацанак. Прыходзіцца тлумачыць кожнаму стрэчнаму-папярэчнаму, што мае дваранскія паперы мышы пагрызлі. Прыходзіцца кожнаму баіць праўду, падобную да байкі: бен-ёхід, адзін-адзінюткі, а да гэтага яшчэ хірлявы, хударлявы... Дзе там? Рагочуць і гаргочуць! А сын? Прыгажэйшага ў магілу апускаюць. Справа не ў прызыве,—кажа ён.—Прызыў для яго і выедзенага яйца не варты. Калі суджана служыць, дык будзе служыць. У чым-жа рэч? Яму цяжка перанесці нашыя пакуты. Гэта значыць, пакуты нашых жанчын яго непакояць: губерскае прысутства—як ніяк! Бабка варажыла альба-альба. І гэтак і так! Ці пан, ці прапаў! Як гэта кажуць?—латарэя!

Але-ж у нас ёсць вялікі бог у нябёсах! Увялі яго, майго Іціка, Алтара значыцца, у губерскае прысутства, перапрашаю ваш гонар, голага, як маці нарадзіла, і давай усё нанова—ад літары «А». Аглядваюць ушырку і ўдоўжку, нанова мацаюць, пацаюць, мучаюць. Не гадзіцца, з дазволу кажучы, псякосць, гэта (гэта значыць, наогул, дык ён гадзіцца, толькі у салдаты не гадзіцца). Хтосьці, праўда, пачаў брыкацца-супраціўляцца і спрабаваў сказаць: «Годзен». Але доктар тут-жа яго асадзіў назад. «Не годзен!» Адзін кажа: «Годзен». Другі кажа: «Не годзен». Так яны перакідваліся словамі «годзен»—«не годзен» да таго часу, аж пакуль самому губернатару апрыкрыла слухаць. Губернатар патурбаваўся—узняўся з крэсла, падышоў, паглядзеў і сказаў: «Совершенно не годен!» Гэта значыць, што мой сын гадзіцца для багамолля на свята «ніколі»... Я зараз-жа махнуў дамоў дэпешу, як вядзецца, крыху затуманеную: «Поздравляю! Товар окончательно забракован».

На маё шчасце, павінна было здарыцца так (паслухайце цікавую рэч), што мая дэпеша трапіла не ка мне дамоў а к майму стрыечнаму брату, аднаго прозвішча са мною, чалавеку багатаму, перапрашаю ваш гонар, вялікаму свінтуху. Гэта, між іншым, не дзіва, бо ён жывёлапрамысловец—скуплівае жывёлу. А павінна-ж было здарыцца так, што ён якраз на той час выправіў у тую-ж губерню вялікі гурт быкоў і з такой нецярплівасцю чакаў дэпешы, ажно вочы ў яго ледзь не павылазілі на лоб. Можаце сабе ўявіць, як яму стала паскудна на душы, калі ён атрымаў маю дэпешу: «Товар окончательно забракован»... Калі я вярнуўся дамоў, я думаў, што ён з'есць мяне жыўцом—з усімі патрахамі разам.

Як вам падабаецца хамства гэтага багатага свінтуха, купца быдлячага? Мала таго, што перахватвае чужыя дэпешы, дык яшчэ фанабэрыцца!..

Цяпер звернемся зноў да таго часу, калі я яшчэ сіднем сядзеў, на гора маё, у Варацілаўцы, і мой Іцік, Алтар значыцца, быў яшчэ маленькім хлапчуком—мой Іцік. У адзін ясны божы дзень, ні з таго, ні з сяго, награнула ў горад нейкая рэвізія. Хадзілі з дома ў дом і

перапісвалі кожнага паасобку—ад старога да малога: як тваё імя? Колькі табе год? Колькі ў цябе дзяцей, мужчынскага ці жаночага роду? Як іх завуць? Усё гэта іх, чамусьці, вельмі цікавіць. Дабраліся, знакам тым, і да майго Іціка. «Як яго завуць?» Тут мая старая, дай ёй бог здароўя, узяла ды выпаліла: «Алтар!» А той, доўга не думаў, каб яму скулле ў бок! Сказалі яму Алтар—няхай сабе Алтар! Узяў, гад, ды так і запісаў: «Алтар».

Не мінула і году пасля прызыва,—раптам атрымліваю новую вестачку: шукаюць майго сына Алтара, каб ён патурбаваўся к прызыву ў Варацілаўку. Усе мае страшныя сны за гэту ноч, за месяц і за год—на іхнюю галаву! І не думаў і не чакаў! Новы яўрэй з'явіўся на грэшнай зямлі—Алтар. Няхай будзе благаслаўлёна тваё прышэсце, рэб Алтар!

Коратка кажучы, навошта забіваць вам мазгі доўгімі гісторыямі аб тым ды аб сім—зноў запрашаюць майго Іціка, Алтара, значыцца, яшчэ разок к прызыву. Пачынай, братку, усё спачатку! Мая старая, дай ёй бог здароўя, валасы на сябе рве, а нявестка траціць прытомнасць. Гэта-ж нечуваная рэч! Калі аб'ездзіш свет з канца ў канец, дык не пабачыш такой крутні. Бен-ёхід, адзін-адзінюткі, чысты, сапраўдны, непадробны першаразраднік павінен быў тры разы адбываць воінскую павіннасць і яўляцца к прызыву! Але гавары з імі па-турэцку, ці талкуй з імі па-татарску, ці цяшы ім кол на галаве—адно і тое самае! Што тут рабіць? Кінуўся я ў абшчыну, узняў гвалт, ледзь дабіўся, каб дзесяць яўрэяў прынялі прысягу і падпісаліся, што, як ім дакладна вядома, Іцік—гэта Аўрам-Іцхак, а Аўрам-Іцхак—гэта Алтар, і што Алтар і Іцік і Аўром-ў Іцхак—адна і тая самая асоба.

Атрымаўшы такую паперыну, я паімчаўся з ёю у Варацілаўку. Прыехаў у Варацілаўку—доўгажаданы госць! Як маецеся, рэб Ёсель? Што вы тут робіце, рэб Ёсель? Ці надоўга, рэб Ёсель? Я, разумеецца, не маю ахвоты языком боб малаціць—навошта мне гэта? Куды карысней для здароўя, калі твой родны яўрэй ведае пра цябе як найменш. «Глупства,—кажу,—я прыехаў да аднаго пана...» «Наконт чаго?»... «Наконт просы, кажу, купіў у яго просы, даў задатак. А цяпер ні просы, ні задатку. Прапала, кажу, і кароўка і вяроўка!» А сам—бягом у прысутства. Прыходжу ў прысутства, і трапляю на аднаго з пісарчукоў. Падаю яму паперыну. Прачытаўшы паперыну, пісар агнём загарэўся і швыргануў мне паперыну ў самы твар з такой злосцю, што крый божа! «Ступайце,—кажа ён,—да ўсіх чарцей з усімі вашымі імёнамі і з усімі вашымі яўрэйскімі махінацыямі! Вы хочаце,—кажа ён,—выкручвацца ад воінскай павіннасці, жыды, машэннікі, і Аўрам ператвараецца ў вас ў Іцхака, і Іцхак—у Іціка, і Іцік—у Алтара? Не! У нас такія штучкі не праходзяць, ніякага шахер-махер!...» «Ну, думаю калі «шахер-махер» значыць хоча хапу ў лапу...» Я дастаю манету і хачу яму сунуць у руку. Пры гэтым кажу яму ціхутка-ціха: «Извините, ваше высокоправожительство!» А ён як ускінецца на мяне з крыкам: «Взятки?!.» Прыбегла яшчэ некалькі пісарчукоў і, што вы скажаце, выправадзілі мяне за дзверы з музыкай,—выправадзілі... Рэдкі выпадак—собіла-ж мне наткнуцца, як на ражон, на такую «беларучку»!.. Аднак, гэта толькі так гаворыцца, што ў яго чыстыя

ручкі. Усё-ж такі сярод нашых не заўсёды прападзеш. Якраз натрапіў я на аднаго яўрэя, пры пасрэдніцтве якога той пісарчук вельмі ахвотна бярэ... Дапамагло, як мёртваму—банкі і было рашэнне, што ёсць у мяне яшчэ адзін сын, які завецца Алтар. І няхай патурбуецца—Алтар, значыцца,—з'явіцца ў Варацілаўку к прызыву. Во гэта гора ды яшчэ з коптарам!

Калі я пеhражыў гэтае ліхалецце, дык я, значыць, мацнейшы за жалеза! Хаця, калі гаварыць па шчырасці, чаго мне, дурню, трэба было баяцца? Хай сабе дзесяць прызываў, але-ж я ведаю, што ён не гадзіцца, псякосць гэта (гэта значыць, наогул дык ён гадзіцца, толькі ў салдаты не гадзіцца). Тым больш, што яго ўжо двойчы збракавалі, Алтара значыцца. Але ўсё-ж ткі, як пачнеш меркаваць: чужы горад, прысутства, дзе ўсе «беларучкі»: усяляк бывае!..

Але-ж у нас ёсць вялікі бог у нябёсах! Мой Алтар, Іцік значыцца, зноў цягнуў жрэбій, зноў з'явіўся на прыём, і бог учыніў цуд: варацілаўскае прысутства таксама сказала: «Не годзен» і таксама выдала белы білет. Значыць, у нас ужо, пры божай дапамозе, ёсць два белых білеты.

Прыехалі дамоў—зноў радасць і вяселле! Наладзілі баль. Склікалі бадай увесь горад. Гулялі, танцавалі да раніцы. Каго мне цяпер баяцца? Хто мне цяпер раўня?—Хіба сам цар!

Цяпер вернемся зноў да майго Айзіка, святой памяці, да таго самага, хто яшчэ ў маленстве перакуліў на сябе самавар. Тут вы пачуеце забаўную гісторыю, вельмі забаўную. Вы разумееце, якая справа? Спрабуй быць праракам, спрабуй здагадацца, што недарэчны рабін, казённы значыцца, з Варацілаўкі забудзецца выкрасліць яго з метрыкі, нябожчыка, значыцца, і што за мною будзе лічыцца «нядоімка», што ў мяне нібы то недзе ёсць яшчэ сын Айзік, якому сёлета трэба станавіцца к прызыву! Вось табе зусім неспадзяваны стрэл! Што за новы камень на маю старую галаву? Дзе я ім вазьму Айзіка? Айзік даўно ўжо ў раі раюе, а я ў пекле пякуся! «Што мне рабіць?»—пытаюся ў нашага бабінага рабіна—казённага, значыцца,—і прашу ў яго парады: «Дрэнна»—кажа ён. «Чаму, кажу, дрэнна? Чаму?» «Таму, кажа, ён, што Іцік і Айзік адно імя». «Якім гэта чынам,—кажу,—мудрагель над мудрагелямі, Іцік і Айзік адно імя?» І ён мне тлумачыць: «Іцік гэта Іцхак, Іцхак гэта Ісак, Ісак гэта Ізак, а Ізак гэта Айзік»...

Нічога сабе залаты ланцужок!

Коратка кажучы, навошта забіваць вам мазгі доўгімі гісторыямі аб тым ды аб сім? Яны шукаюць майго Айзіка, жылы з мяне цягнуць: падай ім Айзіка к прызыву ды й годзе! У маёй хаце зноў узнялі плач. Ды яшчэ які плач? Нібы вось толькі што, на нашых вачах, ерусалімскі божы храм зруйнавалі. Па-першае, мая старая, дай ёй бог здароўя, успомніла нябожчыка: сыпнулі свежую соль на старую рану. «Лепш, кажа яна, няхай-бы цяпер прызываўся, чымся ляжаць у сырой магіле і каб яго костачкі там гнілі...» Па-другое, яна непакоіцца, можа, крый божа, казённы рабін праўду сказаў, што Іцік гэта Іцхак, Іцхак гэта Ісак, Ісак гэта Ізак, а Ізак гэта Айзік. А калі ўсё гэта—чыстая праўда, тады радасці мала!.. Так гаворыць мая старая, дай ёй бог здароўя, і рве на сабе валасы. А мая нявестка, як заўсёды, траціць прытомнасць. Гэта-ж не ха-

ханькі—бен-ёхід, адзін-адзінюткі, чысты, сапраўдны, непадробны першаразраднік, тры разы адбываў воінскую павіннасць, два белыя білеты—а ім усё яшчэ мала!..

Доўга не чакаючы, я ўзяў, як гэта кажуць, лахі пад пахі і паімчаўся ў Егупец—параіцца з сапраўдным адвакатам. Пры тым-жа я захапіў з сабою сына, каб пайсці з ім да прафесара—пачуць, што скажа прафесар: гадзіцца ён, ці не гадзіцца? Хаця я сам добра ведаю, што не гадзіцца, псякосць гэта (гэта значыць, наогул ён гадзіцца, толькі ў салдаты не гадзіцца)... Але калі паслухаю, што скажа мне адвакат і што скажа мне прафесар, тады буду спаць спакойна і раз на заўсёды расквітаюся з прызывам... Урэшце, чым скончылася? Скончылася тым, што адвакаты і прафесары адно толькі ведаюць, што яны самі абедаюць. Адзін гаворыць адно, другі гаворыць другое. Адзін аднаму пярэчыць, ды розум калечыць. Вось табе і разбяры-бяры! Звар'яцець можна! Вось паслухайце-ж самі!

Першы адвакат папаўся мне тупагаловы, бязглузды, хаця з шырокім лбом ды з такой лысінай, што хоць ты на ёй боб цэпам малаці! Ён ніяк не мог уцяміць, гэты разумнік, хто Алтар, хто Іцік, хто Аўрам-Іцхак, і хто быў гэты Айзік? Я ўбіваю яму малатком у мазгаўніцу яшчэ раз і яшчэ раз, што Алтар і Іцік і Аўрам-Іцхак—гэта адзін чалавек, а Айзік—гэта той, які перакуліў на сябе самавар, калі я яшчэ жыў у Варацілаўцы, калі я яшчэ, значыцца, варацілаўскім быў... Я быў упэўнены, што мой «аблакат» ужо ўсё раскумекаў. Дзе там! Ён пачынае распытвацца зноў спачатку: «Пазвольце, не спяшайце, хто-ж з іх старэйшы, Іцік, Алтар ці Аўрам-Іцхак?» «Вось табе маеш!—кажу.—Я вам, здаецца, ужо пятнаццаць разоў барабаніў у барабан, пятнаццаць разоў казаў і гаварыў, што Іцік і Аўрам-Іцхак і Алтар—адна і тая асоба. Уласна кажучы, яго сапраўднае імя Іцік, гэта значыць, Аўрам-Іцхак. Але зваць яго завуць Алтар. Маці яго, кажу, такім пяшчотным імем паіменавала. А Айзік, кажу, гэта той, хто перакуліў на сябе самавар, кажу, калі я кавенчыўся яшчэ у Варацілаўцы, калі я быў варацілаўскім, значыцца... «Калі-ж,—пытаецца ён,—у якім годзе прызываўся ваш Аўрам-Алтар?.. Тоісь, я хацеў сказаць, ваш Іцхак-Айзік? «Што ён балабоніць?—кажу.—Навошта змешваеце капусту з гарохам? Упершыню ў сваім жыцці, кажу, бачу, каб чалавек нёс на сваіх плячах такія жорны! Вам-жа гавораць ясней яснага, што Іцхак і Аўрам-Іцхак і Іцік і Айзік і Алтар—усё гэта адзін чалавек. адзін і той самы!» «Ціха, не крычыце,—кажа ён.—Навошта крычаць?» Чулі? Ён, аказваецца, яшчэ хараходіцца!..

Словам, я плюнуў і пайшоў да другога адваката. На гэты раз напаткаў якраз на чалавека са светлай галавой. У яго крыху нават вум за розум заходзіць. Ён цёр сабе лоб, моршчыўся, мудрагеліў на ўсе застаўкі, мучыў, круціў і вярцеў законы ў розныя бакі, і датанцаваўся вось да чаго: «На основании статьи такой то Межырыцкае прысутства зусім не мела права яго прыпісаць, але... Ёсць такі закон, кажа ён, што калі прысутства яго ўсё-ж ткі прыпісала, дык ранейшае прысутства павінна яго абавязкова выпісаць. Значыцца: «выключить». А яшчэ, кажа ён, ёсць закон, што калі адно прысутства яго прыпісала, а другое прысутства яго не выпісала, значыцца,

«не выключыла», дык яно абавязана яго выпісаць, значыцца, «выключыць». Але апрача гэтага яшчэ ёсць касацыя. У выпадку таго, калі другое прысутства не хоча яго выпісаць, значыцца, «выключыць», тады...

Словам—такі закон і гэткі закон, такая касацыя і гэткая касацыя. Ён набіў мне поўную галаву касацыямі, да таго набіў, што я вымушаны быў звярнуцца да трэцяга адваката. Я натрапіў на новага пустазвона. Зусім яшчэ маладзенькі вылупак-брахунок. Толькі што з яйца вылупіўся. Гэта значыць, нядаўна скончыў «юрысдыкцыю». З першага стрэлу—даволі свойскі чалавечак. А ў яго язычок—акурат званок: дзын-дзын-дзын... Па ўсім відаць, што яшчэ толькі вучыцца гаварыць—старанна вучыцца. Бо як пачне зюзюкаць, дык відаць, што сам ад гэтага слодыч мае. З вялікай радасці проста ў гару расце. Кожнае слова смакуе, як цукерку. Ён да таго разгаварыўся, да таго разгарачыўся, ажна ўскочыў у вялізнае, як мора, казанне. Я вымушан быў стрымаць яго за лейцы ў самым цікавым месцы. Я заўважыў яму: «Вельмі правільна! Вы, безумоўна гаворыце чыстую, як шкло, праўду. Але навошта мне,—кажу,—вашы слёзы? Навошта мне ваша аплакванне? Ці-ж гэта мне дапаможа? Лепш дайце мне параду, што рабіць з маім сынам, калі, не дай бог, раптам пазавуць яго—сына майго?»

Коратка кажучы, навошта мне забіваць вам мазгі доўгімі гісторыямі аб тым ды аб сім,—я дастукаўся да самага сапраўднага, непадробнага адваката. Гэта ўжо, разумееце, адвакат з старых адвакатаў. Адвакат—які зубы з'еў на адвакацтве. Я расказаў яму ўсю сваю гісторыю ад першай да апошняй старонкі, а ён сядзеў увесь час з заплюшчанымі вачыма і слухаў. Выслухаў мяне ды й кажа: «Усё? Скончылі? Едзьце дамоў? Пусцяковіна! Больш трох сот карбаванцаў штрафу вы плаціць не будзеце». «Гэтым і скончыцца?—кажу.—Эге! Каб я ведаў, што гэта пахне толькі трымястамі карбаванцаў штрафу, чаго-ж бы сляпы плакаў! Я-ж баюся за свайго сына—баюся!» «Якога сына?»—пытаецца ён. «Што значыць, кажу, якога сына? За Алтара, за Іціка, значыцца, баюся!» «Пры чым тут Іцік?»—кажа ён. «Як гэта пры чым?—дзіўлюся я.—А можа, не дай бог, яго зноў к прызыву пацягнуць?» «У яго-ж, кажаце, белы білет». «Ён мае, кажу, аж два белых білеты?» «Ну, калі так, дык чаго-ж вы хочаце?» «Чаго-ж мне хацець? Хацець, дык я, уласна кажучы, нічога не хачу! Баюся толькі аднаго, кажу:—Паколькі цяпер шукаюць Айзіка, а Айзіка няма, і паколькі Алтар, Іцік, значыцца, запісаны Аўрам-Іцхак, а Іцхак—як плявузгае наш казённы рабін, дурыла маляваны—Ісак, а Ісак гэта Ізак, а Ізак гэта Айзік, дык могуць-жа, не ў благі час кажучы, брахнуць на майго Іціка, ці на Аўрам-Іцхака, на Алтара, значыцца, што ён і ёсць гэты самы Айзік!» «Ну, дык у чым справа?—заўважае ён.—Гэта-ж яшчэ лепш! Калі Іцік і Айзік адно і тое самае, дык вам не прыдзецца і штрафа плаціць. У яго-ж, кажаце, ёсць белы білет?» «Два, кажу, белых білеты! Але білеты мае Іцік, а не Айзік!» «Вы-ж, кажаце,—заўважае ён,—што Іцік гэта Айзік?» «Хто-ж гэта кажа, кажу, што Іцік гэта Айзік?» «Вы-ж толькі што, кажа ён, сказалі, што Іцік гэта Айзік!» «Я кажу? Як я магу, кажу, казаць вам такую рэч, калі ў сапраўднасці Іцік гэта Алтар, а Айзік гэта той, які перакуліў на

сябе самавар, калі я яшчэ быў варацілаўскім, значыцца, калі яшчэ ў Варацілаўцы жыў!..»

Тут мой адвакат агнём загарэўся:

— Ступайте!—кажа ён.—Вы,—кажа ён—надоедливый еврей...

Вы разумееце, што гэта значыць? Гэта значыць, што я надакучлівы... Чуеце? Гэта я надакучлівы! Я!!!

1902. *Канец гісторыі нумар адзінаццаць.*

## ГІСТОРЫЯ НУМАР ДВАНАЦЦАЦЬ

## Нельга быць добрым

— Нельга быць добрым!—звярнуўся да мяне паважны яўрэй з гузаком на носе, узяўшы ў мяне папяросу і закурыўшы.—Чуеце, што я вам кажу? Нельга быць добрым! Дзеля маёй дабраты, дзеля майго праклятага мяккага характара, я сам сабе нарабіў ліха, выпеставаў злыбеду ў сваёй хаце, дзве злыбеды! Гэту вельмі цікавую гісторыю раю вам паслухаць!

Бог гасподзь пажадаў накіраваць мяне на добрачынную справу і паслаў мне двух сіротак—дзяўчынку і хлопчыка. Усявышні пакараў мяне, не даўшы мне дзяцей, дык я іх сабе сам узяў. Узяў чужых дзяцей, учыніў ім шмат дабра, вывеў у людзі, а яны плацяць мне цяпер камнямі.

Перш-на-перш трэба вам расказаць пра дзяўчынку-сіротку—адкуль узялася ў мяне гэта сіротка? Справа была такога роду. У маёй жонкі была калісьці сястра, малодшая. Яе звалі Перл. Дык была яна, Перл значыцца, трэба сказаць праўду, сусветнай красуняй. Усе яны прыгожыя. Мая жонка яшчэ па сёнешні дзень прыгожая жанчына. За іх прыгажосць, уласна кажучы, бралі іх як стой, золатам асыпалі іх. Але не ў гэтым справа.

Калі яна выходзіла замуж, мая швагерка, усе трубілі ў адну трубу, што яна натрапіла на залатое дно, на ўдачу, якая здараецца раз на сто год: сын багача, якога чакала спадчына ад багатага дзеда, ад багатага бацькі і ад бяздзетнага дзядзькі—таксама багача. Куды не кінеш шышкай—трапіш у багача. Акружана частаколам багачоў. Незвычайнае шчасце! Але не ў гэтым справа. Бяда была ў тым, што сам малады быў ліха ведае чым. Гэта значыць, наогул ён быў даволі прыемны малады чалавек, не дурань, не шмаравоз які, з добрай і мяккай натурай, свойскі, вясёлы. Дык у чым-жа рэч? Шалапут! Няхай ён мяне прабачыць, ён ужо даўно на свеце нашых прадзедаў. Якое-ж у яго было шалапуцтва? Ён любіў карты. Але як, думаеце, любіў? Душу гатоў быў аддаць! Дзеля карт ён гатоў быў прайсці сто вёрст пехатой. На-сам-перш было «шэсцьдзесят шэсць», яўрэйскае «ачко», «стукалка», «дзевятка»—сярод сваякоў, раз на месяц. У доўгія зімнія вечары... А пасля пайшло часцей і часцей, з маладымі людзьмі, з вясёлай кампаніяй, з рознымі галадранцамі, жулікамі, пустапашнікамі. А трэба вам ведаць, што там, дзе карты, там ужо ёсць і распуста ды ўсё на свеце! Хто ўжо тады зварочвае ўвагу на вячэрнюю малітву? Хто тады ўжо гаворыць пра хаджэнне без шапкі? Пра невыконванне законаў суботы? Ды наогул хто ўжо тады думае пра такія рэчы, якія маюць адносіны да

яўрэйскіх прыстойных паводзін? А як наўмысне, Перл, гэта значыць мая швагерка, была набожная жанчына, статэчная. Ёй вельмі не да душы былі яго непрыстойныя прывычкі і ўчынкі. Вось і ляжала яна цэлымі днямі і начамі, уткнуўшыся тварам у падушку і аплаквала сваю горкую долю. Цягнулася так да тых часоў, пакуль яна пачала чахнуць. Спачатку ледзь прыкметна, а з кожным разам усё мацней і мацней. Кончылася тым, што Перл памёрла. Але не ў гэтым справа.

Перл памёрла і пакінула дзіцё, дзяўчынку гадоў шасці-сямі. Муж быў недзе ў чорта на кулічках у Одэсе. Ён уцягнуўся ў карцёжніцтва да таго, што прасвістаў свае грошы, бацькавы грошы і дзедаўскую спадчыну—прасвістаў ён і самога сябе! Ёсць чутка, што ён недзе папаўся ў турму. Потым ён доўгі час недзе шлындаўся, схапіў нейкую дзіўную хваробу і сканаў адзінока пад плотам. Вось што сталася з сям'ёй у адно вокамгненне. Такім вось чынам апынулася ў мяне іхняя дачушка, круглая сіроцінка. Рэйзл завуць яе. Я забраў яе да сябе яшчэ маленькай, бо, разумееце, сваіх дзяцей у мяне няма, усявышні пакараў мяне—дык няхай, думаю, яна будзе мне за роднае дзіця. Было-б лепш чым добра. Але на бяду ўсё, што вельмі добра—ідзе да чорта! У іншага дзядзькі такая дзяўчынка-сірата гадавалася-б на кухні, была-б падмогай у хаце, ставіла-б самавар, была-б на пабягунках і таму падобнае, а ў мяне яна была як роднае дзіця—такая-ж вопратка, такія-ж чаравікі і такая самая ежа, як і для жонкі. Што і казаць—за адным сталом з намі. Але не ў гэтым справа.

Пазней, калі гэта самая Рэйзл пачала падрастаць, я аддаў яе вучыцца да настаўніка. Чаго ўтойваць праўду—яна была здольная дзяўчынка, ціхая, чэсная, добрая і разумная, а гожая—адна любата! Я шчыра любіў яе, нібы роднае, уласнае дзіця. А дзеці, ведаеце, растуць як грыбы. Не паспееш азірнуцца, ага—ужо трэба дбаць пра вяселле. А як наўмысне, мая пляменніца расла, як на дражджах, стройная, прыгожая, здаровая, зграбная, макаў цвет! Жонка мая пачала пакрысе адкладваць для яе тое ды сёе: бялізну, кашулі, посцілкі, навалачкі. Я, са свайго боку, інакш і не думаў, як даць ёй яшчэ і некалькі сот рублёў пасагу. Пачалі наведвацца і сваты. Хто возьме дзяўчыну сірату? Бацькоў яна не мае. Быў у яе бацька, няхай ён мне прабачыць, дык пахваліцца ім ёй няма чаго. Таксама сыпнуць ёй некалькі тысяч пасагу я не ў сілах. Трэба значыцца, знайсці для яе роўную пару, такога юнака, хто здолеў-бы яе хлебам карміць. Але дзе ты знойдзеш такога, калі аб заможным жаніху не можа быць і гутаркі, а якога-небудзь рамесніка я не згодзен. Усё-ж такі такая-сякая сваячка, дачка сястры маёй жонкі! Дык вось бог паслаў мне дзяцюка, аднаго прыказчыка—гадоў дваццаці з гакам, які ўжо зарабляе нішто сабе капеечку, збірае капеечку і ўжо назбіраў нішто сабе капеечку. Словам, паталкаваў з гэтым дзяцюком—ён паддаецца. Справа ідзе на добры лад, каб я так жыў! Дзяўчына яму нават вельмі да густу. Я паталкаваў з ёй—дзе там? Ані блізка! У чым рэч? Яна яго не хоча. Ён ёй не патрэбен ды й годзе! А хто-ж, кажу, цябе возьме? Унук барона Гірша? Як да сцяны—ані слова! Апусціла вочы і як вады ў рот набраўшы. Але не ў гэтым справа.

Цяпер я павінен перапыніць на хвілінку гэтую гісторыю і расказаць вам новую, якая мае дачыненне да старой гісторыі. Словам новая гісторыя і тая, нібы два ручаі ў адну рэчку, зліваюцца ў адну гісторыю.

Быў у мяне калісьці малодшы брат Мойша-Гершаль. Вось і здарылася з ім адна гісторыя. Як бачыце, у мяне гісторыя на гісторыі едзе ды гісторыяй паганяе. Тое, што здарылася з ім, жадаю, каб больш не здарылася ні з кім. Аднаго разу, у пятніцу, брат мой мыўся, не пра нас кажучы, у лазні, хацеў абліць сябе халоднай вадой, але замест халоднай вады схапіў цэбар з гарачай вадой, перакуліў сабе на галаву і абварыўся варам. Кавенчыўся ён, бедны, дзён восем і сканаў, пакінуўшы жонку і дзіцё—хлопчыка шасці год, якога звалі Пейся. Не мінула і паўгода, як удаву пачалі наведваць сваты. Гэта мяне, што называецца, узяло за жывое. Я пайшоў да яе, да братавай, значыцца, і кажу ёй: «Калі ты надумала выйсці замуж, дык аддай мне дзіця». Спачатку яна нават крыху артачылася, быццам і слухаць і ведаць не хоча. Я яе туды-сюды: пагаварыў з ёй як след і яна дала згоду. Яна прывяла да мяне сваё дзіця, а сама выправілася кудысьці ў Польшчу. Там выйшла замуж і як кажуць, жыве там прыпяваючы... Што-ж, туды ёй і дарога! Але не ў гэтым справа.

Вось бог, значыцца блаславіў мяне і сынам. «Сынам» кажу, бо я прыпісаў яго да сябе сапраўды за роднага сына. А хлапчук якраз быў вельмі ўдалы, на дзіва ўдалы хлапчук. Гэта-ж сын майго роднага брата, дык мне не выпадае хваліць яго. Але паверце маёй шчырасці, што вы не знойдзеце другога такога Пейсю—не скажу вам на ўсім свеце,—але ў нашым горадзе і ў ваколічных губернях, калі аб'ездзіць, дык днём з агнем не знойдзеце другога такога. Чаго ён толькі не ўмее? Чытаць ён чытае, пісаць ён піша, рахаваць ён рахуе. А калі вам раптам захацелася па-французску—калі ласка! Ён будзе з вамі гаварыць па-французску. Мо' жадаеце, каб ён вам на скрыпцы пайграў—з вялікай прыемнасцю. Ён вам на скрыпцы пайграе. Апрача таго, ён яшчэ і на фігуру ўдаўся прыгожы, зграбны, рослы. А разгавор. А... а... а калі я кажу вам удалец, дык чаго тут доўга валаводзіць? На ўсе рукі ўдалец! Апроч таго я наскроб для яго і некалькі тысяч рубельчыкаў пасагу. Гэта-ж сын майго роднага брата і прыпісаны да мяне, бадай што родны сын, і не пад плотам, дзякаваць богу, гадаваўся... Ён ма-ма-мае права на першагатунковую дзяўчыну? га? Як вы на гэта? Яму сапраўды сваталі самых лепшых і самых прыстойных на свеце дзяўчат. І ён сапраўды быў строга пераборлівым. А як-жа? Ці так, абы з рук, выпусціш гэткага малайца-удальца? Але не ў гэтым справа.

Словам, ад сватоў пасыпаліся да мяне прапановы з усіх канцоў свету: з Каменца, з Елісаветграда, і з Гомеля, і з Любена, і з Магілева, што на Літве, і з Бердзічава, і з Каменкі і з Брод. Золатам мяне асыпалі. Дзесяць тысяч, і дванаццаць тысяч, і пятнаццаць тысяч, і восемнаццаць тысяч—я, проста, не ведаў, куды мне кінуцца. Урэшце я памазгаваў: навошта мне лезці на чужыню, няма ведама куды і няма ведама да каго? Лепш, як кажуць, тутэйшы просты сын бабін чым заморскі рабін. Ёсць у нас у горадзе адзін багаты чалавек. А ў яго ёсць адна-адзіная дач. Вось ён прызначыў ёй па-

сагу самыя натуральныя тысячы. А дзяўчына сама таксама вельмі ўдалая дзяўчына. А падабацца я таму чалавеку вельмі падабаюся. Чаму-ж бы, думаю, не пабрацца? Га? А сватоў у нашым горадзе, дзякаваць богу, якраз цэлая пара. Вось яны спарышы гэтыя, і гойсаюць туды і сюды: ад мяне да яго і ад яго да мяне. Яны абодва задаюць нам дыхту і ў карак і ў шыю, каб хутчэй пакончыць справу. Ім, сватам, бачыце, таксама часу няма. У кожнага з іх таксама дачка на выданні—у спелым узросце... Але не ў гэтым справа...

Коратка кажучы, вырашылі мы сыйсціся для «змовы». Але ў цяперашні час не тое, што даўней. Даўней можна было завочы засватаць свае дзіцё. Вярнуўся дамоў, павіншаваў ды й годзе. А цяпер пайшла новая мода: трэба раней пагаварыць з дзяцьмі, каб яны заўчасна сустрэліся між сабой, пазнаёміліся, ды каб самі сказалі, ці падабаюцца адно аднаму, ці не? Цяпер і гаварыць ім пра гэта не трэба—яны самі знаёмяцца, без нас... Здаецца, лепш чым добра. Спыніў я аднаго разу свайго малойчыка і задаў яму далікатнае запытанне: «А табе, Пейсеню, падабаецца такая ды такая?» Ён чырванее, як агонь, і я ад яго ні слова не чую ў адказ. «Маўчанне—лепш за казанне», думаю я. «Аніякага адказу—таксама адказ». Але чаму-ж гэта ён пачырванеў? Ён, напэўна, засаромеўся. Было вырашана, каб увечары наладзіць агледзіны; раней, па звычаю, у нявесты, а пасля ўсе збяруцца ў мяне. Ну, здаецца, лепш і не трэба? Га? Пячэцца, і смажыцца, жарыцца і пражацца: рыхтуецца вячэра—чын чынам, як звычайна робіцца ў такіх выпадках. Але не ў гэтым справа.

На заўтра, узнімаюся раніцой з ложка, ажна мне раптам падаюць ліст. Адкуль-жа гэты ліст? Нейкі балагула прывёз. Бяру ў рукі ліст, нецярпліва распячатваю ліст, пачынаю трывожна чытаць ліст—і ў мяне ў вачах адразу замітусілася. Што гэта быў за ліст. Вось зараз пачуеце! Гэта, бачыце, піша мне мой Пейся, каб я на яго не злаваўся, што ён паехаў адгэтуль з Рэйзл—чуеце навіну?—без нашага ведама жаніцца—чуеце навіну?—Ды каб я нават не думаў шукаць іх, кажа ён, бо яны ўжо ўсёроўна за трыдзевяць зямель адгэтуль, кажа ён—чуеце навіну? А як толькі яны, з божай дапамогай, пажэняцца, кажа ён, дык зараз-жа вернуцца дамоў... Як вам падабаецца такога гатунку ліст? Што тычыцца маёй жонкі, дык няма чаго і казаць: яна тры разы траціла прытомнасць, бо ўвесь скандал дзеля яе выйшаў—гэта-ж Рэйзл яе пляменніца, а не мая. «Вось, кажу да яе, выгадавала ты змяю ў сябе на грудзях...» І, як зазвычай, усю сваю крыўду і злосць я на ёй спаганяў. Я ёй усыпаў паводле заслуг. Але не ў гэтым справа.

Мне не прыходзіцца вам казаць, самі добра разумееце, як у мяне ўнутры гарэла і кіпела. Як-жа гэта? Узяў я чужое дзіця, бедную, круглую сірату, выгадаваў-выпеставаў, стараешся ашчасліваць яе—дык яна ўчыняе такую нечуваную рэч, узводзіць сына майго роднага брата на коўзкі шлях! Я крычаў, тупаў нагамі, і рваў валасы на сваёй галаве—ледзь не звар'яцеў! А пасля адумаўся: якая-ж мне карысць ад маёй злосці? Ці дапаможа маёй бядзе тупанне нагамі? Трэба рабіць якія-небудзь захады... А мо' ўдасца захапіць іх яшчэ да шлюба? Першым стрэлам я кінуўся да начальства, не пашкадаваў падмазачку і заявіў, што ў мяне была пламен-

ніца такая і сякая. Яна абакрала мяне і падгаварыла майго сына, якога я ўсынавіў, і ўцякла з ім невядома куды. Потым я пачаў сыпаць грошы направа і налева. Пасылаў дэпешы ва ўсе канцы, ва ўсе гарады і мястэчкі ваколіцы—і бог мне дапамог, цапнулі іх. Дзе, вы думаеце, іх цапнулі? Зусім недалёка ад нас. У невялічкім мястэчку. Пашанцавала, значыцца.

Калі я атрымаў слаўную вестку аб тым, што іх цапнулі, мы разам з начальствам селі і паехалі адразу туды, проста ў тое мястэчка. Расказваць вам пра гэту паездку няма патрэбы. Мяне ўвесь час прабіраў страх, а можа, як часам бывае, яны пажаніліся ўжо, дык тады нічым не паможаш. Як гэта кажуць—і кароўка і вяроўка... З божай дапамогай мы прыехалі заўчас—шлюб, аказваецца, яшчэ не адбыўся. Але наскочыла новая бяда: паколькі я заявіў, што мяне абакралі, «таму і пагэтаму» іх, пакуль суд ды справа, пасадзілі ў кутузку. Пасадзілі—і мне зноў моташна стала. Што тут рабіць? Я ўзняў крык, што гэта яна сама мяне абакрала, пляменніца значыць, а ён, сын мой, якога я ўсынавіў, ні ў чым не вінават. Але як дайшло да таго, каб яго выпусціць на волю, Пейсю значыцца, ён раптам заартачыўся: «Калі сапраўды кралі, дык яны, кажа ён, разам кралі.» Чуеце навіну? Гэта яна, нягодніца, падбухторыла яго, каб ён так сказаў. Вось свалата!

Ну, ці трэба было пасля ўсяго гэтага быць добрым? Ці трэба было мець літасць над беднай сіратою? Я ўласна ў вас пытаюся—ці варта было гэта рабіць? Што і казаць, каштавала мне вельмі шмат крыві, пакуль я іх вызваліў, бо дзеля яго я вымушан быў абяліць і яе—і мы ўсе вярнуліся дамоў. Але не ў гэтым справа.

Ясна, што я больш яе і на парог не пусціў. Кватэру і стол для яе я наняў у аднаго сваяка на вёсцы, Мойша-Мэер яго імя. Чалавек просты, вясковец. А свайго сына, Пейсю, я дамоў забраў, і доўга прабіраў яго: «Як табе не сорамна? Бяру цябе ў свой дом, усынаўляю, запісваю за роднага, значыцца, сына і хачу даць табе некалькі тысяч рублёў пасагу, і зрабіць цябе наследнікам усёй сваёй маёмасці,—дык ты ні з таго, ні з сяго наладжваеш мне такі скандал!» «Які скандал?—пытаецца ён. Яна вам пляменніца, а я вам пляменнік—аднаго роду-племені». «Яна табе раўня, як свіння да каня,—кажу.—Твой бацька, кажу, быў мне родным братам і вельмі прыстойным чалавекам, а яе бацька, хай ён мне прабачыць, быў шалапутам, карцёжнікам...» Гляджу—мая жонка траціць прытомнасць: тарарам, шум. У чым справа? Ёй прыкра слухаць нядобрыя словы пра памёршага мужа сваёй сястры. Абодвы яны, кажа яна, у вечных нябёсах, дзе пануе адна праўда, дык трэба ім даць спакой. Чулі навіну? «А ён, кажу, усё-ж ткі быў, каб ён мяне прабачыў, вялікім распуснікам!» Яна зноў траціць прытомнасць. Гэта-ж проста пракляцце нейкае, кара божая нейкая, каб у сваёй уласнай хаце чалавек не меў права слова сказаць! Але не ў гэтым справа.

Словам, я ўзяў свайго Пейсю моцна ў рукі і давай пільна сачыць за ім, глядзець беспярастанку, каб ён яшчэ раз не сыграў ранейшай музыкі. І вось, з божай дапамогай, мне ўдалося накіраваць яго на правільны шлях. Ён даў сябе ўгаварыць і стаў, у шчаслівую гадзіну, жаніхом. Нявеста сама была не вялікае «ай-ай-ай», затое з прыстойнага дома, ды й сам цесць надзвычай шаноўны, з даска-

налым імем, за вялікім пасагам, з... з... з... Словам, якраз такі мёд, які да смаку маёй душы—і быў я, што называецца, на сёмым небе. Здаецца, добра? Га? Пачакайце-ж! Не кажы «гоп» пакуль не пераскок! Пачуеце зараз новую гісторыю.

Вяртаюся аднаго разу з крамы дамоў снедаць, мыю рукі, саджуся за стол, бласлаўляю хлеб надзённы, азіраюся—няма Пейсі! Адразу ў мяне стукнула думка: ці ён зноў не намазаў пяткі? Я бяруся за жонку: дзе Пейся? Не ведаю,—кажа яна. Паснедаўшы, імчуся стралой у горад. Туды-сюды—ніхто не ведае! Я зараз-жа выпраўляю пасланца ў вёску да сваяка, да Мойша-Меера, дазнацца, як там маецца Рэйзл? А ён мне адказвае лістом, што яна яшчэ ўчора кудысьці паехала, сказала, што едзе ў горад на матчыну магілу. Я ўз'ерапеніўся не на жарт і, зазвычай, выліў на яе галаву, на жончыну значыцца, поўныя цэбры злосці і гневу, бо ўсе мае злыбеды праз яе маю—гэта-ж яе ўласная пляменніца! Але не ў гэтым справа...

Я бягу ў паліцыю. Усюды рассылаю дэпешы. Выпраўляю ва ўсе канцы ганцоў. Шпыргаю золата ва ўсе бакі. Няма! Як у ваду рынулі! Б'юся галавой аб сцену, гвалту крычу, выходжу з сябе—нічога не памагае! Навошта доўга расказваць? Так цягнулася аж цэлых тры тыдні. Я ледзь не звар'яцеў! Раптам атрымліваю ліст з павіншаваннем. Яны, дзякаваць богу, пажаніліся ў шчаслівую гадзіну. Цяпер ужо мяне ані не баяцца. Чулі навіну? Цяпер за імі ўжо ніхто гнацца не будзе. Цяпер на іх ужо не будуць выдумляць розных брыдкіх небыліц. Чулі навіну? Яны любіліся яшчэ з маленства і цяпер дасяглі, дзякаваць богу, усяго чаго хацелі. А з чаго яны будуць жыць? Пра гэта, просяць яны, каб я не дбаў і не клапаціўся: ён рыхтуецца да экзаменаў, каб паступіць у універсітэт і вучыцца на доктара, а яна адукоўваецца на акушорку. Чулі навіну? А пакуль што абодвы яны даюць урокі і зарабляюць, з божай дапамогай, да пяцідзесяці рублёў у месяц. Кватэра ім каштуе шэсць рублёў з паловай, за стол яны плацяць восем рублёў, а на ўсё рэшта бог-бацька і ён не пакіне іх. Чулі навіну? Ну-ну, думаю, мае лебедзікі! Калі спачатку вы добра пасохнеце з голаду, а потым, калі маладыя казляткі прыдуць да воза старога таткі і пачнуць мяне прасіць-маліць, тады я вам пакажу, хто з кім разам свінні пасвіў! А на сваю жонку я сыплю грымотамі: «цяпер бачыш, кажу, што значыць чарвівы корань? Ад такога бацькі, кажу, шарлатана і карцёжніка, ці-ж можа выйсці што-небудзь дарэчнае?» І яшчэ шмат такіх вострых як шкло, слаўцоў сыплю ёй. А яна хоць-бы словам адным апраўдалася! «Ты-ж раней, бывала, траціла прытомнасць, калі я твайго швагрука супроць шэрсці гладзіў, чаму сёння прытомнасці не траціш?» Сцяна адказвае? Так і яна! «Думаеш, кажу, я не ведаю, што ты з імі ў адну дудку граеш, што ўсю гэту штуку ты ім падсказала?» Яна маўчыць, нібы язык адняўся. І сапраўды, што яна можа мне сказаць у сваю правату, калі яна нутром адчувае маю праваху? Яна ведае, што гэта мне страшна баліць. Ці-ж я зарабіў, каб за маю вялікую дабрату заплацілі мне такой вялікай няўдзячнасцю? Але не ў гэтым справа...

Вы пэўна думаеце, што ўжо гэтым справа канчаецца? Пачакайце, вы зараз пачуеце куды цікавейшыя рэчы.

Словам, мінуў цэлы год. Лісты яны пішуць, але пра грошы ні гу-гу! Раптам я атрымліваю новае павіншаванне—яна нарадзіла хлопчыка, і нас запрашаюць на радзіны! «Віншую цябе з такой урачыстасцю!—звяртаюся да сваёй жонкі.—Прыстойныя радзіны, кажу, а паімянуюць яго, мабыць, у чэсць твайго слаўнага швагрука»... Ні слова яна мне на гэта не бармоча, але становіцца ўся бледная, як палатно, апранаецца і шусь з хаты. Мабыць, хутка вернецца,—думаю. Чакаю гадзіну, чакаю дзве, чакаю тры, чакаю чатыры. Надыходзіць вечар, надыходзіць ноч. А яе няма ды няма! Словам, хоць вельмі коратка, але затое вельмі ясна. І што вы скажаце—жонка паехала да іх... А з таго часу ужо зараз праплылі два гады, яна не вяртаецца назад ды нават не думае аб тым, каб прыехаць дамоў. Ці чулі калі-небудзь на сваім вяку такое здарэнне? Спачатку я ўсё чакаў і думаў, што яна сама напіша мне некалькі слоў. Калі я пабачыў, што яна не піша, я сам паслаў ёй ліст, у якім пішу: «Гэта-ж нечуваная рэч! Ты-ж мяне зняславіла перад усім светам?!» На гэта яна мне адказвае, што яе свет там, у яе дзяцей. Чулі навіну? І што нованароджаны ўнучак,—якраз Гершале завецца у памяць майго брата Гершаля,—унучак гэты ў яе даражэй і мілей за ўвесь свет. Гэта такі Гершаль, кажа яна, што свет аб'ездзіш з канца ў канец, а другога такога не знойдзеш. Яна ў канцы ліста выказвае мне пажаданне, каб пражыў я сваю старасць у багацці ды пашане адзін, без яе... Чулі навіну?..

Пішу ёй яшчэ раз і яшчэ раз, і строга папярэджваю, што не пашлю ёй ні капейкі! Яна мне на гэта адказвае што ёй мае грошы зусім не патрэбны. Чулі навіну? Я зноў пасылаю ёй ліст, у якім пішу, што я пазбаўляю іх права на спадчыну і што ўсю сваю маёмасць і наяўны капітал пакідаю па завяшчанню на добрачынныя справы. Яна доўга не чакаючы, адказвае мне на гэта, што ёй нічога майго і не трэба. Чулі навіну? Яна жыве там у дзяцей у вялікай пашане, дай бог не горш надалей, бо Пейся ўжо прыняты ва універсітэт, а Рэйзл хутка стане акушоркай. Яны ўжо зарабляюць да сямідзесяці рублёў у месяц. Чулі навіну? А што да пазбаўлення спадчыны, кажа яна, я магу ўсю сваю маёмасць хоць зараз падараваць каму мне толькі на розум светлы ўзбрыдзе—нават на царкву магу ахвяраваць. Чулі навіну? А ў заключэнне яна піша, што я кончаны самадур. Увесь свет, кажа яна, за ўсё тое, што ты ўчыніў, на цябе пальцамі тыкае. «У чым-жа бяда, кажа яна, калі сын твайго брата ўзяў за жонку дачку маёй сястры? Чым гэта так ганьбіць твой гонар, стары ёлап?» Чулі навіну? «Каб ты, кажа яна, тут быў ды паглядзеў на дзіцё, на Гершаля, як ён тыкае пальцам у партрэт дзеда і кажа «дзедзя», ты-б, кажа яна, тры разы самаму сабе поўху даў». Чулі навіну? Так яна мне піша адтуль. Але не ў гэтым справа...

Ну, скажыце на міласць божую, ці не можна ад гэтага лопнуць? Уявіце сабе, як усё нутро ў мяне гарыць, калі прыходжу дамоў і тупаюся адзін-адным між чатырох сцен? І я пачынаю меркаваць сам з сабою: вось табе ўвесь век малаціў і кукіш зарабіў!.. Навошта мне жыць на божым свеце? За што зарабіў я такі канец? За што якое? За сваю дабрату? За свой паганы мяккі характар?..

Прабачайце мяне: калі пачынаю аб гэтым гаварыць, дык ад згрызот мяне душаць слёзы, і я не магу, не магу гаварыць!

Ой, не можна быць добрым. Чуеце? Не можна быць добрым!

1903

*Канец гісторыі нумар дванаццаць.*

## ГІСТОРЫЯ НУМАР ТРЫНАЦЦАЦЬ

# Пагарэлец

— Нашы яўрэі,—чую як балабоніць за маёй спіной нейкі чалавек, а пасажыры навастрылі вушы,—нашы яўрэі, чуеце, прыходзіцца прызнаць праўду, не карай божа за такія словы, нашы яўрэі шурум-бурнае племя. Што гэта азначае?—З яўрэем толькі зручна за адным сталом кугель есці, чытаць з аднаго малітвенніка, ды яшчэ спаць у вечным спакоі на адным магільніку, а ва ўсім іншым—ліха іх прадзедам ды й годзе!..

Вы здзіўлены, чаму я так накасавураны і чаму я так сыплю перцу на яўрэяў? Каб вы выпрабавалі на сабе маю злыбеду, ды каб яўрэі вас так няньчылі, як мяне, вы кідаліся-б з каменнямі на сустрэчных-папярэчных, ці сустракалі-б людзей з калом у руках! Але годзе! Я чалавек такі, каторы не любіць звягі з людзьмі. У мяне такая натура: лепш няхай маё пяройдзе. Альбо як гаворыцца: кожны край мае свой звычай. Што гэта азначае? Бог не цяля, ён знойдзе круцяля. Ліха іх прадзедам ды й годзе!..

Вось паслухайце факт: сам я, не пра вас кажучы, багуслаўскі—з Багуслава. З маленькага мястэчка. З маленькага, але ўдаленькага. З тых мястэчак, пра якія гаворыцца: каб іх густа сеялі і каб яны рэдка раслі. З тых мястэчак, што калі хочуць каго-небудзь пакараць ссылкай, дык няхай яго не ссылаюць у Сібір—ерундовіна! Няхай яго лепш ссылаюць да нас—у Багуслаў! І няхай яго там зробяць крамнікам, і няхай яму дадуць як мага больш крэдыту, каб ён мог там абанкруціцца не на жарт, ды каб ён яшчэ на закуску пакаштаваў, што гэта за смак—пажар, каб ён згарэў там да тла, да апошняй ніткі, каб ён астаўся гол як сакол і каб багуслаўскія яўрэі казалі-гаварылі, што ён сам пусціў «чырвонага пеўніка». Каб... Вы ўжо мабыць змікіцілі, што багуслаўскія яўрэі спрытныя на выдумкі, на хлусню, і што яны здольны напісаць на вас данос туды, куды трэба. Ліха іх прадзедам ды й годзе!..

З аднаго гэтага можаце сабе ўявіць, з кім вы маеце справу. Вы маеце справу з самым абяздоленым чалавекам, з чалавекам, якога сагнулі ў тры пагібелі: па-першае—я яўрэй, па-другое—я багуслаўскі яўрэй, а па-трэцяе—я багуслаўскі яўрэй-пагарэлец. Ды яшчэ які пагарэлец—з самых сапраўдных «пякельнікаў з пекла». Як у кнігах апісваецца! Я, значыцца, сёлета згарэў. А думаеце—як я згарэў? Як лучына, як саламяная страха! Я выйшаў з агню, нібы бык мяне злізаў. Што гэта азначае?—Як маці нарадзіла: з адным пупом. А як заўсёды водзіцца, у тую ноч мяне якраз дома не было! Дзе я быў? Быў я недалёка ад нашага мястэчка. У Тарашчы быў я. У роднай сястры на заручынах быў я. Вельмі прыстойныя зару-

чыны былі: з прыстойнай вячэрай, з прыстойнымі гасцьмі, не раўня нашай багуслаўскай свалаце. Можаце сабе ўявіць, што выпілі там паўтары вядра гарэлкі ды яшчэ і піва, ды яшчэ і віна! Словам, пагулялі на маё-прамаё... Што гэта азначае?—як сам пан бог так загадаў! Раптам атрымліваю нечаканую дэпешу: «Жена больна. Дети больны. Теща больна. Очень опасно». Я, канешне, адразу лахі пад пахі ды і гайда Мойша-Мордхай да гасподы! Прыехаў дамоў, аж там—гуга-а-а! Нічагусенькі няма! Ні дома, ні крамы, ні тавара, ні падушачкі, ні кашулі на целе—ані-ні... Чысцютка, хоць ты рэпу садзі! З чым на свет прышоў, з тым са света пайшоў. Што гэта азначае?—Быў бедняком і стаў жабраком... Жонка, бедная, галосіць. Дзеці, на яе гледзячы, плачуць. Няма дзе прытуліцца. Хоць адным пашанцавала, маёмасць была застрахавана, добра застрахавана. Вось якраз тут, уявіце сабе, і сабака закапаны. Каб адзін гэты пажар дык было-б яшчэ поўбяды, але ўся бяда была ў тым, што гэты пажар быў у мяне не першы. Каб вы зналі ды ведалі, я ўжо аднойчы гарэў. Таксама ўначы і таксама якраз тады, калі мяне дома не было. Аднак тады гэта, дзякаваць усемагутнаму, зышло гладка: прыехаў інспектар, перапісаў на папялішчы згарэўшае барахлішча ды ацаніў шкоду. Мы з ім тады пакончылі ў лагодзе ды ў згоддзе: на рубельчык больш, на рубельчык менш—і ліха іх прадзедам ды й годзе!..

Але, як той кажа: «Не ўсяды, як на дзяды!» Затое на гэты раз прыслалі такога інспектара, што крый божа! Гад над гадамі! І на маё, прабачайце, шчасце—не залатая ручка—не хапун! Чулі пра такіх? Не бярэ, хоць ты трэсні! Нюхае ды шукае, мацае ды капае. Пристаў да мяне, як смала, каб я растлумачыў яму, ды каб выясніў яму: як яно гарэла? Адкуль яно загарэлася? Колькі ўсяго-на-ўсяго згарэла? І чаму ані-ні, нічагусенькі не засталося, нават, ні следа?..

— «І я тое самае пытаюся!..—кажу.—Слова ў слова! Схадзіце, кажу, да самога пана бога і ў яго запытайцеся...»

— «Тут нешта нейкае ды не тое,—кажа ён.—Не думайце, што так хутка вы ў нас, татка, дастанеце грашаняткі...

Падабаецца вам такі мудрагель? Шэрых гусакоў палохае. Акурат, як той следчы наш! І следчы хацеў зблытаць мяне на словах! Гіш ты!.. Думае—на кволага сысуна натрапіў:

— Скажи-ка, Мошка,—звяртаецца ён да мяне,—скажи мне, любезный, отчего ты каждый раз горишь?—Гэта азначае, каб я растлумачыў яму прычыну, чаму я так часта гару?—«От пожара, кажу, ваша благароддзе»—ад агня, значыцца... «А чаму-ж гэта, кажа ён, усяго толькі за два тыдні да пажара ты застрахаваў маёмасць?» «А чаго-ж ты, панок, хацеў, кажу, каб я страхаваў сваё дабро праз два тыдні пасля пажару?..» «Чаму-ж, кажа ён, ты ніколі дома не бываеш якраз у той час, калі ў цябе гарыць?» «Ну, кажу, а каб я на той час бываў дома, табе ад гэтага было-б лягчэй...» «Чаму, кажа ён, табе тэлеграфавалі, што дзеці хворыя і што жонка хворая і што цёшча пры смерці?» «Гэта, кажу, таму, каб я вярнуўся дамоў як найхутчэй...» «Чаму табе лепш праўды не напісалі?» «Гэта кажу, таму, каб я не спалохаўся!..» «Цяпер, кажа ён, я разумею, якая ты птушачка. Ведай, кажа ён, што я цябе заарыштую.» «За што ды за якое?—пытаюся.—Што я вам кепскага зрабіў? Бя-

рыцё чалавека які богу душой вінаваты ды хочаце яго абяздоліць! Вялікі фокус, кажу, зарэзаць чалавека? Хочаце рэзаць—рэжце! Адно толькі, кажу, вы забываеце, што ёсць закон на зямлі і што ёсць бог на небе»... А ён—як ускіпяціцца, як уз'ерапеніцца: «Ты яшчэ пра бога гаворыш? Ты такі ды ты сякі!..» Але напляваць мне з высокага ганка на гэтага падпанка, бо я чысты, як чысцюткае золата. Хтосьці калісьці сказаў: «Не чапай ліха, калі спіць ціха». Што гэта азначае?—Не еш часнаку ніколі на сваім вяку. Тады ад цябе кепска не запахне і ніхто не охне ды не ахне. Ліха іх прадзедам ды й годзе!..

Здаецца, усё ідзе як трэба—роўна і гладка. Але не забывайце, што ўсё гэта дзеецца ў Багуславе! Ці-ж багуслаўскі яўрэй можа сцярпець, каб хто-небудзь дарма грошы атрымаў? Вось і давай пісаніну пісаць на дурных паперынах! Пайшлі разгульваць даносы, значыцца. Шмат хто пасылаў поштай, а шмат хто не паленаваўся сам сваёй уласнай асобай пайсці ў вобчаства і нагаварыць на мяне, што гэта нібы я сам пусціў «чырвонага пеўніка...» Ах, якія зладзюгі!.. Набрахалі на мяне поўныя торбы, нібы я наўмысне паехаў у тую ноч з дому, каб... Ах, якая свалата!.. Яны кажуць, што ў мяне ніколі не было гэтулькі тавару, колькі я ўказваю, і што ўсе рахункі і кнігі, што я прадставіў, фальшывыя рахункі і фальшывыя кнігі, і што яны гэта, кажуць яны, могуць давесці белым на чорным, шмактамі-фактамі, барбосамі-даносамі, ды яшчэ... яшчэ... яшчэ... ліха іх прадзедам ды й годзе!..

Але начхаць мне на іх, перапрашаю, вас, калі я ўсё-ж ткі чысты, як чысцюткае золата!.. Што-ж! Няхай сабе брахуны брэшуць, нібы я сам пусціў «чырвонага пеўніка»! Баюся іх, як пятай нагі рабой сучкі. Гэта-ж малюсенькае дзіцянё цяміць, што калі хочаш што-небудзь учыніць такое, дык ці-ж хто заграбае жар сваімі рукамі? На такія справы заўсёды знаходзіцца ахвотнічак—хвіціяліст божы з хеўры святых ангелаў серафімаў, які зробіць гэта так лоўка за траячку, што нават не ўкусіць і сабачка... Што? Хіба не так? А як яно робіцца ў вас?.. А тое, што яны плявузгаюць, нібы я наўмысне выехаў тады з дому, дык гэта пустамалоцтва! Былі заручыны ў маёй сястры?—як бог свят—былі! У мяне адна-адзіная сястра. Яна выдае замуж сваю сярэднюю дачку. Дык вы сядзелі-б дома і не паехалі-б да сястры на заручыны? Не, чаму вы маўчыце? Ці, па вашаму, мог-бы я быць прарокам і ўгадаць, што якраз тады, калі ў маёй сястры ў Таращчы павінны адбыцца заручыны сярэдняй дачкі, у мяне ў Багуславе адбудзецца пажар? Яшчэ пашанцавала, што я застрахаваў! А застрахаваў выключна ад цяперашніх пажараў. Як толькі надыходзіць лета, дык канца-краю няма гэтым пажарышчам па малых мястэчках. За пажарам—пажар. То ў Міры пажар, то ў Бабруйску. То ў Рэчыцы, то ў Лагойску. Гарыць народ!.. Я давай меркаваць: усе яўрэі—сваякі, гэта значыць, усе яўрэі гараць! Чым-жа я горшы за іншых? Навошта мне, ёлапу-дуралею, рызыкаваць крамай, пакладацца на цуд божы, калі магу яе застрахаваць? Ну, а калі ўжо страхаваць, дык чаму-ж не застрахаваць як мае быць? Альба—альба! Калі ўжо паспрабаваць «хазер» свініну, значыцца, дык ужо так, каб добра прылягло і каб сала па барадзе цякло. Чорт не возьме гэтага «вобчаства». Яно не збяднее ад таго,

калі заплоціць мне залатым макам крыху з гакам. Ліха іх прадзедам ды й годзе...

Я накіраваўся спаквольна да свайго агента ды й кажу яму ў лагодзе і згодзе: «Слухай, Зайнвель! Справа сякога і такога роду. Народ паўсюды гаворыць, навошта мне рызыкаваць? Хачу, каб ты мне застрахаваў маю краму». «Ты гэта ўсур'ёз?»—пытаецца ён і пазірае на мяне з нейкай дзіўнай усмешачкай. «Чаму ўсміхаешся, кажу, як нямытае падла?» «Я, кажа ён, вельмі задаволены і вельмі шкадую». «Што значыць, кажу: ты і задаволены, ты і шкадуеш?» «Шкадую, кажа ён, што я вас калісьці застрахаваў. А задаволены таму, што я вас у другі раз не буду страхаваць». «У чым справа?»—пытаюся. «Так сабе, кажа ён, бо вы мяне ўжо адзін раз абшусталі.» «Калі я цябе абшустаў?» «Тады, як вы гарэлі». «Сказаў-бы хаця «не цяпер кажучы», гарэза ты аблупленая!» «Не цяпер кажучы, не тут кажучы, нікому гэтага не жадаю»,—кажа ён ды рагоча мне ў самы твар. Ах ты, жулябія!.. Уявіце сабе, я знайшоў другую мясцінку, дзе страхавацца. Падумаеш—гора якое! Ці мала грабніц у Егіпце?—Гэта значыць,—ці мала ў нас вобчастваў? Бацюхна святы! Агентаў гэтых—хоць ты з іх гаць гаці! Напаткаў я аднаго малойчыка. Ён толькі што ажаніўся, толькі што вылупіўся з яйца—агент нейкага страхавога вобчаства, работы шукае. Ну, вось гэты самы і застрахаваў маю краму з вялікай ахвотай. На цэлы дзесятак тысяч асігнацыямі. Чаму не? Ці я не магу мець у краме тавару нават больш чым на дзесяць тысяч карбаванцаў-шмардаванцаў? «Товар в обороте...»—Што гэта азначае?—Сягоння няма, а заўтра будзе... А тое, што багуслаўцы цяпер брэхам брэшуць, нібы я ніколі не меў гэтулькі тавару ў сваёй краме? Хто ім паверыць? Няхай даводзяць, няхай брэшуць, няхай малоцяць языкамі, ліха няхай возьме іх прадзедаў ды й годзе!..

Мне пашанцавала тым, што ў той час, калі я страхаваў, у нас у Багуславе ніхто не ведаў пра гэта. Вось якраз таму ўсё гэта скончылася шыта-крыта... А пасля ўжо, калі адбылося няшчасце, калі я згарэў у другі раз, значыцца, усе мае мілыя браткі кінуліся ў вір галавой да агентаў: «Дзе было застрахавана?» «Калі было застрахавана?» «На колькі было застрахавана?..» А калі даведаліся, што на дзесяць тысяч—узняўся шум і крык, як на пажары! «Як-жа гэта? Дзесяць тысяч?!. Мойша-Мордха возьме дзесяць тысяч рублёў!..» Няхай вам хоць-бы восемдзесят ліхалеццяў! А якая вам бяда, калі Мойша-Мордха возьме дзесяць тысяч? Баіцёся, каб хаця Мойша-Мордха лёгкі рублік не зарабіў? А калі-б здарылася наадварот, калі-б Мойша-Мордха павінен быў-бы дакладваць да пажара, вы-б яму выплацілі страту?.. Гэта-ж вам не жартачкі—Багуслаў! Гэта-ж вам не хаханькі—Багуслаў. Горад самых чэсных людзей! Горад адных святых і праведнікаў! Грудзьмі за праўду стаяць!.. Крыўды цураюцца! Мне здаецца, бачыш перад сабою такое няшчасце, чалавек выскачыў з агня ледзь з душой, гэтулькі дабра ў яго пайшло дымам!.. А нават, калі прапала ўжо не так шмат дабра-дык у чым рэч?.. Уявіце сабе, каб ім гэтулькі скул ды скулянятак на розных мясцах, колькі я тут зараблю больш... значыцца, менш дзесяці тысяч! Ну, і што з таго? А калі-б нават зарабіў тут усе дзесяць тысяч цалкам дык што? Каго гэта тычыцца?.. Чыя галоўка

павінна быць гэтым занята?.. Чалавек гарыць—няхай сабе гарыць! Вам зайздросна—гарыце і вы! Хоць да тла згарыце!.. Каб гэта па чалавечаму ўвайсці ў палажэнне другога чалавека і падумаць: а можа ён дайшоў да таго, што хоць ты проста з моста? А можа ён абцяжараны вялікай сям'ёй? А можа яму трэба выдаць замуж дачку, залатую дзяўчыну, удалую, слаўную? А можа чалавек збяднеў да таго, што нават не мае чым свату заплаціць? А можа ў чалавека ёсць сын, вельмі здольны хлопчык, які рвецца ў школу, хоча, бедны, вучыцца, а няма чым плаціць? А можа чалавек б'ецца, як рыба аб лёд, увесь клёк з сябе выцягвае—дзеля чаго? Дзеля жонкі і дзяцей! Гэтага ніхто не бярэ пад увагу! Кожны тут судзіць мяне толькі аднабакова і кожны думае: «А можа бог злітуецца?» Гэта значыць, можа бог злітуецца над ім—а я тут скручу карак... Бо кожная мною заробленая капейка—яму атрута... Няхай ліха возьме іх прадзедаў ды й годзе!

У чым-жа справа? Скажу вам па шчырасці. Калі мне зайздросцяць крамнікі—яшчэ не так крыўдна: Зайздросцяць бednякі, бо грошы бяру я, а не яны. Але пры чым тут багачы? Больш чым на іншых у мяне кіпіць злосць на сына нашага самага багатага чалавека. У багача ёсць сынок, дык завецца ён «Мойша-мудрэц, маляваны дубец». Дзіўны чалавечак, цёпленькі, хітранькі, міласэрдненькі, не церпіць процанты, сыпіць направа і налева грошы на дабрачынныя справы. Чалавечак надзвычай прыстойных паводзін... Кожны раз як толькі сустрэнецца са мною, абавязкова спыніць мяне на вуліцы: «Што чуваць, рэб Мойша-Мордхе, наконт вашай бяды? Я чуў, кажа ён, што вы мелі вельмі вялікую страту!..» Пры гэтым ён усоўвае рукі ў кішэні, выпукляе жываток, казерыць у мяне цялячыя вочы і надзьме такую фізіяномію, ажна хочацца ўклеіць яму пару гучных аплявух... Ой як хочацца!.. Але цярпі, казак, атаманам будзеш. Дзе-ж ты дзенешся? Кажуць-жа: «Лупі скуру з падлы, ды не чакай міласці людской...» Як гэта разумець?—хоць лопні, а трымай фасон! Няхай толькі бог дасць, каб як найхутчэй адбыць следства. Над маёй галавою яшчэ вісіць следства. Часта выклікаюць мяне да следчага. Кожны раз усё новыя запытанні... Хаця гэта мяне абыходзіць, як леташні снег. Бо ў чым-жа, уласна кажучы, справа? Чаго я іх баюся, калі я чысты, як чысцюткае золата?.. Але пакуль суд ды справа, у мяне ўзялі падпіску, каб я не адлучаўся з дома. А я, як бачыце мяне жывога, раз'язджаю і ўдзень і ўночы. Хай лопнуць, хай трэскаюцца багуслаўскія яўрэі! Для кожнага галоднага ў мяне хлеб і соль на стале. Што гэта азначае? Хто хоча, няхай сабе, як цюцька сочыць за мною, куды я езджу і няхай сам сябе за сядзібу ўкусіць! Ліха іх прадзедам ды й годзе!..

Вы можа падумаеце, што паколькі ў мяне такая напасць са следствам, «вобчаства» не хоча са мной і гаварыць? Каб гэтулькі скул сынку нашага багача, «Мойшу-Мудрацу, маляванаму дубцу» на яго дурацкай лабаціне, колькі тысяч мне «вобчаства» прапаноўвае! Вы, мабыць, запытаецеся, чаму я не бяру?—Эт! Вы, мабыць, яшчэ не ведаеце маю натуру. Я, праўду кажучы, чалавек заядлы. Хто захоча мяне ўкусіць, той зубы паломіць. У мяне такі закон, як у пісанні сказана: «Калі ты пачаў падаць, дык напэўна ўпадзеш».—

Гэта значыць: калі ты палез у ваду, дык ужо не пытайся броду... Следства? Хоць-бы дваццаць следстваў! Чаго мне баяцца, калі я чысты, як чысцюткае золата?.. Пакуль што мне нязручна толькі вось з чым—грошы мае сіротамі бадзяюцца без руху і дзьмуху і я пакуль што да таго сціснуты без грошай, нібы ў мяне пятля на шыі і няма чым дыхаць! Вось гэта сапраўды моташна! Сапраўды балючая крыўда. Грошы, якія мне належацца, я вырву з мясам! Ці-ж ім дапаможа іхняя ўпартасць? Дык чаму яны з мяне цягнуць жылы ні за што, ні пра што? Аддайце мне мае грошы, крычу. Мае грошы аддайце мне! Разбойнікі, што вы маеце да маіх дзяцей?—крычу я ў гвалт. Ці шмат я ў вас вымагаю? Аддайце мне мае дзесяць тысяч рубельчыкаў, грошы маіх дзяцей! Ці-ж гэта мае грошы?—Гэта грошы маіх дзетак! Аддайце мне грошы маіх дзетак, і дайце мне спакой, і няхай гэтаму будуць канцы, і няхай ліха возьме вашых прадзедаў ды й годзе!..

Але ці дапамогуць крыкі? Ці дапамогуць пустыя гутаркі? Пакуль што кепска-кепска. Надзвычай кепска! Ад справы адбіўся. Вяселле дачкі адклаў: пасагу няма. Дзяцей вучыць трэба—грошы плывуць, дзякаваць богу, дзень-у-дзень. Апошняе высыпаеш. Лёгка не пройдзе і гэтае вечнае хваляванне! Думаеце, я сплю па начах? Сон ані мяне не бярэ! Праўда, няма чаго баяцца. Бо чаго мне баяцца, калі я чысты, як чысцюткае золата? Але дзе ты дзенешся? Ты-ж толькі чалавек. Розныя дурныя думкі лезуць у галаву: і следства, і пракурор, і багуслаўскія яўрэі, якія хочуць ісці ў сведкі супроць вас і хочуць прыняць прысягу, што сваімі вачамі бачылі вас уначы з шабасавай свечкай на гарэ... Думаеце, багуслаўскія яўрэі—гэта жарты? Паверце мне, што ёсць у нас адзін нейкі Давід-Герш—каб гэта мы з вамі зараблялі ў кожны тыдзень, колькі гэты Давід-Герш ужо выцягнуў у мяне грошы толькі за тое, каб трымаць яго сабачы язык на замку! Ён якраз за панібрата са мной, і якраз з добрай сям'і, і якраз з лагоднай усмешкай, з «божым блаславеннем», з «божай дапамогай», і ліха няхай возьме яго прадзедаў ды й годзе!...

Цяпер вы ўжо самі бачыце, што гэта за яно—Багуслаў? Вы ўжо самі разумееце цяпер чаму ў мяне так гарыць сэрца, як успомню багуслаўскіх яўрэяў? Пачакайце-ж крыху. Няхай мне толькі дапаможа бог, і я забяру належачыя мне карбаванцы—вось тады я расквітаюся з імі!.. Перш-на-перш, ахвярую пэўную суму на патрэбы горада. Не магу сказаць колькі дам, але прынамсі не менш, чым даюць нашыя самыя паважаныя багачы. Паверце мне, што мне не будзе сорамна перад нашым найбольшым багачом. У дзень свята, калі буду стаяць пры торы ў сінагозе, стараста прачытае мне блаславенне божае ўва ўвесь голас затое, што «рэб Мойша-Мордхе падарыў дзесяць фунтаў свечак для патрэб божага дома». Зазвініць мая слава, а нашы парахвіяне хай трэснуць ад згрызот! Пра больніцу і талмуд-тору і казаць няма чаго! У больніцу—поўтузіна палатняных кашуль для хворых. А ў талмуд-тору бедным дзеткам-школьнікам—новыя камізэлечкі... Толькі ўжо пасля ўсяго гэтага наладжу вяселле сваёй дачкі. Але што гэта будзе за вяселле! Вы, пэўна, думаеце, што гэта будзе звычайнае вяселле, як у любога нашага местачкоўца? Ой, не! Вы, значыцца, яшчэ не ведаеце на што я здолен!

Я, калі наладжу вяселле, дык гэта будзе вяселле над усімі вяселлямі. Ого-го! Яшчэ такога вяселля ў нас ніхто не бачыў ды не чуў. Шацёр будзе на ўвесь сінагагальны двор! Музыкантаў запрашу абавязкова з Смелы! Абед для бедных—не менш чым на трыста чалавек. Кожнаму—пшанічная булачка, ёмкая чарка гарэлкі, багатая міластыня: пятачок на дваіх... А на вясельны баль—запрашу ўвесь горад з канца ў канец. А ворагаў, якія хацелі мяне ўтапіць, наўмысне пасаджу на самым ганаровым месцы. Наўмысне вып'ю з імі. Наўмысне пайду з імі ў скокі, і яшчэ раз го-ца-ца, і яшчэ раз го-ца-ца! Грай, музыка! Жар смычкамі на ўсе струны! Давайце танцаваць, браткі! Вось які я чалавек! Вы яшчэ мяне не ведаеце. Чуеце, што я вам кажу? Ані не ведаеце мяне! Я, калі загуляю, калі разыйдуся, тады грошы ў мяне, як трава. Яшчэ адна кварта гарэлкі, і яшчэ адна кварта гарэлкі, і—«памры, душа мая, з філістымлянамі!..» Што гэта азначае?—Піце, браткі, колькі ўлезе! А пасля—вон з маёй хаты і ліха вашым пра-прадзедам ды й годзе!..

*Канец гісторыі нумар трынаццаць*

## ГІСТОРЫЯ НУМАР ЧАТЫРНАЦЦАЦЬ

# Не шанцуе

— Вы гаворыце пра злодзеяў?—звярнуўся да нас адзін франтаваты пасажыр з саквояжыкам у руках, які пільнаваў, як зяніцу вока (справа была ўначы на вакзале, у зале другога класа; мы сядзелі там утрох і чакалі кур'ерскага цягніка, што спазніўся на гадзіну з чвэрткаю, і гаварылі пра злодзеяў і крадзяжы).—Вы гаворыце пра злодзеяў? Калі ўжо пра злодзеяў, дык лепш дазвольце мне. Дзе вы яшчэ знойдзеце гэтулькі зладзействаў, як у нашай справе? Жартачкі—брыльянты! Спакуса брыльянтаў такая вялікая, што нават сярод саміх пакупнікоў ёсць асобы са спрытнымі рукамі: цацаляля ды ў кішэні. І не так сярод пакупнікоў, як сярод пакупніц, сярод дам. За кожнай дамай, якая нам незнаёма, мы пільна сочым сотняй вачэй. Ды не так лёгка цапнуць у ювеліра тавар. Магу пахваліцца, што з таго часу, як я гандлюю брыльянтамі, мяне яшчэ ні разу не абакралі. Аднак, калі суджана няшчасце, тады ніяк не выкруцішся. Вось паслухайце адно здарэнне, якое адбылося са мною.

Я, уласна кажучы, не ювелір. Гэта значыць, я ювелір, але ювелірным рукамёслам не займаюся. Я толькі купец, які гандлюе брыльянтамі. Я купляю і прадаю брыльянты, галоўным чынам, оптам, і, галоўным чынам, у чужых гарадах, на кірмашах, ці наогул, калі здарыцца недзе пакупнік, я бяру свой саквояжык, вось гэты самы, у рукі, саджуся ў цягнік і еду.

Павінна-ж было здарыцца са мною аднаго разу такая прыгода. Я дачуўся, што ў Егупецы жыве нейкі багаты чалавек, які выдае замуж дачку. Тут ужо, безумоўна, чалавеку патрэбны брыльянты. Хаця, між намі кажучы, і ў Егупецы ёсць нямала ювеліраў, можа нават больш, чым трэба. Але гэта мяне зусім не тычыцца. Няхай сабе там будзе хоць восемнаццаць тысяч ювеліраў, вы мне толькі дайце пакупніка, дык я ўжо з ім спраўлюся. Ён будзе купляць у

мяне, а не ў іх. Прадаваць брыльянты—гэта ўмельства, якое трэба ведаць. Трэба кумекаць, што паказаць, як паказаць, і каму паказаць. Мне зусім не трэба фарсіць перад вамі, ды я наогул не люблю бахвальства. Але калі пагаворыце аба мне з ювелірамі, яны ўсе вам скажуць, што канкурыраваць са мною не лёгка. Там, дзе іншы прадасць за сто рублёў, я прадам за трыста. На гэта я майстар.

Цяпер, значыцца, еду ў Егупец. З сабой я ўзяў, уявіце сабе, нямала тавару. Нам усім разам не шкодзіла-б мець такое багацце, хоць яно ўсё ўмясцілася ў гэтым вось невялічкім саквояжыку. Усеўся я ў вагоне ды сяджу. Само сабой зразумела, сяджу абапёршыся шчыльна аб гэты чамаданчык, і не адыходжуся ад яго ні на крок. Пра сон і гаварыць няма чаго. Не да сну, калі едзеш з такім таварам. Кожны раз, калі ў вагоне з'яўляецца новы пасажыр, сэрца ў мяне калоціцца: а можа гэта злодзей. На носе ні ў кога пра гэта не напісана.

Праехаўшы такім чынам цэлы дзень і ўсю ноч, не спаўшы і не еўшы, я з божай дапамогай прыбыў у Егупец да багача, расклаў перад ім сваю крамку, гаварыў, угаварваў, нагаварыўся да ачмурэння, і, прадаў, як часам бывае, кукіш, а не тавар.

Багачы, не хачу пра іх плёткі плясці, аднак, шчыра кажучы, адна халера мала для іх! Здорава напсавалі яны мне чырвонай жыжкі. Аглядаюць, абмацваюць кожную штучку паасобку, абнюхаюць, налюбуюцца, нацацкаюцца, а як даходзіць да пакупкі—дзе там! Ані блізка! Прапала! Нічога тут ужо не зробіш! Утаргаваў—не ўтаргаваў, а трэба ехаць далей. Думаеце, праваронюю якоенебудзь шчасце? Нічога падобнага, а проста гарачка такая. Я, звычайна, бяру рамізніка і гайда на вакзал. Раптам чую, нехта ззаду, за маёй спіною, крычыць: «Дзядзечка, дзядзечка!» Я адварачваюся—за мною бяжыць нейкі малады чалавек, трымае ў руках саквояжык, цюцелька ў цюцельку, як мой, ды й кажа:

— Вось вам... вы згубілі...

Якое страхоцце, які жах! Гэта-ж мой чамаданчык! Дзе? Калі? Якім чынам? Калі ўжо так суджана было, дык ён выслізнуўся з-пад маёй рукі, а вось гэты малады чалавек нагнуўся і падняў—ды ўсё! І справа ясная! Я кідаюся да маладога чалавека, паціскаю яму руку, дзякую: «Дзякуй вам, няхай вам бог дае, кажу, шчасця і здароўя! Дзякуй, кажу, і яшчэ раз дзякуй!» «Няма за што»,—кажа ён. «Што значыць, няма за што? Вы-ж мне, кажу, жыццё выратавалі. Вы-ж, кажу, зрабілі такі рыцарскі ўчынак, што я вам гатоў падарыць за гэта і неба і зямлю. Скажыце мне, кажу, колькі даць вам? Скажыце, не саромцеся.» І я пры гэтым бяруся за кішэнь. Але ён спыняе мяне. «Калі самі гаворыце, што з майго боку быў рыцарскі ўчынак, дык навошта, кажа ён, мне гэта прадаваць за грошы?» Пачуўшы такія далікатныя словы, я кідаюся яго абнімаць і цалаваць: «Каб вас, кажу, бог узнагародзіў за вашу дабрачыннасць, за тое, што вы са мною так слаўна абыходзіцеся! Хоць заскочым, кажу, куды-небудзь перакусіць, выпіць па чарцы віна!» «Чарку віна, кажа ён, гэта з прыемнасцю! Чаму не выпіць? Не адмоўлюся!» І мы абодва селі на рамізніка. Дзе там вакзал? Які тут вакзал? Мы адразу едзем у кафе, на выпіўку і закуску.

Прыехаўшы ў кафе, я ўзяў асобны кабінет, загадаў падаць самых найлепшых закусак і трункаў і рассеўся пагутарыць з маладым чалавекам. А ён, апроч таго, што, можна сказаць, выратаваў маё жыццё, мне наогул спадабаўся. Сімпатычны малады чалавек, з прыемным тварам, з глыбокімі, чорнымі, сур'ёзнымі вачыма—ну проста золата! А да ўсяго гэтага ён яшчэ такі сарамлівы—аж страх. Я прасіў яго, каб ён не цырамоніўся і каб загадваў падаваць к сталу чаго толькі пажадае—самага лепшага і смачнага. Разумеецца, колькі ён ні заказваў, я ўсё прасіў падаць удвойчы. Выпілі мы і закусілі, не шкадуючы—ад шчодрай рукі. Разумеецца, не так, каб ужо быць вельмі п'янымі. Наш брат ведае меру. Усё-ж ткі мора ўжо мне было па калена, і я звярнуўся да маладога чалавека: «Ці вы хоць ведаеце, кажу, што вы са мною зрабілі? Тое, што вы мне выратавалі такое багацце, пра гэта няма чаго і казаць. Дай бог, каб мы абодвы, кажу, мелі гэтулькі грошы, колькі грошы я вінаваты за гэты тавар. Тавар не мой, а бадай цалкам чужы. Вы проста выратавалі мне і чэсць і жыццё. Бо калі-б я вярнуўся дамоў без гэтага саквояжыка, кажу, мае крэдыторы напэўна думалі-б, што я ўчыніў нейкі фокус, які нашыя ювеліры часта ўжываюць. Яны спускаюць тавар і распаўсюджваюць чуткі, што іх абакралі. Мне, кажу, прышлося-б купіць сабе вяроўку і павесіцца на першай асіне! П'ю, кажу, за ваша здароўе! Няхай бог дасць вам гэтулькі шчасця, як вы самі сабе жадаеце, і бывайце здаровы, кажу, і дайце расцалуемся, кажу, бо мне трэба ехаць». Я сардэчна развітаўся з маладым чалавекам, расплаціўся ў кафе, хачу ўзяць саквояжык—дзе саквояжык? Дзе малады чалавек? Няма!

Я страціў прытомнасць.

Страціўшага прытомнасць, мяне пачалі адхайваць. Калі мяне адхаялі, я страціў прытомнасць у другі раз. А ўжо потым, калі я добра ачухаўся, я ўзняў сапраўдны гвалт, падняў на ногі ўсю егупецкую паліцыю, паабяцаўшы здаравенны куш, і гайсаў з імі па ўсіх зладзейскіх прытонах, пабывалі мы па ўсіх мышыных шчылінах, пазнаёміліся з блатнымі «майстрамі» з сусветнай славай. Мой малады чалавек нібы праз зямлю праваліўся! Я ўжо канчаткова выбіўся з сіл. Астачарцеў мне ўвесь свет. І я лёг у сваёй гасцініцы на ложку і думаю сабе: як-бы мне расквітацца са сваім паганым жыццём? Рэзацца нажом? Усунуць галаву ў пятлю? Ці можа ў Дняпро кінуцца? І вось у той час калі я ўглыбіўся ў такія чорныя думкі, чую раптам стукат у дзверы... Хто там? Прышлі зваць мяне ў паліцыю: спаймалі, аказваецца, гэту птушку з саквояжыкам, з усімі каштоўнасцямі!

Ці яшчэ трэба вам расказваць аб тым, што са мною тварылася, калі я пабачыў свой саквояжык са сваімі брыльянтамі? Я зноў страціў прытомнасць. У мяне ўжо такая натура—ледзь што, трачу прытомнасць. Калі ачухаўся, я падышоў да майго маладога чалавека і запытаўся ў яго: «Я не разумею, кажу, растлумачце мне. У мяне гэта не тоўпіцца ў галаве! У чым-жа тут закавычка: як знайшлі мой саквояжык, вы пагналіся за мною, звярнулі мне яго і нават адмовіліся ад узнагароды за свой рыцарскі ўчынак, а калі я пасля на хвіліну адвярнуўся, вы ўзялі ды слямзілі ўсё маё дабро, усю маёмасць, усю душу? Вы-ж, кажу, ледзь не загубілі мяне!

Гэта-ж было мне ўжо тры чвэрці да смерці!..» Малады чалавек таропіць у мяне свае глыбокія, сур'ёзныя чорныя вочы, ды й кажа мне зусім спакойна: «Якое дачыненне мае адно да другога? Дабрачыннасць—дабрачыннасцю, а красці—гэта, кажа ён, мой хлеб»... «Малады чалавек, звяртаюся да яго, хто-ж вы такі?» «Кім-жа я магу быць?—кажа ён.—Я, кажа ён, нешчаслівы злодзей, ацяжараны вялікай сям'ёй і вялікі шлімазарнік. У мяне, кажа ён, не ўрокам кажучы, лёгкі хлеб, але мне ані не шанцуе. Наогул,—кажа ён,—скардзіцца не магу. Дзякаваць богу, работы па горла—крадзі, дзе хочаш і колькі хочаш! Толькі адна бяда,—кажа ён,—гэта мне бадай што ніколі не ўдаецца. Не шанцуе!..»

Пасля ўжо, калі я сядзеў у вагоне, я агледзеўся, што ў мяне тупая галава: гэта-ж я мог за нейкую дробязь выкупіць гэтага злодзея. Навошта мне быць яго загубцам? Няхай пераходзіць у чые-небудзь іншыя рукі...

А можа маеце ахвоту купіць пару брыльянтавых завушніц па сходнай цане? Вось я вам тое-сёе пакажу. Такія брыльянты вам і ў сне не сніліся. Першы гатунак—прыма!..

1910.

*Канец гісторыі нумар чатырнаццаць.*

## ГІСТОРЫЯ НУМАР ПЯТНАЦЦАЦЬ

# Суджана няшчасце

Паважна і спакойна, адчаканьваючы кожнае слова, нам расказваў гісторыю пра самога сябе адзін прыстойны чалавек. На ім быў святочны сурдут, шаўковая шапка з шырокім верхам. Твар выпешчаны, крыху заклапочаны, а шырокі белы лоб у зморшчынах.

— Калі суджана,—апавядаў ён,—няшчасце, яно трапляе само акурат у тваю хату. І няхай у цябе будзе хоць восемнаццаць галоў на карку, ты ад яго не асцеражэшся. Я, як вы мяне бачыце, чалавек спакойны, ціхі, не імчуся, не ганяюся за гонарам, не люблю грамадскіх спраў, абмінаю старшынства, розных там пачэсных годнасцей, і таго, і сяго і таму падобнае.

Дык вось, павінна была здарыцца такая гісторыя. У нас у мястэчку памёр адзін чалавек, нейкі «Менаша-Мужык». Яго так празвалі таму, што ён быў, няхай ён мне прабачыць, чалавек просты, нават малітваў не ведаў; як гэта кажуць: «Ні бэ, ні мэ, ні кукарэку». Не ўмеў ні чытаць, ні пісаць, ні таго, ні сяго, і таму падобнае.

Эге! Быў ён просты, як тая капуста, але вельмі справядлівы чалавек, без канца чэсны. У яго слова было свята, чужая капейка—святая святых. А быў ён скупіндзя-скупіндзей! Абодва вочы гатоў быў выкалаць за адзін свой грошык. Праз усё сваё жыццё ён грошык да грошыка збіраў-збіраў, збіраў-збіраў, і раптам... стоп! Ні з таго ні з сяго ўзяў ды памёр. Што-ж! Памёр—дык памёр! Вечная яму асалода ў божых нябёсах... Калі Менаша памёр, прыходзяць да мяне людзі ды і кажуць: вось таму, ды таму, што нябожчык Менаша пакінуў даволі ёмкую капеечку, даўжнікоў,

маёмасць, дамы, і тое і сёе, і таму падобнае,—і дзеля таго і дзеля гэтага, што няма каму кіраваць яго справамі, бо бедныя дзеці—сіраты—яшчэ малыя, чатыры хлапчукі ды адна дзяўчынка, а яна сама, удава значыцца—жанчына, і нічога ў грашовых справах не мекае і не кумекае, таму я павінен стаць у іх гаспадаром, апякуном значыцца. Я, канешне, і рукамі і нагамі адмахваюся: на што якое яно мне далося—апякун-паркун? Пятае кола да воза? Але хоць плач ім адчэпнага—не адстаюць: гэта-ж вы ў нас адзіны ў горадзе, і тое, і сёе, і таму падобнае. Шкада, такая маёмасць, і які толк будзе з дзяцей—бедных дробных сіротак, чатырох хлапчукоў і адной дзяўчынкі?.. Ну, што гэта вам значыць? Вы будзьце апякуном, а яна, удава, значыцца, будзе апякуншай!.. Я ў іх літасці прашу: што вы да мяне маеце? Які я вам паркун, калі нават не ведаю, чым гэта пахне?.. А яны прычапіліся да мяне, як тая смала: як гэта можна адмаўляцца? Дзе-ж гэта чалавечнасць? Не забывайцеся, што гэта вялікая добрачынная справа, і тое, і сёе, і таму падобнае...

Словам, я не мог адмовіцца і зрабіўся паркуном, апякуном значыцца, «утверджоным» апякуном. А яна, удава, значыцца—апякуншай. Калі я ўжо зрабіўся, з божай дапамогай, паркуном, апякуном, значыцца, дык я перш-на-перш пачаў падбіваць рахункі—колькі асталося грошай у бедных сіротак? Згарусціў я ў адно дзе толькі была ў іх такая-сякая маёмасць: дом, краму, каня, карову, і тое, і сёе, і таму падобнае. Усё гэта я перагнаў на грошы... Не так лёгка, уявіце сабе, гэта мне ўдавалася. Таму што Менаша-Мужык, святой памяці, каб яму там лёгка ікалася, быў багаты, фундаментальны гаспадар, што называецца—«міраед»! На якую-б суму ні ацэньвалі яго багацце—аказвалася ўсё больш ды больш...

На паперы ў яго нічога не было занатавана: быў, няхай ён мяне прабачыць, чалавекам няспрытным да пяра. Кожны раз вынаходзіўся новы даўжнік. Яго капіталы былі растыцканы ва ўсе канцы. Усе ў ваколіцы былі яму вінаваты грошы. Вось, разумееце, усё гэта я павінен быў лавіць рукамі ў паветры, памятаць, клапаціцца, збіраць у адно. А што мне было рабіць? Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж! А ўсё гэта—сам адзін. Бо яна, апякунша значыцца, «кухонная баба». Адно толькі ведае, што сама абедае. Праўда яна вельмі чэсная, але божая кароўка. Ні на псік не разумела, што такое добры вэксель і што такое кепскі вэксель, што такое сёе, што такое тое, і таму падобнае!..

Словам, згарнуў я рубельчык да рубельчыка ў адну кучу—торбачка ніштаватая—ледзь падняць. Згарнуўшы грошы ў адно месца, з вялікімі клопатамі, з немалымі пакутамі,—трэба-ж было нешта з імі рабіць. Бо які-ж гэта толк праядаць гатовы рубель. Дзецям патрэбна кашулька, чаравікі, і тое, і сёе, і таму падобнае!.. А галоўнае—есці!.. Яны могуць так доўга есці, аж пакуль з'ядуць да апошняй скарынкі... Што-ж будзе тады? Бачыце, кожны чэсны чалавек павінен дбаць і пра заўтрашні дзень. І пачаў я думаць і гадаць на розныя лады, што рабіць з грашмі? Наладзіць таргоўлю? Хто гэтым будзе займацца, калі яна сама, апякунша значыцца,—божая кароўка, а дзеці—сіроткі—яшчэ малыя?.. Аддаць у доўг? Аддаць на процанты? А калі раптам даўжнік абанкруціцца, хто будзе вінаваты?—Паркун!.. Тады я пачаў мазгаваць па

інакшаму: ці патрэбна лепшая справа за маю ўласную справу? Га? А каму-ж я магу больш давяраць, чым самому сабе? Га? Я, дзякаваць богу, карыстаюся крэдытам усюды, на ўсіх кірмашах, а рэпутацыя мая—дай, божанька, не горш і надалей. Ці-ж у тысячу разоў не лепш будзе, каб гэтымі грашмі заскварыць сваю ўласную краму? Га? Асвяжыць яе і такім таварам і сякім таварам? Га? А яшчэ калі купляеш тавар за наяўны рубель, дык гэта мае, кажуць людзі, зусім іншы смак. Бо кожны хоча сустрэцца лоб-у-лоб з жывым рубельчыкам. А жывых рубельчыкаў у наш час не відаць—днём з агнём шукай! Паўсюды—адны паперыны, адны вексалі, тут пяром падмахнуў, там пяром падмахнуў, і тое, і сёе, і таму падобнае...

Словам, улажыў я ўсе грошы ў сваю краму, і, не гаварыце,— справа разгарнулася не зусім кепска, можна нават сказаць, зусім добра! Торг пайшоў куды больш жвавы. Бо калі ёсць удоваль тавару, зусім інакш таргуецца. Ёсць пагаворка: калі ў рацэ шмат рыбы, тады і лоўля іншая. Дык у чым-жа справа? Адно было кепска: выдаткі! Пачалася ў мяне музыка на дзве цымбалы: дзве сямейкі, каб не ўрачыць! Расходы ўдубальт. Я і мая сямейка, дык аб гэтым і гаварыць няма чаго. Ну, а яна, удава, значыцца, патрабуе, а дзеткі бедныя патрабуюць, пяцёрка чужых дзяцей, чатыры хлопчыкі, адна дзяўчынка. Гэта-ж вам не жартачкі! Апранаць і абуваць такую халястрачку! Ого-го! За хедар плаці, настаўніку па чыстапісанню плаці. Часам ім яшчэ хочацца пакатацца, паласавацъ салодзенькае, і тое, і сёе, і таму падобнае... Гэта-ж інакш нельга! А што людзі скажуць? Благі паркун—забраў усе грошы і нават шкадуе капеечку на цукеркі сіроткам... А тое, што я гарую, кручу мазгамі, па кірмашах бадзяюся, тавар купляю, і векселі, і даўгі, і розная важданіна, і розныя клопаты, і тое, і сёе, і таму падобнае.— Гэта нікога не абходзіць! Яна-ж не хаўрусніца мне, удава значыцца, каб дзяліць з ёй даходы папалам!.. Якія-ж мы з ёю спарышы? Вы скажаце, што ў маёй краме ляжаць яе грошы? Дык, па-першае, грошы ў тавары. А, па-другое, я-ж іх пусціў у свой абарот не за дзякуй, а за проценты!.. А хто мне падзякуе за ўвесь тарарам, які я маю і ўдзень і ўначы, то тое, то сёе, то таму падобнае?.. Гэта-ж вам не хаханькі—быць паркуном! Думаеце, лёгка вечна дбаць аб чужых бедных дзецях—ці хочуць яны вучыцца, ці не хочуць вучыцца? Ці накіроўваюцца яны, куды трэба, ці накіроўваюцца яны куды не трэба? Ці туды, ці сюды, ці таму падобнае? Ці-ж я іх родны бацька, каб пеставаць іх і гадаваць? У цяперашнія часы і родных дзяцей не забяспечыш. А яшчэ, калі, з божай дапамогай, удаецца няўдалае дзіця—тады гэта кара божая! Менаша, няхай яму там лёгка ікаецца, быў прастаком, але-ж ён быў чэсным чалавекам. Затое дзяцей ён пакінуў—крый божа! Адзін горшы за другога! Са старэйшымі яшчэ не зусім кепска. Адзін—глухі, прыбіты, баязлівы хлапчук, дык яго я вызначыў на рукамесла. Другі—проста ідыёт, затое ціхі, нікога не чапае і ні аб чым не дбае. А трэці ў маленстве здаваўся было здольным хлапчынай. Затое, як падрос, дык знюхаўся з рознай басотай і галаварэзамі і сам зрабіўся такім шалапутнікам, што хоць ты няма ведама што!.. Бывала, прыходзіць ён у маю краму і бушуе, і скандаліць, і ваюе, і буяніць, і тое, і сёе, і таму падобнае, да таго, ажно я вымушан быў выкінуць яму такія

ды сякія грошы—і выпраўляйся на здароўе ў Амерыку! Яшчэ з малых год яго цягнула ў Амерыку! І мы ад яго збавіліся... Дзяўчыну я выдаў замуж, даў каля тысячы рублёў пасагу, справіў гардэроб, наладзіў вяселле з музыкай, з тым, з сім і таму падобным. Усё як належыцца! Стараўся, бадай, як для роднай дачкі. А як-жа іначай? Дзе ты дзенешся? Хто іншы будзе аб ёй клапаціцца? Бацькі ў іх, бедных, няма. А яна, маці значыцца, божая кароўка. Хто-ж будзе біцца за іх, як рыба аб лёд, калі не я?.. «Дурань! Ёлап аблуплены!—часта гаварыла мне мая старая. Ці варта табе так выбівацца з сіл за чужых дзяцей! Вось пабачыш, як цябе аддзякуюць калі-небудзь каменнем за апякунства, паркун ты нешчаслівы!» Так яна часта мяне папракала—мая старая—і якраз угадала: адплочваюць мне, адплочваюць каменнямі, ды яшчэ якімі каменнямі! Вось зараз паслухайце, што за напасць узвалілася на маю галаву. Я мацней за жалеза, чуеце, калі ўсё гэта цярплю...

Словам, сярод усіх дзяцей, якіх Менаша, святой памяці, пакінуў, ёсць адзін, самы меншы, завуць яго Даніельчык. Яшчэ свет не бачыў такой цацы, такой кары ад госпада бога, такога Даніельчыка ад госпада бога! Яшчэ з маленства гэта было нейкае ліха ды й годзе. Яшчэ ў пяць год ён дазваляў сабе сцёбаць сваю маці па твару халявай. А калі? У суботу раніцой да сінагогі яшчэ! А зрываць у яе парык пры чужых людзях—было для яго самай простай забаўкай. Жанчына гэта, кажу вам, ну проста жалезная жанчына, калі магла ўсё гэта выцярпець! Ці ўдзень ці ўначы не абярэшся важданіны з Даніельчыкам. Кожны раз, калі-б я туды ні прыходзіў, яна, удава значыцца, усё плакала-галасіла і на сваю долю наракала: за што бог пакараў яе такім сынам? Чаму ён, сынок, лепш не згінуў у яе ўтробе яшчэ раней, чым яна яго на свет нарадзіла? Нельга перадаць таго, як гэты вырадак з яе здзекваўся? Ён павыцягваў з хаты ўсё, што толькі пападалася ў рукі каштоўнае: пярсцёнак, завушніцы, жамчуг, шоўкавую хустку, лямпу, ножык, акуляры, і тое, і сёе, і таму падобнае. Ён нічым не бракаваў. Усё павыносіў з хаты, усё гэта прадаваў і пускаў грошы на цукеркі, на арэхі, на кавуны, на добры тытун, для сябе і для сваіх таварышоў. Уявіце сабе, якія ў яго былі слаўныя таварышы! Абадранцы, зладзюгі, п'яніцы. Ліха яго ведае, дзе ён іх выкапаў! Усё, усё, што было ў яго, ён аддаваў сваім забулдыгам: пару новых ботаў, капялюш, кашулю з сябе... «Даніельчык, што ты робіш? Зусім нядаўна боты пашылі, а ты ўзяў ды аддаў...» «Напляваць!—кажа ён.— Шкада мне яго—зусім босы ходзіць...» Што вы скажаце пра такога дабрадзея?! Пра грошы і гаварыць няма чаго: дзе толькі драпане жывую капейку—зараз-жа ў глоткі сваім закадычнікам! «Даніельчык, на міласць божую, што ты гэта робіш?..» «Напляваць!—кажа ён.—І той душу не выплюне, калі есці хоча»... Як вам падабаецца такі філосаф, такі дабрачынец? Што і казаць—удача з удач, цуд прыроды!.. А можа думаеце—недапечаны які хлапчук, ці, не дай бог, урода якая?—Прайдзісвет, прыгожы, як лялька, здаровы, вясёлы, пявун і скакун. Аднак па яго жылах чортава кроў цячэ, каб яго чэрці схапілі!.. І што мы над ім не рабілі? Прабавалі і дабром, прабавалі і злом. Тры дні і тры ночы мы яго трымалі пад замком

у каморы, арапнікам лупцавалі, зламалі над ім дарагую лясачку з трысця, траячніцу каштавала мне гэта лясачка... Не прыстае!

Рукамеслу хацеў яго навучыць, аддаваў яго і да гадзіншчыка, і да ювеліра, і да столяра, і да скрыпача, і да каваля і да таго, і да сяго, і да таму падобнага—хоць ты лопні! Не хоча працаваць, хоць ты яму на галаве кол цяшы! «Што з цябе будзе, Даніельчык?» «Вольная птушка»,—кажа ён і смяецца. «Вольная птушка?—кажу.— Арыштантам будзеш, злодзеем зробішся!..» «Напляваць!»—кажа ён. Круць-верць і няма яго!

Словам, плюнулі мы на яго, няхай сабе расце лопухам! І вось вырасла аздоба людзям на пацеху! Трэба праўду сказаць, красці ён ужо не крадзе. Дома ўжо бадай нічога не асталося. Але наогул, паводзіны нейкія ў яго дзівацкія. Цёплая кампанейка, нелюдскія манеры, нелюдскае ўбранне: чырвоная рубашка паверх штаноў, боты з догімі халявамі, валасы выгадаваў даўгія, як той дзяк, морду згаліў, як той ксёндз. Словам—пацешны бахур!.. Мне ён і на вочы не паказваўся. Калі ў яго бывала якая-небудзь патрэба, дык ён у мяне страляў праз яе, праз матку значыцца. А маці, божая, кароўка, дзіва ды й годзе, яшчэ любіла яго, доўгачаканага наследніка. Што-б ён ні вычвараў—яна аблізвалася! Аднаго разу я выходжу з дому ў краму, бачу—тырчком тырчыць ён—мой любімчык. Мяне чакае.

— Блаславі божа, кажу, гасця дарагога! Што добрага скажаш, Даніельчык?

— А я прышоў, кажа ён, сказаць вам, што я жанюся.

— Мазлтоў,—кажу.—У шчаслівую гадзіну! На кім-жа гэта ты жэнішся?

— Асну бяру,--кажа ён.

— Якую Асну?

— Нашу Асну, тую самую, кажа, што ў нас у хаце была.

— Ці ты з глуздоў з'ехаў?—кажу.—За жонку бярэш служанку?!

— Напляваць!—кажа ён.—Ці служанка не чалавек?

— Вось наплачацца, нагаруецца твая матуля!—кажу.—Ты, мабыць, прышоў зваць мяне на вяселле?

— Не,—кажа ён.—Я прышоў пагаварыць наконт вопраткі, наконт таго, каб тое-сёе справіць на вяселле. Мы падлічылі, я з Аснай, што нам патрэбна вось што: мне адзін гарнітур кортавы, ды адзін гарнітур з парусіны на лета, і кашуль тузін ніжніх, і поўтузіна верхніх. А для Асны—паркаль на плацце, і шэрсць на суkenку, і трубку палатна на бялізну, марозаўскага палатна, і футру на бурнос, і шалікі два, і поўтузіна насавых хусцінак, і крыху таго, і крыху сяго, і крыху таму падобнага...

— І больш нічога?—пытаюся і ледзь стрымліваюся, каб не рассмяяцца.

— І больш нічога,—кажа ён.

Тут я ўжо не мог стрымацца. На мяне напаў такі смех, аж я ледзь з услонка не зваліўся. А на мяне гледзячы, пачалі смяяцца ўсе мае прыказчыкі. Сцены крамы ледзь не разваліліся ад нашага рогату! Калі я насмяяўся ўволю, я звярнуўся да свайго светлага жаніха:

— Скажы мне калі ласка, Даніельчык мілы, вялікі ўклад ты зрабіў у маю краму, што прышоў з такім спіскам?

— Не ведаю,—кажа ён,—не ведаю дакладна, якой велічыні мой уклад. Але паводле тых грошай, што мой бацька нам пакінуў, каб іх дзяліць нават на пяць частак, дык мне ўсёроўна хопіць на вясельны гардэроб. І мне здаецца, што яшчэ застанецца тое-сёе на маю долю і пасля вяселля...

Словам, што мне вам доўга расказваць? Калі ён праказаў мне гэтыя словы, дык усёроўна, нібы хтосьці стральнуў з пісталета мне ў самае сэрца, альбо кінуў палаючае пакулле мне ў вочы, ці ашпарыў мяне гарачым варам, ці сам не ведаю чым! Мне зрабілася цёмна ў вачах! Уяўляеце сабе? Мала таго, што я з ім гэтулькі год важдаўся і кавенчыўся, насіў на сваім горбе бедную ўдаву, цэлую пяцёрку дзяцей, усіх прывёў да складу-ладу—з жаніцьбай, з замужаствам, з тым, з сім, і таму падобным, дык урэшце рэшт выгадаваў я на сваю галаву такога галаварэза, які ні з таго ні з сяго робіць мне нейкія намёкі, на нейкія там долі, часткі ды ўклады!..

— Ну, ці не апраўдаліся словы мае?—накінулася на мяне мая старая.—Ці я табе не гаварыла, што адплоцяць табе каменнямі?

Словам, няма што рабіць, я даў яму ўсё, чаго яму толькі жадалася. Ці стану я пэцкацца з такім малакасосам? Мне гэта зусім не пасуе! На, ідзі да чортава ліха, давіся, згары, згінь ты, прападзі! Абы збавіцца ад гэтай хіндзі! А вы думаеце, што я гэтым сапраўды ад яго ўжо збавіўся? Пачакайце крыху, дык даведаецеся пра самае галоўнае. Яшчэ не мінула і месяца пасля вяселля, ажна ён зноў да мяне з'яўляецца—гэты слаўны маладажон—і вымагае, каб я даў яму зараз-жа, без усялякай крутні, дзвесці дваццаць тры рублі.

— Што гэта за рахуба,—пытаюся ў яго,—дзвесці дваццаць тры рублі?

— Якраз гэтулькі мне трэба,—кажа ён вельмі спакойна,—заплаціць за піўную з більярдам.

— Якая піўная? Які більярд?

— Я надумаў для сябе, кажа ён, справу: наймаю піўную з більярдам. Асна будзе прадаваць піва, а я буду глядзець за більярдам. Можна ад гэтага, кажу ён, мець прыстойны кавалак хлеба.

— Прыстойны кавалак хлеба!—кажу я новаму хлебадаўцу.— Знайшоў з чаго зарабляць на хлеб, піўнушка з більярдам!

— Напляваць!—кажа ён.—Абы чужым дабром не карыстацца... Сухім хлебам карміцца, абы чужога не чапаць...

Як вам гэта падабаецца? Даніельчык звяртаецца да мяне пафіласофску!..

— На здароўе!—кажу.—Прадавайце сабе піва ды гуляйце на більярдзе, але ці-ж гэта мяне тычыцца?

— Вельмі тычыцца,—кажа ён.—Бо вы абавязаны мне выдаць грошай, дзвесці дваццаць тры рублі.

— Што значыць, я абавязан выдаць?—кажу. З якіх, напрыклад, грошай?

— З грошай майго бацькі,—кажа ён ды нават вокам не міргнуў.

Паверыце? Я хацеў тады схапіць яго за каўнер і выкінуць з крамы да ўсіх чарцей!.. Я ледзь стрымаўся і падумаў: аб каго я тут, уласна кажучы, буду рукі паскудзіць. Бяры яго трасца! Няхай мае пяройдзе!..

— Скажы мне, Даніельчык,—звяртаюся да яго,—ці ты хоць ведаеш, колькі ад твайго бацькі засталося грошай?

— Не,—кажа ён.—Навошта мне гэта знаць? Яшчэ праз год з гэтым паспею, калі мне споўніцца дваццаць адзін год і я стану поўналетнім. Вось тады я ў вас папрашу справаздачы... А пакуль што дайце мне дзвесці дваццаць тры рублі, і я пайду.

Пачуўшы такую гутарку, мне аж у вачах замітусілася. Думаеце, чаму? Не таму, што трэба, крый божа, баяцца кагосьці, бо чаго мне баяцца? Мала я на іх вырасходваў срОдкаў? Гэта-ж не хаханькі—гэтулькі часу ўтрымліваў бедную ўдаву і пяток дзяцей, усіх забяспечыў, павыдаваў замуж, пажаніў, даваў ім і таго, і сяго, і таму падобнага—дык вось з'яўляецца такі малакасос ды патрабуе ў мяне справаздачы!

Словам, я выняў і адлічыў яму дзвесці тры рублі і дваццаць карбаванцаў і маліў бога, каб ён мяне пакінуў у спакоі... І, сапраўды, мінуў даволі доўгі час, і я не бачыў яго гарэзнай фізіяноміі. Раптам, прыходжу аднаго разу дамоў—ага, ён зноў тут!.. У мяне аж сэрца ёкнула, калі яго пабачыў. Але я і віду не паказваю, што гэта мяне абыходзіць—стрымліваюся. Раблю абыякавы выгляд і звяртаюся да яго:

— Эге! Госць які! Чаму, Даніельчык, ніколі не заходзіш? Як тваё здароўе? Як «твой прыстойны кавалак хлеба»?

— Здароўе,—кажа ён,—напляваць! Але з заработкамі справа кульгае.

«Віншую,—думаю,—каб ты лепш дажыў прыносіць мне больш прыемныя вестачкі... Тут, відаць, пахне свежымі грашмі»...

— У чым, напрыклад, справа?—пытаюся.—Не таргуеш грошай?

— Якія грошы? Хто гаворыць пра грошы? Грошы,—кажа ён,—напляваць! Я ўжо не маю піўной, я ўжо не маю більярда, я ўжо не маю жонкі. Яна мяне пакінула, Асна, значыцца. Але няхай іх бярэ ліхаманка, напляваць! Я ўязджаю, кажа ён, у Амерыку. Брат мяне ўжо даўно заве ў Амерыку.

Пачуўшы, што ён едзе ў Амерыку, у мяне як-бы гара з плеч звалілася. Ён раптам набыў сімпатыю ў маіх вачах. Каб не сароміўся, дальбог, кінуўся-б цалаваць яго...

— У Амерыку?—кажу.—Справа разумная. Амерыка, кажуць, краіна вольная. Людзі, кажуць, становяцца там шчаслівымі, золата рукамі заграбаюць. А яшчэ, калі там ёсць свой чалавек, тады зусім добра. Ты прышоў, значыцца, развітвацца са мною? Вельмі хораша з твайго боку... Ты хаця-такі не забывайся калі-ні-калі адкрытачку нам напісаць. Мы ўсё-ж ткі, як гэта гавораць, свае людзі... Даніель, можа табе на дарогу не хапае? Што-ж, паднатужуся, пазычу табе колькі мага.

— Вось дзеля гэтага,—кажа ён,—я і зайшоў да вас. Дайце мне трыста рублёў—мне патрэбна.

— Трыста рублёў?—кажу.—Можа гэта крыху замнога? Можа хопіць палавінкі гэтага?

— Навошта вам таргавацца са мною? Хіба вы не ведаеце, што калі скажу чатырыста, дык вы мне дасцё і чатырыста таксама і пяцьсот таксама, і шэсцьсот таксама?.. Але мне грошы не патрэбны, напляваць! Мне патрэбны толькі трыста рублёў на дарогу.

Так ён мне кажа, Даніельчык, ды глядзіць мне проста ў вочы. «Трыста скул, думаю, няхай сядуць маім ворагам на спіне! Каб я хоць ведаў, што скончана, што гэтым замыкаецца над ім зямля, і што ён нарэшце перастане да мяне прыходзіць і з тым, і з сім, і таму падобным!..»

Словам я выняў і адлічыў яму трыста штучак адну-ў-адну, яшчэ купіў падарунак для яго старэйшага брата: цэлы фунт чаю Высоцкага, тысячу папярос найлепшага гатунку, некалькі бутэлек віна «Кармел». Апрача таго, мая жонка, засмажыла яму качку на дарогу, напякла яму булак, надавала апельсінаў з сабою, каб яму на дарогу і хвароба і пракляцце, і чортава ліха, і тое, і сёе і таму падобнае!.. Мы яго праводзілі на станцыю, вельмі горача развіталіся, як з родным сынам. Я плакаў горкімі слязмі, каб мне так бог дапамог. Усё-ж на маіх руках выпеставаўся. А ён-ткі, трэба шчыра сказаць, слаўны хлопец! Ён толькі крыху загарачы, але ў яго вельмі добрае сэрца, каб я так жыў! Аднак скажу вам чыстую праўду; быў я крыху задаволены, што ён паехаў, збавіўся я ад прычэпы... А сэрца крыху балела за яго: такі малады пусціўся ў такую далёкую вандроўку, бог святы ведае, куды ён можа заехаць і што з ім там можа стацца?.. Каб хаця калі-ні-калі падкідваў мне адтуль адкрытачку... А можа лепш, каб зусім не пісаў. Хай ён сабе пражыве там у шчасці і ў радасці свае сто дваццаць год! Я, паверце маёй шчырасці, маліў за яго бога, як за сваё роднае дзіця!..

І ён не забыў мяне. Не мінула і двух год з таго часу, як ён паехаў у Амерыку, як аднаго разу адчыніліся дзверы і да мяне ўваходзіць нейкі немец у высокім капялюшы, прыгожы, здаравенны, вясёлы, шырокаплечы дзяцюк і кідаецца да мяне цалавацца:

— Што з вамі?—кажа ён.—Ці вы мяне не пазнаеце, ці прыкідваецеся, што не пазнаецё?

— Цьфу! Даніельчык, гэта ты?—кажу я, нібы смяючыся, а ў сэрцы ў мяне кіпіць і дыміць, і я сабе думаю: «Чаму ты там не згінуў, о, бог святы, недзе на цягніку, альбо чаму ты ў моры не ўтапіўся?..»—«Калі ты прыехаў, Даніельчык, і што ты тут у нас робіш?..»

— Прыехаў я,—кажа ён,—сёння раніцой. А што я тут у вас раблю? Я, кажа ён, прыехаў да вас каб разлічыцца.

Пачуўшы слова «разлічыцца», сэрца маё крывёй аблілося. Што за разлікі ў мяне з ім, з гэтым шалапутнікам?..

Але я набраўся стойкасці ды кажу яму:

— Ці-ж дзеля гэтага варта было турбавацца аж адтуль сюды? Калі ты хацеў разлічвацца са мною, ты мог-бы поштай выслаць мне тое, што мне належыцца...

— Што вам належыцца?—кажа ён з паганай усмешачкай.—Не ведаю, каму ад каго што належыцца... Баюся, што ад вас належыцца...

— Каму?—пытаюся.—Ці не табе?..

— Мне,—кажа ён,—і маім братам і маёй сястры—нам усім...

Гэта я знарок з Амерыкі прыехаў, каб разлічыцца з вамі за нас усіх... Патрабую справаздачу на ўсе грошы, якія засталіся ад бацькі. Тое, што вам належыць—вы сабе забярыцё, тое, што нам належыць—вы нам выплаціце. А калі выйдзе нейкае непаразуменне ў дробязях, дык напляваць! Як-небудзь наладзім без спрэчак... Як-жа вы аднак маецеся? Як маюцца вашы дзеці? Я кожнаму з іх прывёз паасобны падарунак...

Я думаў, што вось-вось страчу прытомнасць, альбо схвачу ўслонне, ды расшчаплю яму мазгаўніцу... Я ледзь стрымаўся і сказаў яму прысці, з божай ласкі, пасля суботы, тады мы будзем разлічвацца. Сам я паехаў з дому і кінуўся да адвакатаў, каб запытаць парады: як збавіцца ад гэтай злыбяды?.. Але адвакаты, любі іх бог гаспод, ці яны сапраўды не ведаюць, ці яны прыкідваюцца, што не ведаюць?.. Адзін з іх кажа, што паколькі мінула дзесяцігадовая даўнасць, дык прапала. Другі з іх кажа, што паколькі я паркун, апякун значыцца, дык можа праходзіць хоць сто гадоў, а я ўсёроўна павінен здаць справаздачу... Тады я задаю запытанне: «Як я магу здаць справаздачу, калі ў мяне няма ніякага рахункаводства?» На гэта адвакат адказвае: «у такім выпадку вельмі кепская справа»... «Што справа вельмі кепская,—кажу я,—гэта я сам добра ведаю. Вы мне лепш парайце, што рабіць?».. А ён—ані слова!.. Я, чуеце, жалезны чалавек, калі гэта вытрымліваю! Навошта я ў вас пытаюся, мне патрэбны былі ўсе гэтыя клопаты, і важданіна, і тое, і сёе, і таму падобнае? Які чорт узбаламуціў мяне каб я зрабіўся паркуном над чужымі дзецьмі? Ці не лепш было-б у тысячу разоў, каб я на той час лёг на гарачку, ці нагу зламаў, ці папаў у іншую бяду, абы толькі не мець усёй гэтай шуры-буры з апекай, з удавой беднай, з сірацінамі, з Даніельчыкам, са справаздачай, і з тым і з сім, і таму падобным?..

1902.

*Канец гісторыі нумар пятнаццаць.*

## ГІСТОРЫЯ НУМАР ШАСНАЦЦАЦЬ

# Кукіш табе з маслам

Насупроць мяне, ля вакна, сядзіць чалавек з усміхаючымся тварам і з вачыма, якія хочуць зірнуць вам у самую душу. Чалавек нецярпліва чакае, каб я яго закрануў якім-небудзь запытаннем, але я трымаюся ўводдалі. Відаць, што яму ў канцы канцоў апрыкрыла сядзець у вагоне ў суседстве з другім чалавекам ды маўчаць. І ён раптам засмяяўся ў голас і звярнуўся да мяне:

— Вам дзіўна, што я смяюся? Я ўспомніў гісторыю, як я аднаго разу абмануў Егупец. Ха-ха! Так, Мойша-Нахман з Кенелі, яўрэй з адышкай і з кашлем, зыграў з імі штуку, але такую штуку, што, ха-ха, яны мяне доўга будуць памятаць!.. Дайце мне толькі тэрмін на некалькі хвілін, я адкашляюся. Ой, гэты кашаль! Каб Пурышкевічу такі кашаль! Тады пачуеце, на што здолен яўрэй...

Аднаго разу я прыехаў у Егупец. Навошта яўрэю з кашлем і з адышкай ехаць у Егупец? Ясная справа—да прафесара. Я са сваім

кашлем і з адышкай, уявіце сабе, часты госць у Егупецы. Праўда, не з шаноўных гасцей, бо як-жа гэта можна мне, Мойша-Нахмену з Кенелі лезці ў Егупец, раз у мяне няма аніякага «правожительства»?.. Аднак, калі ў цябе кашаль з адышкай і табе трэба да прафесара, една з другем, дык дзе-ж ты дзенешся? Хаваешся. Мучаешся. Прыязджаеш раніцой, а вечарам уцякаеш. У праціўным выпадку, дастаеш «проходное свидетельство» і праз колькі дзён прыязджаеш у другі раз. Абы толькі не па этапу! Каб мне, крый божа, прышлося ісці этапным парадкам, дык хто яго ведае, ці вытрымаў-бы. Я, напэўна, тройчы памёр-бы ад аднаго толькі сораму. Бо, як бачыце мяне, я, дзякаваць богу, такі-сякі гаспадар у нас у Кенелях з «імушчаствам»: свая хатка, кароўка, пара дачок, адна замужняя, а другая на выданні. Ведаеце, една з другем, вельмі пяэручна!..

Словам, я прыехаў у Егупец да прафесара. На гэты раз не да прафесара, а да прафесароў. Гэта значыць, на «кансулім» аж з цэлых трох прафесароў. Мне захацелася, разумееце, раз-назаўсёды, дабіцца толку, даведацца ў іх, на якім я свеце: ці я пан ці я прапаў? Што ў мяне адышка—у гэтым ніхто з іх не сумняваецца, усе яны прызнаюць правільным. Але што рабіць з адышкай, каб ад яе збавіцца—гэта ўжо, бачыце, зусім іншая песня. Яны, бедныя, мучаюцца. Прабуюць розныя спосабы. Трымаюцца, казаў той, як сляпы плота. Прыходжу я, напрыклад, да свайго старога прафесара. Стрыцель завецца. Не прафесар, а золата. Ён бярэ і піша мне рацэпт: «Кодэіні сахары пульвераты». Каштуе не дорага, а на смак нешта нейкае салодкаватае. Прыходжу я да другога прафесара. Ён ідзе ды піша мне «тынктура опіі». Кроплі. На смак такія страхотныя, аж моташна робіцца. Прыходжу я да трэцяга прафесара. І гэты мне таксама прапісвае кроплі. Бадай той-жа самы смак, але звацца завуцца яны ўжо не «тынктура опіі», а «тынктура тэбіяка». Вы думаеце, што гэтым скончана? Прыходжу я да новага прафесара, дык ён дае мне раптам нейкую дзікую гарчыню пад назваю: «морфіум аква амігдалярыум». Вас дзіва бярэ, што я ведаю латынь? Я так ведаю па латыні, як вы па англійску, але калі маеш кашаль з адышкай, і з туберкулёзам, една з другем, можна навучыцца гаварыць і па латыні...

Словам, я прыехаў у Егупец на кансулім. Куды заязджае такі яўрэй, як я, калі прыбывае ў Егупец? Канешне, не ў готэлі і не ў гасцініцы. Па-першае, яны праз меру скуру лупяць. А па-другое, як-жа мне жыць у готэлі, калі ў мяне няма ніякага «праважыцельства?» Таму я заўсёды спыняюся ў свайго швагра. Маю ў Егупецы швагра шлімазарніка, меламеда. Такая галеча, што Пурышкевічу пажадаў-бы гэткую заможнасць. Абсыпаны дробнымі дзяцьмі—хоць гвалту крычы! Аднак адным дабром яго бог благаславіў: «праважыцельствам». У яго самае сапраўднае, чысцюткае непадробнае «праважыцельства». Адкуль, запытаецеся, такому ды гэтакаму раптам «праважыцельства»? Броцкі! Ён служыцель у Броцкага. Вядома, не дырэктарам завода, а старшым памоцнікам малодшага кантара ў падвальным аддзяленні сінагогі Броцкага. «Духоўнае ліцо», значыцца. Альбо як гэта там завецца—«абрадчык». А раз ён «абрадчык», дык мае права жыць нават на Мала-Васількоўскай, там дзе раней жыў сам былы паліцмейстар. Вось ён і жыве, значыцца, якраз

на Мала-Васількоўскай, і якраз ледзь не побач з былым паліцмейстарам, б'ецца, як рыба аб лёд, і не так ведае пачым фунт хлеба, як ведае—пачым фунт ліха. Уся іх жыццёвая апора—гэта я. Бо я, значыцца, самы заможны ва ўсёй нашай радні... Калі я прыязджаю ў Егупец—жыву ў іх на станцыі, бяру ў іх абед, вячэру, збегаюць туды-сюды для мяне, една з другем, перападзе ім ад мяне калі-ні-калі рубель, другі. Такія заработкі—Пурышкевічу!..

Але вось на гэты раз, калі я прыехаў, гляджу—мае дабрадзеі з твару з'ехалі, устрывожаныя—месца сабе не знаходзяць. «У чым справа?» «Кепска». «Чаму кепска?» «Аблавы». «Глупства! А я думаў, няма ведама што! Аблавы—гэта-ж старая скула, кажу, яшчэ з часоў стварэння свету...» «Не,—кажуць яны.—Аблавы аблавам не раўня. Цяпер, кажуць яны, няма ніводнай ночы без аблавы. А калі цапнуць яўрэя—хто-б ён ні быў—раз-два-тры, этапным, значыцца, парадкам ганяюць на бацькаўшчыну». «Ну, а грошы?» «Дзе там?» «Рубельчык?» «Ані-ні!» «Траячка?» «І мільён не памагае!» «Калі так, кажу, дык сапраўды дрэнныя паперы». «Яшчэ якія дрэнныя паперы, кажуць яны. Спачатку, кажуць яны, штраф. А калі ты ўжо заплаціў штраф, дык усёроўна па этапу—дамоў. Апрача таго, кажуць, выйдзе скандал перад Бродкім!.» «Што-ж, кажу, Броцкі—Броцкім, а я дзеля Броцкага не магу спекуліраваць сваім здароўем. Я прыехаў на «кансулім» да прафесароў, і назад, кажу, уцякаць не магу».

Словам, мяркуем і так, мяркуем і гэтак, а дзень не чакае. Трэба спяшацца да прафесароў па справе кансуліма. Але які тут ужо можа быць «кансулім»? Ды калі тут можа быць «кансулім»? Адзін, аказваецца, можа прысці толькі ў сераду, да поўдня, а другі—у панядзелак—пасля поўдня, а трэці—не раней як праз тыдзень у чацвер. Вось і рабі з імі што хочаш! Музыка на тры тыдні з пятніцай. Бо чаго, скажам, іх абыходзіць, што Мойша-Нахмен з Кенелі мае адышку з кашлем, ды не спіць па начах. Пурышкевічу такія ночы!..

Тым часам надыходзіць вечар. Вячэраем і кладземся спаць. Я толькі што пачаў драмаць аж раптам чую: трах-тарарах! Ледзь расплюшчваю вочы: «У чым справа?»—«Мы прапалі!»—кажа мне мой швагер. А сам ён стаіць нада мною мярцвяк мерцвяком і дрыжыць як асінавы ліст. «Што, кажу, рабіць цяпер?» «А ты ўжо сам кумекай, што рабіць цяпер,—кажа ён. «Нічога, кажу, тут ужо не зробіш—кепска». «Адно кепска—мала, кажа ён. Тут ужо так кепска, што не можа быць горш». А за дзвярыма ўвесь час: трах-тарарах! Дзеткі, бедныя, прачнуліся—крык, плач: «Мама!» Маці іх шчыпае, і рты ім затыкае, крычыць на іх, каб маўчалі... Папаўся я ў нерат—ні ўзад, ні ўперад! «Э,—думаю я,—Мойша-Нахмен з Кенелі! Трапіў ты, як мыш у саладуху... Каб Пурышкевічу такая саладуха!..» Раптам стукнула мне ў галаву адна камбінацыя: «Давід, звяртаюся да свайго швагра.—Ведаеш, што я табе скажу? Ты будзь—я, а я буду—ты»... А ён раззявіўся на мяне дылда дылдай: «Як-жа гэта?» А так, кажу. Мы памяняемся шапкамі. Ты дасі мне свой пашпарт, а я дам табе мой пашпарт. Ты станеш Мойша-Нахменам, а я—Довідам. Дурная галава! Дзівіцца на мяне, як тры грошы даўшы, ды ніяк раскусіць не можа, што да яго гаворыш. «Галава маляваная!—кажу я яму.—Ці ты яшчэ не раскумекаў?

Вельмі простая камбінацыя. Ї малое дзіця ўцяміць. Ты ім пакажаш мой пашпарт, а я ім пакажу твой пашпарт—една з другем. Ты ўжо разжаваў, ці яшчэ трэба разжоўваць ды пакласці табе ў самы рот?»

Але ён сам разжаваў. Ї мы давай абменьвацца шапкамі. Я яму—мой пашпарт. Ён мне—свой пашпарт. А там дзверы хадыром ходзяць: трах-тарарах! Трах-тарарах! «Сейчас,—кажу.—Што ў вас там загарэлася? Паспееце з козамі на торг!» А свайго швагра папярэджваю: «Памятай-жа, Довід, што ты ўжо больш не Довід, а Мойша-Нахмен!..» Ї я накіроўваюся да дзвярэй.—«Мы вельмі рады дарагім госцікам!»—Їх цэлая халястра. Начальнік на начальніку едзе і начальнікам паганяе. Як гэта кажуць: трам-тарарам, хоць ты бярыся ў бокі, ды ў скокі!

Зразумела, што адразу ўзялі на цыгундар майго швагра-шлімазарніка. Чаму-ж гэта яго? Бо я трымаўся, разумееце, як чалавек—з гонарам. Як той кажа: хоць лопні, ды ламай фасон. А ён, мой швагрук—Пурышкевічу такая храбрасць! Вось за яго і ўзяліся: «Адкудава, гаспадзін яўрэй?» Язык у яго адняўся. Няма чаго рабіць—я станаўлюся яго лыцарам-абаронцам і звяртаюся да яго на стара-яўрэйскай мове: «Егуда белэй, чаго маўчыш? Дабер! Кажы ім, што ты Мойша-Нахмен з Кенелі». А да іх я кідаюся са словамі аб літасці: «Так і так, ваша высокаправажыцельства, кажу, гэта мой бедны сваяк, кажу. Даўно, кажу, мы з ім не бачыліся. Вось ён і прыехаў да мяне з Кенелі». А ўнутры, у сэрцы душыць мяне. Здаецца мне, што зараз рассыплюся, зараз лопну са смеху. Ха-ха! Вы разумееце? Гэта я, Мойша-Нахмен з Кенелі, прашу літасці за Мойша-Нахмена з Кенелі—за сябе самога, значыцца—ха-ха-ха! Але бяда ў тым, што мае словы аб літасці засталіся словамі ў пустэчы. Майго малойчыка начальнікі схапілі, як чэрці ведзьму, і павялі з ладам ды з парадам гэту козу да воза, у вучастак значыцца, з шыкам ды з трэскам, як сам пан-бог загадаў. Забралі спачатку і мяне. Але зараз-жа выпусцілі. Бо чаго мне перад імі шапку ламаць, я ў вас пытаюся? Я-ж чалавек з непадробным «праважыцельствам». у якога ў пашпарце чорным па беламу напісана, што я служу «абрадчыкам» у сінагозе Бродскага. Ну, зразумела, тут не абышлося без рубельчыка таксама. Една з другем, ясна? «Харашо,—сказалі мне,—гаспадзін абрадчык! Ты пакуль што ідзі сабе дамоў кугель есці. Мы потым ужо пакажам табе як трымаць кантрабанду на Мала-Васількоўскай!» Маім дзеркачом ды мне-ж у зубы, ха-ха-ха!..

Што-ж мне вам яшчэ апавядаць? Кансулім мне ўжо ў галаву не лез. Які тут ужо можа быць кансулім, калі трэба ратаваць швагрука? Ад чаго, думаеце, ратаваць? Ад этапа! Дзе там? На гэта яны не пайшлі. Этапам дык ён пайшоў, яшчэ як пайшоў! Каб так Пурышкевічу прайсціся!.. У нас ледзь вочы не вылезлі на лоб, пакуль мы пабачылі яго, шлімазарніка, у нас у Кенелях. А калі яго, з божым блаславеннем, даставілі ў Кенелі, толькі тады і пачалося самае галоўнае ліхалецце. Чужы пашпарт, чужое прозвішча, една з другем, лепш і не пытайцеся. Я з ім наскакаўся і наспяваўся. Жадаў-бы я ў кожныя тры месяцы зарабіць гэтулькі, колькі ў мяне выляцела з кішэні на гэту музыку. Так! Было не мала бяды ды яшчэ з коптарам. А вось і «коптар»! Па сёнешні дзень я павінен утрымліваць і яго самога, і яго жонку, і яго дзяцей. Бо ён гвалт

крычыць, што я яго нібыта абяздоліў. Ён кажа, што дзякуючы мне, ён страціў усё свае «праважыцельства» і ўсю сваю службу ў Броцкага. І зусім магчыма, што, сапраўды, не ён сам ва ўсім вінаваты.

Але галоўнае, ха-ха-ха, не гэта. Галоўная штука ў вынаходлівасці, у камбінацыі—разумееце? Здаецца, хто я такі? Звычайны чалавечак з Кенелі, з кашлем, з адышкай, ды з туберкулёзам у дадатак. Пурышкевічу такія вясельныя падарункі! Една з другем, ды нават без усялякага намёка на «праважыцельства». Аднак, калі яму да зарэзу патрэбна, ён пражывае сабе ў Егупецы, на Мала-Васількоўскай, побач з былым паліцмейстрам, і—кукіш табе з маслам!

*Канец гісторыі нумар шаснаццаць.*

1911.

ГІСТОРЫЯ НУМАР СЕМНАЦЦАЦЬ

## Трэцім класам

Гэта, уласна кажучы, ужо не апавяданне, а так сабе гутарка, пара слоў на развітанне і парада ад шчырага прыяцеля.

Перад тым, як развітацца з вамі, дарагі чытач, мне хочацца ў заключэнне, у знак удзячнасці затое, што вы выслухалі гэтулькі маіх апавяданняў, быць вам чым-колечы карысным, сказаць вам некалькі цёплых слоў і даць вам параду практычнага чалавека, комівояжора. Выслухайце і запішыце мае словы:

Калі едзеце па чыгунцы, даволі значную адлегласць, разумеецца, і хочаце адчуць, што вы едзеце, гэта значыць, што вы хочаце мець прыемнасць ад сваёй паездкі, тады не думайце ехаць ні першым, ні другім класам.

Што тычыцца першага класа, дык і казаць няма чаго. Крый божа. Я, уласна кажучы, не пра самую язду гавару. Ехаць наогул першым класам даволі не кепска: і мякка, і прасторна, і пышна—з усімі выгадамі. Я не кажу пра самую язду. Я кажу пра людзей, пра пасажыраў. Які гэта мае сэнс, пытаюся ў вас, яўрэю ехаць аднаму і слова не прамовіць? Вы-ж так можаце, не дай бог, развучыцца гаварыць! А калі нават напаткаеце там пасажыра раз на вяку, дык гэта альбо тоўсты пан з надзьмутымі шчокамі, як у трубача, які грае на трамбоне, альбо нафуфыраная дама, злая, як цёшча, альбо нямы замежнік у клетчатых штанах, які прыліп да вакна і не адарвецца ад яго, каб хоць раптам увесь вагон загарэўся. Калі вы едзеце з такімі пасажырамі, вам кожны раз прыходзяць у галаву розныя змрочныя думкі і вы паміма волі ўспамінаеце пра смерць... Навошта гэта вам?

А ў другім класе, думаеце, лепш? Вы сабе сядзіце ў вагоне з рознастайнымі пасажырамі, здаецца, з такімі-ж людзьмі, як вы самі, з такімі-ж парываннямі. Ім, бедным, вельмі хочацца пагаварыць, аж млеюць. Ім хочацца ведаць куды вы едзеце, і адкуль вы родам, і хто вы такі? Аднак яны сядзяць, як статуі, і таропяцца вачыма адзін у аднаго. Набралі ўсе поўныя рты вады—і маўчаць!

Вось якраз насупроць вас сядзіць нейкі франт з доўгім пазногцем і з пышнымі вусамі. Вы можаце прысягнуць, што ён вам

знаёмы, вы недзе бачылі яго, але не ведаеце дзе. Вам здаецца, што ён з Іудзейскага племені, гэта значыць, наш брат... Але што ты з ім зробіш калі той ні слова! Закручвае вусы ў гару, пазірае ў акно ды свішча!

Калі хочаце такому пасажыру сапсаваць гумар ды аглушыць так, каб ён і ачухацца не мог, звярніцеся да яго на любой мове, калі блізка тут сядзяць рускія, галоўным чынам—дамы. Лепш за ўсё, калі вы ў яго запытаецеся па-руску:

— Если я не ошибаюсь, я имел удовольствие встретиться с вами в Бердичеве?..

У перакладзе на нашай мове гэта гучыць прыблізна так: «Калі не памыляюся, я меў прыемнасць сустрэцца з вамі ў Бердычэве?...» Гэта будзе для яго ў тысячу разоў горш, чым задаць яму дыхту ў бабку ды ў прабабку.

А калі сустрэнецеся з такім пасажырам дзе-небудзь у Падолі ці на Валыні, тады можаце да яго гаварыць па-польску:

— Пшэпрашам пана. Ежэлі сэн не мылен, зналэм ойца пана з Ярмолінцу, ктуры był в ласках у ясновельможнэго Потоцкего?.. Па нашаму гэта выходзіць так: «Прапрашаю ваш гонар, калі я не памыляюся, я быў знаёмы з вашым бацькам, які жыў у Ярмолінцах і быў у вялікай пашане ў графа Патоцкага»... Вялікай абразы якраз няма ў гэтых словах. Але «Ярмолінцы»і ў «Пашане ў графа Патоцкага», бачыце, пахне яўрэем... Аднак, пачакайце! Вось я вам лепш раскажу гісторыю, пры якой я сам прысутнічаў.

Гэта было ў кур'ерскім цягніку. За адсутнасцю трэцяга класа, я, няма чаго рабіць, паехаў другім класам. Насупроць мяне сядзеў пасажыр—ці то яўрэй, ці то рускі... Аднак, здаецца? Але хто яго разбярэ? Гожы дзяцюк, голены, апрануты па спартсмэнску, з чорным пасам на белых нагавіцах, кавалер на—«маё шанаванне!» Чаму я кажу: «кавалер?»—Таму, што ён увесь час круціўся ўюном каля адной зграбнай «барышні», мамзель з высокім шыньёнам і з пэнснэ на маленькім вытачаным носіку. Пазнаёміліся яны тут-жа, у вагоне, і вельмі хутка здружыліся. Яна частавала яго шакаладам, а ён амурнічаў з ёю: спачатку ён абсыпаў яе армянскімі анекдотамі, а пасля яўрэйскімі, ад якіх абодва рагаталі да ўпаду. Галоўным чынам выклікалі ў іх смех яўрэйскія анекдоты, якія кавалер расказваў з такім смакам, як яны звычайна расказваюцца сярод не яўрэяў, не зварачваючы ніякай увагі на тое, што я, магчыма, яўрэй і магу лічыць сябе пакрыўджаным... Словам, раман у іх рухаўся наперад, як па масле. Вось ён ужо апынуўся побач з ёю (раней ён сядзеў насупроць) і зазіраў ёй у вочы, а яна забаўлялася ланцужком ад яго гадзінніка, засунутага ў чорны пас на белых нагавіцах. Раптам—на адной з станцый—я ўжо забыўся назву—ні з таго, ні з сяго, з'явіўся кульгавы яўрэй, руды, успацелы, з вялікім-белым парасонам, працягвае руку да майго спартсмэна з чорным пасам на белых нагавіцах, і звяртаецца да яго проста па нашаму:

— Наце вам дабрыдзень!.. Я пазнаў вас праз вакно. Магу перадаць вам прывітанне ад вашага дзядзькі Залмана з Манастырышча...

Зразумела само сабой, што на гэтай-жа станцыі наш спартсмэн знік з вагона, а «мамзель» засталася адна. Але адным гэтым гісто-

рыя не канчаецца. Мая «мамзель»—ужо безумоўна не яўрэйка, бо, у праціўным выпадку, навошта наш спартсмэн даў лататы?—пачала праз некалькі станцый пакавацца, не звярнуўшыся да мяне ніводным словам, нават не зірнуўшы ў мой куток, нібы мяне зусім на свеце не было. На станцыі, дзе яна вышла, яе чакаў прыгожы патрыярхальны яўрэй, з доўгай сівой барадой, падобны да прабацькі Аўраама, і прыстойная яўрэйка з парыком і вялізнымі брыльянтавымі навушніцамі ў вушах. «Рывачка! Дачушачка!»—у адзін голас усклікнула гэта пара і са слязмі на вачах кінулася абнімаць дачку.

Думаю, што каментарыі да гэтай гісторыі не патрэбны. Я толькі хацеў вас пазнаёміць з пасажырамі, якія сустракаюцца ў другім класе, і давесці вам, што вы не павінны ехаць другім класам, бо ў другім класе вы чужы, сярод сваіх—чужы.

Затое калі едзеце трэцім класам, вы ў сябе дома. А што і казаць, калі ў вагоне няма нікога іншых, апрача нашай братвы—ізраільцян, тады вы ўжо праз меру дома. Праўда, у трэцім класе не так выгодна, месца вам прыходзіцца займаць сілай, навокал таўкатніна, шум, гармідар і гуг-га, і вы не ведаеце, дзе знаходзіцеся вы і дзе знаходзяцца вашы суседзі... Але затое вельмі хутка знаёміцеся адны з аднымі. Усе ведаюць, адкуль вы едзеце, куды вы едзеце і чым вы займаецеся. А вы ведаеце, адкуль яны едуць, куды яны едуць і чым яны займаюцца. Уночы вам зусім не патрэбна спаць, бо маеце з кім пазюзюкаць. А калі вы самі не зюзюкаеце, зюзюкаюць да вас і не даюць вам спаць і сапраўды чаго прыпякло раптам спаць у вагоне? Здаецца, куды больш карысна пагаварыць з чалавекам, бо калі гавораць, дык заўсёды дагаворацца. Каб нам гэтулькі шчаслівых год, колькі разоў здараецца, што з такіх гутарак у вагоне з зусім чужымі людзьмі наладжваецца камерцыя, наклёўваецца сватанне, ды наогул даведваюцца аб такіх справах, якія могуць быць карыснымі.

Вось, напрыклад, гутаркі пра дактароў, пра катар жывата, пра «Ліман», пра зубны боль, пра нервы, пра Карлсбад і таму падобнае. Здаецца, пералíванне з пустога ў парожняе, хіба не так? Аднак-жа ўласна са мною аднаго разу здарылася гісторыя. Я калісьці ехаў з кампаніяй яўрэяў. Пайшла гутарка аб дактарах і рэцэптах. Я тады вельмі моцна хварэў, не пра вас кажучы, на жывот. Дык вось, адзін з кампаніі, нейкі каменецкі яўрэй, даў свае лякарства, парашок такі. Гэты самы парашок,— сказаў каменецкі яўрэй,—ён мае якраз не ад доктара медыцыны, але ад зубнога ўрача, ад дантыста. Парашок дасканалы, сказаў ён, жоўты парашок. Гэта значыць, парашок сам па сабе, сказаў ён, белы, як усе парашкі, але ў жоўтай паперцы. Ён, камянецкі яўрэй, кляўся сваім здароўем і здароўем сваёй жонкі і дзяцей, што толькі жоўты парашок яго выратаваў. Каб не жоўты парашок, кажа ён, дык цяпер быў-бы ўжо—э-ге-ге! Шмат парашкоў, кажа ён, мне не трэба. Два-тры парашкі, кажа ён,—і як рукой зніме! Кончана будзе, кажа ён, з жыватом. Кончана будзе, кажа ён, з дактарамі ды аптэкай, якія вымаюць душу ў чалавека. Ліха, кажа ён, іх бацькам і прабацькам! Калі маеце ахвоту, кажа ён, спрэзантую вам тры парашкі са свайго жоўтага парашка. Вы мяне, кажа ён, ніколі не забудзеце...

Так яно і вышла. Прыехаў я дамоў і прыняў адзін парашок,

другі і трэці. Пасля гэтага я адчуў сябе, не адразу, але пазней, каля поўначы, не пра вас кажучы, так, што было мне тры чверці да смерці. Я думаў, што задзяру капыты! Паклікалі аднаго доктара, за ім яшчэ двух і мяне ледзь выратавалі ад таго свету... Вось з тых часоў я ўжо маю практыку: калі каменецкі яўрэй дае вам свае лякарства, жоўты парашок—дык ліха няхай возьме яго бацьку і прабацьку! Навука дарма не праходзіць!

Калі едзеце трэцім класам і надыходзіць раніца, і вы не маеце пры сабе багамольных прылад, дык таксама мала бяды—абы ахвота, вам дадуць хоць дваццаць багамольных прылад, і ўсё, што вам патрэбна. Затое, калі вы скончылі свае гутаркі з панам богам, адчыніце, будзьце ласкавенькі, свой чамаданчык і смела выкладвайце ўсё, што ў ім ёсць: гарэлачка, хлябец, яйкі, селядзец, курку, агурок, апельсін, блінок. Сыпце сюды, не саромцеся! Усе з вамі будуць закусваць, ніхто не адмовіцца! У падарожжы ды ў кампаніі, ведаеце, і апетыт у чакавека воўчы... А калі ў вас сапраўды ёсць чарачка якога-небудзь трунку, ды ахвотнікаў знойдзецца немала, а знаўцаў—без канца... Кожны дасць вашаму віну іншую назву ды ацэніць па рознаму: у аднаго яно будзе называцца «Бесарабскі мушкат». Другі скажа, што гэта «замежны Акерман». Узнімецца трэці ды злосна крыкне: Які гэта мушкат? Які гэта Акерман? Гэта «Ковешанскае бардо!» Тады ўзнімецца яшчэ адзін з непрыкметнага кутка, падыйдзе з усмешачкай сапраўднага знатака, возьме ў вас з рук шклянку з выглядам, які азначае: «Пра што дурні спрачаюцца? Калі справа ідзе пра віно, дык дазвольце мне!» І пасля таго, як ён пару разоў хлебяне, твар у яго заірдзеецца, як у імянінніка і ён скажа:

— Ведаеце, што гэта за яно. Не, вы не ведаеце, што гэта за яно. Гэта, трэба прызнацца, перапрашаю вас, самы просты, самы звычайны, прыстойны, чысты, гаспадарчы «вымаразак» з Бердзічава!

І ўсе згаджаюцца, што ён угадаў, што гэта сапраўдны бердзічаўскі вымаразак. А калі пакаштуеш чуток «вымаразку», у добрых людзей развязваюцца языкі. Тады кожны паасобку пачынае апавядаць усенька, што дзеецца ў яго, давай выпытваць усенька, што робіцца ў другога. Разгаварваюць усе, усе разам, бо ўсе яўрэі—браты. І даведваюцца адзін у аднаго пра ўсялякае ліха, пра ўсялякія здзекі, пра гнёт і ганенні, што ўчыняюцца на божым свеце—адна любата!

Калі едзеце трэцім класам у нейкі горад і не ведаеце, куды вам заехаць, вам варта толькі кінуць запытанне ў грамаду, ці не ведае хто нейкі людскі заезджы дом? І колькі чалавек едзе з вамі ў вагоне—гэтулькі будзе вам прапанована готэляў і гасцініц. Адзін дае вам адрас: «Готэль Франкфурт», і хваліць яго вам да нябёс: «Готэль Франкфурт, кажа ён, чысты і светлы, цёплы і ветлы, а цэны там нізкія—задарма!» Але тут-жа з'яўляецца другі, які асцерагае: «Готэль Франкфурт?—І не думайце! Там цёмна, і брудна, і холадна, і дорага—скуру здзяруць! Калі хочаце, кажа ён, мець прыемнасць, спыняйцеся толькі ў мебліраваных пакоях Нью-Ёрк!» Тады ўскаквае трэці і заяўляе: «Што яны будуць рабіць у мебліраваных пакоях Нью-Ёрк? Ці яны засумавалі па клапах? Не слухайце, што

вам тут задураць галаву Франкфуртамі і Нью-Ёркамі! Паслухайце мяне, давайце сюды вашы рэчы, і мы разам заедзем да мяне, на маю станцыю, у гасцініцу «Расія»—там заўсёды спыняюцца ўсе яўрэі!..»

Вы, канешне, павінны добра памятаць пра свой чамаданчык, каб яго, крый божа, паміж Франкфуртам і Нью-Ёркам, у вас як небудзь не «адгаварылі»... Але, будзьце ласкавы—дзе ў нашыя часы не крадуць у нашай блаславенай радзіме? Быць абкрадзеным, калі хочаце ведаць, гэта справа лёсу. Калі вам суджана быць абкрадзеным, дык абкрадуць вас сярод белага дня, дзе-б вы не знаходзіліся, і вам тут не паможа ніякая паліцыя, ніякія жандары і ніякія гвалты. Вам астаецца толькі дзякаваць лёсу, што ваша жыццё выратавана...

Адным словам, ездзіць вам трэба заўсёды трэцім класам. Гэта вам завяшчанне ад шчырага прыяцеля і спрактыкаванага чалавека коміваяжора.

Ад'ю!

1902.

*Канец гісторыі нумар семнаццаць.*

*Пераклаў з яўрэйскай мовы З. БЯДУЛЯ.*

*Р. Рубіна*

# ДЗЕЦІ МЯЖЫ АСЕЛАСЦІ

*(Да характарыстыкі творчасці Шолам-Алейхема)*

Першым творам Шолам-Алейхема, у якім ужо адчуўся цікавы і своеасаблівы пісьменнік, было апавяданне пра дзяцей «Ножык» (1886 г.). З таго часу Шолам-Алейхем ніколі не пакідаў пісаць пра дзяцей і для дзяцей. Пісьменнік адчуваў сябе як-бы закліканым асвятліць такі бок яўрэйскага жыцця, за які ніхто да яго ніколі па-сур'ёзнаму не браўся.

Цікавасць да жыцця дзяцей з'яўляецца адной з асноўных і арганічных асаблівасцей творчасці Шолам-Алейхема. Дзіцячы свет ва ўмовах смешнай і мізэрнай Касрылаўкі *) вузкі і абмежаваны. Ён тоіць у сабе, аднак, і шмат патэнцыяльных магчымасцей. Спецыфічны лад жыцця яўрэйскай мяжы аселасці душыць у дзіцяці ўсё, што можа яго вывесці з рамак касрылаўскай абмежаванасці. Зня-вечанасць дзіцяці, у якім бязлітасна падаўляюцца ўсе жывыя пачуцці і жаданні, з'яўляецца вынікам непрыстасаванасці і знявечанасці дарослых. Дзіця—афяра «ідыётызма» старой яўрэйскай правінцыі.

М. Горкі ахарактарызаваў стыль Шолам-Алейхема, як «сумны і сардэчны гумар». І сапраўды, асноўнай уласцівасцю гумара Шолам-Алейхема было: высмейваючы—шкадаваць, насміхаючыся—суцяшаць. Ён валодаў надзвычайным пачуццём смешнага і сэрцам гуманіста, які адчуваў жаласць да персанажаў, якіх сам-жа высмейваў. Не ўсюды усё-ж выступае Шолам-Алейхем як лірычны гумарыст. У некаторых асновай з'яўляецца чыста камічнае, а ў некаторых перамагае лірычны струмень. «Апавяданні для яўрэйскіх дзяцей» адносяцца да ярка выражанай лірычнай лініі творчасці Шолам-Алейхема. Лёгкая ўхмылка, што свеціцца ў гэтых апавяданнях, як-бы скрадваецца агульным сумным, лірыка-эпічным тонам. У апавяданнях пра дзяцей Шолам-Алейхем выявіў больш чым дзе сваю тужлівасць і іменна таму немагчыма зразумець жыццерадаснага, дасціпнага гумарыста, не вывучыўшы гэтых апавяданняў, у якіх выступае ва ўсёй сваёй нагаце трагізм і бесперспектыўнасць яўрэйскага местачковага насельніцтва, абрабаванага, адсталага і абмежаванага, скаванага царскім «гетто». У дзіцячых вобразах Шолам-Алейхем шукаў чыстую народную душу, свабодную ў той ці іншай ступені ад уплыву акру-

*) Касрылаўка—сінонім дарэвалюцыйнага яўрэйскага мястэчка ў Шолам-Алейхема.

жаючых агідных форм жыцця, але прыкрая рэчаіснасць давала адчуваць сябе і тут—вось адкуль ідзе сумная лірыка гэтых апавяданняў.

## II

*Бязрадаснае маленства*—вось асноўны матыў апавяданняў для дзяцей. Лепшыя апавяданні, як «Ножык», «Юла», «Флаг», «Амрачоная пасха» і іншыя заканчваюцца катастрофай, што пакідае глыбокі след у дзіцячай псіхіцы. Дзіця знаходзіцца ў заўсёдным канфлікце з сваім уласным сумленнем. Яму даводзіцца хлусіць, ашукваць і пакутваць з-за гэтага. Яго здзіўляюць несправядлівыя адносіны дарослых да яго. Ён мысліць, марыць, але ўсе яго мары разбураюцца, жаданні папіраюцца. Дарослыя і дзеці зусім не разумеюць адзін другога і знаходзяцца ў становішчы вечнай барацьбы, як быццам-бы дарослыя ніколі не былі дзецьмі. З нейкай асаблівай праніклівасцю паказвае Шолам-Алейхем псіхалогію дзіцяці, самыя тонкія нюансы яго перажыванняў, яго радасць і смутак. Асноўным канфліктам апавяданняў для дзяцей з'яўляецца імкненне дзіцяці да нейкай пэўнай мэты, да якой-небудзь падчас бязвіннай, нязначнай уцехі і яго сутычка пры гэтым з дарослымі. Вонкава дзіця падаўлена і паслушна. Канфлікт з дарослымі не выказваецца непасрэдна, ён загнаны ў падсвядомасць і таму ўзнікае часта ў дзіцяці псіхічная траўма, што даводзіць да вострага расстройства нервовай сістэмы, цяжкіх сноў, галюцынацый.

На фоне агульнага слабаволля і бяссэнснай дзейнасці дарослых вылучаецца асабліва выразна мэтаімкнёнасць дзяцей. Кожнае дзіця гарыць якой-небудзь страсцю. Адно марыць некалькі год падрад пра ножык («Ножык»), другое хоча іграць на скрыпцы («На скрыпцы»), трэцяе марыць пра святочны флаг («Флаг»), чацвертае захапляецца азартнай гульнёй у юлу і прагульвае ўсё, што мае («Юла»), пятае крадзе на працягу цэлага года капейкі з «благотворительной кружки» рэб Меера-чудатворца.

Адкуль-жа ў дзіцяці такая ўпартасць, адкуль такая ўнутраная сіла?

Вось тут і праяўляецца сумная сутнасць дзіцячых апавяданняў Шолам-Алейхема. Галоўны герой «Ножыка» расказвае пра сябе наступнае:

«Ціха я плакаў, выціраў слёзы і засынаў. А на заўтра ўранні, зноў у школу, зноў «бугай, які забароў карову», зноў пабоі Моці—«ангела смерці», зноў гнеў бацькі, кашаль бацькі, лаянка бацькі,—ні вольнай хвіліны, ні адной усмешкі ні ад каго, ні ад каго...—я адзін, адзін ва ўсім белым свеце!»

З хедэра *), дзе «вывучаюць» пытанне аб тым, як «бугай забароў карову», прыходзяць дадому і там заклапочаны, раззлаваны цяжкім жыццём, бацька не дае жыцця вечным патрабаваннем: «Лепш духоўнае пачытаў-бы. Васьмі год хлопец»...

Колькасць дазволеных дзіцяці прыемнасцей настолькі абмежа-

*) Хедэр—яўрэйская рэлігійная школа.

вана, што яно можа ўсё сваё маленства пакутваць з-за нейкага ножыка, і дзіцячая злачыннасць можа вырасці з жадання кожнае нядзелі мець «два ражкі і пернік». Дзіцяці замінае свабодна дыхаць усё яго наваколле—беднасць бацькоў, іх бесперспектыўнасць, бязглуздая аскетычная сістэма выхавання, адсутнасць любові і ласкі і таму яно так ліхаманкава аберагае з цяжкасцю набытае маленькае дзіцячае шчасце.

III

У апавяданні «Тры галоўкі» Шолам-Алейхем даў сінтэтычную карціну замкнёнага жыцця дзяцей беднаты. Гэтую замкнёнасць ён увасобіў у вобразе шэрай, сырой, каменнай сцяны, якая засланяе ад дзяцей дзённае святло. Дзеці ўціснуты ў каменны мяшок, дзе апрача іх ёсць яшчэ галодная, заклапочаная маці, якая то штурхне каго-небудзь з іх, то ўшчыкне. Але ў тых-жа «Трох галоўках» увасоблена, калі можна так сказаць, нешта *вечна-дзіцячае*, актыўны і аптымістычны пачатак дзіцячай псіхікі.

«Маці хоча, каб дзеці сядзелі ціха, смірна. Маці, мусіць, не ведае, што дзіцячыя галоўкі думаюць бесперапынна, што юныя душы рвуцца, рвуцца, рвуцца—куды? На волю! Да святла! Да акна! Да акна!»

Дзіця заўсёды актыўна і энергічна. Яно ў любых умовах знаходзіць магчымасць разрадзіць энергію. Яно будуе, майструе, мяняе гузік на ражок, цвік на ножык. Дзіця вельмі вынаходліва нягледзячы на бясконцыя праследванні настаўнікаў, бацькоў і, наогул, усіх «шаноўных» людзей.

У апавяданні «Юла» Шолам-Алейхем дае поўны пералік усіх дзіцячых пагрэшнасцей.

«Усе дзеці падобны адно на другое, а бурасвет я быў такі-ж, як і другія дзеці, як і ўсе дзеці, любіў нашкодзіць: надзець казлу на рогі каўпак з рагожкі, якой жонка меламеда *) мыла падлогу, і пусціць яго мядзведзем па горадзе; прывязаць кошцы папяровага змея да хваста, каб яна ашалеўшы бегала і біла гаршкі; павесіць замок на надворныя дзверы жаночай палавіны сінагогі ў пятніцу вечарам, каб жанчыны з перапуду падалі ў непрытомнасць; прыбіць пантофлі настаўніка цвікамі да падлогі, альбо прыклеіць сургучом яго бараду да стала, калі ён задрэмле і няхай папрабуе ўстаць, і таму падобнае свавольства».

Нейкай няўтульнасцю бурсы вее ад гэтых свавольстваў, што даходзяць часам да простай жорсткасці («Мафусаіл» і інш.). А між тым дзіця, па Шолам-Алейхему, выказвае жаласць да ўсяго жывога. Яно па прыродзе сваёй лірычна, ласкава, поўна самых лепшых пачуццяў, але паколькі дзіцячая энергія не знаходзіць сабе карыснага прыстасавання, яна набывае скажоную форму.

Дзіця не можа прытрымлівацца якіх-небудзь этычных норм, паколькі ўсе яны накіраваны супроць яго. Калі дзіця, сапраўды, слухалася-б папы, мамы і ўсіх «шаноўных» людзей, яно павінна было-б

*) Меламед—настаўнік хедэра.

ператварыцца ў «маленькага старычка», таму што самыя бязвінныя дзіцячыя паводзіны, як катанне на коньках, купанне ў рацэ, любая гульня, смех разглядаліся-б як злачынства. Тое-ж самае адносіцца да любога праяўлення даравітасці.

Кожнае дзіця адарона ў той ці іншай ступені, але ёсць дзеці-мастакі, дзеці з ярка выяўленай творчай схільнасцю. Да такіх адносіцца ў першую чаргу, хлопчык Мотл, з вялікай аповесці пад той-жа назвай і цэлы рад іншых дзіцячых вобразаў. Мотл з'яўляецца ў большай ступені аўтапартрэтам. Нездарма ён так падобны на Шолама з аўтабіяграфічнай аповесці Шолам-Алейхема «З кірмаша». І Мотл і Шолам—дзеці збяднелых бацькоў, абодвы яны балаўнікі, малявальшчыкі, камедыянты; абодвы яны падвяргаюцца бясконцым праследванням з-за сваёй даравітасці. Малога Шолама праследуе злая мачыха, а Мотла—яго родны брат Эля.

І вось у «Хлопчыку Мотл», у гэтым, значнай меры аўтабіяграфічным вобразе, Шолам-Алейхем увасобіў свой асабісты горкі вопыт пролетарыя пяра. Хлопчык Мотл і іншыя вобразы даравітых дзяцей—гэта маніфестацыя творчых сіл народа. У іх увасоблена вечная бессмяротная радасць творчасці і горыч неажыццёўленых магчымасцей, страчаных ілюзій.

Гэтае дваістае пачуццё пранізвае ўсе вобразы творчых асоб, да якіх Шолам-Алейхем выказваў цікавасць з самых першых крокаў сваёй творчасці. Галоўным героем аднаго з яго першых раманаў быў народны геній, які стаў легендарным, музыкант Стэмпеню (1888 г.), потым спявак Іоселе Салавей (1890 г.), і, нарэшце, створаныя ўжо ў зрэлыя годы, вобразы актораў Лео Рафалеско і Розы ў «Блукаючых зорах» (1909 г.). І вось побач з гэтымі складанымі характарамі, што пакутуюць у сваёй адзіноце, Шолам-Алейхем паказвае наіўную цягу да мастацтва ў дзяцей і ў прымітыўных народных камедыянтаў («Пурымшпілер»), задача якіх была ў тым, каб забаўляць местачковых абыватэляў у свята «Пурым». І таму так знамянальна сустрэча дзіцяці з «пурымшпілерамі» ў дзіцячым апавяданні «У цара Агасфера». Распешчанае дзіця буйнага багацея цягнецца ўсёй душой у прываблівы свет народных камедыянтаў. Ён зайздросціць цару Агасферу, ролю якога выконвае кравец Копл, «у залатой кароне», г. зн. у папяровым каўпаку з доўгім «залатым» пруцікам з бярозавага веніка ў руках і «царыцы Вашці» (столяру Мотлу), «у спадніцы поверх сурдута і хустцы, якой ён падвязваў бараду, каб думалі, што ён жанчына». Дзіця пакідае багатую святочную трапезу і накіроўваецца тайком да цара Агасфера, у яго пахілы домік з напоўголымі дзецьмі, дзе спяваюць адыходную багацеям з сапраўдным народным гумарам і пагардай да «сильных мира сего». Тое самае, па сутнасці, адбываецца з Лео Рафалеско, які ў 14 год уцякае з бацькоўскага дому з трупай вандроўных актораў. Дзеці вельмі блізкі творчым натурам, таму што і тыя і другія з'яўляюцца ахвярамі капіталізма і надоўга захаваных перажыткаў сярэдневяковага феадальнага ладу ў яўрэйскім асяроддзі. Такім чынам. барацьба за свабоднае развіццё дзіцяці, за ўсебаковае праяўленне яго натуры была ў Шолам-Алейхема звязана з яго барацьбой за

вызваленне народнай энергіі, за рэабілітацыю лепшых народных пачуццяў, за вызваленне з-пад спуда рэлігійнага аскетызма народных творчых сіл.

IV.

У сувязі з пратэстам супроць бясконцых забарон, навісаючых над галавой дзіцяці, уяўляе асаблівую цікавасць месца яўрэйскіх рэлігійных свят у апавяданнях пра дзяцей. У большасці апавяданняў фігурыруюць так або інакш рэлігійныя святы і некаторая частка гэтых апавяданняў была напісана ў выглядзе фельетонаў для святочных выпускаў газет. І тут прыходзіцца здзіўляцца геніяльнасці пісьменніка, які змог узняцца і над матэрыялам і над сваімі абывацельскімі заказчыкамі і стварыў бяссмертныя, прагрэсіўныя, рэалістычныя творы нават на матэрыяле рэлігійных свят. Свята з'яўляецца ў Шолам-Алейхема повадам для паказа краху дзіцячых надзей і дамініруючым становіцца вобраз «амрочанага свята». Гэтай тэме прысвечаны такія выдатныя апавяданні, як «Амрочанае свята», «Праіграны лагбоймер», «Лагбоймер», «Разбойнік», «Флаг», «Юла» і інш.

На фоне некалькіх лічаных дзён у годзе, калі дзіцяці было дазволена весяліцца, гуляць, цешыцца жыццём, выступае яшчэ больш аголена абмежаванасць дзіцячай радасці ў рамках жабрацкага аскетычнага жыцця. Дазволеныя радасці канчаюцца таксама слязамі, абразамі, пабоямі.

Святочная тэма выкарыстоўваецца Шоламам-Алейхемам як «вясёлы» фон для сумнага апавядання. Сум змякчаецца момантамі святочных асалод, дзіцячымі наіўнымі лятуценнямі. Пра функцыю святочнай тэмы сведчыць эпілог вельмі характэрнага апавядання «Флаг».

«Ведаеце, дзеці, кожнае апавяданне мае канец, канец вясёлы альбо сумны.

Яўрэйскія апавяданні канчаюцца, большай часткай, вельмі сумна. У нас нават ёсць прымаўка пра гэта: яўрэй, у асаблівасці бедны яўрэй, не створаны для прыемнасцей. Ды што гаварыць пра гэта?— падрасцеце, самі ўбачыце...»

І далей.

— «Але паколькі цяпер пярэдадні свята,—а ў свята трэба быць вясёлым, я хачу закончыць апавяданне пра флаг радасна».

Тут яўна выказана характэрная для Шолам-Алейхема весялосць, напоўненая сумам, весялосць тыпу «мне добра—я сірата» («Хлопчык Мотл»). Прычым нават гэтая «сумная весялосць» не адчуваецца ў фінале апавядання, а даецца падкрэслена ў канцы, у выглядзе маленькага эпілога. Пісьменнік стараецца захаваць сваю звычайную добрадушную манеру, ён стварае эпілог, які закліканы давесці часовасць дзіцячых пакут. І калі ў даны момант дзіця пакутуе з-за свае страчанай мары, дык у будучым годзе мара яго абавязкова ажыццявіцца. Пісьменнік сам змагаецца са сваёй сумнай лірыкай.

*) Лагбоймер—яўрэйскае рэлігійнае свята.

Ён нібы пакідае шчылінку для пранікнення сонечнага промня, крупіцы ўцехі. Зусім відавочна, што без «вясёлага» эпілога, «Флаг» канчаецца гэтак-жа, як «Ножык» альбо «На скрыпцы».

«Першы раз у жыцці бачыў я ў бацькі слёзы. Мне стала сумна душы, і сэрца зашчыміла ад болю. Я стаяў, глядзеў у акно, глытаючы слёзы. У гэтую хвіліну я шчыра каяўся ва ўсёй гісторыі, якую я натварыў, каяўся і ў душы даў сабе слова ніколі больш не крыўдзіць бацькі, ніколі больш не рабіць яму непрыемнасцей... («На скрыпцы»).

І я прыходжу дадому адзін, без флага, залажу ў куток, і тут у цемені я сяджу, уткнуўшы галаву між кален і плачу пацішу, каб мяне ніхто не чуў, ніхто не бачыў. Я пытаюся бога:

— Госпадзі божа мой! За што ты мяне пакараў? За што? За што?» («Флаг»).

Паміж абодвума фіналамі ёсць чыста фабульная розніца. «Флаг» мог-бы быць закончаны словамі: «За што? За што?»

«Вясёлы» фінал дае магчымасць пісьменніку не заканчваць апавяданне ў чыста-фабульных адносінах. Ён як-бы пакідае яго адкрытым, падкрэсліваючы гэтым масавасць, характэрнасць паказаных з'яў. Чытачу астаецца дадумаць сюжэт. Пісьменнік сам паказвае на гэтую акалічнасць, тлумачачы з лукавай ухмылкай чытачу неабходнасць закончыць апавяданне весела ў сувязі са святам.

Гэтая своеасаблівая пабудова сюжэта, якая парушае традыцыйнае ўяўленне аб структуры навелы з яе абавязковай закончанасцю, вельмі характэрна для вялікай колькасці апавяданняў Шолам-Алейхема, якія вызначаюцца асабліва трагічным зместам. Так, у адным з самых вясёлых і разам з тым самых сумных апавяданняў «Зачараваны кравец», расказваецца пра тое, як беднаму мястэчковаму краўцу прышла «дерзновенная» думка купіць казу. Вяртаючыся, з купленай казою ў сваё мястэчка, ён заходзіць па дарозе ў карчму, дзе карчмар абменьвае казу на казла. Кравец кідаецца паміж двумя мястэчкамі і яго пакупка ператвараецца па прыхаці карчмара то ў казу, то ў казла. Нарэшце, каза пачынае здавацца краўцу звышнатуральным стварэнем і ён вар'яцее, так і не здзейсніўшы свайго заветнага жадання—напаіць дзетак малаком.

Гэтую аповесць, якая пераклікаецца па сваёй ідэі з гогалеўскай «Шынеллю», Шолам-Алейхем заканчвае падбадзёрваючай усмешкай:

«Пачалася гэтая гісторыя вельмі весела і скончылася яна, як большасць вясёлых гісторый, нажаль, вельмі сумна. І так як вы ведаеце, што я па свайму характару не меланхолік і не люблю сумных гісторый, таму аўтар развітваецца з вамі і жадае вам, каб яўрэі і ўсе людзі ў свеце больш смяяліся, чым плакалі. Смяяцца карысна. Дактары рэкамендуюць смяяцца».

Вось гэты шчыра падкрэслены аўтарам «смех скрозь слёзы» адчуваецца вельмі востра ў «Апавяданнях для дзяцей», пабудаваных па чоткай кампазіцыйнай схеме: сюжэт строга сканцэнтраваны вакол адной пэўнай падзеі ў жыцці дзіцяці. У даволі разгорнутай экспазіцыі герой расказвае пра сябе, пра сваіх бацькоў, школьных сяброў, потым ідзе разгортванне сюжэта з паслядоўным апісаннем псіхалагіч-

ных перажыванняў. У фінале адчуваецца амаль заўсёды штосьці недаказанае, на чым аўтар не захацеў паставіць націску, часта змякчаючы тое, што ўжо было сказана.

## V

Сярод усёй шырокай галерэі вобразаў Шолам-Алейхема, які ўключаў у свой мастацкі дыяпазон літаральна ўсе пласты яўрэйскага насельніцтва ў канцы XIX і ў пачатку XX стагоддзяў, дзіцячыя вобразы займаюць ганаровае месца. Яны намаляваны з асаблівым замілаваннем.

Характэрна, што нават у самой структуры вобраза ёсць істотная розніца паміж апавяданнямі для дарослых і апавяданнямі для дзяцей.

Дарослыя з'яўляюцца часта смешнымі суб'ектамі, камічнымі нават у сваім трагізме. Дзіцячыя-ж вобразы не смешныя. Яны лірычны і прываблівы сваёй чыстай дзіцячай наіўнасцю. Нават тады, калі Шолам-Алейхем карыстаецца некаторымі са сваіх улюбёных гумарыстычных сродкаў, як алогізм, перавіранне слоў і г. д.—у адносінах да дзіцячых перасанажаў гэты прыём набывае зусім іншую афарбоўку. Калі дарослыя героі аповесці «Хлопчык Мотл» гавораць пра тое, што «ў Амерыцы ўсё ёсць, акрамя падушак», яны выклікаюць смех сваімі нікчэмнымі ўяўленнямі аб жыцці, калі-ж Абрамчык («Тры галоўкі») расказвае пра тое, што «ў Амерыку без шыфскарты ехаць нельга, таму што мора, а на моры—буры...»—гэта выклікае захапленне яго наіўнасцю. Дзіцячыя вобразы даны ў больш разгорнутым псіхалагічным плане. Аўтар перадае самыя тонкія нюансы дзіцячай псіхікі, што ён рэдка робіць са сваімі дарослымі персанажамі.

Усе апавяданні для дзяцей расказаны ад першай асобы. Шолам-Алейхем астаецца і тут верным сваёй маналагічнай форме. Характэрны для маналога Шолам-Алейхема лірычны гумар змякчаецца тут яшчэ болей, паколькі ў большасці апавяданняў дарослыя расказваюць дзецям пра сваё маленства, да якога ён адносіцца з замілаваннем і сумам. Невыпадкова і тая акалічнасць, што цэнтральным героем цэлага раду апавяданняў з'яўляецца Шолам-Нохем-Вевівке, г. зн. сам аўтар. Тут зусім не важна, супадаеці не вобраз маленькага Шолама з вобразам аўтара, важны тут аўтабіяграфічны намёк, які як-бы падкрэслівае інтымныя адносіны пісьменніка да сваіх дзіцячых персанажаў.

Захоўваючы характэрную для сваёй творчасці маналагічную форму, Шолам-Алейхем стварае ў дзіцячых апавяданнях асаблівую слоўную структуру. Тут вельмі рэдка сустракаюцца характэрныя для Шолам-Алейхема амаль «кальцавыя» пабудовы глаў і асобных фраз, з многімі адступленнямі і паўторамі, якімі характарызуецца багатая, але заблытаная мова яго камічных персанажаў з бездапаможнасцю і алогічнасцю іх мышлення. Чалавек гаворыць, гаворыць і вечна варочаецца да зыходнага пункту, топчацца на адным месцы. У дзіцячых апавяданнях ідзе плаўны лірычны расказ, амаль пявучы, з захаваным унутраным рытмам, які родніць гэтыя апавяданні з чыста

паэтычнымі жанрамі. Апавяданні гэтыя поўны лірычных паўтораў, якія падкрэсліваюць чуллівасць дзіцячых перажыванняў і дзіцячай мовы.

Апавяданні для дзяцей з іх лірыкай і ціхім сумам бліжэй за ўсё па стылю Тэўе-малочніку. Іх родніць, галоўным чынам, сум пісьменніка па чыстым, нечапаным, самабытным. І ў тым, і ў другім выпадку сум змякчаецца надзеяй на лепшыя часы, але ў дзіцячых вобразах больш дынамікі ўнутранага псіхалагічнага развіцця.

Просты яўрэй Тэўе, працаўнік і філосаф, поўны народнай мудрасці, назірае свет і ўступае ў выніку сваіх назіранняў у канфлікт з багацеямі і самім госпадам богам. У ім няма нічога камічнага. Наадварот, ён узвышаецца над усёй навакольнай пошласцю. Ён іранізуе, ён сам выступае як гумарыст і ў яго вусны Шолам Алейхем укладае падчас свае ўласныя перакананні. Тое-ж самае можна сказаць пра хлопчыка Мотл. Ён назірае страшэннае жыццё, няшчасную абнішчалую масу, якая пакідае наседжаныя месцы і эмігрыруе ў далёкую, невядомую Амерыку. Ён бачыць людзей, пазнаўшых буржуазнай «благотворительности», людзей, якія шукаюць дапамогі ў розных эмігранцкіх камітэтах і не знаходзяць яе. Ён упітвае ў сябе размовы пра пагромы, пра развал сям'і і г. д. Усё гэта ўспрыймаецца дзіцячай псіхікай па-асабліваму. Горыч жыцця раствараецца ў гумарыстычных адносінах да рэчаіснасці. Мотл заўважае ў першую чаргу ўсё смешнае ў самых блізкіх яму людзях і, разам з тым, ён-жа са сваёй усепераможнай дзіцячай жыццерадаснасцю з'яўляецца для іх носьбітам уцех. Вось гэтая непахіснасць перад жорсткімі выпрабаваннямі, непакорнасць лёсу адчуваецца і ў вобразе шматпакутлівага Тэўе і ў Мотл і ў большасці вобразаў у «Апавяданнях для дзяцей».

Вобраз Мотл перагукаецца і з чуллівай журботнасцю дзікенсаўскага «Давіда Коперфільда», і з авантурыстычнасцю чэхаўскіх «Гімназістаў», і з бунтарствам адаронай натуры роланаўскага маленькага Жан-Крыстофа і з цэлым радам другіх дзіўных вобразаў сусветнай літаратуры, але бліжэй усяго ён, вядома, марк-твэнаўскім Тому Сойеру і Гекку Фіну. Гэтых дзяцей збліжае, у першую чаргу, іх энергічнасць, жыццерадаснасць і настойлівасць у дасягненні сваіх мэт. Усе яны адносяцца пагардліва да абыватэляў з іх невялікімі радасцямі і смуткамі і застыўшай, скоўваючай мараллю. І ў Твэна, і ў яго сучасніка Шолам-Алейхема дзеці любяць назіраць, філасофстваваць. Іх назіранні поўны глыбокага сэнсу, яны з'яўляюцца часта смелымі суддзямі. Дзеці разумней дарослых таму, што яны пазбаўлены забабонаў, яны валодаюць вялікай унутранай свабодай, і іменна гэтая дзіцячая асаблівасць прыцягвае вялікіх гуманістаў. Характэрна, што нават дзіцячы своеасаблівы альтруізм вельмі падобны ў абодвух пісьменнікаў. І Тома Сойера і Мотла мала хвалююць вялікія пакуты дарослых. Яны ўмеюць як-бы станавіцца вышэй іх, і разам з тым, яны ўмеюць спачуваць усёй душой таму, хто ім асабліва міл. Яны звязаны пачуццём шчырай глыбокай дружбы.

Паміж твэнаўскімі і шолам-алейхемаўскімі дзіцячымі вобразамі ёсць, аднак, істотная розніца. Том Сойер і Гекк Фінн—поўнакроўныя, жыццерадасныя дзеці, што ўпітваюць у сябе шырыню і пры-

гоства вялікіх судаходных амерыканскіх рэк Міссуры і Міссісіпі. Яны жывуць вольным, вандроўным жыццём. У акружаючай іх рэчаіснасці ёсць яшчэ нейкія рэшткі фермерскага дэмакратызма і амерыканскай дзелавітасці. Мотл-жа з'яўляецца тыповым хлопчыкам яўрэйскай «мяжы аселасці», адарванай ад вадавароту шумнага еўрапейскага жыцця і нават ад акружаючай іх рускай прыроды. Ён не адрываецца ад свайго асяроддзя. Ён валачэцца са сваёй сям'ёй у эміграцыю і нясе на сабе ўвесь груз цяжкага жыцця. Таму і яго вобраз прасякнуты вялікай журботнасцю, таму ён больш сузіральны і філасафічны, чым марк-твэнаўскія героі. Яго радасці часцей амрачаюцца, яго смех мае горкі прысмак. Акрамя таго, марк-твэнаўскія героі гэта звычайныя здаровыя дзеці, а Мотл адзначаны вялікай мастацкай адаронасцю, і гэтым ён вызначаецца ад акружаючых яго дзяцей.

## VI

У цэнтры ўвагі Шолам-Алейхема былі, у большасці выпадкаў, дзеці местачковай беднаты, альбо ў лепшым выпадку, збяднелых дробных буржуа. Тужлівасць, якой поўны вобраз Топеле Тутарыту, сына ўдавы, Шолама і іншых, гэта тужлівасць пісьменніка, над лёсам усёй Касрылаўкі, вольная ад асмейвання яе.

Надломанасць дзіцячай псіхікі ў выніку жабрацкага аскетычнага жыцця і недарэчнага жорсткага выхавання, адчуваецца асабліва востра ў дзіцячай мове.

Асноўная супярэчнасць, заключаная ў любым дзіцячым учынку, дыялагу, альбо нават у сне, з'яўляецца супярэчнасцю паміж натуральным дзіцячым пачаткам і навязаным дзіцяці дарослымі.

Абрамчык («Тры галоўкі») суправаджае ўсе свае наіўныя, чуллівыя, дзіцячыя назіранні клятвай «бачыць-бы яму столькі дабра», гэтак-жа як і яго маці, калі Топеле Тутарыту не можа вырашыць, як скарыстаць свае дзве грыўні—купіць зялёнага крыжоўніку ці зберагчы іх для пакупкі святочнага флага—дык гэта не проста дзіцячыя хістанні, а барацьба паміж добрым і злым ангеламі, гэта звязана з думкамі аб малітвах і рэлігійных абрадах.

Дзіця ў Шолам-Алейхема з выгляду старэй свайго сапраўднага ўзросту. Яго маленькае дзіцячае цельца захутана ў надта доўгі каптан, маленькія ножкі абуты ў надта прасторныя боты, на галаву насунута шапка, ссунутая да самага носу. Дзіця аццяжарана абавязкамі рэлігійнага парадку; яно чытае адыходную па сваім памёршым бацьку, якога яно ніколі не цалавала, таму што «хі-хі-хі, як гэта можна цалаваць бацьку?» Дзіцяці суджана праводзіць сваё маленства ў змрочным цесным хедэры, з'ядаць за ўвесь дзень толькі кавалак хлеба з яблыкам. Праследуемае строгімі біблейскімі законамі, яно павінна нічога не жадаць ні да чаго не імкнуцца. Але ўсё гэта знешняе, навязанае. Дзіця заўсёды і жадае і імкнецца да чаго-небудзь і доўгі каптан не можа скаваць яго цела і вялікая шапка не можа схаваць бліскучых азартных вачэй.

Некаторыя асабліва любімыя дзіцячыя вобразы Шолам-Алейхем уводзіць у цэлы рад апавяданняў. Такім чынам Шолам-Нохем-Вевівке (аўтабіяграфічны вобраз) з'яўляецца цэнтральным героем апавяданняў «Ножык», «На скрыпцы», «Гадзіннік»; Топеле Тутарыту займае цэнтральнае месца ў апавяданні «Флаг» і фігуруе таксама ў апавяданнях «Ножык», «Лагбоймер», «Разбойнікі» і іншых. Ва ўсіх гэтых апавяданнях вар'іруюцца толькі сітуацыі, вобразы-ж застаюцца тымі-ж самымі.

Дзіцячы пратэст выказваецца ў Шолам-Алейхема вельмі своеасабліва. Дзяцей-пратэстантаў, у дакладным сэнсе слова ў яго вельмі мала. Апавяданне «Разбойнікі», у якім апісаны непасрэдны пратэст супроць меламеда і помста дзяцей, канчаецца тужлівым, глыбокім раскаяннем апошніх. Характэрны для Шолам-Алейхема паказ ціхага дзіцячага гора.

Герой «Ножыка» думае сам сабе:

«Зноў кніга? Госпадзі!.. Я таксама хачу бачыць, хачу слухаць, пра што гавораць!»

Свой згублены ножык хлопчык аплаквае ўпотай, каб ніхто не заўважыў, герой «Амрачонага свята» вылівае сваё гора ў слязах за пасхальнай трапезай. Тое-ж самае робіць Топеле Тутарыту, калі згарае яго флаг. Дзеці так адзінокі, што ніхто з іх не рашаецца расказаць дарослым аб прычыне іх слёз. У гэтым выпадку дзіцячыя слёзы ўяўляюць сабой пэўную форму пратэста. Дзіця і не спадзяецца ўжо быць зразумелым і не лічыць патрэбным расказваць бацькам пра сваё гора.

Другой формай пратэста з'яўляецца... смех.

Дзіцячы смех узрывае цэлы рад напружаных сітуацый, дзе дарослыя выступаюць ва ўсім сваім камізме і недарэчнасці. Дзеці не могуць прызвычаіцца да цэлага раду ўмоўнасцей у жыцці дарослых, і яны смяюцца над імі ад усёй душы сваім шчырым дзіцячым смехам як напрыклад, у апавяданні «К трапезе». У гэтым апавяданні Шолам-Алейхем малюе святочную сустрэчу местачковага багацея з сваёй беднай раднёй. Бедныя родзічы стараюцца ўсяляк дагадзіць багацею і, нарэшце, адзін з іх рашыўся заспяваць, каб развесяліць гаспадара.

«Ён схапіўся двума пальцамі за горла (цяжка сказаць, які матыў збіраўся спяваць Абрам), адразу збіўся на фальшывы тон і піскліва зацягнуў занадта высокім асіпшым голасам нейкую недарэчную цягучую мелодыю».

Дзеці не могуць аднесціся спакойна да такой недарэчнай сітуацыі, і герой апавядання расказвае далей:

«Першы, хто не вытрымаў і зарагатаў, быў я, і першы па шчацэ атрымаў ад мацеры я, але аплявуха мяне не стрымала, наадварот, выклікала смех у астатняй дзетвары і новы выбух рогату ў мяне Рогат выклікаў свежую аплявуху, зноў рогат і новыя аплявухі, пакуль, нарэшце, мяне не вывялі з залы ў кухню, з кухні выцягнулі на вуліцу і дамоў мяне прывялі збітага, знясіленага, у слязах, у крывавых слязах».

Гэты смех пад аплявухамі выцякае з шолам-алейхемаўскай кан-

цэпцыі «вечна-дзіцячага»; ніякія знешнія ўмоўнасці не могуць скаваць унутраную свабоду дзіцяці. Пратэст тут чыста псіхалагічны. Уся істота дзіцяці пратэстуе. Бо любая дзіцячая актыўнасць, любое праяўленне характара ўяўляе сабой пратэст і іменна таму ёсць такія дзеці, як «гарэзны хлопчык» Рувеле, якога не маглі абразуміць «ні пабоі маці, ні розгі настаўніка, ні падзатыльнікі пабочных.—Лай, не лай—як гарох аб сценку».

«І дзеці смяяліся. Ды хіба можна не смяяцца, калі смешна?—гаворыцца ў кнізе «З кірмаша», у главе «Халера», дзе апісваецца смерць маці пісьменніка. Вось гэты вечны дзіцячы аптымізм, гучны смех, свавольства і весялосць з'яўляюцца адной крыніцай усмешкі, азараючай дзіцячыя апавяданні і змагаючай іх сум.

Варожыя адносіны паміж дзецьмі і дарослымі не з'яўляюцца, па Шолам-Алейхему, рэзультатам жорсткасці дарослых. Наадварот, у цэлым радзе сваіх твораў пісьменнік дае вобразы надзвычайных, самаафярных бацькоў, поўных глыбокай любові да дзяцей. Нават смешная гаваруха з апавядання «Гаршчок»—жанчына, якая даводзіць равіна да непрытомнасці сваім лапатаннем, кранае да слёз сваёй глыбокай прывязанасцю да сына, якому яна аддае ўсе свае сілы. А «самы шчаслівы чалавек у Кодні, які ідзе на абразу, стаіць гадзінамі пад праліўным дажджом ля дзвярэй багацея, каб дачакацца прафесара, які можа, па яго думцы, вылячыць яго хворага сына, і нарэшце, Тэўе-малочнік, бацька, які ў значнай ступені сілай сваёй любові к дочкам, перамагае свае перакананні і пранікаецца іх перадавымі ідэямі. Тэўе-малочнік—адзін з чулых і разумных бацькоў у сусветнай літаратуры. Бацькі, паказаныя ў «апавяданнях для яўрэйскіх дзяцей» таксама глыбока прывязаны да сваіх дзяцей. Варта дзіцяці захварэць і маці тыднямі не адыходзіць ад яго пасцелі:

«Цяпер мы ясна бачым міласць госпадню!—усклікае маці са слязамі на вачах.—Цяпер мы бачым, што калі просяць яго, ён слухае нашы грэшныя малітвы і нашы слёзы... Многа, многа слёз мы пралілі, я і бацька, пакуль госпадзь не злітаваўся... Ледзь не страцілі сыночка, мілага, дарагога сыночка... («Ножык»).

Любоў маці праяўляецца тым мацней, чым яна стрыманей у звычайных умовах. Але характэрна і тое, што маці ўсё-ж не зразумела прычыны хваробы свайго дзіцяці.

Яна думае, што ён захварэў з-за Берэле Краснага, а ў сапраўднасці ў дзіцяці ўзнікла траўма, у сувязі з украдзеным ім ножычкам і іменна таму на яго так моцна падзейнічала расправа над Берэле. Бацькам цяжка разумець сваіх дзяцей таму, што ўся іх энергія накіравана на непасрэдную барацьбу за існаванне. Яны не прывыклі праяўляць сваіх пачуццяў, таму што іх зрабіла жорсткімі жыццё. Асаблівую ролю ў ненармальных адносінах паміж дарослымі і дзецьмі адыгрывае, па Шолам-Алейхему, яўрэйская рэлігія, якая старалася прывіць народным масам неўласцівы ім аскетызм, псіхалогію рабоў, не маючых права цешыцца жыццём і гэта асабліва падаўляла дзіця. Дзіця пратэставала ўсёй сваёй істотай супроць мяртвячых рэлігійных догмаў і правілаў паводзін.

## VII

Дзеці багацеяў вельмі скупа прадстаўлены ў творчасці Шолам-Алейхема. Ейлік і Беня самыя цікавыя між іх.

Ейлік вельмі характэрны для Шолам-Алейхема тып багацея, хаця і паказаны ў вобразе дзіцяці. Ён намаляваны ў такой-жа даб-радушна пагардлівай манеры, як цэлы рад дарослых багацеяў, у стылі народнай пагаворкі «чым багацейшы, тым большы сабака». Ейлік вызначаецца такой-жа пустой фанабэрыяй, як і яго бацька. Але варта здзіўлення тое, як Шолам-Алейхем і тут знаходзіць спе-цыфічна-дзіцячае, ён паказвае іменна *малалетняга багацея*.

Ейлік, напрыклад, абураны тым, што Топеле Тутарыту не хоча прыняць ні адной з яго прапаноў, пры дапамозе якіх ён хоча выма-ніць у яго дзве грыўні.

«— Не хочаш? Дык вось табе!—узлаваўся Ейлік і ўдарыў мяне кулаком у бок.—Як вам падабаецца гэты галадранец? Колькі рэчаў яму прапаную: ножык, гузікі, цукеркі, арэшкі і цвік, і малітвеннік і фуражку памераць,—а ён яшчэ кабеніцца. Жабрацкая торба, ніяк яе не напхаеш! Разганарыўся, што ў яго завяліся дзве грыўні сераб-ром, падумаеш, багацей які! Пачакай-жа, Топеле Тутарыту, трапішся мне ў рукі, атрымаеш з прыдачай! Нехам'я, на, бяры, вось табе цвік!..

Ейлік аддаў цвік Нехам'е (беднаму кульгаваму хлапчуку), а са мной пакінуў сябраваць» («Флаг»).

Той-жа Нехам'я—кульгавы падпальвае потым, па заданню Ей-ліка флаг Топеле Тутарыту.

Больш цікавым і складаным з'яўляецца вобраз Бені Меера пал-кавога ў апавяданні «Юла».

У гэтым апавяданні яскрава адчуваецца узаемасувязь паміж Беняй хлопчыкам і Беняй-дарослым мужчынай, багацеем. Гэта той-жа характар.

«Дзеці, я вырас, стаў дарослым. І Беня вырас, стаў дарослым маладым чалавекам з рыжай бародкай. І жываток сабе адгадаваў, і ланцужок залаты носіць на жываце. Значыць, Беня багацей. Быў калісьці сынам багацея, цяпер сам стаў багацеем» («Юла»).

І дарослы Беня-багацей, відаць, і цяпер у захапленні ад сваёй «астраумнай» выдумкі ў маленстве, пры дапамозе якой ён абжуліў сваіх школьных таварышоў, ад сваёй юлы, якая ніколі не праігры-вае.

Беня валодае моцным характарам, яго энергія накіравана на ашу-канства сваіх таварышоў, ён кіруе імі ў самых заліхвацкіх прадзел-ках і выходзіць заўсёды сухім з вады. Ён не валодае нявіннай чы-статой другіх дзяцей. Яго энергія мэтанакіраваная, ён з'яўляецца азарным іграком і г. д. У ім здзіўляюча выяўлены рысы будучага эксплаататара, які хавае сваё жульніцтва пад прыкрыццём «філасо-фіі»: «Калі-б табе шанцавала, як шанцуе мне, выйграў-бы ты! Але сёй мне шанцуе, выйгрываю я.»

## VIII

Вобраз дэградыруючай Касрылаўкі быў-бы няпоўным, калі-б там адсутнічалі фізічна-ўродлівыя дзеці, дзеці-калекі. Такія дзеці выведзены ў цэлым радзе твораў Шолам-Алейхема, але экстрактам гэтага вобраза з'яўляецца апавяданне «Уродзец». Уродзец выводзіцца на фоне чорных сцен хедэра, праклёнаў жонкі меламеда і сумнай любві між меламедам і яго дачкой Песеле. І ў жонкі меламеда і ў хлопчыка расказчыка вырываецца адно і тое-ж пытанне: «Для чаго ён жыў і чаму ён памёр?» Велізарны рост уродца, яго ідыёцкае, жудаснае сьпяванне уяўляюць сабою абагуленую карціну жудаснага старога жыцця.

«Уродзец»—глыбока песімістычнае апавяданне. Яно поўна неўласцівага Шолам-Алейхему пачуцця глыбокай безвыходнасці. Залішняя чуллівасць гэтага апавядання звязана з матывам жаласлівасці да ўсяго жывога. Нездарма ў апавяданні ёсць уступ пра мёртвую птушачку, якую знайшоўшыя яе хлапчукі закапалі ў магілцы і паставілі ёй помнік.

## IX

Матыў жаласлівасці да ўсяго жывога займае большае месца ў дзіцячых апавяданнях Шолам-Алейхема і гэта цесна звязана са спецыфікай яго гуманізма.

Прырода і жывёльны свет устаюць перад дзіцячымі персанажамі Шолам-Алейхема альбо ў форме зеляні, якую купляюць на рынку да свята «шовуэс» альбо ў выглядзе «чвэрці курыцы з бледнай выцягнутай лапкай», якую купляюць таксама на рынку, у гонар суботы. Таму ў іх няма натуральных спакойных адносін да прыроды; яны адносяцца да яе праяў альбо з цікаўнасцю, не пазбаўленай сантыментальнасці, як да чагосьці забароненага і недасягальнага, альбо з бязлітаснай жорсткасцю, як да чагосьці абсалютна чуждага. Апошняе сустракаецца значна радзей. Натуральней для дзіцяці, па Шолам-Алейхему, любоў да прыроды. Выцякае гэтае пачуццё зноў такі з натуральна-дзіцячага пачатку, які рушыць усе перашкоды і імкнецца «на волю, да святла, да акна, да акна!»

У аповесці «Хлопчык Мотл» малююцца дзве шчаслівыя істоты, адчуўшыя першымі на сабе ласку цёплых вясенніх сонечных праменняў—Мотл і цялёнак «Мені». Цялёнак «Мені» падскаквае і мычыць сваё «мэ», Мотл яго пераймае і таксама скача з бадзёрым «мэ», пакуль не атрымлівае за гэтыя «несалідныя» паводзіны нахлабучку ад брата Элі.

Уродлівыя формы жыцця ў мяжы аселасці з усім яе комплексам соцыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, ад якога пакутвалі яўрэйскія народныя масы, не давалі дзіцяці наблізіцца да прыроды, душылі ў ім усё натуральнае, усё жывое.

Адчужанасць ад прыроды разглядаецца, такім чынам, Шолам-Алейхемам як адзін з элементаў няпоўнацэннага жыцця яго герояў. Гэта і дае магчымасць пісьменніку карыстацца часам пейзажам для таго, каб падкрэсліць камічнасць свайго персанажа альбо сітуацыі,

як у апавяданні «Дамоў на Пасху», дзе апісваецца смяротны жах меламеда Фішэля перад прыроднай стыхіяй пры пераправе цераз Буг.

У апавяданнях пра жывёл «Мафусаіл» і «Рабчык» Шолам-Алейхем дае патрасаючую карціну жыцця ў мяжы аселасці.

Гэтыя два шэдэўры, як і большасць дзіцячых апавяданняў, суправаджаюцца разумнай, тужлівай усмешкай, што тоіць у сабе глыбокі ўнутраны змест.

Галеча, бездапаможнасць і абмежаванасць жыцця ў мяжы аселасці персоніфіцыруюцца ў вобразах «прыблуднага сабачкі Рабчыка» і замардаванага старога каня Мафусаіла. Няпоўнацэннасць чалавечага існавання ў тым соцыяльным асяроддзі, якое паказваў Шолам-Алейхем, пераносіцца таксама на жывёл. Яны нейкія не сапраўдныя, конь не конь, сабака—не сабака, гэта—«яўрэйскі сабака» і «яўрэйскі каняга».

## X

Усё жыццё дзіцяці і ўсе важнейшыя праяўленні яго прыроды малююцца ў Шолам-Алейхема на фоне хедэра. Гэта ўявіцца цалкам натуральным калі прыняць пад увагу, што хедэр, сапраўды, з'ядаў усе дзіцячыя годы. З хедэра ўжо выходзілі проста пад вянец і таму ўсе важнейшыя падзеі ў жыцці дзіцяці былі, сапраўды, звязаны з хедэрам, які Шолам-Алейхем разглядае, як галоўную інстанцыю па ўдушэнню дзіцячай натуры. Тут Шолам-Алейхем выступае з выключным пафасам адмаўлення і стварае свае сапраўдныя шэдэўры, дзе выступае не толькі незабываемая галярэя вобразаў дзяцей і настаўнікаў, але таксама і вобраз самога хедэра, як бурса ў Памялоўскага.

Хедэр дадзены літаральна ва ўсіх сваіх формах, хедэр у яго, так сказаць, «нармальным» штодзённым выглядзе, калі меламед раскачваецца і чытае разам з дзецьмі нараспеў недарэчны і незразумелы для дзяцей тэкст біблії, а дзіцячыя галоўкі заняты тым часам чымнебудзь іншым, сваім.

Хедэр, як «выхаваўчая» ўстанова выступае з выключнай сілай перад чытачом у жорсткай расправе над «Берэле красным» («Ножык»). Змярцвела-бледны «Берэле-злодзей», які вымушан атэставаць сябе пры ўсіх таварышах; дзеці хедэра, вымушаныя вынесці свайму таварышу бязлітасны прысуд; у баку толькі што прышоўшы, ледзь жывы ад страху хлопчык, які адчувае сябе таксама нячыстым з-за ўкрадзенага ножыка і над усімі імі іезуістычны рэбе, які топча самым грубым чынам малейшыя праяўленні чалавечнасці ў дзіцяці. Агідны твар хедэра выкрываецца ў асобе Моці-душагубца, Юдэля—ангела смерці, Мазэпы і рэб Іці-гувернанткі, як іх празвалі школьнікі. Шолам-Алейхем нанёс хедэру сакрушальны, смяротны ўдар.

Знішчальна-сатырычныя адносіны да меламеда змякчаюцца часам тым, што апошні паказан праз быт разам са сваёй жонкай, дзецьмі і г. д. Там ён той-жа няшчасны касрылік, як і ўсе. Ён так сама як і ўсе, мае чараду галодных дзяцей, у яго так сама, няма трох рублёў на суботу і жонка асыпае яго праклёнамі так сама, як і ўсіх. Ён сам

з'яўляецца членам акружаючай разаронай масы. Ён не прычына беззаконнасці, ён хутчэй за ўсё сам афяра ўсяго недарэчнага касрылаўскага жыцця.

Адначасова з вострай крытыкай хедэра з'яўляецца часамі ў Шолам-Алейхема струмень рамантыкі, як у «Песнь песней», напрыклад, дзе хедэр малюецца, як рэзервуар узвышанай фантастыкі, што апладатварае дзіцячую душу. Лірычнае змярканне ў хедэры, канун свята, калі ўсе раптам збліжаюцца ў ігры і сам рэбе захапляецца лёсам юлы, таму што рэбе «не такі ўжо дрэнны чалавек», выклікае ў пісьменніка самыя кволыя пачуцці. Пратэст супроць жудасці капіталізма звязаны часам у Шолам-Алейхема з тугой па адыходзячай патрыярхальнай Касрылаўцы і ў такія моманты нават хедэр ужо не ўяўляецца пісьменніку такім агідным.

## XI

Дзіцячыя апавяданні ўяўляюць сабой, як сказана, арганічны элемент стылю Шолам-Алейхема. Дзіця гэтае адначасова носьбіт уцехі і крыніца суму. Пісьменнік як-бы імкнецца адпачыць ад акружаючай рэчаіснасці ў чыстым дзіцячым асяроддзі, але жудасная рэчаіснасць насцігае яго і тут, агаляючыся ў самай уродлівай форме. І іменна таму Шолам-Алейхем не ўтрымліваецца ў рамках чыста-дзіцячай літаратуры. Дзіця з'яўляецца больш аб'ектам паказу, чым непасрэдным адрасатам.

Нягледзячы на гэта, дзіцячыя апавяданні Шолам-Алейхема ўяўляюць сабою і выдатную *дзіцячую* літаратуру. Цікавасць да дзіцяці, як аб'екта паказу, цесна звязана ў аўтара з спецыфічна-дзіцячай формай успрыймання. Добрадушны гумар Шолам-Алейхема, яго непасрэдны зварот да слухача, гутарка сам-на-сам, робяць яго вельмі блізкім дзіцяці. Бліскучая перадача дзіцячых перажыванняў, арганізаваных вакол адной пэўнай падзеі, кіпучая дзіцячая радасць і вынаходлівасць, дзіцячая мова, поўная чулай, наіўнай лірыкі—усяго гэтага Шолам-Алейхем дасяг дзякуючы сваёй вялікай любві да дзіцяці. Ён быў натхнёны ідэяй асвятлення жыцця прыгнечанага дзіцяці, ён гарэў жаданнем даць яму радасць, ён прысвячаў яму чароўныя гукі сваёй паэзіі.

*Н. Зеленоў*

# РЭАЛІЗМ І РАМАНТЫЗМ У ТВОРЧАСЦІ Н. В. ГОГАЛЯ

Творчы геній Гогаля складаўся ў цяжкіх умовах наступіўшай пасля разгрому дэкабрызма нікалаеўскай рэакцыі. Пра гэтую эпоху «ад дэкабрыстаў да Герцена». В. І. Ленін пісаў: «Прыгонная Расія забіта і нерухома. Пратэстуе нікчэмная меншасць з дваран, не маючых моцы без падтрымкі народа. Але лепшыя людзі з дваран дапамаглі разбудзіць народ». (Ленін, т. XVI, стр. 575).

Да ліку гэтых лепшых людзей з дваран, якія «дапамаглі разбудзіць народ», адносіцца і Н. В. Гогаль.

Н. В. Гогаль з'яўляецца прамым прадаўжальнікам пушкінскіх традыцый у рускай літаратуры. Не мала агульных матываў знойдзем мы ў творчасці Пушкіна і Гогаля, недарма Пушкін сам падсказаў Гогалю рад тэм і сюжэтаў. Сваёй творчасцю Гогаль звязан з лепшымі традыцыямі перадавой дваранскай літаратуры дэкабрыстскага перыяда. І ні ў якім разе не выпадкова, што першы твор Гогаля, напісаны ў 1827 г. і надрукаваны ў 1829 г., «Ганс Кюхельгартэн» быў напісаны ў вершах у выглядзе паэмы, на якой выразна можна бачыць сляды моцных уплываў байранічных рамантычных традыцый у рускай літаратуры.

У перадавой рускай дваранскай літаратуры 20—30 гадоў байранічныя матывы былі выражаны даволі рэзка. У гэтым байранічным рамантызме выражаўся пратэст перадавых людзей таго часу супроць прыгонніцтва, супроць усіх соцыяльных язваў у рускай дзейнасці. І паэма «Ганс Кюхельгартэн», нягледзячы на ўсю сваю недасپеласць, як ранняга юнацкага паэтычнага вопыту, характарызуе нам Гогаля, як чалавека, які не мірыцца з прыгонніцкай сапраўднасцю.

У гэтым творы Гогаль стварае вобраз рамантычнага юнака, які «волнуем думой непонятной»... «рассеянно глядел на мир великий, необ'ятный, на свой незнаемый удел»... «Тайная печаль им овладела; взор туманен, и часто смотрит он на даль, и беспокоен весь и странен. Чего-то смело ищет ум, чего-то тайно негодует; душа в волненьи темных дум о чем то скорбная тоскует». «Ему казалось душно, пыльно в сей позаброшенной стране, и сердце билось сильно, сильно по дальней, дальней стороне».

Звязваючыя ніці ад Ганса Кюхельгартэна цягнуцца да лепшых вобразаў дваранскай літаратуры, да Печорына, Онегіна, Алеко, Каўказскага палонніка, Чацкага і іншых, г. зн. усіх тых вобразаў, у якіх нашлі сабе адбітак перадавыя настроі лепшай дваранскай моладзі, якая не мірылася з акружаючай яе прыгоннай сапраўднасцю.

Уся наступная творчасць Гогаля сведчыць нам наколькі глыбока ненавісны быў вялікаму пісьменніку гэты свет прыгонніцтва са ўсёй яе чыноўна-бюракратычнай сістэмай. Неўспрыманне прыгонніцкай сапраўднасці і абумоўлівала своеасаблівасць мастацкага метаду Гогаля. У творчасці Гогаля рэзка выявіліся дзве тэндэнцыі—рэалістычная і рамантычная, і абедзве пароджаны былі аднымі і тымі-ж соцыяльнымі прычынамі. Абедзве тэндэнцыі—і рэалістычная і рамантычная пераплятаюцца на працягу ўсёй творчасці Гогаля. Рэалізм Гогаля быў крытычным рэалізмам. Перамагаючы ўплывы байранічнай рамантыкі, якія выявіліся ў яго першым творы «Ганс Кюхельгартэн», і якія выразіліся ў матывах бегства ад сапраўднасці, Гогаль у наступных творах,—пачынаючы ад аповесці «Іван Федаравіч Шпонька і яго цётушка», пільным поглядам мастака ўглядаўся ў гэтую сапраўднасць. З любоўю да сваёй радзімы, да свайго народа, Гогаль выступаў у сваіх творах мастаком-крытыкам; ён імкнуўся абхапіць самыя разнастайныя цёмныя закавулкі соцыяльных з'яў прыгонніцкай сапраўднасці.

Заглянуў ён і ў разароныя вёскі, і ў павятовыя і губернскія гарады, заглянуў на Неўскі праспект Пецербурга і ў павятовыя, губернскія, сталічныя канцэлярыі розных ведамстваў, заглянуў у панскія пакоі памешчыкаў і чыноўнікаў і ў бедна абсталяваную і халодную майстэрню мастака Чэрткова, заглянуў ён і ў шмат іншых куткоў і закавулкаў расійскай сапраўднасці і ўсюды перад Гогалем раскрываўся свет у рэзкай соцыяльнай дысгармоніі.

Сваім крытычным вокам ён не мог не бачыць таго страшэннага ўбоства, у якім знаходзілася прыгоннае сялянства. Аб гэтым убостве ён расказаў у «Мёртвых душах». «Вёска памешчыка Плюшкіна адрознівалася нейкай асаблівай старасцю ва ўсіх пабудовах; бервяно на хатах было цёмнае і старое, шмат дахаў сквазілася, як рэшата. Вокны ў хацінках былі без шкла, іншыя былі заткнуты рыззём, або зіпуном». «Усё было спушчана і запушчана,—піша Гогаль аб гаспадарцы Хлабуева.—Адзін з мужыкоў часаў у сябе ніжэй спіны, другі пазяхаў. Пазяханне можна было бачыць на пабудовах і на ўсім. Стрэхі таксама пазяхалі... На адной хаце замест страхі ляжалі цалкам вароты; вокны, якія праваліліся, былі падпёрты жэрдкамі, сцягнутымі з панскага свірна. Адным словам, у гаспадарцы была ўведзена, здаецца, сістэма Трышкіна кафтана: адрэзваліся абшлагі і фалды на латы лакцей». Углядаючыся ў твар правінцыяльнага горада, Гогаль убачыў гранічную ступень драпежніцтва, зладзейства, хабарніцтва, машэніцтва, да якой дайшлі чыноўнікі правінцыяльных гарадоў, усё гэта спалучалася з пануючым бяспраўем народных мас, цалкам адданых уладзе чыноўнічага самавольства. Ні адной светлай фарбы ён не мог пакласці на сваё палатно пры абмалёўцы быту і нораваў чыноўнікаў правінцыяльнага гарадка.

Не выпадкова аб сваёй камедыі «Рэвізор» (1834—36 г. г.) Гогаль у пісьме да Жукоўскага ад 20/I-1848 г. пісаў, што ён у гэтай камедыі сабраў усё адмоўнае і смешнае, што было ў рускай сапраўднасці, каб «за адным разам над усім пасмяяцца». Яшчэ больш рэзка ўспрыняў Гогаль соцыяльныя супярэчнасці жыцця вялікага горада, самой сталіцы Пецербурга. У «Запісках сумасшедшего»

Гогаль ад імя героя аповесці Папрышчына пісаў аб соцыяльных супярэчнасцях вялікага горада: «Усё, што ёсць лепшага на свеце, усё дастаецца або камер-юнкерам, або генералам. Знойдзеш сабе беднае багацце, думаеш дастаць рукамі,—зрывае ў цябе камер-юнкер, або генерал».

Свет убоства і нястачы, соцыяльнай забітасці і бяспраўя адкрыўся вялікаму мастаку ў пецербургскіх кварталах, і над гэтым светам узвышалася ўся бяздушная, адвергнутая Гогалем бюракратычна-чыноўніцкая сістэма. І Гогаль не застаўся халодным гледачом усёй намаляванай ім карціны.

Вастрыё сваёй сатыры Гогаль накіраваў на пануючы клас, на свет памешчыкаў і чыноўнікаў, на ўсю чыноўна-бюракратычную сістэму. Робячы агляд прыгонніцкай Расіі, Гогаль у сваіх творах імкнуўся абхапіць увесь шырокі памешчыцка-чыноўніцкі масіў. Сюжэтыка твораў Гогаля (у асаблівасці камедыі «Рэвізор» і паэмы-аповесці «Мертвые души») цалкам адпавядаюць пастаўленым Гогалем задачам. Сюжэтыка большасці гогалеўскіх твораў пабудавана не столькі на развіцці дзеяння, не столькі на паказе духоўнага росту герояў, колькі на паказе разгорнутай партрэтнай галерэі памешчыцка-чыноўніцкага асяроддзя.

Перад чытачом праходзяць і любячыя бесклапотна і сытна пажыць, нічога не робячыя памешчыкі Афанасій і Пульхерыя Іванаўна Тоўстагубы і зверападобны кулак—памешчык Сабакевіч; лёгкадумны хвалько і ілгун, у якога лёгкасць думак у галаве незвычайная—Хлестакоў; плут, машэннік і хабарнік гараднічы Сквазнік-Дмуханоўскі; драпежнік-набывацель, машэнік, аферыст Чычыкаў. Тупаумная скапідомка памешчыца Каробачка; і пошлы лятуценнік Манілаў; пустасловы-пляткары «трашчоткі праклятыя» Бобчынскі і Добчынскі; скнара Плюшкін, бяссэнснай скнарасцю даводзячы сваю гаспадарку да поўнага развала; скандаліст Наздроў, які вечна бадзяўся па кірмашах і пражываў астаткі сваёй гаспадаркі і шмат, шмат іншых.

Усе героі Гогаля, узятыя ім з чыноўніцка-памешчыцкага асяроддзя, прымітыўна аднастайныя і не складаныя па свайму ўнутранаму зместу. У свядомасці гэтых герояў не прамільгане ні аднае творчай думкі. Разумовы гарызонт большасці гогалеўскіх герояў не выходзіў за межы памешчыцкай сядзібы, правінцыяльнага гарадка, правінцыяльных гарадскіх плётак. Надзвычайна ярка Гогалем падкрэслена гэта абмежаванасць разумовага гарызонта ў вобразах старасвецкіх памешчыкаў. «Ні адно іх жаданне,—пісаў Гогаль аб старасвецкіх памешчыках,—не пералятала за частакол, акружаючы невялікі дворык». Усе імкненні старасвецкіх памешчыкаў былі накіраваны да таго, каб забяспечыць для сябе спакой, утульнасць, цяпло, адпачынак і сытае жыццё. І ўсе гэтыя Тоўстагубы, Сабакевічы, Манілавы і інш., вядучы такое жыццё, не задумваюцца аб тым, што яны з'яўляюцца эксплаатататарамі і небакапціцелямі, толькі пажыраючымі ўсё тое, што для іх напрацуюць іх прыгонныя.

Плёткі, карцёжная гульня, псарня і паляванне, імкненне смачна і сытна паесці—вось той круг нізменных інтарэсаў і інстынктаў,

якімі жывуць шматлікія гогалеўскія персанажы. Пячаць пошласці ляжыць на ўсіх гэтых вобразах, яны застылі ў сваёй нікчэмнасці.

Соцыяльнымі мерцвякамі глядзяць яны на чытача са старонак кнігі, і цяжка і немагчыма бывае чытачу дакапацца да іх душы. Яны не здольны ні на якое праяўленне жывога чалавечага пачуцця. Нават звычайнае чалавечае пачуцце—любоў да жанчыны—адсутнічае ва ўсіх гэтых герояў, накшталт Сабакевіча, Наздрова, Плюшкіна, або Скваэнік-Дмуханоўскага, або Чычыкава. Там-жа, дзе Гогаль пры паказе гэтых соцыяльных мерцвякоў падыходзіць да любоўнай тэматыкі, напрыклад, паказ узаемаадносін Хлестакова з Мар'ей Антонаўнай, Аннай Андрэеўнай у камедыі «Рэвізор», або ўзаемаадносін Манілава і яго жонкі ў «Мёртвых душах», то і тут Гогаль паказвае, як гэтыя звычайныя чалавечыя пачуцці, якія выражаюцца ў узаемаадносінах паміж мужчынай і жанчынай, у названых персанажаў набываюць вельмі ўродлівыя формы. Паводзіны гогалеўскіх персанажаў азначаюцца вельмі нізменымі стымуламі. Вельмі часта Гогаль паказвае злачыннасць дзеяння сваіх герояў, як напрыклад, машэніцтва, драпежніцтва і хабарніцтва гараднічага Сквозніка-Дмуханоўскага і ўсяго калектыва чыноўнікаў камедыі «Рэвізор», машэніцтва і афёры Чычыкава, дзеянні чыноўнікаў у «Мёртвых душах» і г. д. Побач з гэтым Гогаль паказвае пустату многіх сваіх герояў (Наздроў, Плюшкін, Іван Іванавіч Перарэпенка, Іван Нікіфаравіч Доўгачхун і шмат іншых).

Паказвае Гогаль і бяздзейнасць, небакапціцельства многіх сваіх герояў (Афанасій Іванавіч і Пульхерыя Іванаўна Тоўстагубы, Манілаў, Хлобуеў, Ценцетнікоў і інш.) І ўсе гэтыя тры моманты, характарызуючыя паводзіны гогалеўскіх герояў, глыбока соцыяльны, яны абумоўлены своеасаблівасцю прыгоннай эпохі 30-х гадоў, эпохі рэакцыі, эпохі эканамічнага і палітычнага застою. Сюжэтыка шмат якіх твораў вялікага гумарыста якраз і падпарадкавана тэндэнцыі выкрыць прыгонніцкае памешчыцка-чыноўніцкае асяроддзе, тэндэнцыі паказаць нізкасць, пошласць і злачынства характараў у іх паводзінах і ўчынках. Спецыфіка інтрыгі, ляжачай у аснове сюжэтыкі, цалкам адпавядала ўсім гэтым пастаўленым Гогалем задачам. У большасці гогалеўскіх твораў звычайна адсутнічае героіка, адсутнічае паказ благародных імкненняў паказваемых асоб, адсутнічае, нават, любоўная інтрыга. Адсутнасць усіх гэтых элементаў у яго творах Гогаль матывіруе наступным чынам: «Зараз мацней завязвае драму імкненне дабыць выгаднае месца, блiснуць i зацямнiць у чым-бы ні стала іншага... Ці не больш зараз маюць электрычнасці— чын, грашовы капітал, выгодная жаніцьба, чым каханне?» І сапраўды, сюжэтыка большасці гогалеўскіх твораў і ў прыватнасці яго бяссмертная камедыя «Рэвізор», як раз і будуецца на «электрычнасці чына, грашовага капітала, выгоднай жаніцьбы». Такі тыпаж пабудовы сюжэта цалкам гарманіраваў з празаічнасцю персанажаў. Вострым джалам смеху Гогаль жадаў выпаліць усе соцыяльныя язвы на целе любімай ім радзімы. Гэты смех даў магчымасць Гогалю быць рэалістам, люстрам для «крывога рыла» чыноўніцтва і дваранства. Не дарма так моцна любіў Белінскі сатыру Гогаля, якая па словах вялікага крытыка «кусаецца, упіваецца ў цела да

касцей, рубіцца са ўсяго пляча, хлешча направа і налева сваім бічом, звітым з шыпячых змей». І нездарма тагочасная прыгонніцкая грамада разглядала Гогаля як бунтаўшчыка. Гэты смех даваў яму магчымасць пры паказе прыгонніцтва майстэрскі карыстацца прыёмамі камічнага апісання. У крытыцы ні адзін раз і настойліва выказваліся такія думкі, што Гогалю наогул уласціва было быць камічным пісьменнікам, таму ён і маляваў усё ў смешным выглядзе. У сапраўднасці-ж—камізм у творчасці Гогаля абумоўліваецца не яго асабістымі якасцямі як пісьменніка—гумарыста. Белінскі цалкам правільна ўказаў на прычыны гогалеўскага камізма. «Прычына камізма гогалеўскіх вобразаў,—пісаў Белінскі,—не ў здольнасці ці кірунку аўтара знаходзіць ва ўсім смешныя бакі, але ў вернасці жыцця». Белінскі правільна ўказаў, што як рэалізм, так і прыёмы камічнага пісьма Гогалю падказаны былі самім жыццём.

Прыёмы камічнага пісьма выяўляліся ў саміх характарыстыках, у партрэтных замалёўках, у камізме сітуацый, у камізме паводзін герояў, у зваротах мовы характарызуючых пустадуш'е і пустаслоўе гогалеўскіх персанажаў; камізм выяўляўся і ў своеасаблівым падборы слоўніка, метафар, параўнання і іншых слоўных выяўленчых сродкаў. Камізм пісьма выяўляўся ў саміх прыёмах характарыстык... Адным з улюбёных такіх прыёмаў з'яўляецца прыём гіпербалізацыі, пранізваючы самыя разнастайныя кампаненты стылю Гогаля, уключаючы сюды і мову. Гіпербалізм Гогаля сугуба-рэалістычны, падпарадкаваны тэндэнцыям вялікага пісьменніка паказаць празаічнасць персанажаў, празаічнасць і пошласць жыцця. Карыстаецца Гогаль і прыёмам кантрастаў. Адным з улюбёных кантрастаў, ствараючых камізм уражання, з'яўляецца кантраст, пабудаваны на проціпастаўленні ўзвышанага звычайнаму.

Любіць Гогаль у характарах герояў выдзяляць тую ці іншую дамініруючую адмоўную рысу, да якой зводзяцца ўсе астатнія рысы характара. Гогаль звычайна паказвае герояў у псіхалагічнай статыцы. У гэтых адносінах прыёмы гогалеўскага пісьма рэзка адрозніваюцца ад прыёмаў пісьма Льва Талстога. Мы не знойдзем ні ў Сабакевіча, ні ў Наздрова, ні ў Хлестакова, ні ў многіх іншых ніякіх душэўных зрухаў. Спачатку і да канца яны выступаюць аднымі і тымі-ж. Гогаль не карыстаецца псіхалагізмам у абрысоўцы адмоўных персанажаў. Псіхалагізм бывае патрэбны ў тых выпадках, калі паказваюцца жывыя, чалавечыя перажыванні. Для зарысоўкі соцыяльных мерцвякоў гэты псіхалагізм зусім непатрэбны. Пагэтаму, натуральна, што ў Гогаля і выконваюць такую ролю разгорнутыя характарыстыкі, замяняючыя псіхалагічны аналіз. Кожная характарыстыка ў Гогаля звычайна сабрана ў адно. З разарванымі характарыстыкамі, як напрыклад у Тургенева, ці ў Льва Талстога у Гогаля мы звычайна не сустракаемся. Выключна вялікае месца ў характарыстыках герояў у Гогаля займае партрэтыка. Партрэтныя замалёўкі ў Гогаля шмат дзе замяняюць сабою псіхалагізм.

Як партрэтыст, Гогаль умеў трапна праз вонкавую характарыстыку героя раскрываць яго сапраўдны, соцыяльны твар. Напрыклад, драпежніку Чычыкаву надаецца спецыфічны выгляд, які дапамагае яму лавіць рыбку ў мутнай вадзе.

З аднаго боку, Чычыкаў павінен адрозніваціца неабходнай для драпежніка рухомасцю; з другога боку гэта рухомасць павінна спалучацца з неабходнай для Чычыкава саліднасцю, бо абедзве гэтыя якасці для драпежніка Чычыкава вельмі неабходны. Пагэтаму Чычыкаў у Гогаля «не красавец, но и не плох собой, не слишком толст, не слишком тонок, нельзя сказать, чтобы стар, но и не так, чтобы слишком молод». Нават тое, як смаркаецца Чычыкаў, характарызуе соцыяльнае аблічча. «В приемах своих господин имел что-то солидное и высмаркивался громко. Неизвестно как он это делал, но только нос его звучал, как труба». Відавочна, што дробны чыноўнік, тым больш у прысутнасці начальства,—вядома, не мог смаркацца так громка, як Чычыкаў.

Партрэтыка Гогаля адлюстроўвае сабою ўсё разумовае ўбоства, агіднасць гогалеўскай эпохі.

Партрэтныя замалёўкі ў Гогаля багаты ўсялякімі агіднымі «мордамі». Па сутнасці, там, дзе Гогаль малюе памешчыкаў, прыгоннікаў і чыноўнікаў, мы, як правіла, не сустрэнем у яго ні аднаго прыгожага твару.

Партрэтныя замалёўкі ў Гогаля як-бы сцвярджаюць яго эпіграф да «Рэвізора». «Нечего пенять на зеркало, коли рожа кривая».

Калі талстоўскія партрэтныя замалёўкі гранічна адухоўлены, то партрэтныя замалёўкі адмоўных персанажаў у Гогаля цалкам адпавядаюць застыўшым у сваім соцыяльным амярцвенні характарам, якія адрозніваюцца гранічнай абмежаванасцю духоўных замалёвак. «Собакевич слушал все попрежнему—расказвае Гогаль аб адным з сваіх персанажаў,—нагнувши голову и хоть-бы что нибудь похожее на выражение показалось на лице его. Казалось, в этом теле вовсе не было души, или она у него была, но вовсе не там, где следует, а, как у бессмертного Кащея, где-то за горами и закрыта такою толстою скорлупой, что все, что ни выражалось на дне ее, не производило решительно никакого потрясения на поверхности».

У партрэтных замалёўках дваранска-чыноўнічага асяроддзя Гогаль любіў карыстацца такімі дэталямі, якія-б мярцьвілі малюемы персанаж, дапамагалі яму паказваць празаічнасць і пошласць гэтага персанажа. З гэтай мэтай Гогаль любіў карыстацца параўнаннямі, узятымі з нежывой прыроды, з міра рэчаў і прадметаў, якія акружалі гэты персанаж у штодзённай абстаноўцы.

Для характарыстыкі Манілава Гогаль карыстаецца выглядам цукру, для характарыстыкі Сабакевіча выкарыстоўвае выгляд медзянога пятака; прарэхі для характарыстыкі Плюшкіна.

Блізка да гэтай-жа катэгорыі трэба аднесці і вобразы гародных культур. Пры дапамозе гэтых вобразаў, выкарыстаных ім у параўнаннях, Гогаль адцяняе тую-ж празаічнасць паказваемых персанажаў і тую-ж душэўную амярцвеласць і пошласць. Для характарыстыкі Сабакевіча Гогаль карыстаецца малдаванскай тыквай; для характарыстыкі жонкі Сабакевіча—агурком; для характарыстыкі Івана Іванавіча і Івана Нікіфаравіча—рэдзькай. У тых-жа выпадках, калі Гогаль прыбягае да вобразаў жывой прыроды, як напрыклад, мядзведзя пры характарыстыцы Сабакевіча, ці гусака пры характа-

рыстыцы Івана Іванавіча Перарэпенка ці пеўня пры характарыстыцы памешчыка Пятуха—ва ўсіх гэтых выпадках усе гэтыя вобразы, узятыя з жывой прыроды, выконваюць тую-ж функцыю, што і вобразы гародных культур і вобразы з нежывой прыроды.

Тыпізіруючы кожны вобраз, Гогаль звычайна, як і ў характарыстыках, так і ў партрэтах выдзяляе тую ці іншую характэрную рысу, уласцівую складу таго, ці іншага характара героя. Рысы характара зверападобнага моцнага памешчыка-кулака Сабакевіча Гогалем выяўляюцца і ў партрэтнай абмалёўцы гэтага памешчыка. Сабакевіч па свайму выгляду нагадваў мядзведзя, аж да таго, што і касцюм яго быў мядзвежага колеру і колер твара меў калёны, гарачы, як на медным пятаку.

Нікчэмнасць скнары Плюшкіна раскрываецца на такім партрэце, па якому немагчыма вызначыць не толькі памешчыка, але нават і род. Плюшкін хутчэй нагадвае ключніцу, чым памешчыка. За ключніцу і прыняў яго Чычыкаў у час сваёй першай з ім сустрэчы. Гэтым падкрэслівалася рыса дробязнасці ў характары Плюшкіна.

Сентыментальная натура бяздзейнага лятуценніка Манілава раскрывалася праз яго выгляд. «На взгляд он был человек видный, черты лица его были не лишены приятности, но в эту приятность, казалось, черезчур было передано сахару». Гэты намёк на цукар упарта паўтараецца ў абрысоўцы Манілава: «Помещик Манилов еще вовсе человек не пожилой, имевший глаза сладкие, как сахар, и щуривший всякий раз когда смеялся,—был от него (Чичикова) без памяти».

«При этом глаза его делались чрезвычайно сладкими, и лицо принимало самое довольное выражение».

Дробная партрэтная дэталь, а таксама дэталь у апісанні абсталявання кватэры, сямейна-бытавога акружэння, нарэшце, прыроды—даюць нам магчымасць пранікнуць у тайну майстэрства Гогаля, у яго здольнасці на кожнай дэталі раскрыць псіхалогію духоўнаабмежаванага чалавека, улавіць цесную сувязь паміж унутраным светам героя і акружаючай яго абстаноўкай, светам рэчаў. Раскрываючы характар Сабакевіча, Гогаль, напрыклад, апісвае абсталяванне яго кватэры. На ўсім гэтым абсталяванні ляжаў адбітак псіхалогіі Сабакевіча, памешчыка-кулака, грубога па натуры чалавека, які любіў ва ўсім бачыць не прыгожасць, зграбнасць і сіметрыю форм, а манументальнасць, моцнасць, трываласць гэтых форм. Кожны стол, стул, гаварыў у яго: «Я тоже Собакевич». Але гэтую-ж заканамернасць, якая выяўляецца ў гогалеўскім стылі, метадзе, можна прасачыць і ў абрысоўцы шмат якіх іншых персанажаў, у прыватнасці Плюшкіна і Манілава.

Гогаль любіў раскрываць характары сваіх герояў на тыпічных для кожнага з іх дробязях іх бытавога ўклада, ён любіў маляваць жанравыя—бытавыя карціны.

Бытавая рэалістычная дэталь дапамагае Гогалю рэльефней адлюстраваць нескладанасць псіхікі малюемых ім персанажаў.

Недарма Гогаль-рэаліст так майстэрскі раскрывае ўнутраны свет герояў, у прыватнасці, на такой дэталі, як ежа. Тут асабліва

ярка праяўляецца нескладаная індывідуальнасць кожнага гогалеўскага тыпа ў памешчыцка-чыноўніцкім асяроддзі, дзе пры адсутнасці культурных попытаў, духоўных інтарэсаў асабліва вялікае значэнне прыдавалася ежы.

«Люблю поесть,—гаворыць Хлестакоў гараднічаму,—ведь для того и живешь, чтобы срывать цветы удовольствия». Але не менш любяць паесці і старасвецкія памешчыкі, і Пятух, і Сабакевіч і астатнія.

Апісваецца абед у паліцмейстара: «Все пошли в ту комнату, откуда несшийся запах давно начинал приятным образом щекотать ноздри и куда уже Собакевич давно заглядывал в дверь, наметив издали осетра, лежавшего в стороне на большом блюде.

Гости, выпивши по рюмке водки темного оливкового цвета, приступили со всех сторон с вилками к столу и стали обнаруживать, как говорится, каждый свой характер и склонности, намечая кто на икру, кто на семгу, кто на сыр. Собакевич, оставив без внимания эти мелочи, пристроился к осетру, и покамест те пили, разговаривали и ели, он в четверть часа с небольшим доел его всего, так что когда полицмейстер вспомнил было о нем и, сказавши: «а каково вам, господа, покажется вот это произведение природы»—подошел было к нему с вилкою вместе с другими, то увидел, что от произведения природы остался всего один хвост; а Собакевич прикинулся так, как будто и не он и, подошедши к тарелке, которая была подальше прочих, тыкал вилкою какую-то сушеную маленькую рыбку.

Отделавши осетра, Собакевич сел в кресло и уже больше не ел, не пил, а только жмурил и хлопал глазами».

Вялікае значэнне ў характарыстыцы гогалеўскіх памешчыкаў і чыноўнікаў мае картачная гульня. Успомнім хаця-б гараднічага і Хлестакова з «Рэвізора» ці Наздрова з «Мертвых душ».

Поштмейстар у «Мертвых душах» раскрываецца, напрыклад, так сама пры дапамозе карт: «Хотя почтмейстер был очень речист, но и тот, взявши в руки карты, в тот-же час выразил на лице своем мыслящую физиономию, покрыл нижнею губою верхнюю и сохранил такое положение во все время игры».

Не апошняе месца ў характарыстыцы памешчыкаў і чыноўнікаў у Гогаля займаюць псы і псовае паляванне: успомнім псарню Наздрова, борзых шчанюкоў у «Рэвізоры», і гарапнік, які вісеў у судзейскім прысутным месцы ў суддзі ў «Рэвізоры».

Выключна важнае значэнне ў характарыстыцы герояў займаюць грошы, адносіны да грошай герояў і ў прыватнасці адносіны да хабара, а таксама і самая манера браць і даваць хабары.

Адносіны да грошай тых ці іншых герояў Гогаль паказвае ўвесь час ва ўсіх сваіх творах, напрыклад скарэднасць да грошай у Плюшкіна раскрываецца на такіх дэталях, як рукі Плюшкіна, якія трасуцца, калі ён бярэ ў Чычыкава задатак за праданыя «мёртвыя душы».

Хабарніцтва суддзяў Гогаль паказвае праз кур, клюючых прасыпанае неасцярожнымі прасіцелямі збожжа на ганку судвейскага будынка.

Выключна вялікую ролю грае апісанне манеры браць і даваць хабары ў такім творы, як «Рэвізор».

Шмат іншых дробных дэталей таксама скарыстаны Гогалем для характарыстыкі герояў, як напрыклад, гульня ў шашкі Наздрова з Чычыкавым, шарманка ў Наздрова, чарка віна з плаваючай у ёй мухай у Плюшкіна ці куча рознага хлама ў кватэры Плюшкіна.

Паказваючы псіхалогію абываталяў памешчыкаў і чыноўнікаў Міргарада, Гогаль адначасова дае і гумарыстычны пейзаж гэтага горада. Ён не забывае ўпамянуць аб развешаных на плятнях шараварах, гаршках і г. д. і аб выключнай лужыне, якая знаходзілася на плошчы ў цэнтры горада.

Замалёўка правінцыяльнага гарадскога пейзажа асабліва вырысоўваецца і ў камедыі «Рэвізор».

Сакавітыя моўныя характарыстыкі даюць магчымасць Гогалю таксама выпукла абмаляваць сваіх сацыяльных мерцвякоў. Ён умее камізм персанажа адцяніць праз камізм яго мовы, праз перадачу своеасаблівасці складу яго мовы, праз падбор адпавядаючага слоўніка, характэрнага для правінцыяльнага чыноўніцтва і памешчыцкага дваранства. Напрыклад, высмейваючы свецкіх дам правінцыяльнага губернскага горада, Гогаль піша аб іх мове: «Дамы города Н. отличались подобно многим дамам петербургским необыкновенной осторожностью и приличием в словах и выражениях. Никогда не говорили: «я высморкалась, я вспотела, я икнула», а говорили: «я облегчила себе нос, я обошлась посредством платка». Ні ў якім выпадку нельга было сказаць: «этот стакан или эта тарелка воняет» и даже нельзя было сказать ничего такого, что подало-бы намек на это, а говорили вместо этого: «этот стакан не хорошо ведет себя», или что-нибудь в этом роде».

Калі мова «далікатных» дам адрознівалася не толькі выбарам «далікатных» слоў, але і ўсім інасказацельным метафарычным складам мовы, прысутнасцю ў ёй французскіх слоў і зваротаў, то мова гараднічага характарызуецца не толькі вульгарнымі словамі і выразамі, але і цынізмам. Гараднічы любіць нанізваць адно на другое слоўцы лаянкі так, што яго жонка Анна Андрэеўна прымушана была ў гутарцы гараднічага з купцамі прыпыніць свайго мужа: «Ах, боже мой, какие ты, Антоша, слова отпускаешь».

Гэтая гутарка гараднічага з купцамі пасля таго, як высветлілася, што яны скардзіліся на яго Хлестакову і што з гэтай скаргі ў іх нічога не атрымалася,—можа служыць найбольш яркім прыкладам для характарыстыкі мовы гараднічага:

Городничий: Что, голубчики, как поживаете? Как товар идет ваш? Что, самоварники, аршинники, жаловаться? Архиплуты, протобестии, надувалы морские! Жаловаться? Что, много взяли? Вот, думают, так в тюрьму его и засадят... Знаете ли вы, семь чертей и одна ведьма вам в зубы, что...

Анна Антоновна: Ах, боже мой, какие ты, Антоша, слова отпускаешь.

Городничий (с неудовольствием): А, не до слов теперь.

Разумовае, маральнае, культурнае ўбоства жыхароў Міргарада раскрываецца ў скарзе Івана Нікіфаравіча ў суд на Івана Іванавіча...

У ёй цяжкай, афіцыйна-канцэлярска мёртвай мовай, багатай славянізмам, апісваецца, як Іван Іванавіч падсек слупы гусятніка. Гэтая «высокая» мова асабліва рэзка падкрэслівае нікчэмнасць аўтара заявы.

Іван Нікіфаравіч піша ў суд:

«По ненавистной злобе своей и явному недоброжелательству, называющий себя дворянином Иван Иванович Перерепенко, всякие пакости, убытки и иные ехидненские и в ужас приводящие поступки мне чинит и вчерашнего дня пополудни, как разбойники и тати с топором и пилами, долотами и иными слесарными оружиями забрался в мой двор и в находящийся в оном мой-же собственный хлев, собственноручно и поносным образом его изрубил. На что с моей стороны я не подавал никаковой причины к столь противозаконному и разбойничьему поступку».

Пустаслоўе гарадскіх пляткароў, «трещеток проклятых» Бобчынскага і Добчынскага; выхвальная, пазбаўленая лагічнай сувязі і паслядоўнасці, мова Хлестакова, у якога ў галаве «легкость мыслей необыкновенная»; мова лоўкага машэнніка Чычыкава, які заўсёды ўмее пападаць у тон субяседніка шляхам падбора адпаведных слоў і выражэнняў; мова Манілава, перапоўненая сентыментальнымі ўсклікамі, любезнасцямі і кампліментамі; мова Наздрова, багата перасыпаная лаянкай і той-жа час ласкальнымі мянушкамі і слоўцамі, накшталт, «скотовод», «свинтус», «детюк»; мова шмат другіх персанажаў з разнастойных твораў Гогаля—усюды падкрэслівае спецыфічныя рысы характара.

Апісальная мова Гогаля таксама нясе на сабе адбітак камізма. Гэты камізм ствараўся пры дапамозе цэлага рада прыёмаў побач са скарыстаннем у апісальнай мове слоўніка, узятага ім з жывой разгаворнай народнай мовы. Гогаль вельмі часта любіў карыстацца травесційным стылем, г. зн. высокай захапляючай мовай, якой апісваліся нязначныя празаічныя з'явы, прадметы і падзеі.

Такім стылем апісаны, напрыклад, пейзаж Міргарада з яго плятнямі і лужай пасярод плошчы. Гэтым-жа стылем карыстаецца ў аповесці Гогаль і пры апісанні асамблеі, якую даваў гараднічы, а таксама пры апісанні казённай палаты ў «Мертвых душах». Гэтым-жа стылем карыстаецца Гогаль і ў іншых выпадках. Карыстаецца Гогаль і многімі іншымі стылевымі асаблівасцямі, як напрыклад, гіпербалізіраванымі метафарамі і параўнаннямі, парушаючымі рэальныя прапорцыі.

Пераўвялічэнні у Гогаля спалучаюцца з пераўмяншэннямі, антытэзамі, іроніяй. Прыкладам гэтага можа служыць урывак з аповесці «Неўскі праспект». «Дивно устроен свет наш!.. Тот имеет отличного повара, но к сожалению, такой маленький рот, что больше двух кусочков никак не может пропустить; другой имеет рот величиной с арку главного штаба, но увы, должен довольствоваться обедом из картофеля».

Усе гэтыя моўныя сродкі і шмат іншых давалі Гогалю магчымасць ствараць высокамастацкія бяссмертныя вобразы.

Высмейваючы праз гэтыя вобразы з'явы рускага жыцця, Гогаль у той-жа час глыбока смуткаваў аб усіх гэтых змрочных з'явах.

Смех яго быў засмучон лірычнымі сумнымі ноткамі, якія звычайна перапляталіся з прыёмамі камічнага пісьма.

У гэтых сумных лірычных нотках выяўляўся гогалеўскі смех скрозь нябачныя свету слёзы, горкі гогалеўскі смех. У гэтых сумных нотках выяўляўся ў Гогаля той боль за сваю радзіму, аб якім Горкі ў свой час пісаў: «Калі наш стары пісьменнік пакутваў ад «зубнога болю ў сэрцы», у чэсным і чулым сэрцы сваім, стогн яго пакут зліваўся са стогнамі лепшых людзей зямлі, бо ён знаходзіўся ў непарыўным з ім духоўным існаванні, і крык яго быў крыкам за ўсіх». У гэтым сказвалася народнасць гогалеўскага рэалізма, яго выкрывацельства.

* * *

Усе гэтыя прыёмы камічнага пісьма характэрны для Гогаля галоўным чынам пры паказе дваранска-чыноўніцкага асяроддзя, пры паказе адмоўных персанажаў. Але гэтыя-ж прыёмы пісьма характэрны і пры паказе купецтва, як напрыклад, у камедыях «Женитьба» і «Ревизор».

Але Гогаль маляваў не толькі дваранска-чыноўніцкую бюракратычную Русь і Русь купецкую. Роўналежна тэме аб прыгонніцтве, аб чыноўна-дваранскім асяроддзі, Гогаль на працягу ўсёй сваёй творчасці разгортваў і тэму аб народзе.

У паказе народа Гогаль выступаў таксама мастаком-рэалістам, ён праўдзіва паказаў жыццё, быт, псіхалогію, вераванні народа. Але ў паказе народа, як сялянства, казацтва, так і дэмакратычных пластоў Пецербурга, Гогаль багата карыстаўся іншымі прыёмамі пісьма, хоць і абумоўленымі ўсё тым-жа рэалізмам. Вялікае месца сярод твораў Гогаля займаюць так званыя «Петербургские повести», дзе апісваецца жыццё дэмакратычных пластоў насельніцтва ў Пецербурзе, галоўным чынам, працоўнай інтэлігенцыі і дробнага чыноўніцтва.

«Петербургские повести» прасякнуты глыбокай нянавісцю да горада, капіталізма, гандлярства, да бяздушнай бюракратычнай сістэмы.

«Все дышет обманом,—піша Гогаль у аповесці «Неўскі праспект»,—он лжет во всякое время, этот Невский проспект, но более всего тогда, когда ночь сгущенной массой наляжет на него и отделит белые и палевые стены домов, когда весь город превратится в гром и блеск, мириады карет валятся с мостов, форейторы кричат и прыгают на лошадях и когда сам демон зажигает лампы для того только, чтобы показать все не в настоящем виде».

У «Петербургских повестях» Гогаль выступае таксама пісьменнікам-рэалістам, пісьменнікам-выкрывацелем. Ён карыстаецца ў «Петербургских повестях» метадамі зрывання масак—за прыгожай бачнасцю, за бліскучым морам грому і бляску ён паказвае панаванне пошласці, бесчалавечнасці, трагедыю соцыяльных супярэчнасцей.

На большасці «Петербургских повестей» («Невский проспект»,

«Портрет», «Записки сумасшедшего», «Шинель») ляжыць адбітак трагічнага.

У цэнтры ўвагі ў Гогаля стаіць паказ трагедыі асобы, якая гіне ў ціскax пануючай пошласці, пануючай бесчалавечнасці і меркантылізма. Гіне дробны чыноўнік Башмачкін у аповесці «Шінель», гіне дробны чыноўнік Папрышчын у «Записках сумасшедшего», гіне мастак Піскароў у «Невскім проспекте», безнадзейна пагубіў сябе і згубіў свой талент мастак Чарткоў у аповесці «Портрет».

Гэтыя аповесці Гогаля прасякнуты дэмакратычнымі матывамі.

У «Пецербургских повестях» Гогаль выступае пісьменнікам-гуманістам, другам і абаронцам прыгнечанай асобы. Ён пратэстуе супроць уродстваў жыцця, уродуючых і чалавечую асобу; у той-жа час ён заяўляе аб праве чалавека на сапраўднае чалавечае жыццё.

У паказваемых героях Гогаль выдзяляе чалавечае, паказвае жывую чалавечую душу.

Чалавека ён убачыў у Акакіі Акакіевічу Башмачкіну, у забітым, бяспраўным, дробным чыноўніку; чалавека ён убачыў і ў Папрышчыну, так пакутліва пераҗываўшым соцыяльныя супярэчнасці, і не знаходзіўшым сабе месца ў жыцці.

Чалавечае паказаў ён і ў мастаку Піскарову, які не прымірыўся з пошласцю жыцця і пакончыў самагубствам. Чалавека паказаў ён і ў бедным мастаку Чарткову, калі ён быў бедны. Калі-ж Чарткоў аддаў перавагу багаццю, калі мастацтва, якое з'яўляецца сродкам служэння людзям, Чарткоў зрабіў сродкам абагачэння, то Гогаль асуджае Чарткова і яго шлях да багацця; Гогаль паказвае, як гіне ў Чарткову чалавечае, як губляе Чарткоў свой талент.

І гэтаму разбагацеўшаму мастаку Чарткову Гогаль проціпастаўляе сапраўды чалавечую асобу,—настаўніка Чарткова, чэснага культурнага працаўніка—мастака.

У Пецербургскіх аповесцях шмат дзе істотна змяняецца своеасаблівасць стылю і метада Гогаля. Прыёмы камічнага пісьма ці зусім тут знікаюць, ці займаюць значна больш скромнае месца, чымся ў творах, дзе малюецца дваранства—памешчыцкае асяроддзе. І калі і карыстаецца Гогаль тут прыёмамі камічнага пісьма, дык зноў такі пры паказе людской пошласці, нікчэмнасці, духоўнага ўбоства (паручык Пірагоў, майор Кавалёў), але ні ў якім разе ні пры паказе трагедыі асобы, раздаўленай ціскамі соцыяльных супярэчнасцей вялікага горада.

Ствараючы вобразы працоўнай інтэлігенцыі, вобразы мастакоў, вобразы зняважаных дробных чыноўнікаў, Гогаль тут карыстаецца і псіхалагізмам, сочыць за ўнутраным жыццём гэтых герояў. Праўда і тут у Гогаля псіхалогія не займае такога месца, як у Л. Талстога ці ў Дастаеўскага, але тым не менш, наяўнасць псіхалагізма ў Гогаля таксама неабходна адзначыць. Цікава адна дэталь: Гогаль прымушае Папрышчына нават весці запіскі, іграючыя ролю дзённіка. Пры ўсім ваабражэнні мы не зможам уявіць, каб Сабакевіч вёў дзённік, ці пісаў запіскі. Пісанне запісак тым ці іншым героем твора мае на мэце адну ўмову, каб сам герой, які вядзе гэтыя запіскі, уладаў-бы больш складанай душэўнай арганізацыяй, чым гогалеўскія Сабаке-

вічы і Хлестаковы; уладаў-бы якімсці дастаткова культурным гарызонтам.

Змяняецца ў Гогаля ў «Петербургских повестях» і тыпаж пабудовы сюжэтыкі. Сюжэт у «Петербургских повестях» ужо ўскладнёны псіхалагізмам. Гогаль у аповесцях прасочвае душэўнае жыццё герояў. У прыватнасці ў «Петербургских повестях» мы заўважаем, што Гогаль у сюжэтыку сваіх твораў уводзіць любоўную інтрыгу, у прыватнасці ў «Записках сумасшедшего» і ў «Невском проспекте». Любоўная інтрыга тут падпарадкавана не тэндэнцыі паказаць пошласць і духоўнае ўбоства герояў, як, напрыклад, у «Рэвізоры», і наадварот, гэта любоўная інтрыга ў «Петербургских повестях», неадрыўна ад паказу ўнутранага свету герояў, іх пошукаў прыгожага, нармальнага, чэснага працоўнага жыцця. На любоўнай інтрызе Гогаль паказвае соцыяльныя супярэчнасці той эпохі. Жывое, асабістае ў гэтых творах уступае ў канфлікт з соцыяльным, і гэта жывое, асабістае, гіне пад ціскамі соцыяльнага. Пагэтаму і любоўная інтрыга ў «Петербургских повестях», за выключэннем тых выпадкаў, калі ён апісвае свет пошласці (вобразы паручыка Пірагова і маёра Кавалёва), набывае моцна выражанае трагічнае адценне.

Трагічнымі сітуацыямі і канцоўкамі наогул насычана сюжэтыка «Петербургских повестей», чаго мы не назіраем, напрыклад, у творах, дзе паказваецца жыццё дваранства і чыноўніцтва ці жыццё купецтва («Ревизор», «Женитьба»).

«Петербургские повести» гавораць нам аб тым, што Гогаль не толькі ўмеў паказваць «мёртвыя душы», адмоўных герояў, адмоўныя з'явы сапраўднасці. У крытыцы не раз указвалася, што Гогаль быў няздольны паказваць дадатных герояў.

Усё гэта, безумоўна, не так. Гогаль выступаў і выкрываў звярынае, уродлівае, нечалавечае; ён паказваў, як гэта ўродства жыцця губіць у людзей праяўленні чалавечыя.

Але Гогаль-гуманіст любіў чалавека, паказваў у ім жывую душу, пачуцці і сваёй творчасцю ставаў на абарону гэтага чалавечага.

Гогаль бачыў, як народ уродваўся прыгонніцтвам. У вобразах Міцяя, Міняя і дзяўчынкі Пелагеі з «Мёртвых душ» і інш. Гогаль паказаў, як прыгонніцкая сапраўднасць калечыла псіхалогію гэтых людзей, наклаўшы на гэтую псіхалогію адбітак ідыётызма прыгонніцкага жыцця. Але побач з гэтым Гогаль паказаў, што народ валодае высокімі душэўнымі якасцямі. Усё гэта сказвалася і на своеасаблівасці мастацкага метада Гогаля пры выяўленні народа.

* * *

Вялікае месца ў творчасці Гогаля займае паказ сялянства, пераважна украінскага, і казацтва.

Паказу жыцця народа Гогаль прысвяціў ужо першую серыю сваіх апавяданняў, сабраных у зборнік пад назвай «Вечера на хуторе близ Диканьки» (1830—31 г. г.).

У гэтых апавяданнях з народнага жыцця Гогаль таксама карыстаецца прыёмамі камічнага пісьма, але характар гэтага камізма іншы, чым пры паказе дваранска-чыноўніцкага асяроддзя.

Гогаль сам ад душы пасмейваецца над наіўнымі прымхамі і забабонамі народа. Але гэты смех Гогаля прасякнуты глыбокай любоўю да народа. Недарма так высока ацаніў гэты зборнік апавяданняў Пушкін.

У пісьме да А. Ф. Воейкова Пушкін пісаў: «Зараз прачытаў «Вечера близ Диканьки». Яны здзівілі мяне. Вось сапраўдная весялосць, шчырая, натуральная, без манернасці, без чапурыстасці. А месцамі якая паэзія, якая чуллівасць! Усё гэта так незвычайна ў нашай літаратуры, што я да гэтага часу не абразуміўся. Мне расказвалі, што калі выдавец увайшоў у друкарню, дзе друкавалі «Вечера», то наборшчыкі пачалі пырскаць і фыркаць, заціскаючы рот рукою. Фактар растлумачыў іх весялосць, прызнаўшыся яму, што наборшчыкі паміралі са смеху, набіраючы яго кнігу. Мальер і Фільдзінг, пэўна, былі-б рады рассмяшыць сваіх наборшчыкаў. Віншую публіку з сапраўды вясёлай кнігай, а аўтару сардэчна жадаю далейшых поспехаў».

У сваёй рэцэнзіі на другое выданне «Вечеров на хуторе близ Диканьки» Пушкін пісаў: «Чытачы нашы, безумоўна, памятаюць уражанне, зробленае паяўленнем «Вечеров на хуторе», усе абрадваліся гэтаму жывому апісанню племені, спяваючага і танцуючага, гэтым свежым карцінам маларасійскай прыроды, гэтай весялосці прастадушнай і разам з тым хітраватай. Як здзівіліся мы рускай кнізе, якая прымусіла нас смяяцца, мы, якія не смяяліся з часу Фанвізіна».

Пушкін верна ўлавіў спецыфіку гогалеўскага смеху ў «Вечерах», дзе Гогаль смяяўся смехам самога народа, перадаючы своеасаблівасць красачнага народнага гумару. Разнастайнасць жанравых асаблівасцей «Вечеров» якраз цалкам адпавядала спецыфіцы гэтага смеху. Гогаль карыстаецца тут формай сказа, апавяданне вядзе не ад свайго імя, а ад імя пасечніка Панькі Рудога, захоўваючы ў апавяданні моўныя асаблівасці гэтага апавядальніка. У гэтых апавяданнях адкрываецца перад намі сялянскі свет Украіны. Гэты свет заліты вясёлым яркім сонцам. Смех самога Гогаля зліваецца з вясёлым смехам парабкаў і дзяўчат.

Гогаля не раз у крытыцы папракалі за тое, што ён, так сонечна намаляваўшы жыццё украінскага народа, не паказаў стогнаў народа. Між іншым Гогаль гэтай сонечнасцю «Вечеров» верна паказаў жывую душу народа. Нягледзячы на ўсе пакуты і жахі эксплаатацыі, народ заўсёды захоўваў у сябе здольнасць быць аптымістам, смяяцца, пець, радавацца і весяліцца. У гэтым народным смеху выяўлялася няўспрыняцце Гогалем нікалаеўскай Расіі. Іменна непрыяццем нікалаеўска-прыгонніцкай Расіі і абумоўлен быў уход Гогаля ў мінулае украінскага народа, у вольную, казацкую Украіну.

Намаляваныя карціны з сялянскага жыцця ў гэтых апавяданнях прасякнуты любоўю Гогаля да народа.

Гогаль любіў сваю радзіму, свой народ, любіў так, як можа любіць яе сапраўды вялікі народны пісьменнік.

Пільна прыслухоўваўся ён да народнай мудрасці, да народнай творчасці, вострай і красачнай жывой народнай мовы.

Ён уважліва вывучаў усе дробязі народнага быта, дасканальна вывучаў фальклор, заносіў у свае запісныя кніжкі ўсе падслуханыя ім у народзе трапныя словы і выражэнні, пагаворкі, загадкі і народныя песні. Народная мудрасць была той асноўнай крыніцай, адкуль чарпаў усю сілу вялікі востры гогалеўскі смех. У народа ён падслухаў і моцнае вострае слоўца, сказанае ў «мертвых душах» сустрэчным мужыком пра свайго пана Плюшкіна:

«Выражается сильно российский народ,—гаворыць Гогаль в «Мертвых душах»,—и если наградит кого словцом, то пойдет оно ему в род и потомство, утащит он его с собою и на службу, и в отставку, и в Петербург и на край света. И как уж потом не хитри и облагораживай свое прозвище, хоть заставь пишущих людишек выводить его за наемную плату от древнекняжеского рода, ничто не поможет; каркнет само за себя прозвище во все свое воронье горло и скажет ясно, откуда вылетела птица. Произнесенное метко, все равно что написанное, не вырубливается топором. А уж куда бывает метко все то, что вышло из глубины Руси, где нет ни немецких, ни чухонских, ни всяких иных племен, а все сам—самородок, живой и бойкий русский ум, что не лезет за словом в карман, не высиживает его, как наседка носку, и нечего прибавлять уж потом, какой у тебя нос или губы—одной чертой обрисован ты с ног до головы.» «Нет слова—піша Гогаль там-жа,—которое было бы так замашисто, бойко, так вырвалось бы из-под самого сердца, так бы кипело и животрепетало, как метко сказанное русское слово».

І Гогаль сам па-майстэрску ўмеў карыстацца падслуханым у народа жывым вострым бойкім словам. Жывым вострым народным красамоўствам насычана мова Гогаля.

І як крыніцай гогалеўскай мовы была сама народная мова, так і вытокі рэалістычнага метада Гогаля бралі свой пачатак у народнай мудрасці.

* * *

Не толькі рэалізм, але і рамантыка ў гогалеўскай творчасці свой пачатак бралі ў народнай мудрасці, у народнай паэзіі. Такія творы, як зборнік апавяданняў «Вечера на хуторе близ Диканьки», «Вий», «Тарас Бульба», «Мертвые души» прасякнуты народнай рамантыкай, якая неадлучна ад гогалеўскага глыбокага лірызма, ад лірычных паэтычных замалёвак народа, рускай прыроды, сваёй радзімы. Там, дзе Гогаль паказвае народ, народную Русь, там рэалізм увесь час пераплятаецца з прыёмамі рамантычнага пісьма, якія дапамагаюць Гогалю маляваць народную Русь паэтычнымі фарбамі, сакавітай яркай эмацыянальнай мовай. Тут мы сустракаемся з красачнымі рамантычнымі, прасякнутымі лірызмам, параўнаннямі, гіпербалам, алегорыямі. Мова робіцца плаўнай, размеранай, рытмічнай, гэта мова ўвесь час мае тэндэнцыю перайсці ў вершаваную форму. Тут Гогаль карыстаецца складанымі разгорнута сінтаксічнымі перыядамі, пабудаванымі ў форме градацыі, дзе багата сінтаксічных анафарычных паўтораў, багата ўсклікаў і наогул рытарычных фігур.

Як і ў рэалізме, у рамантыцы быў выражан патрыятызм Гогаля. Да радзімы прыкоўвае ён сваю ўвагу і любоўна з захапленнем любуецца ёю, імкнучыся ўгадаць яе будучыню.

«Русь! Русь!—піша Гогаль у «Мёртвых душах».—Вижу тебя из моего чудесного, прекрасного далека, тебя вижу: бедно, разбросанно и неприютно в тебе... Открыто-пустынно и ровно все в тебе; как точки, как значки, неприметно торчат среди равнин невысокие твои города; ничто не обольстит и не очарует взора. Но какая же непостижимая, тайная сила влечет к тебе? Почему слышится и раздается немолчно в ушах твоя тоскливая, несущаяся по всей длине и ширине твоей, от моря до моря песня? Что в ней, в этой песне? Что зовет, и рыдает, и хватает за сердце? Какие звуки болезненно лобзают и стремятся в душу и вьются около моего сердца? Русь! Чего ты хочешь от меня? Какая непостижимая связь таится между нами? Что глядишь ты так и зачем все, что ни есть в тебе, обратило на меня полные ожидания очи?..»

Народная Русь уяўлялася яму ў вобразе тройкі, якую нельга абагнаць, дарожны «снаряд якой «снарядил и собрал... ярославский расторопный мужик» и перад якой «постораниваются и дают ей дорогу другие народы и государства».

«Эх, тройка! Птица тройка, кто тебя выдумал? Знать, у бойкого народа ты могла только родиться, в той земле, что не любит шутить, а ровным гладнем разметнулась на полсвета, да и ступай считать версты, пока не зарябит в очи. И не хитрый, кажись дорожный снаряд, не железным схвачен винтом, а наскоро живьем с одним топором да долотом снарядил и собрал тебя ярославский расторопный мужик. Не в немецких ботфортах ямщик: борода да рукавицы и сидит черт знает на чем, а привстал да замахнулся, да затянул песню—кони вихрем, спицы в колесах смешались в один гладкий круг, только дрогнула дорога да вскрикнул в испуге остановившийся пешеход! И вот она понеслась, понеслась, понеслась!.. И вон уже видно вдали как что-то пылит и сверлит воздух.

Не так ли и ты, Русь, что бойкая необгонимая тройка несешься? Дымом дымится под тобою дорога, гремят мосты, все отстает и остается позади. Остановился пораженный божьим чудом созерцатель: не молния ли это, сброшенная с неба? Что значит это наводящее ужас движение! И что за неведомая сила заключена в сих неведомых светом конях? Эх, кони, кони, что за кони! Вихри ли сидят в ваших гривах! Чуткое ли ухо горит во всякой вашей жилке? Заслышали с вышины знакомую песню, дружно и разом напрягли молодые груди и, почти не тронув копытами земли, превратились в одни вытянутые линии, летящие по воздуху, и мчится вся вдохновенная богом!..

Русь, куда ж несешься ты, дай ответ? Не дает ответа. Чудным звоном заливается колокольчик; гремит и становится ветром разорванный в куски воздух; летит мимо все что ни есть на земле, и косясь постораниваются и дают ей дорогу другие народы и государства».

У такой паэтычнай замалёўцы народнай Русі выразілася глыбокая вера Гогаля ў вялікую будучыню сваёй радзімы і свайго народа. Гэта любоў да радзімы і народа надзвычай красачна і лірычна выявілася таксама і ў замалёўцы рускіх пейзажаў. Гогаль майстар лірычнага пейзажа. Пейзаж Гогаля народны. Перад намі праходзяць карціны прыроды Украіны, надзвычайна карціна украінскай ночы ў аповесці «Майская ночь или утопленница», выдатны вобраз Дняпра ў творы «Страшная месть», надзвычайна замалёўка ў канцы «Мёртвых душ» рускай дарогі, калі перад поглядам чытача вырысоўваецца ззянне месяца, «далёкое небо, высокое небо, раскинувшись необ'ятно в своей недоступной глубине». Гогаль у «Мёртвых душах» з любоўю і захапленнем малюе неабсяжныя прасторы сваёй радзімы, бо ў гэтых прасторах і змог з'явіцца рускі народны былінны багатыр.

«И еще, полный недоумения,—піша Гогаль у «Мёртвых душах,— неподвижно стою я, а уже главу осенило грозное облако, тяжелое грядущими дождями и онемела мысль перед твоим пространством. Что пророчит сей необ'ятный простор? Здесь ли, в тебя ли не родиться беспредельной мысли, когда ты сама без конца? Здесь ли не быть богатырю, когда есть место, где развернуться и пройтись ему? И грозно об'емлет меня могучее пространство, страшною силою отразясь во глубине моей; неестественной властью осветились мои очи; у! какая сверкающая, чудная, незнакомая земле даль! Русь...»

Народ Гогалю ўяўляўся як народ-багатыр,—нездарма і з'яўляецца гэты вобраз багатыра ў Гогаля пры паказе рускіх неабсяжных прастораў. Рамантыка Гогаля насычана героікай і гэтыя гераічныя матывы Гогаль чарпаў у рамантыцы гераічнага народнага эпаса. Пры дапамозе гэтай гераічнай рамантыкі Гогаль маляваў гераічныя вобразы народа.

Не з памешчыцкага класа, а з нетраў самога народа Гогаль узяў для сябе народныя вобразы—Данілы Бурульбаша з «Страшной мести», вобразы Тараса Бульбы і яго сына з аповесці «Тарас Бульба», вобраз гераічнага казацкага народа ў гэтых абодвух аповесцях.

Гэтыя аповесці з'явіліся ў выніку глыбокага вывучэння Гогалем жыцця і паэзіі украінскага народа. Усе гэтыя вобразы цалкам былі створаны пад уплывам паданняў і фальклора украінскага народа. У гэтых вобразах адбіліся лепшыя імкненні і настроі народных мас, якія выразіліся ў песнях, казках, народных думах і паданнях. У гэтых вобразах Гогаль перадаў народныя думкі аб гераізме, аб любві да радзімы і свайго народа, народныя думкі аб барацьбе за свабоду свайго народа супроць захопнікаў.

У адпаведнасці з вобразамі народных герояў Данілы Бурульбаша, Тараса Бульбы і яго сына і сюжэтыка аповесцей «Страшная месть» і «Тарас Бульба»—разгортваецца Гогалем на паказе героікі, гераічных учынкаў названых герояў і ўсяго украінскага народа ў цэлым.

Такі характар развіцця сюжэта грунтоўна адрозніваецца ад сюжэтыкі тых твораў, дзе Гогаль апісвае быт і норавы затхлага памешчыцка-чыноўніцкага асяроддзя.

* * *

Любячы народ, народу ён павяраў і свае заветныя думы і ўсе свае сумненні, абумоўленыя соцыяльнымі супярэчнасцямі яго эпохі. Гогаль звяртаўся за адказам на свае сумненні да вернай крыніцы—да самога народа, але Гогаль звяртаўся за адказам на хвалюючыя яго пытанні да патрыярхальнага сялянства, аб якім В. І. Ленін у артыкуле аб Талстым пісаў:

«Усё прошлае жыццё навучыла яго ненавідзець барына і чыноўніка, але не навучыла і не магло навучыць, дзе шукаць адказу на ўсе гэтыя пытанні» (Ленін, В. І., збор твораў, т. XII).

У той час калі Гогаль тварыў, народ сам быў падаўлены, замучаны прыгонніцтвам. Сялянства было яшчэ патрыярхальным, палітычна недаспелым, яно яшчэ ў тыя годы ніяк не магло прайсці пад кіраўніцтвам пролетарыята школу арганізованай рэволюцыйнай барацьбы.

Натуральна, што і Гогаль у той час не змог атрымаць у народа адзіна правільнага адказу на ўсе хваляваўшыя яго пытанні.

Палітычная няспеласць народных мас, эканамічная і палітычная адсталасць прыгонніцкай Расіі,—няспеласць грамадскіх формаў—усё гэта наклала свой адбітак на востры розум вялікага гумарыста.

Гогаль не змог вырашыць усіх мучыўшых яго соцыяльных супярэчнасцей. Як і Талстой, Гогаль быў вельмі супярэчлівым мастаком. Як і Талстой, Гогаль не зразумеў тых нарастаючых рэволюцыйных зрухаў у вёсцы, якія ў эпоху Гогаля ледзь толькі вызначаліся, а выявіліся значна пазней у эпоху 60—70-х год. У супярэчнасцях Гогаля, як у супярэчнасцях Талстога, знайшлі сабе адбітак супярэчнасці эпохі.

Бяссілле вырашыць соцыяльныя супярэчнасці штурханула Гогаля, як і Талстога, у містыку, папоўшчыну. Выражэннем гэтага папоўства ў мастацкіх творах з'яўляецца вобраз Муразава ў другім томе «Мёртвых душ». Гэты ўход у містыку і папоўшчыну ў Гогаля, як і ў Талстога, спалучаўся з аглядкай назад, з ідэалізацыяй патрыярхальнага уклада. Справа ў тым, што Гогаль тварыў у тую эпоху, калі ўсё больш і больш выяўляліся капіталістычныя тэндэнцыі ў самой феадальна-прыгонніцкай сістэме.

Патрыярхальнае сялянства не прымала капіталізма, які набліжаўся, нёс вёсцы новыя эпохі разарэння і збяднення мас. Пратэст народных патрыярхальных мас супроць жахаў капіталізма найбольш ярка паказаў Леў Талстой у сваёй творчасці.

Але і Гогаль, як і Леў Талстой, выкрываючы свет прыгонніцтва, у той-жа час з жахам адварочваўся ад страшэннай здані капіталізма, што пасоўвалася на Расію. Капіталізм уяўляўся Гогалю ў выглядзе амаральнай разбураючай, абманваючай народ сілы, якая прыносіць народу шмат зла. Капіталізм, як увасабленне ўсяго амаральнага і злога, паўставаў ў творчым уяўленні Гогаля ў вобразе агіднага чорта. Гэты вобраз агіднага чорта быў падказаны Гогалю народнай фантастыкай. З гэтым агідным чортам Гогаль вёў упартую барацьбу на працягу ўсёй сваёй творчасці. Супраціўляючыся капіталізму, як і Леў Талстой, Гогаль імкнуўся знайсці ратунак побач з папоўшчы-

най у ідэалізацыі патрыярхальных узаемаадносін памешчыкаў і сялян, у патрыярхальным укладзе.

Вобраз Костанжогло з «Мёртвых душ» і быў выражэннем антыкапіталістычных, у многіх адносінах утапічных поглядаў Гогаля, яго спроб знайсці вырашэнне соцыяльных супярэчнасцей у самым патрыярхальна-прыгонніцкім укладзе.

У крытыцы стварыўся традыцыйны погляд аб тым, што Костанжогло не рэальны, выдуманы.

Нам думаецца, што гэта зусім не так. Разважанні аб тым, што вобраз Костанжогло выдуманы і немастацкі,—пакояцца на праслаўтай тэорыі аб няздольнасці Гогаля наогул маляваць вобразы дадатных герояў, а акрамя гэтага і на тым разважанні, што і ў самім дваранска-памешчыцкім асяроддзі не магло быць аб'ектаў для выяўлення іх дадатнымі фарбамі, што дваранства магло даць толькі манілавых, сабакевічаў, каробачак і г. д.

Бязглуздасць першага сцвярджэння—аб няздольнасці Гогаля маляваць вобразы дадатных герояў намі ўскрыта была ўсім папярэднім выкладаннем артыкула. Бязглуздасць другога палажэння абвяргаецца усім ходам гістарычнага развіцця Расіі.

У даным выпадку зусім дарэчы спаслацца на цытату В. І. Леніна з яго артыкула «Памяти Герцена»,—цытату, у якой у сваю чаргу маецца спасылка В. І. Леніна на Герцэна: «Дваране далі Расіі Біронаў і Аракчэевых, незлічоную колькасць «п'яных афіцэраў, забіяк, карцёжных ігракоў, герояў кірмашоў, псароў, драчуноў, секуноў, серальнікаў», ды прыгожадушных Манілавых. «І паміж імі,—пісаў Герцэн,—развіліся людзі 14 снежня, фаланга герояў, ускормленых, як Ромул і Рэм, малаком дзікага звера... Гэта нейкія багатыры, каваныя з чыстай сталі з галавы да ног, воіны-паплечнікі, якія выйшлі свядома на яўную пагібель, каб разбудзіць да новага жыцця маладое пакаленне і ачысціць дзяцей, народжаных у асяроддзі катаў і рабалепства» (В. І. Ленін «Памяці Герцэна», збор твораў, т. XV).

Гэта ленінская цытата дае нам выразнае ўказанне на тое, як бязглуздна і недарэчна глядзець на клас дваранства, як толькі на клас здольны даць манілавых і сабакевічаў і толькі. Выходзіць, зусім няправільна думаць, што Гогаль выдумаў вобраз Костанжогло, як быццам-бы такіх дадатных герояў у дваранстве не было ды і не магло быць.

Вобраз Костанжогло Гогаля таксама рэальны, як рэальны і шматлікія Наздровы, Сабакевічы, Хлестаковы. Выходзіць, вобраз Костанжогло таксама з'яўляецца мастацкім, паколькі ён рэальны.

Ствараючы гэты вобраз Гогаль для яго ў самай сапраўднасці знайшоў прататып у асобе Бернардакі, з якога і змаляваў свайго Костанжогло. У літаратуры маецца багата кроўных Костанжогло персанажаў. Не гаворачы ўжо аб рамане Фамы Масальскага «Пан Подстоліч», дзе таксама выводзіцца шмат у чым аналагічны вобразу Костанжогло вобраз графа Строганава, трэба адзначыць, што вобраз Костанжогло генетычна звязан з радам пушкінскіх вобразаў— гуманных памешчыкаў у асобе старога Берэстава з «Барышні сялянкі», старыка Грынёва з «Капітанскай дачкі».

Нарэшце, знойдуцца кропкі датыкання і з вобразам Уладзімера з незаконачанага твора «Роман в письмах». У сваю чаргу вобраз Костанжогло ўпярэдзіў сабою рад талстоўскіх вобразаў і ў прыватнасці вобраз Нікалая Растова з «Вайны і міра», Канстанціна Левіна з «Анны Карэнінай» і вобраз Нехлюдава з «Утра помещика», «Воскресения» і інш.

У вобразе Костанжогло Гогаль імкнуўся паказаць тып перадавога двараніна-памешчыка. У гэтым не было нічога адмоўнага для Гогаля і дарэмна вульгарныя соцыолагі ўвесь час ставілі ў віну Гогалю гэтыя намеры. Вобраз перадавых дваран малявалі і Пушкін, і Лермантаў, і Тургенеў, і Герцэн, і Леў Талстой, і ўрэшце, Чэрнышэўскі ў асобе Рахметава ў сваім рамане «Что делать».

Справа, выходзіць не ў тым, што Гогаль малюе тып перадавога двараніна, а ў тым,—які змест укладае Гогаль у разуменне перадавога двараніна і з якой мэтай ён малюе гэты вобраз, якія праблемы ён ставіць і як іх развязвае на гэтым вобразе.

У вобразе Костанжогло Гогаль сцвярджае ідэю аб гуманных адносінах памешчыкаў да сялян. На вобразе Костанжогло Гогаль сцвярджаў ідэю аб тым, каб памешчык бесперастанна клапаціўся аб сваіх сялянах.

І Костанжогло сапраўды клапаціўся і дзейна клапаціўся аб сваіх сялянах. І сяляне ў Костанжогло—па словах Гогаля—жывуць значна шчаслівей, багацей, чым сяляне акружаючых Костанжогло памешчыкаў.

У далейшым Талстой, ва многіх адносінах паўтарыўшы ў ранняй сваёй творчасці шлях Гогаля і ва многіх вышаўшы з Гогаля, у той-жа час расказвае аб бесклапотнасці гуманных спроб Нехлюдавых і Левіных ашчасліваць сваіх сялян.

На вобразе Канстанціна Левіна ў «Анне Карэнінай» Талстой ускрывае ўвесь утапізм ідэалаў Костанжоглаў-Левіных. Але тое, што было ясна Льву Талстому ў 70 годы, калі ўжо «все переворотилось», Гогалю ў 40 годы яшчэ не было ясна.

Вобраз Костанжогло Гогаля супярэчлівы, але ў гэтых супярэчнасцях сказаліся супярэчнасці эпохі.

У вобразе Костанжогло сказаліся рэакцыйныя тэндэнцыі Гогаля проціставіць надыходзячым падзеям дакапіталістычны патрыярхальны перыяд рускай гісторыі. Але рэакцыйнасць вобраза Костанжогло абумоўлівалася не тым, што Гогаль імкнуўся абараняць памешчыцкі клас, а тым, што Гогаль у тыя годы, г. зн. у 40, калі ўжо ў зародкавай форме пачынала падымацца новая рэволюцыйная хваля, не змог яшчэ падняцца да адзіна правільных рэволюцыйных вывадаў і не змог падняцца таму, што асноўная маса сялянства, да якой Гогаль звярнуўся за вырашэннем мучыўшых яго пытанняў, яшчэ не падымалася на рэволюцыйную барацьбу, яшчэ сама была патрыярхальнай. Да Гогаля у вядомай ступені стасуюцца ленінскія словы пра Льва Талстога, сказаныя у артыкуле «Леў Талстой, як люстра рускай рэволюцыі». «У нашай рэволюцыі меншая частка сялянства сапраўды змагалася, хоць колькі-небудзь арганізуючыся для гэтай мэты, і зусім невялікая частка падымалася са зброяй у руках на знішчэнне сваіх ворагаў, на знішчэнне царскіх слуг і па-

мешчыцкіх абаронцаў. Большая частка сялянства плакала і малілася, рэзанёрствавала і марыла, пісала прашэнні і пасылала «ходателей», зусім у духу Льва Нікалаевіча Толстога» (Ленін, збор. твораў, т. XII).

Тут толькі належыць агаварыць, што Леў Талстой пісаў у асноўным і злажыўся ў парэформенны перыяд—паміж 1861 і 1904 г. г. Талстой ужо адлюстраваў пералом у свядомасці патрыярхальных мас,—Гогаль-жа тварыў і злажыўся ў прыгонны дарэформенны перыяд, таму натуральна, што і народныя масы знаходзіліся ў значна большай ступені ў залежнасці ад патрыярхальна-прыгонніцкіх традыцый; тым самым і Гогаль у большай ступені чымся Талстой залежаў ад гэтых патрыярхальна-прыгонніцкіх традыцый.

Зусім натуральна таму, што Гогаль побач з вобразам Костанжогло стварае ў «Мёртвых душах» вобраз адкупшчыка Муразава, у якім выяўляюцца папоўска-ідэалістычныя імкненні Гогаля ўсе соцыяльныя супярэчнасці развязаць ідэяй перавыхавання людзей. Адкупшчык Муразаў спрабуе нават перавыхаваць Чычыкава сваімі пропаведзямі аб маральнасці.

Але тут трэба аддаць справядлівасць Гогалю. Гогаль рэалістычна паказаў, як пропаведзь аб маральнасці Муразава аказалася негрунтоўнай перад машэннікам Чычыкавым, які і пасля сустрэчы з Муразавым, дапамогшым Чычыкаву выбрацца з турмы, па-ранейшаму застаўся такім-жа машэннікам, якім і быў. Інстынкт драпежніка ў Чычыкаву ўзяў верх над раскаяннем, якое з'явілася ў душы Чычыкава пасля пропаведзі Муразава.

Выражэннем рэлігійна-папоўскіх матываў была і кніга «Выбранные места из переписки с друзьями», якая з'явілася ў 1846 г. У гэтай кнізе Гогаль выразіў тыя-ж самыя разумовыя настроі, што і ў вобразах Костанжогло і ў Муразаве.

Сам Гогаль пісаў аб сваёй кнізе: «Гэта кніга разойдзецца больш, чымся ўсе мае ранейшыя творы, таму што да гэтага часу гэта мая адзіная дзельная кніга». Аднак Гогаль глыбока памыліўся. Вялікі крытык Белінскі гогалеўскую кнігу «Выбранные места» назваў «гнуснай кнігай». У ёй Гогаль выступаў, па словах Белінскага, «прапаведнікам бізуна, апосталам невуцтва, прыхільнікам абскурантызма і мракабесся».

Аспрэчваючы Гогаля ў гэтай кнізе, Белінскі пісаў аб Расіі: «Ёй патрэбны не пропаведзі (даволі яна слухала іх!), не малітвы (даволі яна цвярдзіла іх!), а прабуджэнне ў народзе пачуцця чалавечае годнасці, столькі вякоў згубленай у брудзе і смецці, правы і законы, адпаведныя не з вучэннем царквы, а са здаровым сэнсам і справядлівасцю, і строгае па магчымасці іх выкананне».

Кніга «Выбранные места из переписки с друзьями» сведчыла аб бясспрэчным падзенні Гогаля, аб чым казаў і Белінскі у сваім пісьме Гогалю.

У гэтай кнізе ў зародкавай форме выявіліся характэрныя рысы будучай рэакцыйнай у сваёй аснове талстоўшчыны, якая была люстрам «слабасці недахопаў нашага сялянскага паўстання» (Ленін) адбіткам «мяккацеласці патрыярхальнай вёскі і заскарузлай труслівасці «гаспадарлівага мужычка» (*Ленін*—«Леў Талстой, як люстра рускай рэволюцыі», збор. тв. т. XII).

Ї не выпадкова, што Леў Талстой так высока ацаніў гэту, па словах Белінскага—«гнусную кнігу».

У пісьме да П. Ї. Бірукова ў 80-х гадах Л. Н. Талстой пісаў аб гогалеўскай кнізе: «Усякі раз, калі я чытаў «Перапіску» Гогаля, яна рабіла на мяне моцнае ўражанне, а цяпер мацней за ўсіх... Ён многа сказаў ў сваіх пісьмах... што важней усіх яго аповесцей. Пошласць, выкрытая ім, закрычала: ён вар'ят, і сорак год літаратура прадаўжае ісці па гэтаму ілжываму шляху, ілжывасць якога ён паказаў з такой сілай... Пошласць пануе і я ўсімі сіламі стараюся, як навіну сказаць тое, што сказана Гогалем».

Палемізіруючы з ацэнкай гэтай кнігі Белінскім, не называючы аднак імені Белінскага,—Талстой у пісьме да Н. Н. Страхава прыкладна ў тыя-ж 80 гады пісаў: «Уся перапіска... поўна самых істотных глыбокіх думак; вялікі майстар сваёй справы ўбачыў магчымасць лепшай работы, убачыў недахопы сваіх работ... паказаў хоць не ўзоры, але праграму таго, што можна і павінна рабіць, і натоўп, не разумеўшы ніколі сэнсу выраблёных прадметаў і годнасці іх, знайшоўшы бойкага прадстаўніка свайго нязменнага пункту погляду—загагатаў, і 35 год ляжыць пад спудам у высокай ступені чуллівае і важнае навучанне падвіжніка нашага граха».

Талстой зусім верна тут указаў пра сваё радство з Гогалем, на ідэйна-стылевую пераемнасць сваёй творчасці ад Гогаля, але Талстой быў, вядома, не правы ў ацэнцы гогалеўскай кнігі і зусім несправядлівы ў ацэнцы Белінскага, на якога ён намякнуў словам «бойкага прадстаўніка».

Ї вядома, не Талстой, а Белінскі быў правы ў ацэнцы Гогаля. В. Ї. Ленін, цалкам салідарызуючыся з Белінскім у ацэнцы кніжкі Гогаля «Выбранные места», пісаў аб «пісьме Белінскага да Гогаля»: «Яго славутае «Пісьмо к Гогалю», падагуліўшае вынікі літаратурнай дзейнасці Белінскага, было адным з лепшых твораў бесцэнзурнага дэмакратычнага друку, захаваўшым аграмаднае жывое значэнне і на гэты час». (Ленін «З мінулага рабочага друку ў Расіі», збор. тв., т. XVII, стар. 342).

Аднак, нягледзячы на ўсю сваю рэакцыйнасць, кніга Гогаля «Выбранные места из переписки с друзьями» не закрэсліла, не магла закрэсліць вялікай творчасці Гогаля, творчага аблічча самога пісьменніка, яна з'яўлялася толькі сведчаннем таго, якую глыбокую трагедыю перажыў Гогаль—і як Гогаль сам загінуў, прыдушаны ўсім гэтым прыгонніцкім укладам, калечыўшым жыццё і псіхалогію людзей.

Гэту думку добра выразіў Луначарскі ў сваім артыкуле аб Гогалі: «Самаўладства ўкупе і ўлюбе з усім рускім бытам... наступіла на мозг і сэрца Гогаля; таму ён і корчыцца цяпер... не смее пратэставаць, ці пратэстуе не супроць таго...

Амаль ля ўсякай рускай пісьменніцкай магілы, ля магілы Радзішчэва, Пушкіна, Лермантава, Гогаля, Некрасава, Дастаеўскага, Талстога і многіх і многіх іншых... можна абвясціць страшэнную рэволюцыйную анафему супроць старой Расіі, бо ўсіх іх яна альбо забіла, альбо скалечыла, абвузіла, абгрызла, завяла не на тую дарогу».

Кніга Гогаля «Выбранные места» як і вобразы Костанжогло і Муразава гавораць нам аб тым, наколькі адстала прыгонніцкая

Расія ад перадавых заходне-еўрапейскіх краін, наколькі яшчэ моцны ў ёй былі прыгонніцкія тэндэнцыі, якія тармазілі развіццё краіны і моцна трымалі яшчэ ў сваіх цэпкіх лапках і такія вялікія вострыя розумы, якім быў Гогаль. Гэта кніга гаворыць нам аб тым, што пад уплывам адсталасці прыгонніцкай Расіі Гогаль не мог яшчэ канчаткова аслабаніцца ад забабонаў свайго класа і адраджэнне Расіі ўсё яшчэ звязваў са сваім памешчыцкім класам. Гогалю было яшчэ не ясна, што памешчыцкі клас не быў прызван да гэтай справы.

Кніга «Выбранные места» як і вобразы Костанжогло і Муразава гавораць нам аб тым, што Гогаль не змог перамагчы ўсіх мучыўшых яго супярэчнасцей, што ён сам аказаўся афярай гэтых супярэчнасцей.

Але нягледзячы на тое, што Гогаль аказаўся пад уладай гэтых супярэчнасцей, нягледзячы на тое, што старая прыгонніцкая Расія налажыла на свядомасць Гогаля адбітак юродства, рэалізм Гогаля саслужыў ганаровую службу рэволюцыйнаму руху ў Расіі. Паражэнне, нанесенае прыгонніцтву гэтым рэалізмам, было аграмаднае. Не выпадкова, калі паявіўся «Рэвізор», дык рэакцыйны лагер сурова асудзіў гэтую п'есу.

Ф. Булгарын абурана пісаў: «У Расіі няма такіх нраваў, якія Гогаль даў у камедыі. Гарадок аўтара—гэта не рускі».

Яго саратнік па пяру Сенкоўскі пісаў аб «Рэвізоры», «што гэта не камедыя, а «пусты анекдот».

У пісьме да Шчэпкіна Гогаль пісаў аб сваіх уражаннях аб крытыцы: «Усе супроць мяне... Чыноўнікі пажылыя і паважаныя крычаць, што для мяне няма нічога святога, калі я так адважыўся казаць аб служачых людзях: паліцэйскія супроць мяне, літаратары супроць мяне... Зараз я бачу, што значыць быць камічным пісьменнікам. Малейшы прызнак ісціны—і супроць цябе паўстаюць, і не адзін чалавек, а цэлае саслоўе.

Уяўляю, што-ж было-б, калі-б я ўзяў што-небудзь з пецербургскага жыцця, якое і лепей і больш цяпер знаёма, чымся правінцыяльнае».

Прадстаўнікі рэволюцыйнай сялянскай дэмакратыі Белінскі, Герцэн, пазней Чэрнышэўскі ўбачылі ў творчасці Гогаля тую сілу, пры дапамозе якой можна было моцна біць па прыгонніцкаму ладу.

Рэволюцыйная дэмакратыя з творчасці Гогаля рабіла рэволюцыйныя вывады.

Літаратурныя вобразы Гогаля аказаліся на службе і ў нашага народа.

Для характарыстыкі класавых ворагаў вобразамі Гогаля не раз карысталіся ў сваіх выступленнях і работах вялікія правадыры пролетарыята Ленін і Сталін.

У сваім дакладзе аб праекце Канстытуцыі Саюза ССР на XIII Усесаюзным Надзвычайным з'ездзе Советаў, характарызуючы крытыкаў совецкай канстытуцыі з варожага лагера, вялікі Сталін накіраваў супроць іх вобраз гогалеўскай дзяўчынкі Пелагеі, не змогшай адрозніць «дзе права, дзе лева».

Творчасць Гогаля высока цэняць народы СССР, яны бяруць сабе ў спадчыну гэтую магутную сілу мастацкага рэалізма вялікага гумарыста, па-большэвіцку асвойваючы яе.

*В. Кірпіцін*

# „ПАНЫ ГАЛАЎЛЁВЫ" САЛТЫКОВА-ШЧЭДРЫНА

10 мая 1939 года спаўняецца пяцьдзесят год са дня смерці Міхаіла Еўграфавіча Салтыкова-Шчэдрына.

Шчэдрын—вялікі пісьменнік. Творчасць яго належыць да вяршынь сусветнай сатырычнай літаратуры. Усю сілу свайго таленту Салтыкоў-Шчэдрын аддаў барацьбе супроць прыгнёту і эксплаатацыі.

Маркс ведаў творы Салтыкова-Шчэдрына. Ленін і Сталін часта выкарыстоўваюць вобразы вялікага сатырыка, каб закляйміць сучасных ворагаў соцыялізма.

У «Панах Галаўлёвых» Шчэдрын увасобіў агідны вобраз здрадніка Іудушкі. «Іудушкай» імянуе наша партыя і ўвесь наш народ подлых здраднікаў нашай радзімы, трацкісцка-бухарынскіх бандытаў. Гэта ганьбуючая кляймячая назва ўзята з бяссмертнаго твора Шчэдрына.

«Паны Галаўлёвы»—адзін з лепшых твораў сатырыка.

«Паны Галаўлёвы»—выраслі ў самастойны твор у працэсе працы над «Благонамеренными речами». Першыя шэсць раздзелаў «Паноў Галаўлёвых» былі напісаны Шчэдрыным на працягу 1875 і 76 года, але толькі ў 1880 годзе ён дапісаў апошні раздзел «Разлік», і выдаў увесь твор асобнай кнігай.

Ідэя «Паноў Галаўлёвых» была вызначана ідэяй «Благонамеренных речей». Салтыкоў-Шчэдрын звярнуўся да сям'і, уласнасці і дзяржавы класавага грамадства і давёў, што ўсё гэта наскрозь прасякнута хлуснёю і гніеннем. У пісьме да крытыка Е. Уціна пісьменнік паведамляў, што «Паны Галаўлёвы» былі напісаны спецыяльна на прынцып «сямейственасці».

У «Панах Галаўлёвых» разгортваецца гісторыя маральнага і фізічнага выраджэння дваранскай сям'і. Тры пакаленні праходзяць перад чытачом—і з пакалення ў пакаленне бацькі і дзеці, браты і сёстры, дзядзькі і пляменнікі ілгуць друг другу, двудушнічаюць і вядуць знішчальную вайну за ўласнасць. Сувязі паміж блізкімі людзьмі ў сям'і Галаўлёвых насілі вонкавы характар, іх з'ела маральнае змізарненне, яны рассыпаліся ў прах пры першай-жа сутычцы з малейшымі матэрыяльнымі інтарэсамі. Галаўлёвы вымiраюць і фізічна, але ўперадзе іх фізічнай гібелі ідзе поўнае вычэрпанне ўнутраных адносін. Устоі сям'і згнілі і сталі смуродным гноем задоўга да таго, як род вымер ад эгаістычнага нежадання працягнуць адзін другому руку дапамогі і ад выраджэння. Арына

Пятроўна, маці і бабка, побач з сынам сваім Парфірыем, «Іудушкай», шмат павінная ў знішчэнні рэшткаў кроўнай цяплыні і кроўных сувязей паміж членамі сям'і, зразумела пад старасць, што надышоў канец роду, сям'і, але было позна ўжо. «Усё сваё жыццё яна штосьці наладжвала, над чымсьці бедавала, а аказваецца, што бедавала над зданню. Усё жыццё слова «сям'я» не сыходзіла ў яе з языка, у імя сям'і яна адных катавала, другіх узнагароджвала, у імя сям'і яна многа цярпела, мардавала сябе, скалечыла ўсё сваё жыццё—і раптам выходзіць, што сям'і то іменна ў яе і няма!

— Госпадзі! Няўжо-ж і ва ўсіх так!—вярцелася ў яе ў галаве». (Поўн. збор твор. т. XII, стар. 96).

«Паны Галаўлёвы»—сямейная хроніка, «сямейны» раман, але сямейны раман асаблівага сорту. Ён напісаны чалавекам, які стаяў на зусім іншых класавых пазіцыях, чымсьці аўтары іншых сямейных хронік і сямейных раманаў, якія меліся ўжо ў рускай класічнай літаратуры. Салтыкоў-Шчэдрын пісаў гісторыю дваранскай сям'і Галаўлёвых, як вораг дваранства, як дэмакрат, як выразіцель сялянскіх інтарэсаў у мастацкай літаратуры. І Арыну Пятроўну і Іудушку і іншых прадстаўнікоў рода ён назіраў і расцэньваў не знутры, а знадворку. Прагрэсіўны пункт гледжання прыдаў «Галаўлёвым» сілу шырокага і пераканаўчага гістарычнага і соцыяльнага абагульнення. Крытыка параўноўвала адзін гэты, не вельмі вялікі па размерах твор Шчэдрына, з аграмаднай серыяй «Ругон—Маккараў» Золя. І сапраўды, «Паны Галаўлёвы» даюць вельмі многа для правільнай ацэнкі рускага жыцця ў сямідзесятых і васьмідзесятых годах XIX стагоддзя, напярэдадні выступлення рабочага класа, як актыўнай палітычнай сілы.

Пасля вызвалення сялян актам 19-га лютага 1861 года эканамічнае развіццё Расіі пайшло ўперад, але поспехі гэтыя не былі настолькі вялікія, каб ліквідаваць застой і адсталасць народнай гаспадаркі таго часу. Працэс капіталістычнага развіцця пачаўся, але прыгонніцкія перажыткі прадаўжалі адыгрываць пануючую ролю ў краіне. У палітычным жыцці першае месца належала як і раней дваранству, самаўладству і рэакцыі. «Паны Галаўлёвы», малюючы выраджэнне і пагібель дваранскага рода, набывалі значэнне карціны выраджэння і пагібелі ўсяго класа дваран-памешчыкаў. Не толькі сям'я Галаўлёвых, але і клас, да якога яна належала, ператварыўся ў прах, які перашкаджаў расці і мацнець жывым сілам краіны.

Дваранства страціла народна-гаспадарчыя асновы сваёй пераважнасці і свайго існавання. Прыгонніцкая сістэма зжыла сябе, рухнула, вырадзілася ў паразітызм і прамую бязглуздзіцу. Перавесці-ж сваю гаспадарку на капіталістычныя рэйкі дваранства, як клас, не ўмела,— не было ні ведаў, ні навыкаў да работы, а палітычнае панаванне спадзявалася пражыць у той ці іншай форме за кошт сялянства. Арына Пятроўна Галаўлёва была багатая памешчыца—у яе было чатыры тысячы душ, вялізная маёмасць. Аднак управіцца з гэткай махінай яна не ўмела, хоць была жанчына ўладарная, дзейная, цэлы дзень праводзіўшая ў клопатах. Накапіцельства Арыны Пятроўны набывала бяссэнсны самадаўлеючы характар, гаспадарчая эканомія вяла не да накаплення багаццяў, а да яго марнатраўства. Усялякія

прыпасы перытрымлівалі ў свірнах і ў склепах, а людзей карміілі гніллём і самі пры дастатку елі гніллё.

Такі-ж ілюзорны характар мелі набывацельскія аперацыі больш абшырных памераў. Выкіне Арына Пятроўна «кавалак», г. зн. адкупіцца ад пратэнзіі сына ці дачкі, а замест гэтага возьме «адказную» на адпаведную частку родавай маёмасці. Аперацыя «выгадная», але вяла яна да абяздольвання ўласных дзяцей, агульнай маёмасці сям'і не павялічвала і не прыводзіла ні да якога рацыянальнага скарыстоўвання багацця.

Натуральна, што пры такой гаспадарчай вывучцы, Галаўлёвы не маглі прыстасавацца да новых умоў, створаных адменай прыгоннага права. Іх гаспадарнічанне было толькі замаскіраванай бяздзейнасцю, формай паразітычнай бяздзейнасці, а паразіты і бяздзейнікі не маглі распарадзіцца карысна велічэзнымі выкупнымі сумамі. «Аднак-жа мы нейкае выхаванне атрымалі?—зусім справядліва заўважае аб сабе Галаўлёва маці.—Патанцаваць ды папець, ды гасцей прыняць. Што я без паганак без сваіх рабіць буду? Ні я падаць, ні прыняць, ні згатаваць для сябе—нічога-ж я, мой друг, не магу» (стар. 87). А гэтая-ж Арына Пятроўна лічылася дзейнай і ўмелай памешчыцай, памешчыцай—набывацельніцай, якую ставілі ў прыклад.

Магутнасць Арыны Пятроўны была пабудавана на пяску. З ілюзорнай дзеячкі і распарадчыцы яна лёгка ператварылася ў прыжывалку, таму што абодвы гэтыя становішчы былі толькі рознавіднасцямі тунеядства і бяздзейнасці. Пасля адмены прыгоннага права Арына Пятроўна падзяліла маёнтак паміж двума сынамі, Парфірыем, «Іудушкай» і Паўлам, пакінуўшы сабе капітал, і асталася жыць у сыноў. Капітал яе хутка растаяў, а сама яна засталася на становішчы «лішняга рта», у якога «ўлічваўся» кожны «кавалак».

Сыны яе вялі гаспадарку таксама бяссэнсна, і з такімі-ж вынікамі. Іудушка Галаўлёў па частцы набывацельскіх інстынктаў пайшоў далей свае маці, але яго гаспадарнічанне зводзілася да таго-ж «улічвання», якое разарала мужыкоў і акругу. Як чыноўнік, Іудушка пераліваў з пустога ў парожняе. «Як толькі ён пасяліўся ў Галаўлёве,—апісвае Шчэдрын,—як зараз-жа стварыў сабе такую масу пусцякоў і дробязей, якую можна было, не спыняючыся, пераварочваць, без усякага апасення калі-небудзь вычарпаць яе. З раніцы ён садзіўся за пісьмовы стол і распачынаў заняткі, па-першае, улічваў скотніцу, ключніцу, прыказчыка, спачатку на адзін манер, потым на другі; па-другое, завёў вельмі складаную справаздачнасць, грашовую і матэрыяльную. Кожную капейку, кожную рэч заносіў у дваццаці кнігах, падводзіў вынікі, то губіў поўкапейкі, то цэлую капейку знаходзіў. Нарэшце, браўся за пяро і пісаў скаргі да міравога суддзі і да пасрэдніка. Усё гэта не толькі не пакідала ні адной свабоднай хвіліны, але нават мела ўсе знешнія формы ўседлівай, непасільнай працы. Не на бяздзейнасць скардзіўся Іудушка, а на тое, што не паспяваў усяго перарабіць, хоць цэлы дзень карпеў у кабінеце, не выходзячы з халата. Груды старанна падшытых, але не абрэвізаваных рапартычак заўсёды валяліся на яго пісьмовым стале і ў тым ліку цэлая гадавая справаздача скотніцы Фёклы, дзейнасць якой, з першага разу, здалася яму падазронай і якую ён, тым не менш,

ніяк не змог знайсці свабодную хвіліну, каб улічыць». (т. XII, стар. 130).

Арганамічныя, фінансавыя, і наогул эканамічныя «ўлічванні» Іудушкі раўняліся таму, што на рускай мове называецца «баклушы біць». Рэальным-жа зместам гаспадарнічання Іудушкі былі растаўшчыцтва, кабальная эксплаатацыя сялян, былых прыгонных. «Ён ведае, што мужык заўсёды ў нястачы, заўсёды шукае пазычыць і заўсёды аддае без абману, з ліхвой. У асаблівасці шчодры мужык на сваю працу, якая «нічога не каштуе» і на гэтай падставе заўсёды, пры разліках, прымаецца ні за што у знак любві. Многа такі на Русі згалелага народа, ах, як многа! Многа людзей, якія не могуць вызначыць сёння, што чакае іх заўтра, многа такіх, якія, куды-б не глянулі сумным позіркам, усюды бачаць толькі безнадзейную пустату, усюды чуюць толькі адно слова: аддай! Аддай! І вось навакол гэтых безнадзейных людзей, каля гэтай перакатнай голі сцеле Іудушка сваю бясконцую павуціну, часам пераходзячы ў нейкую шаленую фантастычную оргію». (т. XII, стар. 244).

Гаспадарка Іудушкі гніла на корані, не ішлі Іудушку на карысць мужыцкія слёзы і кроў, а мужык падаў усё ніжэй і ніжэй,—не выблытацца яму было з даўгоў, з галечы, з холаду і голаду. Разам з сялянствам бяднела велізарная краіна, з незлічонымі патэнцыянальнымі багаццямі, і з велічэзнымі магчымасцямі гаспадарчага развіцця. Іудушкі сталі галоўнай перашкодай для развіцця вялікага і таленавітага народа. Клас памешчыкаў страціў апошнія эканамічныя рэзоны існавання. Ён гніў, і гноем сваім атручваў усё навокал сябе.

«Галаўлёвы» паказвалі пагібель класа, яны паказвалі, што дваранства і эканамічна і соцыяльна стала трупам, які неабходна было прыбраць, каб краіна пайшла ўпярод.

Соцыяльнае выраджэнне Галаўлёвых суправаджалася маральным выраджэннем. Гаспадарчае ўмельства даўно мінулася, але прага да нажывы, скваплівасці, уласнасці не стала меншай, а наадварот, усё расла і расла, дасягаючы іспалінскіх размераў, якія выцяснялі просты, здаровы сэнс. Уласніцкія пачуцці, памножаныя на бяздзейнасць і чрэвадагаджэнні, знішчожылі ў Галаўлёвых апошнія рысы чалавечага аблічча.

Галаўлёвы былі дваране, маёнтак іх быў вялікі, Іудушка быў цывільны генерал у адстаўцы—яны з'яўляліся апорай цара і царквы. Але яны адзічэлі і нічым не цікавіліся, не выпісвалі ні газет, ні журналаў, нават пісем амаль не атрымоўвалі. З агульных паняццяў у іх мазгу ўтрымаліся, акрамя ўяўлення аб богу, якога яны шанавалі ад страху перад чортам, уяўленні аб сям'і, аб сямейным саюзе. На словах лічылася, што мэтаю ўсіх накапіцельскіх подвігаў з'яўляецца сям'я, што старых неабходна паважаць, а малодшых падтрымліваць. Уласніцкая сям'я лічылася цвярдыней соцыяльнага і палітычнага ладу. Памяць аб гэтым захавалася яшчэ ў адзічэлым мазгу Галаўлёвых.

Салтыкоў-Шчэдрын з бязлітаснасцю хірурга, з вычарпальнай аб'ектыўнасцю зрэлага мастака паказаў, што сям'я ў асяроддзі Галаўлёвых стала трупам, які кішыць чарвямі. Поўнае разлажэнне

апошняга ўстоя, прызнаваемае нават на словах нават Іудушкі, было сведчаннем маральнай смерці, маральнага трупнога разлажэння перажыўшага сябе класа. Члены сям'і Галаўлёвых яшчэ існавалі фізічна, але ўжо па-за маральнымі нормамі; як маральных адзінак іх ужо не было. Кожны раздзел «Галаўлёвых» сведчыць аб маральным амяртвенні персанажаў сатыры, а супольнасць эпізодаў раман-хронікі ў цэлым вырастае ў грозны абвінаваўчы прыгавор і заклік прыбраць зажыва разлажыўшыхся з асяроддзя жывых.

Сын Арыны Пятроўны, Сцёпка-балбес, які разарыўся, спіўся, вяртаецца да дому. Маці, падтрыманая Іудушкай, абманам адбірае ў яго апошнія крохі маёмасці, трымае яго без свечак, без ботаў, корміць аб'едкамі. Слугі дакладваюць ёй, што Сцяпан «не харош», яна адказвае: «Што яму, жарабцу даўгавязаму, робіцца!» Так «балбес» і памёр, невядома ад чаго,—ці ад бяспутнага жыцця, ці замораны роднай маткай.

Памірае брат Іудушкі Павел. Іудушка з'яўляецца да пасцелі адыходзячага, каб завуладаць яго багаццем, карыстаючыся тым, што паміраючы не паспеў юрыдычна прызнаць сваімі наследнікамі маці і пляменніцу. Мала таго, што Іудушка «улічвае» маёмасць яшчэ жывога, ён атручвае яму апошнія хвіліны варварскай бессардэчнасцю:

«— Ах брат, брат! якой ты бякай зрабіўся»,—жартаваў Іудушка «па сваяцкі» над хворым. А ты вазьмі ды падбадзёрся! Устань ды і пабяжы! Трушком, трушком—няхай, маўляў, маменька палюбуецца, якімі мы малайцамі сталі! Фу-ты! Ну-ты!

— Ідзі, крывапівец, вон!—роспачна крыкнуў хворы.

— А-а-ах! брат, брат! Я да цябе з ласкай ды з уцяшэннем, а ты... якое ты слова сказаў! А-а-ах, грэх які! І як гэта язык у цябе, дружок, павярнуўся, каб такое слова роднаму брату сказаць. Сорамна, галубчык, нават вельмі сорамна. Пачакай, я лепш падушачку табе папраўлю!

Іудушка ўстаў і ткнуў у падушку пальцам.

— Вось так!—прадаўжаў ён:—вось цяпер добра! Ляжы сабе добранька,—хоць да заўтрага папраўляць не трэба!

— Адыйдзі... ты!

— Ах, як хвароба, аднак, цябе сапсавала! Нават характар у цябе непакорлівы стаў! Адыйдзі, ды адыйдзі,—ну, як я пайду! Вось табе піць захочацца—я вадзічкі падам; вось лампадка не ў спраўнасці—я і лампадачку папраўлю, масліца дзеравяненькага падаллю. Ты паляжыш, я пасяджу; ціха ды смірна—і не ўбачым, як час пройдзе!

— Адыйдзі... крывапівец!

— Вось ты мяне лаеш, а я за цябе богу памалюся. Я-ж ведаю, што ты гэта не ад сябе, а хвароба ў табе гаворыць. Я, брат, прывык дараваць—я ўсім дарую». (т. XII, стар. 104—105).

Ледзь паспелі пахаваць брата Паўла, як Іудушка па-свойму ўжо змяінымі спробамі выставіў маці з маёнтка брата ў развалену пагарэлкінскую сядзібу, уласнасць яе ўнучак Любанькі і Аннанькі. Ведаючы сваё адроддзе, Арына Пятроўна перад ад'ездам прапануе яму агледзіць сундукі—ці не звезла, маўляў, чаго-небудзь з сабой з сыноўняга дабра. Ад'язджае яна на ўласным тарантасе.

Тут адбываецца сцэна, якая паказвае Шчэдрына не толькі вялікім сатырыкам, але і вялікім псіхолагам і сэрцазнаўцам,—вялікім мастаком, умеючым праз малое паказваць самыя затаёныя глыбіні чалавечага характара:

«А Іудушка між іншым паглядаў ды паглядаў на тарантас.

— Дык, тарантас-та, маменька, як жа? Вы самі даставіце, ці прыслаць за ім загадаеце?—урэшце не вытрымаў ён.

Арына Пятроўна нават закалацілася ўся ад абурэння.

— Тарантас—мой!—крыкнула яна такім хваравітым крыкам, што ўсім зрабілася і няёмка і сорамна.—Мой! Мой! Мой тарантас! Я яго... у мяне доказы... сведкі маюцца! А ты... а цябе... ну ды я пачакаю ўжо..., што далей ад цябе будзе! Дзеці! Ці доўга?

— Памілуйце, маменька! Я не ў прэтэнзіі... калі-б, нават, тарантас быў дубровінскі...

— Мой тарантас, мой! Не дубровінскі, а мой! Не смей гаварыць... чуеш!

— Слухаю, маменька... Дык, вы, галубачка, не забывайце нас... папросту, ведаеце, без хітрасцей! Мы да вас, вы да нас... па кроўнаму!

— Селі ці што? Паганяй!—крыкнула Арына Пятроўна, ледзь стрымліваючы сябе.

Тарантас уздрыгнуў і пакаціўся дробнай рысцою па дарозе. Іудушка стаяў на ганку, махаў хустачкай і, пакуль тарантас зусім не знік, крычаў яму ўслед:

— Па кроўнаму! Мы да вас, вы да нас... па кроўнаму!» (т. XII, стар. 119).

У Іудушкі было два сыны—Уладзімір і Пётр. Уладзімір ажаніўся, разлічваючы на грашовую дапамогу бацькі. Іудушка яму абяцаў падтрымку, але ў іезуіцкай форме, пры якой абяцанне можна было павярнуць у які хочаш бок. Урэшце Іудушка пашкадаваў грошай, і сын яго, даведзены да адчаю—застраліўся. Другі і апошні сын Іудушкі—Пеценька зрабіў растрату. Ён прыехаў да бацькі за дапамогаю, але бацька і яго, апошняга адростка свайго, падштурхнуў да магілы.

Іудушка выгнаў Пеценьку, не забыўшы, аднак, загадаць пакласці яму ў павозку «і курачкі, і целяцінкі, і піражок».

Пеценька быў асуджаны, і не даехаўшы да месца ссылкі, злёг у адным з папутных гарадоў і памёр.

Аб мацеры Іудушка ўспамінаў, смакуючы наперад заўладаць апошнімі крохамі, якія пры ёй засталіся.

«— Старушка моцная!—марылася яму часамі:—не пражыве яна ўсяго,—дзе пражыць! У той час, як яна нас аддзяляла, добры ў яе капітал быў! Хіба сіроткам перадала—але не, і сіроткам не многа дасць! Ёсць у старушкі грошы, ёсць!» (т. XII, стар. 160).

Пасля смерці Арыны Пятроўны, Іудушка неадкладна заявіў сябе наследнікам—усяго таго і гора было.

Іудушка меў палюбоўніцу, Еўпраксеюшку. Еўпраксеюшка нарадзіла сына. Іудушку прыносяць дзіця, а ён думае толькі аб тым, як бы пазбавіцца ад новароджанага.

«— А вось я вазьму ды на дыван вам і кіну... няньчыцеся з ім!»—прыгразіла яму бабка Уліта.

Але Іудушка быў не такі чалавек, якога можна было праняць.

Молячыся і кашчунствуючы, двудушнічаючы і крыўляючыся, ён заліваў усіх патокам фарысейскіх слоў. Ён адправіў яшчэ слабае дзіця ў выхаваўчы дом у Маскву, як падкідыша.

«Святасць» сямейных прынцыпаў была для Галаўлёвых толькі слоўнай бразготкай. Апошняя маральная узда аказалася толькі фантомам. Сапраўднай рэлігіяй Галаўлёвых была ўласнасць. Уласніцкія інстынкты гэтых соцыяльных і маральных вырадкаў праяўляліся спусташальна, бязлітасна, нават на шкоду сабе, таму што чалавек адзін жыць не можа. Іудушка усіх пажраў навокал сябе, адных замардаваў, другіх заліў смярдзючым гноем. Ён быў прычынай жыццёвых няўдач сваіх пляменніц. Любінька таксама пакончыла жыццё самагубствам, а Аннінька ён ператварыў ў жывога мерцвяка. Спаганіўшы жыццё двух дзяўчын, гэты «ахоўнік сямейных прынцыпаў» намерыўся было і тут «пакарыстацца». У адзін прыгожы дзень ён падаў Аннінцы запіску:

— Сёння я маліўся і прасіў божэньку, каб ён пакінуў мне маю Аннінку. І божэнька мне сказаў: «Вазьмі Аннінку за поўненькую тальцу і прыгарні яе да свайго сэрца».

— Так, ці што?—запытаўся ён, злёгку пабляднеўшы.

— Фу, дзядзя! Якія гадасці—адказала яна, разгублена гледзячы на яго.

Парфірый Уладзіміріч пабляднеў яшчэ больш і вымавіў скрозь зубы:

«Відаць нам гусараў трэба»—перахрысціўся і, шаркаючы туфлямі, вышаў з пакоя» (т. XII, стар. 189).

Перамога ў знішчальнай суцяжніцкай барацьбе за ўласнасць дасталася Іудушку. Гэта была перамога людаеда, які пажраў усіх блізкіх і апынуўся у адзіноцтве. Іудушка адзічэў яшчэ больш, апусціўся дарэшты, захварэў сямейным галаўлёўскім недугам—запоем. Падаючыя разумовыя сілы, замкнёныя ў безвыходны круг адзіноцтва, ударыліся ў хваравітую фантазію, але нават фантастычны брэд Іудушкі быў брэдам набывальніка і эксплаататара. Ён падлічваў колькі дрэў прыходзіцца на дзесяціну леса, колькі ў яго ўсяго дрэў, колькі ён змог-бы выручыць грошай, калі-б увесь лес прадаў-бы «па разноце», па аднаму дрэву. «Ён мысленна лавіў мужыкоў парубшчыкаў, лавіў кур, якія травяць аўсы,—і з усяго гэтага—здабываў выгады.

Усё, што расце і празябае на зямлі, сеянае і нясеянае, абарочваецца ў грошы па разноце, і пры тым са штрафам.

Усе людзі раптам зрабіліся парубшчыкамі і патраўшчыкамі, а Іудушка не толькі не смуткуе аб гэтым, але наадварот нават рукі сабе пацірае ад здавальнення.

— Травіце, бацюхны, сячыце! Мне-ж лепей!—паўтарае ён, цалкам задаволены. І тут-жа бярэ ліст новай паперы і прымаецца за выкладкі і вылічэнні... Колькі ў Лісьіх Ямах бярозак расце і колькі за іх можна грошай узяць, калі іх мужыкі злачынным манерам пасякуць і за ўсё пасечанае штраф заплоцяць?

— А бярозка, хоць яна і зсечана, да мяне-ж у хату на пратапленне пойдзе, стала быць, дроў самому пілаваць не трэба!— зноў дадае Іудушка мысленна.

Вялічэзныя калоны лічбаў спелясоўваюць паперу; спачатку рублі, потым дзесяткі, сотні, тысячы...» (т. XII, стар. 249).

Усе сілы гэтага чалавечага вырадка пайшлі на фантастычнае крывапіўства. Мозг думаў толькі аб «деньге», якая атрымлівалася адняццем, умярцвеннем, вырастала са слёз, поту і крыві. Памяць гэтай бяссэнснай і бесчалавечнай набывацельскай машыны захоўвала толькі пагібелі, смерці, «умертвія». Сам Іудушка, апошні прадстаўнік вымарочнага рода, ператвараўся ў жывую здань, у фантом, напоўнены накапіцельскімі разлікамі.

# „КАБЗАР" НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Напярэдадні юбілея Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі выпусціла з друку вялікае тварэнне украінскага народнага песняра Т. Шэўчэнкі «Кабзар» на беларускай мове. Выданне геніяльнага помніка украінскай народнай паэзіі на беларускай вове мае выключнае палітычнае і культурнае значэнне. Толькі ў рэзультаце ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі народам нашай краіны адкрыты ўсе дарогі да асваення літаратурнай спадчыны пісьменнікаў усіх нацыянальнасцей.

Для беларускага народа выданне «Кабзара» на роднай мове з'яўляецца новым выдатным сведчаннем росквіту беларускай нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зместу культуры. Асабліва велізарна значэнне выхада ў свет «Кабзара» для беларускай літаратуры. Ужо сам працэс работы над перакладамі групы лепшых беларускіх пісьменнікаў і паэтаў абагаціў іх творчасць. І Янка Купала і Якуб Колас, якія даўно захапляліся геніяльнай музай Шэўчэнкі, зараз яшчэ раз больш глыбей і непасрэдней зрадніліся, зблізіліся з паэзіяй народнага бунтара, паэта-дэмакрата. Янка Купала і Якуб Колас прарабілі вялікую работу, рэдагуючы усе пераклады «Кабзара» на беларускую мову.

Трэба сказаць, што радуе не толькі сам факт выхада «Кабзара» на беларускай мове, але і добрае, з пункту гледжання паліграфіі, яго выданне. Увесь том прадстаўляе сабою манументальную кнігу з добрай вокладкай і залатым цісненнем. Кніга надрукавана на добрай паперы і вельмі трапна аформлена мастаком Б. Капланам. Партрэт Шэўчэнкі, малюнкі і арнаменты арганічны з цудоўным тэкстам «Кабзара».

Кніга адкрываецца вельмі цікавым біяграфічным нарысам тав. І. Стэбуна, які дакладна і жыва расказвае пра жыццё, творчасць і дзейнасць народнага паэта і мастака. Артыкул як-бы развівае словы Тараса Шэўчэнкі «Гісторыя майго жыцця з'яўляецца часткай гісторыі маёй радзімы», узятыя эпіграфам да нарыса.

---

Тарас Шэўчэнка „Кабзар". ДВБ, 1939 г. 10.000 экз. Цана 20 руб.

Увогуле нарыс будзе служыць добрым дапаможнікам для вывучэння твораў усяго «Кабзара» нашым чытачом.

Што-ж датычыць перакладаў вершаў на беларускую мову, дык таксама трэба сказаць толькі станоўчае. Чароўная музыка, своеасаблівы рытм і народнасць шэўчэнкаўскай паэзіі захаваны і на беларускай мове.

Вершы ранняга перыяда творчасці Шэўчэнкі перакладалі народныя паэты БССР Янка Купала і Якуб Колас. У гэтых вершах плач народны спалучаецца з прыгажосцю украінскай прыроды. Муза Шэўчэнкі тут то гучыць сумна, то поўна радасці жыцця на радзімай старонцы. Народныя паэты апрача перакладу дробных лірычных вершаў, пераклалі такія шырока вядомыя і вялікія творы, як «Кацярына», «Мар'яна-чарніца», «Сон», «Утопленка», «Гайдамакі», «Каўказ», «Сляпы», «Неафіты» і інш. Іх пераклады безумоўна вылучаюцца сваёй якасцю і галоўнае—яны злітны з украінскімі тэкстамі сваім рытмам, рыфмай, моўным народным багаццем.

Рад выдатных твораў украінскага кабзара пераклалі пісьменнікі Змітрок Бядуля, Кандрат Крапіва і Міхась Клімковіч. З вялікім майстэрствам пераклаў Крапіва такую сатырычную рэч, як «Тры вароны», дзе выкрываюцца злачынцы, якія самі крадуць і злодзеям прадаюць. Добра таксама перакладзена ім пасланне «І мёртвым і жывым».

У перакладзе Змітрака Бядулі з асаблівай сілай гучаць такія творы, як «Давідавы псалмы», «Ведзьма», «У казэмаце» ды іншыя.

Паэзія пазнейшага перыяда жыцця Тараса Грыгоравіча перакладалася паэтамі Пятро Глебка, Пятрусём Броўка і Аркадзем Куляшовым. Іх пераклады зроблены старанна. Вылучаецца «Маскалёва крыніца» (пераклад Броўкі), якую, як і ўсе вершы Шэўчэнкі, на беларускай мове чытаеш з незвычайнай лёгкасцю. Глебка вылучаецца сваёй дакладнай тэхнікай. Рэвалюцыйна гучаць некалькі дзесяткаў апошніх вершаў. Іх пераклад выпаў на долю Пятруся Броўкі. Паэт знайшоў свой голас у геніяльных творах Шэўчэнкі і спалучыў з яго гневам да царызма. Вершы гэтыя ўзнімаюцца да вяршынь рэалізма, яны клічуць на барацьбу. У іх увесь гнеўны Тарас, нястомны змагар супроць «усіх цароў, гадзюк людскіх». Броўка майстэрскі пераклаў гэтыя вершы. Вось як гучыць адзін з іх:

О людзі, людзі небаракі!
Нашто здаліся вам цары?
Нашто здаліся вам псары?
Бо вы ўсё-ж людзі, не сабакі.

Ці будзе суд! Ці будзе кара!
Царам, царатам на зямлі?
Ці будзе праўда між людзьмі?
Павінна быць, бо сонца ўстане
Зямлю у погані спаліць.

«Зямля ў погані» спалена Кастрычніцкім сонцам рабочага класа і працоўнага сялянства. Народы СССР, ажыццявіўшы заветную мару Тараса Шэўчэнкі, будуюць новае соцыялістычнае жыццё і не забываюць добрым словам народнага песняра, геніяльнага чалавека мінулага. Юбілей яго—сапраўды усенароднае свята совецкай культуры.

Беларускі чытач з радасцю і захапленнем сустрэне «Кабзара»—гэтую выдатную скарбніцу думак і пачуццяў братняга украінскага народа.

*Пав. Кавалёў*

Дзяржаўная бібліятэка БССР імя Леніна
05

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Совецкая, 76. Дом Пісьменніка. Тэлефон 20-831.

# ЗМЕСТ

Стар.

